*А. П. Смірноў*

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Ў ПАЎСТАННІ 1863 года

А. П. Смірной



# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Ў ПАЎСТАННІ 1863 года



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя сацыяльна-эканамічнай літаратуры
МІНСК 1959

## ПРАДМОВА

Работа А. П. Смірнова прысвечана вельмі цікавай і важнай для разумення гісторыі рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі і вызваленчага руху ў Беларусі тэме — характарыстыцы поглядаў і рэвалюцыйнай дзейнасці сялянскага рэвалюцыянера і дэмакрата, правадыра паўстання 1863 г., беларускага пісьменніка і барацьбіта Кастуся Каліноўскага.

У сваёй рабоце аўтар шырока скарыстаў як апублікаваны літаратурны, так і не апублікаваны архіўны матэрыял, які датычыць дзейнасці і светапогляду К. Каліноўскага. А. П. Смірноў увёў у навуковы абыходак невядомыя да гэтага часу дакументы, вынайдзеныя ім у архівах Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Гродна і іншых гарадоў. Дзякуючы аналізу гэтых новых, вельмі каштоўных дакументаў дзейнасць Каліноўскага асветлена даволі поўна і ўсебакова.

Аўтар правільна ацаніў як асноўныя ўплывы, якія ўздзейнічалі на Каліноўскага ў яго ідэйнай і практычнай дзейнасці, так і яго галоўныя заслугі. На дзейнасць Каліноўскага ўплывалі тры асноўныя фактары: сялянскі рэвалюцыйны рух у Беларусі і рэвалюцыйна-дэмакратычная думка Расіі (А. І. Герцэн, М. Г. Чарнышэўскі, М. А. Дабралюбаў) і польскае паўстанне 1863 г. Каліноўскі разглядаў гэта паўстанне як сілу, якая садзейнічала барацьбе супроць царызма, але са шляхецка-нацыяналістычным кіраўніцтвам паўстання ён змагаўся. Сялянскі рэвалюцыйны рух і матэрыяльныя ўмовы, якія яго выклікалі, выхавалі ў Каліноўскага непрымірымую нянавісць да прыгоннага і памешчыцкага прыгнёту, руская рэвалюцыйна-дэмакратычная думка дала яму магчымасць падвесці агульныя палітычныя асновы пад гэтую нянавісць і выпрацаваць рэвалюцыйна-дэмакратычны светапогляд,

які грунтаваўся на адмаўленні не толькі прыгонніцтва, але і ўсяго самадзяржаўна-бюракратычнага і феадальна-дваранскага рэжыму. Будучы сведкай росту нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы, Каліноўскі як правадыр сялянскай рэвалюцыі ў Беларусі пры ўсёй не-адпаведнасці інтарэсаў сялянства і польскай шляхты, што ўзнялася на барацьбу пад нацыяналістычным лозунгам аднаўлення Польшчы ў граніцах 1772 г., здолеў ацаніць прагрэсіўнае значэнне барацьбы польскага народа за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне і, да пэўнай ступені, выкарыстаць сілы паўстаўшай шляхты ў барацьбе супроць самадзяржаўна-бюракратычнага ладу.

Аўтар правільна паказаў у сваёй рабоце, што сіла Каліноўскага — у яго сувязі з сялянскімі масамі, у яго імкненні вырашыць перш за ўсё аграрнае пытанне, а затым прыступіць да вырашэння пытання нацыянальнага, бо для сялян вырашэнне другога пытання залежала ад вырашэння першага. Аўтар, сабраўшы і прааналізаваўшы архіўны матэрыял, здолеў таксама паказаць, хоць менш ярка, што Каліноўскі верыў у саюз паміж народамі Расіі і Польшчы ў іх барацьбе супроць царызма і прыгонніцтва. Станоўчым бокам работы з'яўляецца таксама і тое, што аўтар змог даказаць існаванне сярод беларускага народа даволі даўняй рэвалюцыйна-дэмакратычнай традыцыі, якая асабліва яскрава праявілася ў дзейнасці Каліноўскага.

Уплыў на Каліноўскага ідэй Герцэна, Чарнышэўскага і Дабралюбава, засваенне ім асноў перадавой рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі — усё гэта паказана ў рабоце А. П. Смірнова на падставе аналізаў навуковых крыніц. Аўтар даў у сваёй кнізе крытыку поглядаў беларускіх нацыяналістаў, якія спрабавалі залічыць Каліноўскага ў лік ворагаў рускага народа.

Перад аўтарам работы, якая напісана галоўным чынам у плане гісторыка-філасофскага даследавання, сталі вялікія цяжкасці. Яны вынікалі з таго, што Каліноўскі ў сваёй дзейнасці быў больш барацьбітом, чым тэарэтыкам, больш практычным дзеячом рэвалюцыі, чым яе ідэолагам. Таму свае погляды Каліноўскі ніколі не выказваў у форме пэўнай тэарэтычнай сістэмы, яны вызначаліся самім ходам падзей, галоўным чынам патрэ-

бамі сялянскага руху, які перарос затым у адкрытае ўзброенае паўстанне. Даследчыку прыйшлося мець справу з разрозненымі, незвязанымі, часам нават супярэчлівымі выказваннямі Каліноўскага. Гэтыя выказванні былі выкліканы тагачаснымі ўмовамі, якія хутка мяняліся. Сувязь у разрозненыя выказванні Каліноўскага ўносіла само жыццё.

Часам толькі ўяўныя, а часам і сапраўдныя супярэчнасці ў поглядах Каліноўскага вынікалі з таго, што супярэчлівай была грамадская рэчаіснасць, у якой разгортвалася яго дзейнасць. Каліноўскі вымушан быў улічваць такія аб'ектыўныя факты, як, з аднаго боку, недавер'е сялян да шляхецкага кіраўніцтва паўстаннем і, з другога боку, адмоўныя адносіны кіраўніцтва да патрабаванняў сялянскіх мас Беларусі. Яму прыходзілася таксама лічыцца і з настроямі сялянскіх мас, з іх даўняй антыпатыяй да царскай адміністрацыі і царскай арміі, антыпатыяй, якую беларускія сяляне часам пераносілі і на ўсіх «маскалей», хоць у іншых выпадках яны выказвалі сімпатыю да прыгнечанага прыгонніцтвам рускага народа. Усё гэта, бясспрэчна, павінна было выклікаць непаслядоўнасць, а часам і памылкі ў дзеяннях самога Каліноўскага, які, што асабліва трэба мець на ўвазе, быў не тэарэтыкам, а практыкам рэвалюцыі.

Аўтару неабходна было вывучаць погляды Каліноўскага ў цеснай сувязі з сацыяльна-палітычнымі падзеямі таго часу і перш за ўсё з практычнай дзейнасцю самога Каліноўскага. Таму аўтару па неабходнасці прыйшлося адысці ад чыста тэарэтыка-філасофскага плана ў сваёй рабоце і значнае месца ўдзяліць у ёй аналізу сучаснай Каліноўскаму рэчаіснасці, асабліва паўстанню 1863 г. Але ад гэтага работа толькі выйграла.

Работа А. П. Смірнова з'яўляецца пэўным укладам у мала вывучаную да гэтага часу гісторыю рэвалюцыйнага руху і грамадскай думкі ў Беларусі. Напісаная на падставе дакладнага вывучэння навуковых крыніц, яна ўносіць яснасць у некаторыя спрэчныя пытанні, што датычаць ацэнкі дзейнасці Каліноўскага, і заслугоўвае ўвагі чытачоў.

*Акадэмік У. М. ПЕРЦАЎ*

# СЯМ'Я, ДЗЯЦІНСТВА, ВУЧОБА

Кастусь Сямёнавіч Каліноўскі па свайму паходжанню належыць да беларускага дробнапамеснага дваранства, якое хоць значна апалячылася, але не магло па прычыне сваіх жыццёвых умоў парваць усе ніці, якія звязвалі яго з роднай культурай і мовай.

Дваранскі род Каліноўскіх, які здаўна пражываў у Беларусі, прасочваецца па дакументах да 1679 г. У гэтым годзе іх продка — служылы дваранін Амброзій Самуіл Траянік Каліноўскі — заверыў у Бранскім гарадскім судзе купчую крэпасць аб куплі маёнтка Калінава з 5 хутарамі [1]. Дакументы сведчаць, што патомкі яго, служылыя шляхцічы, валодалі гэтым маёнткам да 1774 г., калі прадзед нашага героя прадаў маёнтак.

Вёска Калінаўка, якая дала прозвішча ўсяму роду, цяпер знаходзіцца ў раёне савецка-польскай граніцы.

К. Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня 1838 г., што пацвярджае метрычны выпіс з кніг Ялоўскага прыходскага рымска-каталіцкага касцёла ад 21.IX.1839 г.

Біяграфічныя даныя аб дзіцячых гадах К. Каліноў-

---

[1] Гэтыя і наступныя біяграфічныя даныя аб родных К. Каліноўскага, апрача спецыяльна агавораных, прыводзяцца на падставе справы «Аб дваранстве роду Каліноўскіх». ЦДГА, Л., ф. 1343, воп. 23, с. 573. Гэты дакумент не быў вядомы гісторыкам Польшчы, і яны называюць Каліноўскага «палякам па паходжанню» (Кавальскі) і нават «чужаземцам» у Беларусі (В. Кардовіч).

скага, нажаль, вельмі бедныя. Ён вырас на хутары Якушоўка, паблізу м. Свіслач, Гродзенскай губерні [1].

Яго маці Вераніка Каліноўская, уроджаная Рыбінская, памерла неўзабаве пасля яго нараджэння. Бацька Сямён Сцяпанавіч гаварыў аб сабе, што ён «выхавання хатняга, у дзяржаўнай службе ніколі не быў» [2]. Ён быў саўладальнікам (сумесна з другой жонкай) хутара Якушоўка, за якім лічылася 220 дзесяцін зямлі. Прыгонных сялян у інвентарных вопісах маёнтка не значыцца. На хутары была невялікая ткацкая майстэрня, якая выпрацоўвала, паводле слоў С. Каліноўскага, «сталовую бялізну і палатно розных сартоў да самай высокай тонкасці» [3].

С. С. Каліноўскі ад двух шлюбаў меў 17 дзяцей, з якіх, апрача Кастуся, заслугоўвае ўвагі гісторыка Віктар-Отон (нарадзіўся 9 красавіка 1833 г.) — актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага руху, малады даследчык гісторыі славян, член Віленскага археалагічнага таварыства.

Жылося вялікай сям'і Каліноўскага нялёгка. Архіўныя матэрыялы раскрываюць напружаную працу главы сям'і і яго ўпартую, шматгадовую барацьбу за ўсталяванне ў правах двараніна, што давала вызваленне ад падушнага падатку.

Пытанне гэтае было ім узнята ў 20-х г., і тады ж, 14.IX.1822 г., Беластоцкі дваранскі дэпутацкі сход, у адпаведнасці з правіламі даравальнай граматы дваранству 1785 г., вызначыў: «Род прыстойных Каліноўскіх, а іменна Сямёна і Юрыя Каліноўскіх, які паходзіць ад бацькі Сімеона, дзеда Мацвея, прадзеда Людвіга, прапрадзеда

---

[1] Аўтар гэтых радкоў у пошуках матэрыялу наведаў некалькі год назад м. Свіслач. У гутарках са старажыламі высветлілася, што ў тых краях быў сапраўды калісьці хутар з ткацкай майстэрняй, якая належала Каліноўскім. Хутар згарэў напярэдадні першай сусветнай вайны, і ад дому, дзе правёў сваё дзяцінства Кастусь Сямёнавіч, засталася толькі куча каменняў на вяршыне невялікага ўзгорку, які густа зарос шыпшынай.

[2] ЦДГА, Гродна, ф. 3, с. 41, л. 247.

[3] Там жа. У афіцыйных матэрыялах С. Каліноўскі ўпамінаецца як адзін з прадпрыемцаў края, якія вытвараюць ільняныя вырабы: «пасрэдныя тканіны, але з прыгожымі ўзорамі». Гл. «Даследаванне аб стане ільнянои прамысловасці ў Расіі». С.-Пецярбург, 1847 г.

Пятра і продка Амброзія, прызнаць у дваранскай годнасці».

На падставе гэтага рашэння браты Каліноўскія былі аднесены ў 1834 г. пры падзеле былой шляхты на разрады да дробнапаместнага дваранства і, карыстаючыся перавагамі дваранства, «падушнаму акладу не падпадалі». Аднак дэпартамент герольдзіі царскага сената, які імкнуўся ачысціць дваранскае саслоўе ад іншародных і дэкласаваных элементаў, гэтае рашэнне не зацвердзіў і прызнаў яго неабгрунтаваным.

Толькі ў 1853 г., пасля прадстаўлення новых дадатковых матэрыялаў, Гродзенскі дваранскі дэпутацкі сход пацвердзіў, што «род Каліноўскіх... належыць да ліку дробнапамесных уладальнікаў». Нарэшце, 12 кастрычніка 1855 г. урадавы сенат зацвердзіў гэтае рашэнне «як правільнае і з артыкуламі закону згоднае».

У 1855 г. Кастусь Каліноўскі скончыў прагімназію ў м. Свіслачы і неўзабаве выехаў для працягу адукацыі ў Расію.

Гады прабывання Каліноўскага ў Свіслацкай прагімназіі — 1-ы перыяд фарміравання яго светапогляду — самае цяжкае пытанне даследавання. Аб Каліноўскім-гімназісту не засталося ніякіх нават чыста вучэбных матэрыялаў. Тое, што мы ведаем аб Каліноўскім, прымушае думаць, што глыбокае веданне народнага жыцця атрымана ім яшчэ ў ранняй маладосці. Калі ён вучыўся ў гімназіі і жыў на хутары бацькі, то штодзённа меў зносіны з сялянствам, добра вывучыў яго жыццё, быт, норавы, горача спачуваў абяздоленаму сялянству. Каліноўскі быў сведкай і відавочнікам штодзённага супраціўлення сялян памешчыцкаму свавольству і прыгнёту. Барацьба сялян і матэрыяльныя ўмовы жыцця, якія яе выклікалі, — вось аснова фарміравання рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэалаў Каліноўскага.

Аднак бясспрэчна, што яшчэ ў гімназіі Каліноўскі выходзіў з пэўных ідэйных прадпасылак, што на яго аказалі ўплыў матэрыялы, якія меліся ўжо ў літаратуры, і традыцыі вызваленчай барацьбы. Пазней пры звароце да народа ён упамінае аб народных заступніках, якія сасланы ў Сібір і загінулі пад сякерай ката.

Хто ж з гэтых герояў быў уладаром дум маладога Кастуся?

Наўрад ці можна згадзіцца з польскім даследчыкам В. Кардовічам, які заявіў, што ідэйныя вытокі рэвалюцыйнага дэмакратызма К. Каліноўскага паходзяць ад князя А. Чартарыйскага і графа Тышкевіча, што занялі, паводле яго слоў, «важнае месца ў развіцці культуры Беларусі і Літвы» [1].

Каліноўскі добра ведаў польскую культуру, у тым ліку і дваранскую. Ён з павагай адносіўся і высока цаніў рэвалюцыйную Польшчу, шанаваў памяць Т. Касцюшкі. Але галоўным ідэйным вытокам, які вызначыў напрамак яго дзейнасці, былі традыцыі сумеснай барацьбы рускага, польскага, беларускага народаў супроць царызма, слаўныя традыцыі дзекабрыстаў, польскага патрыятычнага таварыства, «Таварыства ваенных сяброў» у Літве, традыцыі Пушкіна і Міцкевіча.

Прыход Каліноўскага да рэвалюцыйнага дэмакратызма, да разумення неабходнасці адзіных дзеянняў прыгнечаных народаў супроць царызма аблягчаўся тым, што ён мог ужо абапірацца на вопыт піянераў рэвалюцыйнага дэмакратызма ў Беларусі — Ф. Савіча і яго сяброў, дзейнасць якіх прыпадае на канец 30-х гг. XIX стагоддзя, на вопыт «Саюза Літоўскай моладзі», які працягваў справу Ф. Савіча ў 40-х гг. XIX стагоддзя [2]. Францішак Савіч — зачынальнік рэвалюцыйнага дэмакратызма ў Беларусі і разам з тым адзін з першых беларускіх паэтаў новага часу, у бытнасць сваю студэнтам Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі прапагандаваў сярод сялян неабходнасць знішчэння памешчыцкага землеўладання шляхам аб'яднанага выступлення народа Беларусі, Валыні, Літвы, Польшчы і Расіі супроць цара і паноў. Ён вёў агітацыю таксама і сярод рамеснікаў Вільні, сярод салдат Віленскага гарнізона, быў звязаны з вядомым польскім рэвалюцыянерам-дэмакратам С. Канарскім

---

[1] Аб памылках В. Кардовіча гл. наш артыкул «Гісторыкі народнай Польшчы аб К. Каліноўскім». «Полымя» № 1, 1958 г.

[2] Больш падрабязна пытанне аб зараджэнні рэвалюцыйнага дэмакратызма ў Беларусі і Літве разгледжана ў маім артыкуле «З гісторыі вызваленчага руху ў Беларусі» ў зб. «З гісторыі рабочага класа і рэвалюцыйнага руху». М., 1958 г., выд. АН СССР.

і з групай рускіх афіцэраў — прадаўжальнікаў справы дзекабрыстаў, якая ўзначальвалася падпаручыкам А. Кузьміным-Караваевым.

Дзейнасць Савіча, Канарскага, Караваева аказала мацнейшы ўплыў на наступныя пакаленні рэвалюцыянераў Беларусі і Літвы. Імёны іх гучалі на вуснах паслядоўнікаў як клятва стойкасці і вернасці справе народа.

«Канарскі пацярпеў за айчыну і нікога не выдаў. Унушаецца дзейнічаць таксама», — знаходзім у дакументах членаў «Саюза Літоўскай моладзі», — арганізацыі, звязанай з петрашэўцамі ў Пецярбургу і сябрамі Т. Г. Шаўчэнкі ў Кіеве [1]. І ў наступныя гады цікавасць грамадскасці да піянераў рэвалюцыйнага дэмакратызма ў Беларусі не згасала. Віленскі мастак Андрэолі (паўстанец 1863 г., таварыш Каліноўскага па барацьбе) прысвяціў адно са сваіх палотнаў Канарскаму і Караваеву.

Ёсць прамое сведчанне Валерыя Врублеўскага, — баявога саратніка К. Каліноўскага, аб тым, што ім была добра вядома дзейнасць Канарскага і яго сяброў і яны разглядалі сваю работу, як прамы працяг і развіццё справы папярэднікаў [2].

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што першыя крокі ў сваім руху да рэвалюцыйнага дэмакратызма Каліноўскі зрабіў яшчэ ў гады сваёй вучобы, калі азнаёміўся з традыцыямі вызваленчай барацьбы, так бліскуча развітымі ім у далейшым.

У 1856 г. Кастусь Каліноўскі прыехаў у Маскву і паступіў вольным слухачом на першы курс медыцынскага факультэта ўніверсітэта, дзе прабыў да ліпеня 1856 г. 12 ліпеня 1856 г. па ўласнай заяве быў звольнены. Пазней у сваіх паказаннях следчай камісіі ён паведаміў, што знаходзіўся ў Маскоўскім універсітэце каля паўгода, а затым, «з выпадку пераезду з Масквы ў Пецярбург старэйшага брата Віктара (які памёр у 1862 г.), паступіў у Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт». У справах Пецярбургскага ўніверсітэта захавалася заява Каліноўскага рэк-

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, 1 экспед., 1948 г., с. 115, ч. 3, л. 8.

[2] «Генерал Валерый Врублеўскі» — запіс гутарак з Врублеўскім. зроблены Г. Гершынскім. Знаходзіцца ў асабістым архіве літоўскага паэта В. Абрамавічауса. За прадастаўленую магчымасць знаёмства з дакументам аўтар вельмі ўдзячан.

тару, пададзеная 1 жніўня 1856 г., у якой гаворыцца: «Жадаючы для пачатковай адукацыі выслухаць поўны курс навук па юрыдычнаму факультэту, камеральнаму разраду, пакорна прашу Ваша правасхадзіцельства аб дапушчэнні мяне да прыёмных экзаменаў...» [1]. Вынікі прыёмных экзаменаў былі паспяховыя. У справах універсітэта захавалася наступная даведка: «5-га кастрычніка 1856 г. Па журналу праўлення Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Вікенцій-Кастусь Каліноўскі залічаны ў лік своекоштных студэнтаў 1-га курса разраду камеральных навук... Звыш таго вызначана: выклапатаць дазвол на звальненне Каліноўскага ад аплаты за слуханне лекцый на падставе прадстаўленага ім пасведчання аб беднасці» [2].

Усебакова паказаць вучэбную работу Каліноўскага, яго адносіны да чытаемых курсаў лекцый і да т. п. не ўдаецца з прычыны адсутнасці даных. Агульнае ўяўленне аб Каліноўскім-студэнце даюць афіцыйныя вынікі пераводных і выпускных экзаменаў, з якіх відаць, што ён быў адным з першых студэнтаў па паспяховасці.

Апошні экзамен ва ўніверсітэце Каліноўскі здаў 31 мая 1860 г. Як відаць з ацэнак, ён многа і ўпорна працаваў над акадэмічнымі дысцыплінамі і дабіўся вельмі добрых поспехаў, асабліва, калі ўлічыць, што ён паступіў ва ўніверсітэт без сярэдняй закончанай адукацыі, пасля сканчэння 5-класнай прагімназіі і года падрыхтоўкі пад кіраўніцтвам старэйшага брата.

Вучыўся К. Каліноўскі ў вельмі цяжкіх умовах. Бацькі не аказвалі яму дапамогі. Гэта відаць па яго ўласнай заяве рэктару ўніверсітэта. Старэйшы яго брат Віктар Каліноўскі, які жыў у Пецярбургу, таксама не мог дапамагчы, бо сам знаходзіўся ў беднасці. Віктар Каліноўскі — друг і бліжэйшы памочнік вядомага рэвалюцыянера Сігізмунда Серакоўскага, увесь свой час аддаваў рэвалюцыйнай дзейнасці і існаваў на мізэрныя сродкі, якія атрымліваў за апрацоўку матэрыялаў імператарскай публічнай бібліятэкі. Пацверджанне гэтаму знаходзім у перапісцы яго бацькі, якая адносіцца да мая

---

[1] ЛАГА, ф. 14, зв. 3393, с. 14, л. 10.
[2] ЛАГА, ф. 14, зв. 3393, с. 14, л. 3.

1857 г. «Віктар знайшоў сабе заняткі і карысныя і колькі-небудзь прыбытковыя: добры чалавек пан Палонскі не перастане спрыяць яму і здолеў дапамагчы ў гэтым. Ён жа пазнаёміў яго з панам Іваноўскім, гродзенчанінам, які знаходзіцца на службе ў імператарскай бібліятэцы, і той забяспечвае яго работай» [1].

Віктар Каліноўскі па сутнасці быў рэвалюцыянер-прафесіянал. І па гэтаму ж шляху пайшоў затым яго малодшы брат.

Дзейнасць старэйшага брата не вывучана галоўным чынам таму, што ён не прымаў удзелу ў паўстанні 1863 г. (памёр ад туберкулёзу ў кастрычніку 1862 г.). А ўся яго дзейнасць памылкова прыпісваецца малодшаму брату Кастусю. Блытаніна тлумачыцца двайнымі імёнамі братоў (Вікенцій-Кастусь і Віктар). У асобе В. Каліноўскага мы бачым аднаго з першых рэвалюцыйных дэмакратаў-беларусаў. Яго ў большасці дакументаў называюць служачым публічнай бібліятэкі (цяпер Дзяржаўная бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына). Аднак на самай справе ён нідзе не служыў, а праводзіў увесь свой час у раз'ездах паміж Пецярбургам, Масквой, Вільняй і Гродна і настойліва ствараў і ўмацоўваў рэвалюцыйныя групы.

Адзін са студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта ўспамінаў, што В. Каліноўскі паўстае ў яго памяці як сапраўдны апостал дэмакратычных і патрыятычных прынцыпаў, гатовы заўсёды стаць на абарону сваіх калег. Ён многа працаваў над гістарычнымі матэрыяламі, супрацоўнічаў у Віленскай археалагічнай камісіі і спрабаваў апублікаваць некаторыя свае даследаванні ў часопісе «Слова», які выдаваўся адзін час у Пецярбургу І. Агрызкам. Пасля яго смерці засталося многа рукапісаў, аднак лёс іх невядомы.

Афіцыйна В. Каліноўскі па дакументах лічыўся студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта. Жывучы ў Пецярбургу, ён прапісваўся па «сведчанню Імператарскага Маскоўскага ўніверсітэта ад 12 ліпеня 1856 года без тэр-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. ЧПА № 439, паперы С. Каліноўскага, с. 1, л. 80.

міну»[1]. Аднак на самай справе ён ва ўніверсітэце пасля паступлення амаль не вучыўся. Аб яго занятках у Пецярбургу ўпраўленне імператарскай публічнай бібліятэкі паведамляла наступнае: «Дваранін Віктар Каліноўскі на службе ў ёй не знаходзіўся, але займаўся ў агульнай чытальнай зале бібліятэкі некалькі год запар і ў 1862 г., як гаворыцца ў алфавітнай кнізе, меў жыхарства па Неўскаму праспекту ў доме Красільнікавай»[2].

Бясспрэчна, што В. Каліноўскі аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне светапогляду свайго малодшага брата. Ён прыцягнуў да рэвалюцыйнай дзейнасці многіх афіцэраў. Так Ф. Вараўскі прама заяўляе, што «ўплыў такіх асоб, як Каліноўскі (Віктар) і Серакоўскі», быў адной з прычын яго рэвалюцыйнай дзейнасці. В. Каліноўскі не мог не давяраць малодшаму брату, з якім быў вельмі дружны, свае справы і задумы. Ён надаваў велізарнае значэнне прыцягненню сялян да справы падрыхтоўкі паўстання — ідэя, падхопленая пасля яго смерці Кастусём, які паклаў яе ў аснову свайго жыцця і барацьбы.

У час вучобы ва ўніверсітэце К. Каліноўскі зарабляў сродкі на жыццё, як пазней сцвярджаў член следчай камісіі Гогель, з дапамогай прыватных урокаў. Яны дазвалялі яму бліжэй пазнаёміцца з рознымі слаямі сталічнага грамадства. Гэтыя заняткі, на думку Гогеля, былі звязаны з нелегальнай дзейнасцю Каліноўскага, які праводзіў такім чынам рэвалюцыйна-дэмакратычную прапаганду сярод вучнёўскай моладзі. Але вялікіх сродкаў гэтыя заняткі не давалі. На другім курсе ўніверсітэта ён звярнуўся да рэктара з прашэннем, у якім пісаў: «Пазбаўлены ўсіх сродкаў утрымання, я вымушаны ўвесь вольны час затрачваць на набыццё іх»[3] і прасіў рэктара выдаць яму аднаразовую дапамогу і назначыць штомесячную стыпендыю, «як адзіны сродак, які дасць мне магчымасць упаўне аддацца вучэбным заняткам

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1835, воп. 20, л. 229.

[2] Там жа, л. 216.

[3] ЛАГА, ф. 14, зв. 3393, с. 14.

і рабіць поспехі на выбраным мною полі дзейнасці»[1].

Просьба была задаволена. Каліноўскі атрымаў аднаразовую часовую дапамогу і быў залічаны стыпендыятам універсітэта — атрымліваў 7 рублёў серабром у месяц. Але і пасля гэтага матэрыяльнае становішча яго працягвала заставацца вельмі цяжкім, ён у поўным сэнсе гэтага слова жыў на мяжы галечы. Некалькі разоў ён вымушан быў прасіць у рэктара дапамогі, але не заўсёды, між іншым, атрымліваў яе. У чэрвені 1859 г. Каліноўскі цяжка захварэў і не меў ніякіх сродкаў для існавання. Ён звярнуўся ў рэктарат, але таму што не здаў з прычыны хваробы двух экзаменаў за трэці курс, атрымаў адказ: «Як не скончыўшаму экзамен дапамога не можа быць выдадзена»[2].

«Хвароба зноў вярнулася, — піша ён рэктару ў кастрычніку 1859 года. — Пазбаўлены ўсіх сродкаў на жыццё, я маю гонар прасіць Ваша правасхадзіцельства аб назначэнні мне ў крайнім выпадку 30 рублёў на маё лячэнне»[3]. Рукой інспектара на прашэнні напісана: «Студэнт Каліноўскі сапраўды хворы і жыве ў нястачы, па яго выдатных паводзінах цалкам заслугоўвае ўвагі»[4].

Такім чынам, за час вучобы на апошніх трох курсах універсітэта Каліноўскі жыў на стыпендыю ў 7 рублёў у месяц і аднаразовую дапамогу, якая склала ў агульнай суме каля 50 рублёў.

Нягледзячы на ўсе гэтыя жыццёвыя цяжкасці, ён многа і ўпарта працаваў над засваеннем універсітэцкіх дысцыплін. Вясной 1860 г. паспяхова здаў экзамены за апошні курс з агульным балам 5. Па рашэнню савета юрыдычнага факультэта быў выпушчан з універсітэта з правам атрымання ступені кандыдата навук па прадстаўленні дысертацыі. Пазней ён называў сябе сам і называўся ў афіцыйнай перапісцы як кандыдат навук імператарскага Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Дысертацыя ж Каліноўскага да гэтага часу не знойдзена.

---

[1] ЛАГА, ф. 14, зв. 3393, с. 14.
[2] Там жа.
[3] Там жа.
[4] Там жа.

# ПАЧАТАК РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

К. Каліноўскі вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце ў гады ўздыму рускага вызваленчага руху, наступіўшага пасля Крымскай вайны, якая ўскрыла гніласць і бяссілле прыгонніцкай Расіі.

У тыя гады Пецярбург быў цэнтрам рускіх рэвалюцыйных сіл. «Разумовы цэнтр Расіі быў не ў сэрцы Расіі, а ў яе галаве, у Пецярбургу, — пісаў пазней М. В. Шалгуноў. — Ён здаваўся нам адзінай светлай кропкай Расіі, дзе можна жыць» [1].

Рэвалюцыйнае студэнцтва сталіцы з'яўлялася адной з перадавых сіл вызваленчага руху. Славутая дэманстрацыя пецярбургскіх студэнтаў, якая адбылася восенню 1861 г., была яркім доказам росту сіл рэвалюцыі. З асяроддзя студэнтаў выйшла многа будучых удзельнікаў паўстання 1863 г. і членаў таварыства «Зямля і воля». Студэнцкі рух з'яўляўся непарыўнай часткай вызваленчага руху, рост якога адлюстроўваў неабходнасць карэнных змен грамадскага і дзяржаўнага ладу. Ён развіваўся пад непасрэдным уплывам і кіраўніцтвам правадыроў рэвалюцыйных разначынцаў Чарнышэўскага, Дабралюбава, Герцэна, якія ўказвалі шляхі і сродкі барацьбы за задавальненне інтарэсаў народа. З кожным годам у краіне рос вызваленчы рух. За два няпоўныя гады (1861—1862) у краіне адбылося 1 172 выпадкі сялянскіх хва-

[1] М. В. Шалгуноў. Успаміны, 1923, стар. 81—83.

ляванняў, большасць якіх ураду прыйшлося душыць з дапамогай зброі [1].

Крызіс прыгонніцкай сістэмы, развіццё прамысловасці і гандлю суправаджаліся прабуджэннем нацыянальных ускраін Расіі. Узнікае і развіваецца тэндэнцыя да ўтварэння нацыянальных дзяржаў. Яна з'яўляецца адной з характэрных рысаў усіх буржуазна-дэмакратычных рэвалюцый. Нацыянальна-вызваленчы рух, які спалучаўся з барацьбой сялянства супроць феадальных парадкаў, ахапіў Літву, Украіну, Фінляндыю, Беларусь, але асаблівай сілы дасягнуў у Польшчы. У. І. Ленін называў рэвалюцыйныя сілы Польшчы таго перыяду «перадавым атрадам дэмакратыі». У. І. Ленін пісаў: «Ажыўленне дэмакратычнага руху ў Еўропе, польскае браджэнне, нездаволенне ў Фінляндыі, патрабаванне палітычных рэформ усім друкам і ўсім дваранствам, распаўсюджанне па ўсёй Расіі «Колокола», магутная прапаведзь Чарнышэўскага, які ўмеў і падцэнзурнымі артыкуламі выхоўваць сапраўдных *рэвалюцыянераў,* паяўленне пракламацый, узбуджэнне сялян, якіх «вельмі часта» прыходзілася з дапамогай ваеннай сілы і з праліццем крыві *прымушаць* прыняць «Палажэнне», абдзіраючае іх як ліпку, калектыўныя адмаўленні дваран — міравых пасрэднікаў прымяняць *такое* «Палажэнне», студэнцкія беспарадкі — пры такіх умовах самы асцярожны і цвярозы палітык павінен быў бы прызнаць рэвалюцыйны ўзрыў зусім магчымым і сялянскае паўстанне — небяспекай вельмі сур'ёзнай» [2].

Асновапаложнікі марксізма, правадыры сусветнага пралетарыята К. Маркс і Ф. Энгельс уважліва сачылі за прабуджэннем шырокіх сялянскіх мас у Расіі і звязвалі з поспехамі рускай рэвалюцыі свае надзеі на новы рэвалюцыйны ўздым у Еўропе. К. Маркс ацэньваў барацьбу рускіх сялян як найвялікшую падзею і неаднаразова выказваў надзею, што іменна з Расіі пацячэ на Захад рэвалюцыйная лава.

Творы рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, якія вырашалі ўсе пытанні жыцця з пазіцый працоўных («пра-

---

[1] «Чырвоны Архіў», т. 2 за 1936 г.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 5, стар. 26—27.

сталюдзінаў» — па тэрміналогіі Чарнышэўскага), былі рашаючым фактарам у фарміраванні светапогляду моладзі ўсёй краіны.

М. Г. Чарнышэўскі быў, па сведчанню сучаснікаў, «уладальнікам дум» маладога пакалення. Зусім справядліва беларусы называлі Чарнышэўскага вялікім настаўнікам двух пакаленняў, які абуджаў у рускім грамадстве любоў да народа, імкненне да справядлівасці і веру ў лепшыя ідэалы чалавецтва [1].

«Чарнышэўскі, Дабралюбаў, — пісаў іх саратнік М. В. Шалгуноў, — былі прарокамі ўніверсітэцкай моладзі, якая прыходзіла ў нястрымнае захапленне ад таго, што знаходзілі ў радках, а яшчэ больш ад таго, што чыталі потым паміж радкамі. Чым больш крайнія і смелыя былі артыкулы, тым яны мацней дзейнічалі на студэнтаў» [2].

Правадыры рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі М. Г. Чарнышэўскі, М. А. Дабралюбаў усю сваю шматгранную дзейнасць падпарадкавалі асноўнай задачы — падрыхтоўцы і арганізацыі ўсерасійскай сялянскай рэвалюцыі. Гэтаму падпарадкавана ўся іх легальная і нелегальная дзейнасць. Ідэя сялянскай рэвалюцыі ўпарта і настойліва праводзілася імі ва ўсіх артыкулах, праз усе рагаткі і перашкоды цэнзуры. Набатам, які клікаў Русь да тапара, гучаў кожны іх твор.

Вялікі дзеяч рэвалюцыйнай Расіі М. Г. Чарнышэўскі аб'яднаў вакол сябе лепшых сыноў Расіі — Дабралюбава, Някрасава, Антановіча, Шалгунова, Шаўчэнку, Серакоўскага і многа іншых. Органам гэтай групы быў самы папулярны і найбольш распаўсюджаны ў краіне часопіс «Современник». Без гэтага магутнага ўплыву ідэй перадавой Расіі нельга зразумець працэс фарміравання светапогляду беларускіх шасцідзесятнікаў-рэвалюцыянераў, з якіх самым выдатным быў К. С. Каліноўскі.

Калі агульны крызіс прыгонніцтва і рост сялянскага руху былі сацыяльна-эканамічнай глебай, што нараджала іх рэвалюцыйныя імкненні, то працы класікаў рэв.-дэ-

[1] М. Н. Чарнышэўскі. Апошнія дні М. Г. Чарнышэўскага. «Былое» № 8—20, 1907, С.-Пецярбург.

[2] М. В. Шалгуноў.. Успаміны, стар. 36.

макратаў былі тоії ідэйнай крыніцай, якая садзейнічала канчатковай крышталізацыі іх поглядаў. У працах рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў моладзь нацыянальных ускраін знаходзіла адказы на ўсе пытанні, якія ставіла жыццё.

Ідэйны ўплыў рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў на перадавую грамадска-палітычную думку Беларусі 60-х гг. агульнапрызнаны. Аднак у вывучэнні гэтай надзвычай важнай тэмы ў апошнія гады ёсць істотны недахоп. Звярталася ўвага галоўным чынам на блізкасць думак, аж да прасочвання тэкстуальнага супадзення і г. д. Але не даследавалася сацыяльная аснова гэтай блізкасці, выпадала з поля зроку даследчыкаў практычная дзейнасць па стварэнню рэвалюцыйнай арганізацыі, здольнай узначаліць будучы пераварот.

Правільнае асвятленне рэвалюцыйна-практычнай дзейнасці М. Г. Чарнышэўскага, дадзенае ў апошніх даследаваннях савецкіх гісторыкаў, сведчыць аб вялікім значэнні арганізацыйнай работы, якая ажыццёўлена групай Чарнышэўскага па кансалідацыі сіл рэвалюцыйнай Расіі, у тым ліку і Беларусі.

Акадэмік М. В. Нечкіна, якая аналізуе многія раней невядомыя даныя, прыходзіць да вываду:

«Дакументальна даказваецца, што і Чарнышэўскі з Дабралюбавым, і Герцэн з Агаравым у гэты час (г. зн. з 1857 года. — А. С.) распрацоўвалі ідэю рускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Ідэю гэтую яны распрацоўвалі не толькі творча і ў агульнай форме, а імкнуліся перавесці яе на практычную глебу» [1].

У выніку намаганняў перш за ўсё М. Г. Чарнышэўскага ў Пецярбургу ўзнік рэвалюцыйны цэнтр, які ўзначаліў усю тайную дзейнасць па падрыхтоўцы паўстання ў краіне.

Гэты рэвалюцыйны цэнтр праводзіў праз спецыяльна

---

[1] М. В. Нечкіна. М. Г. Чарнышэўскі і А. І. Герцэн у гады рэвалюцыйнай сітуацыі (1859—1861 гг.). «Весці АН СССР», аддз. літаратуры і мовы, т. XIII, вып. 1, стар. 55; таксама «М. Г. Чарнышэўскі ў барацьбе за згуртаванне сіл рускага дэмакратычнага руху ў гады рэвалюцыйнай сітуацыі». Пытанні гісторыі, 1953 г., № 7. Новыя матэрыялы аб рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі (1859—1861 гг.). Літаратурная спадчына, 1953, т. 61 і інш.

створаны студэнцкі камітэт вялікую работу сярод студэнтаў.

Гаворачы аб студэнцкім руху тых гадоў у Пецярбургу, паінфармаваны сучаснік В. Берві-Фляроўскі піша: «Студэнты мелі сходкі, на якіх абмяркоўвалі свае агульныя справы, склалі арганізацыі, мелі касу. Даследаванне аб стане галечы, якое дакладна было праведзена паміж навучэнцамі, дало здзіўляючыя вынікі. Знойдзены былі, напрыклад, два студэнты, якія жылі ў шафе, студэнт, які жыў зімою ў дашчанай будцы, дзе калісьці змяшчалася вапна. Ён жа паведамляе, што быў заснаван студэнцкі суд, які дзейнічаў па ўсіх правілах публічных судоў з прысяжнымі, адвакатамі і г. д., што ўсе гэтыя студэнцкія арганізацыі дзейнічалі цудоўна. З усіх студэнцкіх гурткоў (зямляцтваў) выбраныя, найбольш уплывовыя прадстаўнікі, утварылі цэнтральную сходку, якая кіравала ўсім жыццём студэнтаў»[1].

Гэтая студэнцкая арганізацыя і ўзначаліла восенню 1861 г. славутую дэманстрацыю пратэсту супроць уціску вышэйшай адукацыі з боку царызма, а пасля разгрому дэманстрацыі перайшла да нелегальнай дзейнасці і памножыла рады таварыства «Зямля і воля».

А. М. Скабічэўскі, які вучыўся ў С.-Пецярбургскім універсітэце ў канцы 50-х гг., указвае ў сваіх успамінах:

«Як толькі пачаўся вызваленчы рух, ва ўніверсітэце студэнцтва зараз жа раздзялілася на партыі — правых, левых і цэнтра. Правых, уласна, нельга было назваць і партыяй. Гэта былі студэнты індыферэнтныя. Да гэтай катэгорыі належалі дзеці багатых бацькоў, франты і шыкары, якія з грэблівай пагардай адносіліся да ўсіх таварышаў, што не належалі да іх выбранага гуртка. Памяркоўныя жадалі мірна і спакойна карыстацца дараванымі студэнтам вольнасцямі.

Ваўкі ж (г. зн. левыя. — А. С.) з'яўляліся прадстаўнікамі самых радыкальных патрабаванняў»[2].

Студэнты С.-Пецярбургскага ўніверсітэта дзяліліся на некалькі таварystваў па прынцыпу зямляцтва і на-

---

[1] Б. Берві-Фляроўскі. Запіскі рэвалюцыянера-летуценніка, 1929, стар. 68—74.

[2] А. М. Скабічэўскі. Успаміны аб пеpажытым. «Русское богатство», 1907, № 7, стар. 40, 41.

цыянальнай прыналежнасці. У так званае польскае таварыства, якое аб'ядноўвала больш чым 500 чалавек, уваходзілі ўсе выхадцы з Царства Польскага і Заходняга краю (г. зн. палякі, літоўцы, украінцы і беларусы).

У члены таварыства прымалі студэнта, які меў не менш пяці рэкамендацый. Пры ўступленні ўносіў грошы «колькі хто мог і жадаў», якія ішлі на дапамогу бедным таварышам.

«Таварыства, — указвае яго член В. Гажыч [1], — мела сваю бібліятэку, і хто з студэнтаў жадаў браць з яе кнігі, дык абавязан быў плаціць асобна па 40 кап. у м-ц. Бібліятэка і грашовая каса змяшчаліся ў прыватнай кватэры. На пасаду бібліятэкара і касіра выбіраліся студэнты на адзін год... ... бібліятэкарамі ж у розны час былі студэнты Каліноўскі, Трэйдусевіч і Памяноўскі. Бібліятэкар карыстаўся асаблівай павагай і лічыўся як бы старэйшай асобай, а на сходах меў права канчаткова вырашаць справы. У абавязкі бібліятэкара ўваходзіла сачыць, наглядаць за парадкам, цэласцю кніг, а таксама і купляць іх, але не інакш як па парадзе знарок выбраных для гэтага пяці членаў.

Сходы збіраліся толькі тады, калі ў гэтым была неабходнасць, і складаліся з 4 або 5 дэпутатаў ад кожнага факультэта. Зыходзіліся заўсёды ў памяшканні бібліятэкі...»

Далей Гажыч указвае, што гэтае таварыства не было ўнутрана адзіным — «падзялялася на тры партыі, якія насілі назву «белых» «памяркоўных» і «чырвоных». Да першай належалі тыя, мэта якіх была вучыцца для сканчэння курса, у палітычных жа адносінах ніколі не разыгрываць ролі. Гэтая група ўхваляла ўсе дзеянні царскага ўрада, і члены яе «вельмі праследаваліся таварышамі, якія не падзялялі іх паняццяў, нават да таго, што некаторыя павінны былі пакінуць універсітэт і вярнуцца на радзіму...»

Да партыі «памяркоўных» належалі студэнты, якія стараліся вучыцца і адначасова засвоілі сабе думку, што

[1] ЦДГА, ф. 109, 1 экспед., с. 23, ч. 313. Гажыч — выхаванец Варшаўскай гімназіі, затым у пачатку 60-х гг. вольнаслухач С.-П. універсітэта, пазней удзельнік паўстання ў Беларусі — рэвалюцыйны камісар Лідскага павета.

ўніверсітэт, апрача навучання, павінен рыхтаваць маладых людзей да палітычнага жыцця.

Нарэшце, чырвоныя, якія называлі сябе ліберaламі і рэвалюцыянерамі, адрозніваліся тым, што хадзілі ў парваных сурдутах і ботах, а замест гальштукаў насілі на шыі ручнікі. Гэтая партыя складала **большасць таварыства.** «Да яе належалі студэнты: Стэтуковіч, Чарнецкі і многія іншыя, **асабліва ж рэзка вылучаўся Каліноўскі»** (падкрэслена мною. — А. С.).

«Партыя «белых», — працягвае В. Гажыч, — складалася з асоб вышэйшага саслоўя, якія атрымалі «добрую хатнюю адукацыю, «памяркоўныя» былі ў большасці з Царства Польскага, а «чырвоныя» — з Заходніх і Паўднёва-заходніх губерняў (г. зн. з Беларусі, Літвы, Украіны. — А. С.). Апошнія ў большасці не мелі хатняй адукацыі і належалі да ніжэйшага слою людзей. На сходах яны ніколі не разважалі аб справах палітыкі, у сямейных жа, таварыскіх гуртках вельмі часта размаўлялі аб палітыцы...»

Партыя «белых» сцвярджала, што карысным айчыне можа быць толькі праз спецыяльную адукацыю ў навуках, неабходных у грамадскім жыцці, як-та: матэматыка, эканомія, юрыспрудэнцыя.

Партыя «памяркоўных» (да яе належаў і сам В. Гажыч. — А. С.) не адмаўляла рэвалюцыі, аднак лічыла яе сродкам, ад ужывання якога трэба пазбягаць усімі сіламі і звяртацца да яго толькі ў крайніх выпадках. Таму яны сачылі за еўрапейскай палітыкай і чакалі хвіліны, калі можна ўзняць пытанне аб самастойнасці Польшчы, што ў далейшым і пачалося праз дэманстрацыі і маніфестацыі.

**Партыя «чырвоных» верыла толькі ў рэвалюцыю,** не ў сэнсе значэння гэтага слова (г. зн. захоп улады шляхам насілля. — А. С.), але ў рэвалюцыю кулачную (праўдзівей, народную. — А. С.), **злучаную з сацыяльным пераваротам.** У гэтых адносінах **яны былі згодны з лібераламі рускага таварыства, якім наогул вельмі сімпатызавалі»** (падкрэслена мною. — А. С.). В. Гажыч адносіць да лібералаў групу Чарнышэўскага, якая часта называлася ў тыя дні вулічнымі лібераламі, лібераламі-бунтаўшчыкамі і інш.

«У далейшым, — гаворыць Гажыц, характарызуючы студэнтаў, паслядоўнікаў Чарнышэўскага, — з гэтай партыі прызначыліся на пасадзе сельскіх пісараў для таго, каб, грунтуючы свае надзеі на сацыяльным перавароце, мець непасрэдны ўплыў на сялян і абуджаць іх да рэвалюцыі не ў імя нацыянальнасці, а для паляпшэння іх быту» [1].

Даныя В. Гажыча пацвярджаюцца студэнтам Антушэвічам (агент III аддзялення «Касцінскі»), які ў сваіх даносах указваў, што маскоўскія і пецярбургскія студэнты польскага паходжання стварылі таварыства з мэтай садзейнічаць адначасоваму бунту ў Царстве Польскім і ў Заходніх губернях, што да таварystваў гэтых належаць і некаторыя студэнты — ураджэнцы ўнутраных губерняў, што ўсе яны маюць у пэўных месцах сходбішчы, запасаюцца зброяй... [2]

Што датычыць барацьбы паміж «памяркоўнымі» і «чырвонымі» сярод студэнтаў, гэты агент піша: «Некаторыя з іх (гэта значыць студэнтаў. — А. С.) сцвярджаюць, што для больш пэўнага поспеху, каб вызваліцца ад улады расійскай, трэба ў час канікул ездзіць да польскай шляхты і выгаварваць ёй, што... яна не павінна драмаць, а ўзяцца за зброю і быць гатовай да справы. Другія гаварылі, што непараўнальна лепш з'ехацца ў Вільню па выпадку спрэчак сялян з памешчыкамі, якія часта і так адбываюцца, звярнуцца да народа і да-

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 23, ч. 313, 1863 г., л. 4.

Часткова гэтыя даныя прыведзены ў кнізе І. М. Бяляўскай «А. І. Герцэн і польскі нацыянальна-вызваленчы рух 60-х гг. XIX ст.», М., 1954.

[2] ЦДА Літ. ССР, ф. Канц. Віленскага генерал-губернатара, аддз. сакр., с. 9, ад 25 лютага 1861 г. Характэрна, што, паводле слоў Антушэвіча, некаторыя члены пецярбургскіх студэнцкіх рэвалюцыйных гурткоў называлі адзін другога апосталамі. Вядома, што М. П. Агараў выставіў гэты тэрмін для абазначэння членаў створанага ў Расіі тайнага рэвалюцыйнага таварыства. Акадэмік М. В. Нечкіна, на падставе гэтай заявы Агарава і тоіі акалічнасці, што члены так званай «Казанскай змовы» называлі сябе апосталамі, піша, што гэтая акалічнасць гаворыць «аб нейкіх ніцях, якія ідуць ад перыферыйнага выступлення да рэвалюцыйнага цэнтра». («Весці АН СССР», серыя гісторыі і філасофіі, т. IV, № 12, стар. 114).

казаць яму, што толькі тады будзе свабодным, калі сам возьмецца за зброю і такім чынам зробіць паўстанне» [1].

Аналіз архіўных даных дазваляе сцвярджаць, што з асяроддзя так званых «чырвоных», а дакладней студэнтаў рэвалюцыйна-дэмакратычных перакананняў, да 1860 года вылучалася кіруючая група, у склад якой, апрача К. Каліноўскага, уваходзілі: Э. Вярыга, Э. Юндзіл, І. Здановіч, І. Ямонт, Куршэвіч (Курневіч), Кагнавіцкі і інш. Усе яны ў далейшым актыўныя ўдзельнікі паўстання 1863 г. Іх дзейнасць звярнула ўвагу ўлад ужо ў 1860 г.

На кватэры ў Вярыгі, Юндзіла і Ямонта (жылі разам), як указвалі паліцэйскія чыны, «даволі часта збіраюцца маладыя людзі, пераважна палякі і большай часткай студэнты ж С.-П.-га ўніверсітэта і медыка-хірургічнай акадэміі». «Яны праводзяць час, — удакладняе агент жандарскага аддзялення, — у чытанні кніг і спяванні, не надаючы сваім сходам нічога сакрэтнага і не даючы повад падазраваць у іх злачынную мэту» [2]. Маладыя рэвалюцыянеры паказалі сябе вопытнымі канспіратарамі. Агенты паліцыі і жандармерыі прыйшлі да вываду, што моладзь збіралася «час праводзіць сціпла: гуляюць у карты, п'юць, спяваюць і непрыкметна, каб пп. Вярыга і Юндзіл акружалі сябе якой-небудзь таямнічасцю, як бы гэта зрабілі людзі, якія маюць намер на што-небудзь злачыннае» [3].

Шаноўны прыстаў памыляўся, бо таямнічая дзейнасць была відавочная. Як відаць з паказанняў Э. Юндзіла [4], на гэтых сходах частымі гасцямі былі браты Каліноўскія — Віктар і Кастусь, а таксама многія афіцэры.

Як цяпер высвятляецца, група К. Каліноўскага, Э. Юндзіла і іншых адыгрывала галоўную ролю ў рэвалюцыйных гуртках студэнтаў універсітэта і ў той жа час была цесна звязана з больш спелай і буйной рэвалюцыйнай арганізацыяй, якая складалася пераважна з ліку

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, воп. 16, с. 80, л. 12.

[2] Там жа, 1860 г., с. 229, «Аб адкрытай у Вільні змове», лл. 90—95.

[3] ЦДГА, М., ф. 109, 1860, с. 209, л. 90.

[4] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1834, л. 361 і інш.

афіцэраў-слухачоў і прафесараў ваенных акадэмій і вучылішч сталіцы.

Як указвае стрымана дакладны ў паказаннях Э. Юндзіл, ён быў знаёмы з афіцэрам Я. Дамброўскім з 1859 г. і быў частым удзельнікам сходаў, якія адбываліся ў яго на кватэры па серадах і суботах. Сумесна з ім там бывалі Віктар Каліноўскі, а «з студэнтаў універсітэта Крушэўскі, Кагнавіцкі, а таксама Каліноўскі» [1]. Аб наведванні сходаў указанымі трыма студэнтамі ўніверсітэта гавораць і многія іншыя з удзельнікаў сходаў (Міладаўскі, Вараўскі, Чарняк) [2].

Аб гэтым жа сведчаць і даныя ўлад. У спісу ўдзельнікаў гэтых сходаў, складзеным спецыяльнай следчай камісіяй, значыцца «... былы студэнт Каліноўскі ... 8 студзеня 1863 г. (!) выбыў у Гродзенскую губерню» [3].

Такім чынам, даказваецца, што браты Каліноўскія, не толькі старэйшы Віктар, але і малодшы Кастусь, былі актыўнымі членамі таго маладзёжнага гуртка, што групаваўся вакол С. Сяракоўскага і Я. Дамброўскага. У гурток уваходзілі пераважна афіцэры трох ваенных акадэмій Пецярбурга — Генеральнага штаба, Артылерыйскай і Інжынернай. Гурток аб'ядноўваў да 70 афіцэраў, некалькі студэнтаў і меў сувязь з афіцэрскімі коламі (з выпускнікоў акадэмій) у іншых гарадах.

На сходах членаў гэтых гурткоў чыталася патрыятычная, рэвалюцыйная літаратура як руская, так і польская, асабліва работы А. Герцэна, А. Міцкевіча, Лелевеля і, вядома, «Современник» і «Колокол».

Не маючы магчымасці ў данай кнізе поўнасцю асвятліць работу гэтай рэвалюцыйнай групы, падкрэслім, што М. Г. Чарнышэўскі і М. А. Дабралюбаў былі асабіста знаёмы з віднейшымі дзеячамі гэтага гуртка — С. Сеpакоўскім, І. Савіцкім, Н. Абручавым, Н. Навіцкім і інш.

Гэта пралівае дадатковае святло на працэс фарміравання поглядаў і перакананняў К. Каліноўскага-студэнта. У перыяд вучобы ва ўніверсітэце ён — вядомы сваёй рэвалюцыйнай перакананасцю кіраўнік студэн-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1834, л. 361 і інш.
[2] Там жа, лл. 287—295, л. 7, с. 1834, лл. 352—358 і інш.
[3] Там жа, ф. 439, с. 1835, воп. 20, лл. 52—54.

таў-землякоў (факт выбрання яго бібліятэкарам пацвярджае гэта), прыхільнік ідэй М. Г. Чарнышэўскага і М. А. Дабралюбава і часты наведвальнік сходаў і вечароў у асоб, непасрэдна звязаных з вялікімі дзеячамі рэвалюцыйнай Расіі. Ён быў асабіста знаёмы і блізкі з іх сябрамі і саратнікамі, бываў там, дзе бывалі яны. Але тэзіс аб асабістых сустрэчах К. Каліноўскага і М. Чарнышэўскага пакуль, нажаль, не даказваецца з-за адсутнасці фактаў.

Рэвалюцыйная моладзь Беларусі і Літвы, якая вучылася ў Пецярбургу, разгарнула работу па стварэнню гурткоў у краі з мэтай правядзення агітацыі і падрыхтоўкі да паўстання.

Работа гэтая ажыццяўлялася як афіцэрскай групай Серакоўскага, так і студэнтамі ўніверсітэта.

Камітэт, які ўзначальваў афіцэрскую арганізацыю ў канцы 1860 г., «прызнаў самай важнай часткай дзейнасці сваёй прапаганду паміж ваеннымі служачымі ў Царстве Польскім і Заходніх губернях. З гэтай мэтай у Пецярбургу пасля развaжанняў і дэбатаў было вызначана: Дамброўскаму ехаць у Варшаву, Звіржлоўскаму ў Вільню...» [1]

Звіржлоўскі, які прыехаў у Вільню, сумесна з афіцэрамі Казела, Врублеўскім, Малахоўскім і іншымі арганізаваў распаўсюджанне адозваў: «Што трэба рабіць войску?», «Да рускіх войск у Польшчы», «Вялікарус», «Да маладога пакалення». Гэтыя адозвы атрымалі шырокае распаўсюджанне, асабліва ў Гродзенскай губерні (гг. Гродна, Брэст, Слонім, Беласток), дзе стаялі часці 3-й пяхотнай дывізіі.

Рэвалюцыйнае студэнцтва, якое ўзначальвалася кіруючай групай (К. Каліноўскі, Э. Юндзіл, Э. Вярыга, І. Здановіч), са свайго боку звязалася з навучэнцамі і рамесніцкай моладдзю края. Пад яго ўплывам у 1860 г. у Вільні ўзнікае гурток сярод навучэнцаў тамашніх гімназій, які ставіў сваёй мэтай садзеянне ў падрыхтоўцы рэвалюцыі і імкнуўся перш за ўсё звязацца з рамеснікамі і сялянамі. Адзін з віднейшых членаў гэтага гуртка Вікенцій Віткоўскі ў сваіх накідах праграмы, якія заста-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, Вільнюс, ф. 439, с. 1839, лл. 97, 98.

ліся, нажаль, незакончанымі, выстаўляў наступныя палажэнні:

ліквідацыя самадзяржаўна-прыгонніцкіх антынародных рэжымаў («пальецца кроў катаў... упадуць са сваіх паднябесных тронаў дэспаты... Сонца свабоды азалоціць усю зямлю»);

карэннае змяненне адносін паміж нацыямі, ліквідацыя нацыянальнага прыгнёту, стварэнне добрасуседскіх, абгрунтаваных на ўзаемадапамозе і давер'і, сувязей паміж народамі з улікам спецыфікі кожнай нацыі («Кожны народ мае... уласцівыя яму асноўныя правілы... Народы павінны дапамагаць адзін другому ўзаемна»);

ліквідацыя раздзелу Польшчы, аднаўленне яе незалежнасці і суверэнітэту, бо раздзел Польшчы быў рэакцыяй феадалаў Прусіі, Аўстрыі і Расіі на польскі рэвалюцыйны рух («Калі становішча сваё і ўстановы свае хацелі ўзвысіць да ідэалу, то першы крок да таго быў 3-га мая, суседнія манархі спалохаліся, таму што для іх няволя і жывёльны стан народа патрэбны... Разарвалі яе на тры часткі»);

ліквідацыя сацыяльнага прыгнёту, «нявольніцтва і роспачы», прысваенне «чужой маёмасці ва ўласнасць асобных людзей, якія жывуць на адным месцы» (аўтар, відавочна, дапускаў думку адчужэння маёмасці асобных людзей ва ўласнасць калектыву. — Рэд.). Пераадольваючы ўплыў рэлігіі і нацыяналізма, аўтар прыходзіць да вываду, што рэвалюцыя з'яўляецца найбольш прыемлемым шляхам для знішчэння сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці. Ён праслаўляе герояў, якія аддалі жыццё за свабоду народа. Пачуццем шчырай любві да радзімы, апафеозам патрыятызма гучаць яго словы: «Няхай жыццё народаў, іх гістарычнае поле дзейнасці азнаменаваны крывавымі слядамі, вялікія кроплі крывавага поту падаюць і прамочваюць родную зямлю іх. І ці не будзе гэта адной з вялікіх сіл, якая ўмацавала любоў да айчыны!» [1].

Нягледзячы на тое, што трактат Віткоўскага «Будзем любіць адзін аднаго» застаўся, паводле слоў аўтара,

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ ПА, 1860, ф. 378, с. 33, лл. 10—12.

незакончаным і напісаная частка, па сутнасці, толькі ўводзіны, ён на прызнанню следчай камісіі «поўны рэспубліканскіх ідэй». Што і гаварыць, вывад правільны. Заслугоўвае ўвагі тая акалічнасць, што члены гэтага гуртка знаёмы былі не толькі з рэвалюцыйнай прэсай, але і з рускай дэмакратычнай культурай у цэлым (праводзіліся, напрыклад, чытанні ўголас твораў Гогаля), а таксама з паэзіяй Т. Г. Шаўчэнкі. Гурток імкнуўся перанесці цэнтр сваёй дзейнасці ў вёску, прычым членам гуртка было вядома аб рэвалюцыйнай дзейнасці сярод сялян Т. Г. Шаўчэнкі і яго паслядоўнікаў.

Гурток быў выкрыт восенню 1860 г., члены яго падвергнуты рэпрэсіі. Аднак поўнасцю яго дзейнасці віленскія ўлады не зразумелі. Толькі праз год, атрымаўшы новыя дадатковыя даныя, генерал-губернатар Назімаў прыйшоў да вываду, што члены гуртка В. Віткоўскага звязаныя з студэнцкімі гурткамі ў сталіцы, у 1860 г. «рыхтаваліся ўжо падгаварваць сялян і рыхтаваць іх да паўстання распаўсюджаннем нянавісці да ўрада» [1].

Апрача гуртка Віткоўскага, існавалі і іншыя тайныя рэвалюцыйныя аб'яднанні, якія таксама мелі сувязь з рэвалюцыянерамі Пецярбурга. Падобнае аб'яднанне існавала сярод выхаванцаў Віленскага кадэцкага корпуса, аб чым гаворыць пісьмо аднаго з яго членаў да свайго брата, юнкера Міхайлаўскага артылерыйскага вучылішча В. Р. Пілейкі. Аўтар пісьма, напісанага ў ліпені 1862 г., паведамляе, што сярод яго таварышаў узнікла група, якая выпісвае часопіс «Современник», каб адразу ж чытаць яго пасля выхаду ў свет, што ён больш за ўсё паважае Чарнышэўскага, Дабралюбава, Антановіча, устрывожаны забаронай «Современника» і просіць даведацца аб прычыне гэтай рэпрэсіі, і выказвае здагадку, што ўрад мог прычапіцца да рэзкага выступлення Чарнышэўскага ў абарону студэнтаў у артыкуле «Ці не навучыліся?». З пісьма відаць, што віленская моладзь ведала змест «Маладой Расіі», бо аўтар просіць паведаміць даныя аб ёй. Яго трывожаць чуткі «аб пажарах і дзеяннях царскай фаміліі».

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. КГГ ПА, с. 9, 25.II.1861 г. Заўважым, што ў гуртку Віткоўскага ўдзельнічала многа гімназістаў г. Вільні, сутаварышаў Ф. Багушэвіча па вучобе.

Несумненна, што перад намі адзін з дакументаў, які сведчыць аб сувязі рэвалюцыйных колаў Пецярбурга і Вільні напярэдадні паўстання. У падрыхтоўцы апошняга прымае ўдзел і аўтар пісьма, які вядзе, па ўласнаму прызнанню, прапаганду паміж сялянамі і рамеснікамі. Адлюстроўваючы «імкненне маладога пакалення», ён указвае на неабходнасць «збліжэння з мужыком» з мэтай вызвалення яго з-пад уплыву феадальна-манархічнай ідэалогіі. Аўтар указвае, што прапаганда ў такім духу вядзецца, што ён і яго таварышы маюць ужо пэўны вопыт. Ён сам заваяваў ужо сімпатыі народа, здолеў увайсці ў давер'е да яго, «перамяніць некаторыя з паняццяў мужычка» [1].

Жандарскі афіцэр, які паведаміў аб трывожным становішчы ў Віленскім корпусе, даносіў у Пецярбург, што «Кадэты сваволяць... напоўнены вальнадумствам і не вельмі слухаюць сваіх афіцэраў» [2].

Думкі і спадзяванні маладога пакалення, якое імкнулася ў цесным саюзе ўсіх народаў Расіі звергнуць уладу гвалтоўнікаў і прыгняталынікаў, адлюстраваны былі ў вершах, якія шырока распаўсюдзіліся ў пачатку 60-х гг. у Беларусі:

Пропадают злые духи,
Гнет тяжелый исчезает.
Новый гимн святой свободы
Племя новое слагает.
Но в борьбе нас ждут преграды,
Нужны общие стремленья,
Братство, равенство нам надо...
Пусть же ныне и до века
Нас связует воедино
Назначенье человека
Гражданина, славянина!
Пусть отрады и все муки
Будем вместе мы делить.
Братья! Дайте же нам руки,
Чтобы честно вместе жить! [3]

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 361, л. 45, 1862 г.

[2] ЦДГА, М., ф. 109, с. 303, лл. 50—54, 1861 г.

[3] ЦДА Літ. ССР, Вільнюс, ф. ГГ, с. 2285, лл. 30—32, 1864 г. Вершы з'яўляюцца водгукам на дэманстрацыю пратэсту супроць рэпрэсій царызма ў Польшчы, дэманстрацыя была арганізавана студэнтамі Маскоўскага ўніверсітэта. У ёй прымалі ўдзел студэнты розных нацыянальнасцей.

Актыўную рэвалюцыйную работу ў Беларусі К. Каліноўскі пачынае пасля сканчэння ўніверсітэта. Дакладных даных, калі іменна ён вярнуўся і ўзначаліў работу па кансалідацыі рэвалюцыйных сіл, мы пакуль не маем.

Універсітэт ён скончыў вясной 1860 г. і, відавочна, некаторы час заставаўся ў сталіцы. Ва ўсякім выпадку даныя аб яго рэвалюцыйнай дзейнасці ў Вільні і Гродна адносяцца к пачатку 1861 г. Бацька рэвалюцыянера таксама ўказвае, што яго сын Кастусь вярнуўся дадому з універсітэта ў пачатку 1861 г. Вядома таксама, што ў сакавіку 1861 г. Каліноўскі быў у Вільні, дзе зрабіў спробу паступіць на дзяржаўную службу. Аб гэтым сведчаць паказанні яго бацькі — Сямёна Каліноўскага, а таксама і ўласнаручна напісанае К. Каліноўскім прашэнне ад 2 сакавіка 1861 г. на імя генерал-губернатара Назімава, у якім значылася: «Скончыўшы курс у імператарскім С.-Пецярбургскім універсітэце са ступенню кандыдата і жадаючы паступіць на службу, маю гонар прасіць Ваша правасхадзіцельства даставіць мне магчымасць служыць пад прасвячаным начальствам Вашага правасхадзіцельства»[1]. На прашэнні рукой Назімава напісана: «Абвясціць аб адсутнасці вакансій». Відавочна, матывы адмовы былі іншыя, бо царскі ўрад вельмі падазрона адносіўся да студэнтаў мяцежнага Пецярбургскага ўніверсітэта.

Пасля гэтага Каліноўскі не рабіў ужо спроб паступіць на службу. Адзінай яго справай стала барацьба, а яго думамі — свабода народа, знішчэнне панства. Больш трох гадоў ён вёў напружанае і небяспечнае жыццё прафесіянала-рэвалюцыянера і хаваўся ад сышчыкаў царызма пад рознымі імёнамі (Чарнецкага, Макарэвіча, Хамовіча, Вітажэнца).

Становішча ў Беларусі к часу вяртання Каліноўскага коратка можа быць ахарактарызавана наступнымі галоўнымі з'явамі.

Першае і галоўнае — абвастрэнне барацьбы вакол пытання аб шляхах ліквідацыі прыгонніцтва і феадалізма.

Урад, які быў выразнікам інтарэсаў памешчыкаў

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. КГГ, с. 30, л. 1.

і абапіраўся на сілы ліберальна-прыгонніцкага блока, імкнуўся ажыццявіць грабежніцкую рэформу 1861 года.

Сялянства адказала на царскі маніфест паўстаннямі, якія ахапілі ўсю краіну. Найбольш моцнымі ачагамі сялянскага руху былі Паволжжа, следам ішла Беларусь і Літва, так званы Паўночна-Заходні край, дзе найбольш моцныя выступленні (у м. Іўі, м. Лыскова і інш.) ахоплівалі мнагатысячныя масы сялян. Гэтыя выступленні падаўляліся сілай зброі.

Слабасцю сялянскага руху з'яўляліся стыхійнасць, разрозненасць выступленняў, нязжытыя царысцкія ілюзіі сялян, прывідныя надзеі на новую «волю», якую чакалі к вясне 1863 г., да тэрміну ўвядзення ўстаўных грамат.

Рэвалюцыйнаму сялянскаму руху процістаялі сілы царызма і памешчыкаў.

Пазіцыя памешчыкаў Беларусі і Літвы нічым прынцыпова не адрознівалася ад пазіцыі, занятай вялікарускім дваранствам.

У. І. Ленін пісаў, што праславутая барацьба паміж лібераламі і прыгоннікамі была барацьбой унутры аднаго памешчыцкага лагера, барацьбой, якая не закранала асноў феадалізма, г. зн. перш за ўсё памешчыцкага землеўладання. Гэтае ўказанне У. І. Леніна поўнасцю адносіцца да Беларусі і Літвы. Частка тутэйшага дваранства стаяла на прыгонніцкіх пазіцыях і лічыла нават рэформу 1861 г. занадта радыкальнай. Найбольш значнымі прадстаўнікамі гэтай групы дваран былі: віленскі губернскі прадвадзіцель дваранства Дамейка, граф Чапскі, граф Зібер-Плятэр, князі І. Агінскі, Радзівіл, Тызенгауз.

Другая група дваранства ўзначальвалася памешчыкамі Я. Гейштарам, братамі Еленскімі, А. Аскерка, графам Старжынскім (прадвадзіцель дваранства Гродзенскай губ.), памешчыкам Лапо (прадвадзіцель дваранства Мінскай губ.). У гэтай групы ліберальнага дваранства былі пэўныя рознагалоссі з урадам з-за форм і метадаў правядзення рэформы, уступак сялянам і г. д.

Частка дваран Літвы і часткова Беларусі імкнулася ажыццявіць рэформу ў краі па Курляндскаму ўзору, г. зн. прадставіць сялянам асабістую свабоду, але зусім пазбавіць зямлі і даваць яе толькі ў арэнду.

«... Памешчыкі Літвы,— піша В. І. Неўпакоеў,— ёднымі з першых адклікнуліся на заклік урада прыступіць да рэформы, высунулі, абапіраючыся на «вопыт» Курляндыі, даўно намечаны імі план беззямельнага «вызвалення» сялян. Яны хацелі ператварыць сялян часткова ў батракоў, часткова ў кабальных арандатараў. Пры становішчы, калі нарасталі сялянскія хваляванні, урад, які баяўся сялянскай рэвалюцыі, высунуў другі варыянт рэформы і патрабаваў абавязковага выкупу сялянскіх сядзіб. У канцы 1858 г. урадавая праграма рэформы канчаткова адхіліла беззямельнае «вызваленне» сялян. Гэты варыянт рэформы не задавальняў памешчыкаў Літвы, і адразу ж пасля абвяшчэння рэскрыпта яны пачалі масавае абеззямеленне сялян і перасяленне іх на пяскі і пустэчы. Па вельмі няпоўных даных можна сцвярджаць, што памешчыкі захапілі ў ходзе падрыхтоўкі рэформы больш 30% зямлі сялянскіх надзелаў. Пасля абвяшчэння рэформы лік беззямельных сялян у Літве дасягнуў 50% усіх былых прыгонных. Іменна гэта і прывяло да жорсткай класавай барацьбы, якая разгарнулася паміж літоўскімі сялянамі і памешчыкамі напярэдадні і ў перыяд правядзення рэформы» [1].

Паміж living рознымі групоўкамі дваранства краю і царскім урадам існаваў канфлікт, у аснове якога ляжалі сацыяльныя прычыны. Таму польскі нацыянальна-вызваленчы рух знайшоў водгук у сэрцах дваранства Беларусі і Літвы.

З аднаўленнем аўтаномнага ўпраўлення Польшчы ў граніцах 1772 г. (на ўсходзе) гэтыя колы звязвалі надзеі вырашыць затым па-свойму, без умяшання цэнтральных царскіх улад, усе сацыяльныя праблемы. Вось чаму дваранства Беларусі і Літвы на сваіх з'ездах, з аднаго боку, распрацоўвае праекты паляпшэння суднаходства па Нёману, Прыпяці, Дзвіне, стварэння зямельнага крэдытнага банка, земляробчага таварыства і да т. п., а з другога, на сейміках у Мінску, Рэчыцы выказвае надзеі на адміністрацыйнае аб'яднанне Беларусі і Літвы з Царствам Польскім з прадастаўленнем шырокай унут-

[1] В. І. Неўпакоеў. Гістарычныя запіскі № 45, 1954, стар. 303, 304.

ранай аўтаноміі гэтаму дзяржаўнаму арганізму, які знаходзіцца пад скіпетрам цара.

Такім чынам, частка рэакцыйна настроенага дваранства стаяла на пазіцыях безумоўнай і поўнай падтрымкі царызма, другая — мела пэўныя з ім рознагалоссі і ўвасабляла свае рэфармісцкія задумы ў патрабаванні аўтаноміі. Характарызуючы пазіцыю апошніх, К. Каліноўскі пазней пісаў: «З'езды памешчыкаў літоўскіх [1], у якіх, аднак, гродзенскія, як мне вядома, амаль не прымалі ўдзелу, мелі на ўвазе толькі матэрыяльнае і маральнае паляпшэнне краю пры цяперашнім палітычным становішчы яго. Заявы мінскія, хоць вельмі нявінныя, былі, аднак, асуджаны многімі.

Імкненні падобных памешчыцкіх з'ездаў у матэрыяльных адносінах, сустракаючы супраціўленне ва ўрадавых уладах, усё больш і больш, пры сваім амаль адкрытым існаванні, рабіліся ім непрыязнымі» [2]. Гэтыя рознагалоссі часткі дваранства краю з урадам, як правільна адзначыў Каліноўскі, не ішлі далей эканамічных і культурных патрабаванняў (адкрыццё Віленскага ўніверсітэта і да т. п.).

У 1861—1862 гг., як і раней, усё дваранства краю, у тым ліку і лідэры тутэйшага лібералізма Гейштар, Аскерка і К$^0$ (дарэчы асабіста звязаныя вузамі агульных знаёмстваў і дружбы са стаўпом расійскіх лібералаў К. Д. Кавеліным), усе дваранскія групоўкі прынялі актыўны ўдзел у ажыццяўленні аб'яўленай рэформы і не раз ужывалі зброю для ўціхамірвання сялян.

Лібералы занялі месцы ў губернскіх сялянскіх камітэтах, якія кіравалі ажыццяўленнем рэформы, частка іх села на пасады міравых пасрэднікаў. Знамянальна, што выдатныя стаўпы лібералізма Гейштар (Ковенская губерня), граф Салтан (Гродзенская губерня), Еленскія і Кашыц (Мінская губерня) выклікалі войскі, каб задушыць сялянскія хваляванні ва ўласных маёнтках. Запомнім гэтыя прозвішчы. Праз год, у 1863 г., яны загавораць аб сваім братэрстве з беларусам-селянінам.

---

[1] К. Каліноўскі ўжываў словы Літва, Літоўскі для абазначэння Беларусі і Літвы, маючы на ўвазе агульнасць іх гістарычнага лёсу.

[2] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280.

Пазіцыя рэвалюцыйнага лагера ў Беларусі і Літве вызначалася ростам сялянскага руху, надзеяй, якая падзялялася, як вядома, і А. І. Герцэнам, што вясной 1863 г. сяляне, якія разупэўніліся ў чаканні новай «волі», пагалоўна паўстануць. З другога боку, гэтая пазіцыя залежала ад дзейнасці рэвалюцыйных груп і арганізацый як у Расіі («Зямля і воля»), так і ў Польшчы. Барацьба польскага народа за незалежнасць знаходзіла водгук у Беларусі і Літве. На гэтай тэрыторыі, па падліках С. Серакоўскага, пражывала да мільёна палякаў і асоб, якія засвоілі, паводле яго слоў, польскую цывілізацыю [1].

Сілы рэвалюцыйнага лагера ў Беларусі і Літве былі неаднародныя і ўнутрана супярэчлівыя. Частка польскай моладзі ў краі знаходзілася пад уплывам ідэй лідэра польскай эміграцыі Л. Мераслаўскага. Яна гатова была пачаць паўстанне незалежна ад ступені яго падрыхтаванасці і абставін. У нацыянальным пытанні яна была прыхільніцай безумоўнага аднаўлення ўсходніх межаў Рэчы Паспалітай, г. зн. уключэння ўкраінскіх, беларускіх, літоўскіх зямель у склад Польшчы без уліку іх самабытнасці і інш.

У сацыяльных адносінах гэтая групоўка абвясціла канцэпцыю нацыянальнага адзінства і гармоніі ўсіх саслоўяў, імкнучыся шляхам нязначных уступак з боку памешчыкаў уцягнуць сялян у нацыянальную барацьбу пад эгідай шляхты, захаваць і ўзмацніць эканамічныя прывілеі панства. Вялікая роля ў ажыццяўленні гэтых задумаў адводзілася каталіцкаму духавенству.

Найбольш вядомымі прадстаўнікамі гэтай групы ў Беларусі і Літве былі Б. Ліманоўскі, Б. Шварц і інш. Б. Ліманоўскі пазней успамінаў, што калі ён быў за мяжой і пазнаёміўся з Мераслаўскім асабіста, то атрымаў ад апошняга заданне і вярнуўся ў 1861 г. у Беларусь для яго ажыццяўлення. Што датычыць праграмы сваёй дзейнасці, ён указвае, што для іх у той час была яснай неабходнасць забяспечыцца падтрымкай сялян у будучай барацьбе. Для гэтага яны мелі намер выкарыстаць перш

---

[1] Гл. работу Серакоўскага «Пытанне польскае», апублікавана ў кнізе: Struś. Ludzie i wypadki. Kraków, 1894 г.

за ўсё рэлігію. «У нашых правінцыях, — пісаў ён, — народ быў моцна прывязан да сваёй каталіцкай веры, да сваёй веры польскай, як яе сам называў, да свайго касцёла, і ў касцёле адчувалі мы мацней за ўсё сваё духоўнае адзінства з нашым народам, вызваленне якога поўнасцю злівалася ў нашых думках, у нашых марах з вызваленнем заняволенай айчыны»[1].

Група Б. Ліманоўскага, якая кіравалася гэтымі палажэннямі, прыбыўшы вясной 1863 г. у Вільню, вырашыла арганізаваць рэлігійныя маніфестацыі ў краі, хоць і пераканалася, што існуючыя ў Літве тайныя саюзы не падтрымліваюць такога плана дзеянняў. Для пачатку вырашылі правесці 8 мая ў Віленскім кафедральным саборы спяванне польскага гімна, што і было зроблена. Арышт удзельнікаў гэтага спявання выклікаў дэманстрацыю пратэсту моладзі горада і часткі інтэлігенцыі, а таксама жанчын. Адбыліся новыя рэпрэсіі, новыя выказванні пратэсту і г. д. І маніфестацыйны рух распаўсюдзіўся па гарадах краю.

Нельга поўнасцю адмаўляць значэнне гэтых падзей у агульным ланцугу прычын, якія выклікалі паўстанне. Дэманстрацыі адыгралі пэўную прапагандысцкую ролю. Яны з'яўляліся часта формай выказвання пратэсту супроць царскай палітыкі нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. Але гэты рух не меў ясных сацыяльных лозунгаў, у палітычных адносінах ён супадаў з патрабаваннямі аднаўлення ўлады польскіх паноў у краі ва ўсёй ранейшай сіле. Іменна таму сялянства засталося ім незакранутым. Не знайшоў ён падтрымкі і ў значнай масы дваран. Гэта прызнаюць відавочцы.

Так, І. Ф. Савіцкі (сябра М. Г. Чарнышэўскага), які быў у той час у г. Коўна, пісаў, што памешчыкі краю былі рашучымі праціўнікамі ўсякіх выступленняў супроць урада, а галоўным абавязкам сваім лічылі ажыццяўленне рэформы, устанаўленне гармоніі з сялянамі шляхам наладжвання школ, некаторых уступак у карысць сялян і г. д. І. Савіцкі, які адзначыў гэтыя факты, указвае на беззмястоўнасць маніфестацыйнага

---

[1] B. Limanowski. Szermierze wolności. Kraków, 1911, а таксама Pamiętniki (1835—1870 гг.) Warszawa, 1937. Стар. 153—155.

руху ў краі, задуманага прыхільнікамі Л. Мераслаўскага. Іменна адсутнасць сацыяльных праблем у гэтым руху прывяла да таго, што «частка памешчыкаў, вядомая сваім жорсткім абыходжаннем з сялянамі, якая бачыла слабы бок дэманстрацый, хутка ўвайшла ў рады руху і заявіла, што грамадзянская праца гэта толькі забава, што спачатку трэба, моў, выгнаць ворага з краю і гэтаму яны прысвячаюць жыццё і маёмасць. Гарачая моладзь даравала ім мінулае, спадзеючыся на выпраўленне людзей, якія выглядам патрыятызма пакрывалі грубы і агідны эгаізм» [1]. Ён жа ўказвае, што «Мераслаўскі не многа меў прыхільнікаў у Літве» [2].

Самым рашучым і энергічным з гэтых асоб быў Б. Шварц — сын польскага эмігранта, які служыў ва ўпраўленні будаўніцтва Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. На працягу 1861 г. і вясны 1862 г. ён паспеў стварыць арганізацыю ў Беластоцкай акрузе і часткова ў Гродна, але дасягнуў гэтага дзякуючы таму, што адышоў на практыцы ад указанняў свайго настаўніка. Па сутнасці Б. Шварц ужо восенню 1861 г. стаў сумнявацца ў правільнасці сцяга Мераслаўскага, пад якім ён змагаўся і які адстойваў у спрэчках з Каліноўскім. У пісьме да Л. Мераслаўскага ад 24 верасня 1861 г. ён адзначае адсутнасць адзінства дзеянняў сярод рэвалюцыянераў, якія працуюць у Беластоцкай акрузе і Гродзенскай губерні, указвае на немагчымасць ажыццяўлення плана Мераслаўскага — падрыхтоўкі народа да паўстання шляхам выкарыстання сіл і сродкаў каталіцкай царквы. «Адасобленыя гурткі і таварыскія аб'яднанні, а дзе і проста асобныя грамадзяне, — піша Б. Шварц, — працуюць кожны па-свойму, прапагандуючы і рыхтуючы край, але сам памяркуй, генерал, недахоп кіраўніцтва паралізуе гэтыя працы...

Праўда, Варшава стаіць на чале руху і там павінна быць галоўнае кіраўніцтва, галава ўсёй справы, адтуль павінен быць дадзен напрамак усім нашым намаганням. Нажаль! Вельмі мала да гэтага часу

---

[1] Struś. Szkice z 1863 г. Kraków, 1889. Стар. 58, 59.
[2] Szkice z 1863 г., стар. 60.

зроблена ў гэтых адносінах, таму што з Варшавы нас толькі заахвочваюць, але рэдка дапамагаюць. Кангрэсуўка занята сама сабой, а мы ў выніку няяснасці галоўнага напрамку работы не маем выразных указанняў як жа далей дзейнічаць» [1]. Рэвалюцыйныя арганізацыі ў Гродзенскай губерні, паводле слоў Б. Шварца, «ствараюцца пераважна з чыноўнікаў урадавых устаноў і грамадзянскіх, у асаблівасці служачых чыгункі і вельмі невялікай колькасці памешчыкаў». «Ксяндзы, — указвае ён, — дзейнічаюць часта ў духу чыста маскоўскім пад уплывам вышэйшага віленскага духавенства... Каталіцкае духавенства ў большай частцы вельмі агідна адступілася ад нас» [2].

Б. Шварц, характарызуючы сваю дзейнасць таго перыяду, пісаў: «Мая недасведчанасць была прычынай многіх памылак, тым больш што, выхоўваючыся ва Францыі, ведаў край толькі па апісаннях і па расказах такіх жа, як я, асоб. Гэтыя ж недахопы меў між іншым і Людвіг Мераслаўскі. Горкія выпрабаванні навучылі мяне, як можна спадзявацца на шляхецкія традыцыі Польшчы, нават на шляхецка-дэмакратычныя, і хоць адукацыя засцерагла мяне, па крайняй меры, ад клерыкалізма, але я павінен быў перажыць многа расчараванняў, перш чым пераканаўся, што не так было і ёсць, як гэта напісана нават у Лелевеля» [3].

Прызнанні Б. Шварца, выказаныя ім яшчэ ў 1861 г., пацверджаныя затым у мемуарах, ясна сведчаць аб банкроцтве палітыкі шляхецкіх кіраўнікоў польскага нацыянальнага руху ў Беларусі. Але гэта не азначала, вядома, што народ Беларусі і Літвы быў абыякавы да лёсу Польшчы, быў глухі да патрабаванняў растучага і мацнеючага вызваленчага руху братэрскага польскага народа.

«Хваляванні ў Царстве, — пісаў К. Каліноўскі пазней, — якія праявіліся ў розных рухах, не маглі не

---

[1] Б. Шварц. «Аб становішчы ў Беластоцкай акрузе ў 1861 г. Przegląd historyczny, t. XLV, część 4, стар. 761—763.

[2] Там жа.

[3] W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863—1903 гг. Lwów, 1903. Стар. 447.

мецъ уплыву на Літву». Але тут жа адзначае, што кіраўніцтва рухам у Польшчы абапіралася на тэорыі, пазбаўленыя практычнасці, якія не бачаць дзённага святла.

Зусім інакш дзейнічалі ў Беларусі і Літве сілы рэвалюцыйнай дэмакратыі, у згуртаванні якіх Каліноўскі адыграў буйную ролю. Яны былі прадстаўлены перш за ўсё вучнёўскай моладдзю (галоўным чынам С.-Пецярбургскага і Маскоўскага ўніверсітэтаў і гімназій краю), рэвалюцыйнымі гурткамі афіцэраў, дробным чыноўніцтвам і інтэлігенцыяй краю як беларускай, так польскай і літоўскай.

Паплечнік К. Каліноўскага тых гадоў Ф. Ражанскі пазней успамінаў: «У Гродна ў 1861 г. прыехаў Кастусь Каліноўскі, які завяршыў сваю юрыдычную адукацыю, з мэтай стварэння тайнага таварыства і ўзмацнення палітычнай дзейнасці.

Абапіраючыся на свае асабістыя знаёмствы і сувязі, яму ўдалося стварыць такое таварыства. У яго ўвайшлі: Э. Заблоцкі — губернскі сакратар, доктар Ю. Заблоцкі, В. Врублеўскі — афіцэр, інспектар егерскай школы, Ян Ванковіч — афіцэр, Фелікс Ражанскі і І. Мілевіч — каморнікі, ксёндз Гінтоўт з Гродна і ксяндзы Я. Зарыжскі і І. Казлоўскі з аколіцы і яшчэ некалькі іншых асоб, імёны якіх або забыў, або з кім ні быў асабіста знаёмы. Усе вышэйпамянёныя былі дэмакратычных перакананняў і называліся партыяй «чырвоных», бо падзялялі праграму падрыхтоўкі народа да рэвалюцыі і спалучалі заваяванне нацыянальнай незалежнасці з вызваленнем ад прыгоннай залежнасці і знішчэннем паншчыны» [1].

«Канспіратыўная арганізацыя, — працягвае Ражанскі, — развівалася па губернях Гродзенскай, Віленскай, Мінскай і Ковенскай. Яна пасылала на пасады сельскіх настаўнікаў і валасных пісараў вучнёўскую моладзь і іншых патрыётаў, якія з энтузіязмам і самаахвяраваннем працавалі і ўносілі ў дзейнасць асабістую ініцыятыву і самастойнасць».

Аўтар успамінаў адзначае, што прыгнечаны народ прагнуў волі і ўсюды адносіўся спачувальна да членаў

[1] Ф. Ражанскі. «У ваяводстве Гродзенскім» У зборніку «W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863—1903» Lwów 1903 г. стар. 396—400.

арганізацыі і даказаў сваю салідарнасць з ёй у гады паўстання [1].

Даныя, якія прыводзяцца Ф. Ражанскім, вельмі важныя для разумення дзейнасці рэвалюцыйна-дэмакратычных груп у Беларусі напярэдадні паўстання. Напісаныя праз сорак год, у 1903 г., яны правільна перадаюць сэнс падзей.

Аналіз следчых спраў паказвае, што аснову арганізацыі, створанай Каліноўскім, склалі яго сябры і таварышы па Пецярбургскаму ўніверсітэту, якія заслужылі яшчэ ў дні вучобы славу прыхільнікаў «кулачнага перавароту». З матэрыялаў следчай камісіі відаць, што К. Каліноўскі ведаў В. Малахоўскага яшчэ па Пецярбургу [2]. Там жа пазнаёміўся з І. Ямонтам, Т. Далеўскім, І. Здановічам і многімі іншымі членамі рэвалюцыйнай арганізацыі. Былы студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Замецкі заявіў на допытах, што ён яшчэ ў Пецярбургу пазнаёміўся з К. Каліноўскім і сустракаўся пасля з ім у Вільні [3]. Падобныя ж прызнанні былі зроблены былымі студэнтамі — паплечнікамі К. Каліноўскага — Палітоўскім, Пепелем і многімі іншымі. Адзін з кіраўнікоў Гродзенскай арганізацыі Мілевіч таксама ўказваў, што яго сувязі з членамі рэвалюцыйнай арганізацыі адносяцца яшчэ да канца 50-х гадоў, калі ён пазнаёміўся з В. Каліноўскім і іншымі рэвалюцыянерамі, будучымі ўдзельнікамі паўстання [4].

Арганізацыя расла даволі хутка. Ужо ў пачатку 1861 г. у Вільні і Гродна былі групы, якія дзейна рыхтавалі паўстанне. Яны запасалі зброю, боепрыпасы і вялі прапаганду сярод сялян. Член Гродзенскай рэвалюцыйнай групы Э. Заблоцкі пазней паказаў следчай камісіі, што ён яшчэ ў 1859 г. пазнаёміўся з В. Врублеўскім і тады ўжо ўбачыў, «што ён чалавек з гарачым пачуццем і з рэвалюцыйным поглядам» [5]. Заблоцкі паведамляе, што ў самым пачатку 1861 г. ён пазнаёміўся з К. Каліноўскім, які разам з Врублеўскім заявіў яму, што арганi-

[1] Ф. Ражанскі. Указ. тв., стар. 396—400.
[2] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. 439, с. 280, л. 23.
[3] ЦДГА, Л., ф. 930, л. 33.
[4] Там жа.
[5] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, лл. 1, 2.

зуецца тайнае таварыства з мэтай падрыхтоўкі паўстання. Заблоцкаму прапанавалі ўступіць у гэтае таварыства[1]. «Вясной 1861 года, — паказвае ён, — я, у выніку прапановы Врублеўскага, паехаў з ім у Вільню; прыехаўшы туды, Врублеўскі павёў мяне да якогасьці Эдмунда Вярыгі. Там я застаў Казела (імя не ведаю) і двух або трох маладых людзей, прозвішчы якіх мне невядомы. Размова была ў рэвалюцыйным духу...»[2]. Хоць Заблоцкі ў сваіх паказаннях па зразумелых прычынах многае адмаўляе, але з фактаў, паведамленых ім жа і з іншых крыніц ясна, што ён у пачатку 1861 г. быў памочнікам Врублеўскага, які ўзначальваў арганізацыю ў Гродна, а ў час паездкі ў Вільню і перагавораў з Вярыгай і іншымі быў зацверджан на гэтай пасадзе. З паказанняў Заблоцкага відаць, што вясной 1861 г. у Вільні ўжо склаўся цэнтр, які кіраваў падрыхтоўкай паўстання ў Беларусі і Літве. У гэты цэнтр уваходзілі: Каліноўскі, Врублеўскі, Вярыга, Казела і інш.

Арганізацыя, якая рыхтавала паўстанне ў Беларусі, мела несумненна рэвалюцыйную антыфеадальную накіраванасць, не дапускала ў свае рады памешчыкаў.

Э. Заблоцкі (дробны чыноўнік) у сваіх паказаннях піша аб Каліноўскім, што «Ён прапаноўвае мне пасаду ў арганізацыі таму, каб у ёй было больш людзей аднаго з ім становішча, г. зн. што не належалі да класа памешчыкаў, інакш апошнія забяруць усю ўладу ў свае рукі. Я прыняў яго прапанову»[3].

Пад уплывам Каліноўскага было прынята рашэнне «звярнуць усю магчымую сілу прапаганды на сялян»[4]. У адпаведнасці з гэтай асноўнай задачай рэвалюцыйная арганізацыя перанесла цэнтр сваёй дзейнасці ў вёску.

[1] Характэрна, што рэвалюцыянеры Беларусі і Літвы ўзмоцнена працуюць па падрыхтоўцы паўстання ў самым пачатку 1861 г. Як мы адзначалі вышэй, іменна ў гэты час рабіліся спробы ажыццявіць распрацаваны М. Г. Чарнышэўскім план усерасійскага сялянскага паўстання, бо ў святле навейшых даследаванняў несумненна, што рэвалюцыйныя дэмакраты не абмяжоўваліся толькі прапагандай вызваленчых ідэй, але і рабілі пэўныя практычныя крокі па падрыхтоўцы сялянскай рэвалюцыі.

[2] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, лл. 1, 2.

[3] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, лл. 1—4.

[4] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22. Паказанне Авейдэ.

Гэта — пазіцыя паслядоўнікаў М. Г. Чарнышэўскага, рэвалюцыйных дэмакратаў, стаўка не на змовы, а на мабілізацыю шырокіх народных мас для знішчэння прыгонніцтва, стаўка на сялянскую рэвалюцыю. Гэта прынцыпова адрознівала групу К. Каліноўскага ад шляхецкабуржуазных, нацыяналістычных дзеячоў польскага руху, стварыўшых вузкія арганізацыі змоўшчыкаў, якія былі далёка ад народа і баялася яго.

І нават ворагі рэвалюцыйнай дэмакратыі, спрабуючы зняславіць дзейнасць К. Каліноўскага, міжвольна паведамлялі факты, якія пацвярджаюць, што Каліноўскі ў ствараемую ім арганізацыю імкнуўся прыцягнуць перш за ўсё сялян і іншыя дэмакратычныя сілы. Так, В. Пржыбароўскі, які дакараў Каліноўскага ў расколе ўяўнага нацыянальнага адзінства, піша, што апошні, «з'яўляючыся прыхільнікам тэорый герцэнаўскага «Колокола», не верыў у поспех паўстання, пачатага, вядучага і кіруемага шляхтай», і сцвярджаў, што толькі «сялянскія плечы» здольны падняць Польшчу і Літву, і таму, каб не распачынаць гульню ў нейкую шляхецкую арганізацыю, вытокі якой ішлі з Варшавы, ён адправіўся пехатой у вандраванне па Літве і Русі, начаваў і жыў у сялянскіх хатах і сеяў там насенне рэвалюцыі» [1]. (Тут тэрмін Літва абазначае Літву і Беларусь, «Русь» — Украіну. — А. С.).

Генерал Ратч, у распараджэнні якога былі многія следчыя даныя, што не дайшлі да нас, прыадкрывае часцінку праўды, калі, прагаварваючыся, піша, што «Каліноўскі хацеў раздаць усю пазямельную ўласнасць сялянам і з асяроддзя земляробаў скласці арганізацыю. Ён заяўляў, што ўкажа з дробнай шляхты і сялян на здольныя асобы, якія здолеюць паноў прыняць у рукі... Ён хацеў прыцягнуць да сябе народ, далёка выйсці за межы надзелаў, аддаць усю зямлю сялянам і з асяроддзя сялян выбраць асоб для выканання свайго плана» [2].

Гэтыя прызнанні пацвярджаюцца паказаннямі Заблоцкага і ўсім напрамкам дзейнасці рэвалюцыйнай арганізацыі. Ніжэй мы ўбачым, што Каліноўскі і ў час

---

[1] «Dzieje 1863 г. Kraków, 1897 г. т. 3, стар. 5.

[2] В. Ратч. «Звесткі аб польскім мяцяжу ў Паўночна-Заходняй Расіі». Вільня, 1867 г. т. І, стар. 183.

паўстання настойліва праводзіў план шырокага прыцягнення сялян і разначыннай інтэлігенцыі да кіраўніцтва паўстаннем.

Асабліва моцнай была рэвалюцыйная арганізацыя ў Гродзенскім, Ваўкавыскім і Сакольскім паветах. «У паўночных паветах, — указваецца ў матэрыялах следства па Гродзенскай губерні, — так званая партыя чырвоных была пад вялікім уплывам чыноўнікаў і афіцыялістаў, якія служылі ў памешчыкаў, людзей наогул бедных, што не мелі сваёй уласнасці і спадзяваліся на ўзвышэнне пры дапамозе рэвалюцыі». Гэтыя матэрыялы прызнаюць, што ў арганізацыі рэвалюцыянераў была «стройнасць і цэласнасць» і што члены яе «мелі свой уплыў на народ» [1].

Асноўную кіруючую ролю ў падрыхтоўцы сялянскай рэвалюцыі ў Беларусі і Літве адыгрывала рэвалюцыйна-дэмакратычная група, на чале якой стаялі К. Каліноўскі, В. Каліноўскі, В. Врублеўскі, Л. Звірждоўскі, В. Малахоўскі, Я. Казела і А. Мацкевіч.

Гэтая група падтрымлівала, відавочна, сувязі з А. І. Герцэнам. Пацвярджэнне мы знаходзім у паперах былога студэнта Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта В. Жураўскага. У яго знойдзена было пісьмо, якое ганьбавала «напрамак «Виленского Вестника». У пісьме ўпамінаецца аб перапісцы з Герцэнам, раіцца паведаміць яму некаторыя звесткі. Аналіз папер Жураўскага паказвае, што ён і яго сябры вялі прапаганду сярод сялян і для гэтага стараліся атрымаць такое месца, якое давала б ім магчымасць уздзейнічаць на сялян [2].

Рэвалюцыйныя дэмакраты Беларусі і Літвы вялі шырокую агітацыю сярод сялян, рыхтавалі іх да рэвалюцыі, прапагандуючы неабходнасць знішчэння памешчыцкага землеўладання і самадзяржаўя.

Група Каліноўскага, якая рыхтавала паўстанне сялян у Беларусі, зрывала мерапрыемствы царскіх улад, накіраваныя на абрабленне сялян. Як паведамляе царскі чыноўнік: «сяляне, якія з захапленнем прымалі прапановы аб выкупе, цяпер прыпыніліся ў ім. З усяго гэтага

---

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ ПА, с. 2102, 1864 г., лл. 1—55. Запіскі аб пачатку і ходзе мяцяжу па Гродзенскай губерні.

[2] ЦДА, Літ. ССР, КГГ, с. 62, лл. 6—8.

відаць, што галоўны рэвалюцыйны камітэт дзейнічае... шляхам сваіх агентаў і на жыхароў Гродзенскай губерні. На маю думку, у гэтай справе, мабыць, прымаюць моцны ўдзел ніжэйшыя чыноўнікі палаты дзяржаўных маёмасцей, якія як тутэйшыя ўраджэнцы ўпаўне спачуваюць рэвалюцыйным ідэям і якім больш за ўсіх вядома, хто з сялян жадае скарыстаць выпадак на права выкупу» [1].

Характэрны ў гэтых адносінах таксама дзеянні адстаўнога лекара Стасюлевіча ў Расіенскім павеце Ковенскай губерні. У павеце вясной і летам 1861 г. сярод сялян пачалі распаўсюджвацца пісьмы, у якіх выкрывалася грабежніцкая сутнасць рэформы. Бачачы ў гэтых пісьмах «хітрасць дэмакратычнай партыі», паліцыя, якая ўзмацніла назіранне, знайшла, што адным з складальнікаў пісьмаў быў Стасюлевіч. «Ён упаўне выкрываецца, — піша ковенскі губернатар, — ва ўзбуджэнні нянавісці сялян да ранейшых іх уладальнікаў і скажоным тлумачэнні сялянам найвысачэйша зацверджанага палажэння 19 лютага 1861 года, у тлумачэнні сялянам хлуслівых правоў наконт правіла ацэнкі іх зямлі і, нарэшце, ва ўнушэнні перакананняў сялянам, што лес маёнтка з'яўляецца іх уласнасцю. Дзёрзкасць гэтага чалавека дасягнула крайніх межаў. Ён адкрыта з'яўляецца на сходы сялян і аднойчы ў прысутнасці міравога пасрэдніка рашыўся ўсенародна аб'явіць, што мясцовае палажэнне для тутэйшых губерняў зусім адменіць. Дзеянні свае, якія абмяжоўваліся невялікай мясцовасцю, ён распаўсюдзіў цяпер на вялікую прастору». Губернатар пісаў, што лічыць Стасюлевіча — выхадца з прыгонных сялян, «чалавекам небяспечным, агітатарам вельмі шкодным» і прасіў выслаць яго «ў адну з аддаленых губерняў» [2].

Рэвалюцыйныя дэмакраты імкнуліся звязацца з сялянамі, практычна дапамагчы ім і на прыкладах іх уласнага жыццёвага вопыту выкрыць антынародную дзейнасць царызма, прабудзіць свядомасць мас і падрыхтаваць іх да рэвалюцыі. Яны звярталі асноўную сваю ўвагу

[1] ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, 1863 г., с. 230, ч. 143, л. 67.
[2] ЦДА Літ. ССР, ф. КГГ, 1862 г., с. 21, лл. 1—4.

на сялянства, дзейнічалі таксама сярод афіцэраў і салдат беларускіх і літоўскіх гарнізонаў. Гэтую работу ўзначальвалі Звірждоўскі і Казела, якія ўваходзілі ў склад Віленскага камітэта. У войсках атрымалі шырокае распаўсюджанне адозвы рускіх і польскіх рэвалюцыйных арганізацый. Як прызнае член Віленскай следчай камісіі Гогель, які служыў напярэдадні паўстання ў 3-й артылерыйскай брыгадзе ў г. Слоніме, многія афіцэры, «што начыталіся Міцкевіча і розных пракламацый, атрыманых пераважна з афіцэрскага гуртка Звірждоўскага ў Вільні, збіраліся дэзертыраваць, каб стаць героямі» (г. зн. перайсці на бок паўстанцаў) [1]. Поспехі рэвалюцыйнай прапаганды былі настолькі вялікія, што нават махровы рэакцыянер прызнае, што быў відавочцам, «як цэлая часць хацела прасіць свайго камандзіра аб пераводзе, не жадаючы дзейнічаць супроць мяцежнікаў...» [2]. Гогель прама гаворыць, што амаль усе рускія афіцэры беларускіх і літоўскіх гарнізонаў лічылі ў 1861—1862 гг. паўстанне непазбежным, а яго поспех забяспечаным. Ні ў каго не ўзнікала нават сумненняў аб неабходнасці ўдзелу ў гэтай барацьбе.

Усю рэвалюцыйную дзейнасць на тэрыторыі Беларусі і Літвы ўзначаліў створаны летам 1862 г. Літоўскі Правінцыяльны камітэт з месцам прабывання ў Вільні. У склад Камітэта ўвайшлі выдатныя прадстаўнікі афіцэрскіх колаў, студэнцкай моладзі і інтэлігенцыі: Л. Звірждоўскі — капітан генеральнага штаба рускай арміі; інжынер-паручык В. Казела, які займаў у той час значны пост у штабе Віленскай ваеннай акругі — як прадстаўнікі рэвалюцыйных войск; Кастусь Каліноўскі, Э. Вярыга — як прадстаўнікі студэнцкай моладзі і два разначынцы — доктар Длускі і фатограф Банольдзі.

Камітэт займаўся ўсёй падрыхтоўкай да паўстання ў краі і меў сваіх прадстаўнікоў: у Вільні, у якасці главы гарадской арганізацыі В. Малахоўскага — інжынер-паручыка пры Упраўленні чыгункі; у Ковенскай губерні — А. Мацкевіча і доктара Хмелінскага; у Гродзенскай губерні — В. Врублеўскага і братоў Заблоцкіх. Для пад-

[1] Н. В. Гогель. I. Агрызка і Пецярбургскі рэвалюцыйны жонд, Вільня, 1867 г., стар. 155.
[2] Там жа, стар. 115.

трымання сувязей з кіраўніцтвам польскага нацыянальна-вызваленчага руху Літоўскі камітэт увёў у свой склад Дзюларана — прадстаўніка Варшаўскага камітэта ў Літве.

Для прапаганды сваіх ідэй і падрыхтоўкі мас да паўстання Літоўскі правінцыяльны камітэт арганізаваў выданне двух перыядычных органаў: «Сцяг волі» на польскай мове — афіцыйны орган Камітэта і «Мужыцкая праўда» — для прапаганды сярод сялян.

«Мужыцкай праўдзе», якая адыграла буйную ролю ў падзеях тых гадоў і пакінула такі прыкметны след у гісторыі дэмакратычнай культуры Беларусі, мы прысвячаем спецыяльны раздзел.

Што датычыць «Сцяга волі», то гэтая газета, якая была прызначана для польскай інтэлігенцыі і моладзі, па свайму зместу істотна адрозніваецца ад «Мужыцкай праўды». У адзіным вядомым пакуль яе нумары ўпор робіцца на аналіз прычын падзення Польшчы і шляхоў яе ўзнаўлення і падкрэсліваецца, што свабодная Польшча можа ўзнікнуць толькі ў саюзе з рэвалюцыйнай Расіяй.

Польшча можа адрадзіцца толькі «сілаю роўнасці сваіх сыноў», — сцвярджае газета, — і заклікае ўсіх грамадзян, якія шчыра любяць сваю айчыну, да ўзгодненай барацьбы за свабоду і незалежнасць. У якасці сцяга паўстання газета вылучае «прынцып раўнапраўя ўсіх саслоўяў і веравызнанняў, без страты чыёй бы то ні было ўласнасці і свабоды сумлення». Вызначаючы шляхі рэалізацыі гэтай праграмы, газета піша, што яе можна ажыццявіць «не парламенцкай палітыкай, не дыпламатычнымі спекуляцыямі, а толькі дзеяннем».

Пад дзеяннем газета разумела паўстанне ў саюзе з рэвалюцыйнымі сіламі Расіі. «Народ маскоўскі ўздрыгвае пры думцы аб нашай спрадвечнай крыўдзе, ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам жадае быць і адказнасць за нашу жалезную няволю ўскладае рашуча на царызм, асуджаны на пагібель.

Дык вось разам, браты, за справу, і калі прыйдзе час, узнімем сцяг свабоды і праклятая сіла прыгнечання, як туман перад сонцам, рассеецца».

Гэты заклік ясна сведчыць аб тым, што члены Літоў-

скага правінцыяльнага камітэта, у тым ліку і К. Каліноўскі, бачылі ў братэрскім рускім народзе свайго магутнага саюзніка ў барацьбе за свабоду і не змешвалі рускі народ з царызмам.

Гэты братэрскі саюз у барацьбе супроць агульных прыгняталынікаў стаў магчымы дзякуючы правільнай пазіцыі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў у вырашэнні нацыянальнага і аграрнага пытанняў.

Вядома, як рэзка абрушыўся М. А. Дабралюбаў на паклёпнікаў з лагера прыгоннікаў і лібералаў, якія хлусліва запэўнівалі, што беларускі народ настолькі прыгнечаны, што страціў усякія чалавечыя здольнасці. Вітаючы вызваленчы рух, які ўзнімаўся ў Беларусі, Дабралюбаў выказваў надзею на яго перамогу і параўноўваў беларусаў з італьянцамі, што дабіваліся ў тыя гады пад кіраўніцтвам Гарыбальдзі нацыянальнай незалежнасці сваёй краіны.

«Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы!» — усклікнуў у заключэнне вялікі рускі дэмакрат-рэвалюцыянер.

У абарону народаў Беларусі, Украіны і Літвы неаднаразова выступаў А. І. Герцэн і падкрэсліваў іх права пасля заваявання свабоды ў агульнай барацьбе вырашыць самім, «з кім яны быць хочуць або ні з кім, толькі б волю іх спазнаць шчыруюі сапраўдную».

На такіх жа пазіцыях стаяла і кіраўніцтва рэвалюцыйнай арганізацыі «Зямля і воля», якая ўзнікла ў 1861 г. на базе раней існаваўшых гурткоў і груп.

Адзін з яе кіраўнікоў Н. А. Серна-Салаўёвіч пісаў: «Палякам даць магчымасць стварыць самастойную, саюзную з Расіяй дзяржаву, пад якімі формамі яны знойдуць выгаднейшым. Літве, Беларусі і Украіне даць магчымасць па жаданню насельніцтва або прысылаць дэпутатаў у Маскву, або мець мясцовыя сеймы...» [1]

Гэтае права народаў нацыянальных ускраін самім вызначаць свой лёс не толькі абвяшчалася, але ўжо ў ходзе барацьбы, у ходзе стварэння рэвалюцыйнай арганізацыі ўлічвалася ў штодзённай рабоце. Выкладаючы арганізацыйныя прынцыпы пабудовы «Зямлі і волі», яе

[1] Рэвалюцыйны рух 60-х гг. Масква, 1932, стар. 60, 61.

кіраўнікі нязменна падкрэслівалі: «Што датычыць Літвы і Маларосіі, то тут павінны дзейнічаць свае ўласныя арганізацыі, з імі вялікаруская арганізацыя, вядома, абавязкова ўваходзіць у самыя цесныя адносіны, але як роўныя з роўнымі» [1]. Значна складаней былі адносіны ў рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы з кіраўніцтвам польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Вядома, і сярод польскіх дзеячоў 60-х гг. было нямала такіх, якія безагаворачна сталі на шлях паслядоўнага нацыянальнага раўнапраўя і прызнання за народамі былой Рэчы Паспалітай права вызначыць зусім свабодна свой лёс. Дастаткова назваць імёны В. Врублеўскага, С. Серакоўскага [2], Я. Дамброўскага. Але, нажаль, не гэтыя сілы вызначалі палітыку Варшаўскага камітэта (пазней Цэнтральны Нацыянальны камітэт і затым Часовы рэвалюцыйны ўрад Польшчы).

На словах яно, гэтае кіраўніцтва, якое ўсё больш і больш спаўзала ўправа (асабліва з лета 1862 г., пасля арышту Я. Дамброўскага), яшчэ не супроць было прызнаць за літоўцамі і беларусамі поўнай свабоды застацца ў саюзе з Польшчай або распарадзіцца сабою згодна іх уласнай волі. Аднак нават гэта фармальна прызнанае права зводзілася на нішто агаворкай: «Мы імкнемся да аднаўлення Польшчы ў ранейшых яе межах... Мы лічым нашым святым абавязкам ужыць усе намаганні для таго, каб Літва і Украіна ішлі паралельна з Польшчай і каб народнае паўстанне адначасова ахапіла ўсе часткі прыгнечанай радзімы нашай» [3]. Што разумелі аўтары гэтага маніфеста пад «сваімі святейшымі абавязкамі», паказвае іх дзейнасць у Літве, дзе іх агенты вялі работу паралельна з рэвалюцыянерамі краю, «перашкаджаючы разважным літоўскім намаганням» [4], — як прызнаў адзін з членаў Варшаўскага камітэта.

---

[1] Л. Панцялееў. З успамінаў мінулага. Выд. 1934 г., стар. 234, 235.

[2] У сваёй запісцы «Пытанне польскае» Серакоўскі пісаў, што толькі ліквідацыя нацыянальнага прыгнёту і пераўтварэнне краіны ў федэрацыю свабодных раўнапраўных народаў забяспечвае іх будучае.

[3] А. І. Герцэн. Поўны збор твораў, т. XV, стар. 505.

[4] ЦДА Літ. ССР, Вільнюс, ф. 439, с. 1839, л. 92.

Разглядаючы Беларусь, адну з састаўных частак Польшчы («прыгнечанай радзімы нашай» у вызначэнні аўтараў маніфеста), Варшаўскі камітэт, не лічачыся з кіраўніцтвам рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі, нягледзячы на яго пратэсты і інш., імкнуўся да стварэння сваёй уласнай арганізацыі ў краі. Гэта прывяло да таго, што, паводле слоў члена Варшаўскага камітэта О. Авейдэ, у Гродзенскай губерні ўзніклі «дзве арганізацыі, якія ўзаемна перашкаджалі адна другой» [1]. Прычым арганізацыі будаваліся па-рознаму. Адна (Б. Шварц і інш.) уяўляла вузкую групу змоўшчыкаў, падзеленую на «дзесяткі», «сотні» і інш., другая (група Каліноўскага і Врублеўскага) імкнулася перш за ўсё ўцягнуць у свае рады шырокія слаі народа і падрыхтаваць масы да рэвалюцыі.

Каб навесці парадак у справе падрыхтоўкі паўстання, Літоўскі правінцыяльны камітэт двойчы пасылаў сваіх прадстаўнікоў у Варшаву на перагаворы. У пачатку кастрычніка 1863 г. у Варшаву выязджаў член камітэта Э. Вярыга, у снежні таго ж года — Длускі. У ходзе перагавораў Літоўскі камітэт, прызнаючы Варшаўскі цэнтр главой паўстання, патрабаваў, аднак, каб уся падрыхтоўка яго ў краі ішла пад непасрэдным кіраўніцтвам мясцовай арганізацыі, без усякага ўмяшання Варшаўскага цэнтра ва ўнутраныя справы краю, каб паўстанне пачыналася абавязкова па ўзгадненню паміж абодвума камітэтамі і т. д.

Варшаўскі камітэт, які трапіў у той час у рукі правых шляхецка-нацыяналістычных элементаў, адмовіўся прызнаць гэтыя разумныя патрабаванні, што знаходзіліся ў поўнай адпаведнасці з яго ж афіцыйнай праграмай. «Такім чынам згода паміж самымі віднымі руска-польскімі правінцыямі не была ўстаноўлена да самай апошняй хвіліны паўстання» [2], — прызнае член камітэта ў Варшаве О. Авейдэ.

Застаецца толькі дадаць, што гэтыя перагаворы, сарваныя, па сутнасці, правым кіраўніцтвам Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Варшаве, адбываліся ад-

---

[1] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22.
[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22, Паказанні О. Авейдэ.

разу ж пасля паездкі членаў апошняга ў Лондан, дзе дэлегацыя гэтага камітэта запэўніла А. І. Герцэна ў тым, што яна прымае ў якасці праграмы паўстання два асноўныя прынцыпы: права сялян на зямлю і права ўсіх нацый на свабоднае вырашэнне свайго лёсу. Ужо ў ходзе лонданскіх перагавораў Герцэн падазраваў члена польскай дэлегацыі А. Гілера ў няшчырасці і лічыў яго «дэмакратам без сацыяльных ідэй», якому мала справы да сялянскай зямлі, але многа жадання падпарадкаваць Беларусь і Літву.

У «Былым і думах» дадзена знішчальна трапная характарыстыка гэтага дзеяча, які дзейнічаў пазней у ролі гісторыка паўстання і біяграфіі К. Каліноўскага. «Ну гэты, — падумаў я, — прыехаў падкаваны і па-летняму, і на шыпы: ён нічога не ўступіць на справе і адтаго лёгка так уступае ўсё на словах» [1].

Асноўнай прычынай, якая схіліла групу Гілера дабівацца поўнага сабе падпарадкавання Літоўскага правінцыяльнага камітэта, былі рознагалоссі па аграрнаму і нацыянальнаму пытаннях. Б. Шварц у сваіх успамінах прызнае, што Варшаўскі камітэт наогул хацеў уключыць рэвалюцыйную арганізацыю Беларусі ў свой склад «з прычыны вялікай пагрозы Літоўскай аўтаноміі», што іменна ў сілу гэтага больш значныя члены гэтай арганізацыі, не давяраючы Варшаве, перасталі ёй падпарадкоўвацца. «Нават Валерый Врублеўскі, — указвае ён, — перастаў слухаць Варшаву» [2].

Б. Шварц адзначае, што Варшаўскі камітэт у 1862 г. не вызначаўся адзінствам думак і правільнасцю рэвалюцыйных дзеянняў, што больш відныя яго члены або схіляліся да тэрарызма (Хмелінскі), або былі праціўнікамі паўстання. Але не маючы сіл сарваць яго падрыхтоўку (група Гілера) [3] так хацела арганізаваць барацьбу, каб яна не пайшла па шляху народнага паўстання. Ён жа адзначае, што ўвесь склад Цэнтральнага нацыянальнага камітэта «баяўся сялянскага пытання як агню» [4].

---

[1] А. І. Герцэн. Былое и думы, стар. 756.

[2] W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863—1903 гг. Lwów, 1903, str. 446.

[3] Указ. тв., стар. 444.

[4] Там жа, стар. 449.

Праграма ж Каліноўскага, абнародаваная ў «Мужыцкай праўдзе», была цалкам падпарадкавана іменна гэтаму пытанню, яго вырашэнню ў інтарэсах сялянства.

Такім чынам, рознагалоссі паміж групай К. Каліноўскага і В. Врублеўскага, з аднаго боку, і кіруючай групай «чырвоных» у Варшаўскім камітэце, з другога боку, былі праяўленнем не «сепаратызма» Каліноўскага, як гэта сцвярджае нацыяналістычная гісторыяграфія, а адлюстроўвалі супярэчнасці паміж сялянскімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі і шляхецкімі дзеячамі. Асновай гэтых рознагалоссяў было аграрнае пытанне, а значыць і пытанне аб ролі сялянства ў падрыхтоўцы паўстання. Удзел у гэтай барацьбе Врублеўскага на баку Каліноўскага ясна сведчыць, што іменна сацыяльныя, а не нацыянальныя праблемы былі асновай рознагалоссяў. Аналіз «Мужыцкай праўды» — асноўнага праграмнага дакумента групы Каліноўскага — Врублеўскага пераканаўча пацвярджае гэта.

# «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

На старонках «Мужыцкай праўды» Каліноўскі і яго група, якія адлюстроўвалі інтарэсы растучага сялянскага руху і абапіраліся на дасягненні рэвалюцыйнай думкі, выставілі праграму карэнных пераўтварэнняў грамадскага і дзяржаўнага ладу. Сялянства разглядалася імі як сіла, якая здольна ажыццявіць гэтыя пераўтварэнні, а адсюль і імкненне з дапамогай рэвалюцыйнай прапаганды падрыхтаваць яго да барацьбы.

Пратэст сялян супроць абеззямельвання, высокіх падаткаў, здзекаў і нязносных павіннасцей узняты ў «Мужыцкай праўдзе» да ўзроўню рэвалюцыйна-дэмакратычных патрабаванняў. Ідэі «Мужыцкай праўды» выкладаліся ў надзвычай блізкай сялянскім думкам і жаданням форме. Так, напрыклад, сяляне некалькіх вёсак Гродзенскай губерні, якія скардзіліся на вялікія павіннасці, што асабліва ўзраслі пасля рэформы, высокія плацяжы за дрэнную зямлю і г. д., пісалі: «Апрача ўскладзенай на нас платы за такую дрэнную зямлю, нясем вялікія выдаткі на ўтрыманне валасной канцылярыі, жалаванне пісару, галаве і інш. ...Вядома, прыйдзем да галечы» [1]. У «Мужыцкай праўдзе» аб гэтым жа мы чытаем, што маніфест цара ўзмацніў прыгнёт, што сяляне страцілі дзедаўскія надзелы зямлі, што ўзраслі падаткі і іншыя паборы. «Нарабілі канцылярый, зрабілі суд... стварылі пісараў, пасрэднікаў — і ўсё за мужыц-

[1] Філіял ЦДГА, Гродна, ф. 10, с. 181, лл. 7, 8.

кія грошы, і вялікія грошы... Нам нічога добрага і не думалі зрабіць». Гэты прыклад пацвярджае, як блізка стаяла група Каліноўскага да сялянства, як добра ведала яго жыццё, настроі і думы.

Каліноўскі са сваімі таварышамі, ідучы ўслед за Чарнышэўскім і Герцэнам у вырашэнні пытанняў, якія хвалявалі краіну, імкнуліся пазбавіць сялян ад ілюзорнай веры ў цара, паказвалі сувязь мясцовых прыгнятальнікаў сялянства з царом, залежнасць ад яго мясцовага начальства. «Мужыцкая праўда» вяла сялян да думкі аб неабходнасці рэвалюцыйнага знішчэння царызма для заваявання зямлі і волі.

Пры вывучэнні рэвалюцыйнай публіцыстыкі К. С. Каліноўскага відавочна яе ідэйнае падабенства з творамі М. Г. Чарнышэўскага, прысвечанымі аграрнаму пытанню і палітычнаму становішчу краіны ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення праславутай рэформы. Гэта абумоўлена тым, што, падобна Чарнышэўскаму, рэвалюцыйныя дэмакраты Літвы і Беларусі былі ідэолагамі рэвалюцыйнага сялянства і ў сваіх закліках ішлі ўслед за Чарнышэўскім. Пастаноўка аднолькавых пытанняў і супадзенне асноўных вывадаў тлумачацца тым, што інтарэсы беларускага і літоўскага сялянства нічым істотна не адрозніваліся ад інтарэсаў сялян-велікарусаў. Менна таму рэвалюцыянеры, вырашаючы пытанні аб вызваленні працоўных мас Беларусі, бачылі ў рускім сялянстве, якое змагалася супроць царызма і прыгонніцтва, свайго магутнага саюзніка, а ў творах М. Г. Чарнышэўскага знаходзілі адказы на пытанні, пастаўленыя на парадак дня ўсім ходам грамадскага развіцця.

У цэнтры «Мужыцкай праўды» стаіць патрабаванне аб пераўтварэнні грамадскага ладу шляхам знішчэння памешчыцкага землеўладання і перадачы зямлі сялянству, знішчэння царскай бюракратыі і стварэння дзяржавы, дзе сяляне прымалі б актыўны ўдзел у кіраванні краінай. Гэтая праграма была выстаўлена і тэарэтычна абгрунтавана правадыром усерасійскай дэмакратыі, вялікім рэвалюцыянерам-дэмакратам М. Г. Чарнышэўскім.

Перакананні Каліноўскага і яго саратнікаў у неабходнасці знішчэння ўласнасці памешчыкаў на зямлю ставяць іх у першыя рады рэвалюцыйных асветнікаў

60-х гадоў. Каліноўскі ўказваў, што селянін засвоіў «паняцце, што ўся зямля ёсць яго набытак, аспрэчваемы толькі памешчыкам» [1], і за ажыццяўленне гэтага патрабавання селянін змагаўся ўсё сваё жыццё. Права сялян на ўсю зямлю чырвонай ніткай праходзіць праз усю рэвалюцыйную публіцыстыку групы Каліноўскага. У «Мужыцкай праўдзе» № 3 указваецца, што роўнасць перад законам павінна быць падмацавана роўнасцю маёмасці, што свабода без зямлі не ёсць свабода. «Чалавек вольны, калі мае кавалак сваёй зямлі». У «Мужыцкай праўдзе» № 7 адстайваецца права ўсіх сялян на зямлю. «Бо гэта іх зямля з дзядоў, прадзедаў», палітая іх потам. На працягу ўсёй падрыхтоўкі паўстання і ў ходзе яго група Каліноўскага настойліва заклікала сялян да рэвалюцыйнага захопу ўсёй зямлі.

«Мужыцкая праўда» справядлівасць працоўнага люду свядома кладзе ў аснову вырашэння ўсіх грамадскіх пытанняў. «Мінуло ўжо тое, — пішацца ў «Мужыцкай праўдзе» № 1, — калі здавалося, што мужыцкая рука здасцэ толькі да сахі, цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці і то пісаці такую праўду справедлівую... О, загрэміць наша праўда і як маланка перэлеціць па свеці! Нехай пазнаюць, што мы можэм не толькі карміць сваім хлебам, по яшчэ і вучыць сваёй мужыцкой праўдай». Высока ацэньваючы справядлівыя патрабаванні сялянства, Каліноўскі, які ўзначальваў рэвалюцыйную арганізацыю Беларусі, імкнуўся адначасова пераадолець слабасці і абмежаванасці сялянскага руху, выступаў супроць веры адсталай часткі сялянства ў цара, разбураў надзеі на атрыманне зямлі і волі з царскіх рук. Выкарыстоўваючы абурэнне сялян грабежніцкай рэформай 1861 г., «Мужыцкая праўда» раскрывала сялянству, што гэтая рэформа выйшла з ведама цара і ён за яе адказвае. Крытыцы маніфеста 19-га лютага 1861 г. прысвечана нямала радкоў у «Мужыцкай праўдзе», і гэтая крытыка вялася з пазіцый рэвалюцыйнага дэмакратызма. Ужо ў першым нумары «Мужыцкай праўды» гаворыцца: «Шэсць лет ужо мінуло, як пачалі гаварыць а свабодзе мужыцкой. Гаварылі, талкавалі і пісалі мно-

[1] ЦДА Літоўскай ССР. ф. 439, с. 280.

га, а нічога не зрабілі. А гэты маніфест, што цар з Сенатом і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае, да чаго ён падобны, ніякай у нём нема праўды, нема з яго для нас ніякай карысці... А з гэтаго то і відаць, што нам нічого добраго і не думалі зрабіці».

У наступных нумарах «Мужыцкая праўда» працягвае выкрываць антынародную сутнасць царскай палітыкі. Сёмы нумар газеты рысуе шырокую карціну грамадскага жыцця таго часу, рэзка крытыкуе царскі ўрад і памешчыкаў за грабёж сялян. «Абяцаў нам цар зямлю, чыноўнікі, папы... а — усі ў адзін голас дурылі нас, што цар нам шчыра думае, ды дасць волю. Справядлівую волю. І слухалі мы цара. Казаў ён нам яшчэ два годы служыць паншчыну, і паншчыну мы адбывалі. Наказаў цар некрута, далі мы яму і некрута, а самі моўчкі глядзелі, як нашых сынкоў ды братоў на край света пагналі. Накінуў нам падушнаго (падатак — А. С.), — плацілі мы падушнае за жывых і умерлых, за дзяцей да за старцоў нядужых, — плацілі мы земскую павіннасць, ды вялікія зборы, плацілі на пасярэдніка, на праўленне, старшынам, пісарам акружным, асэсарам,— ды бог ведае каму не плацілі,— ды ўсё не пыталіся, куды ідуць нашы грошы. Усе нас крыўдзілі, ды ўсе абдзіралі, і біў нас сільнейшы, крыўдзілі багатые — а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсе маўчалі, ды слухалі, усім кланяліся, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяваліся справядлівай вольнасці, спадзяваліся, што дадуць вольную зямельку, ды і ў падушном справядлівы пабор будзе. — Замест таго, штоб аддаць ды нашу зямельку, ды якую ж зямлю!?. гэту, што з дзядоў, прадзедоў кроўнаю працай дзесяць раз ужо на яе зарабілі заплацілі. За гэту зямлю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйства. Ды якія ж чыншы. Якія ўздумаецца пастанавіць чыноўнікам, ды судовым крывапійцам, ды яшчэ з кожным годам усё большыя ды большыя. — Так волі нам ужо і не будзе: век цэлы плаці, ды навек нясі астаткі, каб адплаціцца Палатам ды Праўленням. Падмануў жа нас цар, а яго служкі: папы, чыноўнікі... падвялі нас, як чорт добру душу».

З прыведзеных выказванняў відаць, што рэвалюцыянеры Беларусі звязвалі крытыку рэформы з выкрыццём антынароднага характару царскай палітыкі. Гэтая крытыка ідэйна блізкая той, якой займаўся Чарнышэўскі, калі пісаў у сваім вядомым пісьме да панскіх сялян: «Па царскаму вось маніфесту, ды па ўказах справа пайшла не да волі, а да таго яна ідзе, каб у вечную кабалу вас памешчыкі ўзялі, ды яшчэ ў такую кабалу, якая значна горш за цяперашнюю» [1].

Адной з характэрных рыс сялянскага руху супроць грабежніцкай рэформы было тое, што, падрываючы сваёй барацьбой асновы прыгонніцтва і самадзяржаўя, сяляне захавалі веру ў добрыя намеры цара. Аб важнасці разбурэння гэтай веры гаворыцца ў звароце, які выйшаў з кола Чарнышэўскага і Дабралюбава да Герцэна з вядомым пісьмом за подпісам «Рускі чалавек». У ім указвалася, што сотні гадоў губіць Расію вера ў добрыя намеры цароў і без ліквідацыі яе ніякі поспех вызваленчага руху немагчымы. Вядома таксама, што У. І. Ленін, падкрэсліваючы рэвалюцыйны дэмакратызм А. І. Герцэна, спецыяльна цытуе яго зварот «да працаўніка і пакутніка зямлі рускай», у якім Герцэн заклікаў сялян не верыць цару і архірэю, ненавідзець іх і змагацца з імі. Такая ж самая задача стаяла і перад рэвалюцыйнымі дэмакратамі Беларусі, бо і тут сяляне таксама верылі ў цара. Калі ім чыталі маніфест цара, які абдзіраў іх як ліпку, яны з абурэннем крычалі: «Гэта не царскі закон чытаюць, а свае выдумкі» [2]. Сяляне былі ўпэўнены, што ад іх скрываюць сапраўдную царскую волю і аграбленне іх «супярэчыць прамой волі ўсеміласцівейшага імператарскага маніфеста» [3], што іх рабуе, насуперак намераў цара, «мясцовае начальства, г. зн. міравы пасрэднік, сельскі староста, а таксама і земскі спраўнік, і станавы прыстаў, якія дзейнічаюць яўна прыхільна на бок памешчыкаў» [4]. Падобныя ілюзіі аслаблялі барацьб-

---

[1] М. Г. Чарнышэўскі. Выбр. эканам. творы, т. 2, стар. 610, выд. 1948 г.

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, выд. 1940 г., стар. 430.

[3] Філіял ЦДГА, Гродна, ф. 10, с. 127, лл. 6—9.

[4] Там жа.

бу сялян і параджалі ў іх надзеі на атрыманне сапраўднай свабоды вясной 1863 г., калі канчаўся тэрмін уведзення ўстаўных грамат. Падобныя надзеі сялян, як адзначаў адзін з міравых пасрэднікаў Гродзенскай губерні, «парадзіліся з цалкам недакладнага разумения сялянамі двухгадовага тэрміну, вызначанага палажэннямі для канчатковага ўвядзення ўстаўных грамат... Сяляне перакананы, што з заканчэннем гэтага тэрміну яны атрымаюць новыя правы, новую волю і на падставе іх набудуць, без усякага з іх боку ўзнагароджання, усё тое, за што да гэтага часу былі вымушаны адрабляць і што лічаць сваёй неабмежаванай уласнасцю, купленай іх працай» [1].

Падобныя настроі сялян пазбаўлялі іх стойкасці ў барацьбе і прыводзілі да таго, што іх абурэнне не ішло далей супраціўлення, часта пасіўнага, свайму памешчыку і мясцовай адміністрацыі і спынялася пры ўмяшанні губеранскіх улад, якія ўводзілі ў справу сілу, а часам ашуканчыя ўгаворы.

Каліноўскі і яго група выступаюць супроць падобных надзей аб магчымасці атрымання свабоды і зямлі з рук цара. «...абешчалі то калісьці даць нам вольнасць, — пішацца ў «Мужыцкай праўдзе» № 1, — но, як нам здаецца, на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз 6 лет нічога не зрабілі, то чэрэз рок пэўне не зробяць. Могуць ешчэ напісаць і другі маніфест, ешчэ большый ад гэтаго, но і з гэтаго другого маніфесту нічого добраго, як і з першаго, не будзе».

Каб надаць сялянам стойкасці ў барацьбе і абудзіць у іх палітычную свядомасць, трэба было даказваць ім, што цар заадно з памешчыкамі, раскрыць ім класавую сутнасць самадзяржаўя і ўнушыць неабходнасць рэвалюцыйнага знішчэння царызма для ліквідацыі памешчыцкага землеўладання. Таму ў «Мужыцкай праўдзе» заўсёды падкрэсліваецца сувязь царызма і дзяржаўнага апарату з памешчыкамі. Гэтаму пытанню спецыяльна прысвечан 4-ы нумар газеты. У ім пішацца: «Урад гэта заўсім так само, як чалавек. І як чалавек, мае галаву на тое, каб думаў, а рукі — каб зрабіў так, як

[1] Філіял ЦДГА, Гродна, ф. 10, с. 118, лл. 6—9.

задумаў; так, урад мае цара, каб упраўляў, а чыноўнікаў па ўсіх местах і местэчках, каб рабілі, як цар захочэ. Для таго як галава ў чалавека задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так і ў урадзе, калі цар глуму захоча, то чыноўнікі глуму наробяць. А з гэтаго то і відаць, што здзерство якое ў нас вычаўпляюць, то не для таго робіцца, што ў нашом краю нема людзей, здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё сваё аддаці для народу, а для таго цар гэтакіх людзей у Сібір высылае, а за нашые грошы назначае чыноўнікамі гэтых, што адно самі людзей глуміць пазваляюць... Гэтакі чыноўнік не давядзе ужо да розуму — ён, калі і нема прыказу цара, то сам выдумае спосаб, як абадраці бедны народ. І дзе ж тут шукаці праўду?

Так з гэтага пісьма і відно, што глум, здзерство і несправядлівосць выходзяць ад самога цара — ён то з нас выбірае войско, ён то з нас выдзірае грошы нібы на патрэбу народа, а ўзяўшыся са ўсімі гіцлямі за рукі, нас угнетае, трымае ў няволі. Но прыходзіць яму ўжо канец, бо мужык пачуў вольнасць — а мужыка вольнасць гэта ўсе раўно, што шыбеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў народа. Для таго цар і спыняе вольнасць мужыцкую і спыняці будзе для таго, што калі ў паноў сто разоў пытаў, якую яны хочуць вольнасць даць мужыкам, у мужыкоў і разу не спытаў, якой яны хочуць вольнасці? Ён знае, якая то вольнасць мужыцкая, ён ведае, што мужык хоча, каб ніхто не смеў драці з нікого — і для таго, як мы яго ўраду, так ён нашай вольнасці баіцца».

Простай вобразнай мовай рэвалюцыйныя дэмакраты паказвалі сялянству, што мясцовыя прыгнятальнікі заадно з царом і выконваюць яго волю. Цар ахоўвае інтарэсы памешчыкаў і таму нясе адказнасць больш чым хто-небудзь за абнішчанне народа, за бяспраўе працоўных мас.

Яркае выступленне «Мужыцкай праўды» супроць ілюзорных уяўленняў сялянства ў адносінах цара сведчыць аб глыбокім памылковым поглядзе некаторых гісторыкаў, якія лічаць, што правадыры паўстання не ўзняліся вышэй светапогляду забітага вякамі рабства сялянства.

Яснае разуменне класавага характару самадзяр-

жаўя паказвае глыбіню думкі Каліноўскага і яго саратнікаў, іх рэвалюцыйна-дэмакратычныя перакананні. Падобная крытыка існуючай дзяржаўнай сістэмы абгрунтоўвала неабходнасць поўнага знішчэння існуючага ў краіне парадку, які асуджаў працоўны люд на прыгнечанне і бяспраўе. Гэтыя думкі, якія развіваюцца ў «Мужыцкай праўдзе» групай Каліноўскага, блізкія да вядомых палажэнняў М. Г. Чарнышэўскага, вылучаных ім у пісьме да сялянства: «А не ведаў цар, ці што, якую ён справу робіць, — пісаў Чарнышэўскі сялянам, — ды самі вы падумайце, ці цяжка гэта разабраць? Значыць, ведаў. Ну і разважайце. Навошта спадзявацца вам на яго. Ашукаў ён вас, спакусіў ён вас! Не дачакаецеся вы ад яго волі, якая вам патрэбна... Сам вось ён хто такі, як не той жа памешчык? Удзельныя вось сяляне чые ж? Гэта ж яны яго сяляне прыгонныя. Вы ў памешчыкаў прыгонныя, а памешчыкі ў цара слугі. Ён над імі памешчык, значыць, што ён, што яны — усё роўна. А самі ведаеце, сабака сабаку не есць. Ну, цар і трымае панскі бок» [1].

Сялянам пратрубілі вушы аб міласэрнасці цара-вызваліцеля. Рэвалюцыйныя дэмакраты Беларусі, якія ўзначальваліся Каліноўскім, рашуча выступілі супроць разумення рэформы 19-га лютага як царскай міласці. Ідучы ўслед за Чарнышэўскім, яны паказваюць сялянству, што рэформа вырвана ў цара і пануючых класаў Расіі намаганнямі ўсерасійскага вызваленчага руху. Калі рэформа не адпавядае інтарэсам і жаданням працоўных мас, у гэтым яны вінаваты самі, бо вельмі слабы і неарганізаваны быў іх рэвалюцыйны націск, вельмі хутка яны паверылі хлуслівым запэўненням цара. Чым мацнейшы рэвалюцыйны рух, тым большыя заваёвы народа. Такі вывад робіць «Мужыцкая праўда». У трэцім нумары газеты пішацца: «Два рокі ўжо таму, калі яшчэ ніякіх маніфестаў а вольнасці не аб'яўлялі, народ у Пецярбургу, Маскве і па цэлай Расіі пачаў вельмі крычаці, што калі ўрад не дасць яму вольнасці, то ён цэлаю грамадою 19 февраля збунтуецца, тады цар бачу збаяўся і вялеў сенатаві з'ехаціся, а народаві аб'явіць, што

[1] М. Г. Чарнышэўскі. Выбр. эканам. творы, т. 2, выд. 1948 г., стар. 611.

ў посце вольнасць дастане. Народ дурны паверыў, да і разышоўся, а цар з Сенатам паталкаваўшы, як мінула трывога, так і аб'явіў у мейсцу вольнасці маніфест, а ў маніфесце прыказвае мужыкам служыць да часу паньшчыну па-старому, а па-новаму заплаціць больш грошэй у казну на пісароў, пасрэднікоў, да і чорт іх ведае на што. Судзіце ж цяпер самі, чы ж не ашуківаюць нас?

Но недоўга здаецца ім круцельство, бо як я ўказаў, мы ўже пазналі, што нам не маніфестаў, а вольнасці патрэба — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі мужыкі паміж сабой зробімо. А для таго, дзяцюкі, каб ніхто нас не мог ашукаці, цяпер ужо талкуйце памеж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе достаць можа. Толькі, дзяцюкі, смело...»

З прыведзенага ўрыўка ясна відаць, што праз «Мужыцкую праўду» рэвалюцыйныя дэмакраты праводзілі ідэю адзінства рэвалюцыйнай барацьбы народаў усёй Расіі і ў гэтым адзінстве бачылі залог поспеху ў барацьбе за свабоду. Група Каліноўскага змагалася за самавызначэнне народа, за нацыянальнае раўнапраўе і ў той жа час падкрэслівала, што не з'яўляецца ворагам Расіі.

Але гэта справядлівае рэвалюцыйна-дэмакратычнае разуменне дзейнасці Каліноўскі і яго сябры не заўсёды ўмелі паслядоўна скарыстаць да ўсёй гісторыі народаў Расіі і Польшчы і іншы раз дапушчалі ў ацэнцы падзей мінулага яўныя памылкі.

Вельмі характэрна ў святле гэтага разважанне Сігізмунда Серакоўскага — дэмакрата-рэвалюцыянера, правадыра паўстаўшых літоўскіх сялян. Гэтыя погляды выкладзены ім у яго вядомай запісцы «Польский вопрос» (напісана ў 1862 г., апублікавана ў 1884 г. у «Русской Старине»).

У ёй змяшчаецца нямала глыбокіх і каштоўных думак, вартых вучня і друга М. Г. Чарнышэўскага. Серакоўскі адзначае велізарнае значэнне саюза славян для барацьбы з агрэсіяй нямецкіх феадалаў у мінулым, неабходнасць саюза свабоднай Расіі і свабоднай Польшчы ў будучым і г. д. І пры ўсім гэтым С. Серакоўскі ідэалі-

зуе шляхецкую дэмакратыю XVI стагоддзя ў Польшчы, якая ніколі не была дэмакратыяй для аграбленага і палітычна бяспраўнага польскага, а тым больш беларускага селяніна. Не зразумеўшы да канца класавай сутнасці старой Польшчы, Серакоўскі і феадальную агрэсію магнатаў у Беларусі, на Украіне і Літве паказвае як добраахвотнае ўключэнне ўказаных краін у склад Рэчы Паспалітай.

Тут дарэчы спыніцца на шостым нумары газеты «Мужыцкая праўда». Яна цалкам прысвечана справам веравызнання.

Калі адцягнуць увагу ад чыста рэлігійных палажэнняў, якія змяшчаюцца ў гэтым нумары (зварот да бога, папы рымскага і інш.), то асноўная думка зводзіцца да адстайвання уніяцтва, а дакладней, змяшчае пратэст супроць умяшання царскіх улад у справы веравызнання.

Да памылковых поглядаў сялян і іх ідэолагаў трэба падыходзіць з гістарычных пазіцый і асцярожна. Вядома, памылкай Каліноўскага было тое, што ён безагаворачна браў пад сваю абарону уніяцтва, якое ў свой час (г. зн. у XVI ст.) было гвалтоўна навязана беларускаму народу. Але, абараняючы уніяцтва, Каліноўскі меў на ўвазе, па-першае, тое, што ў яго час уніяцтва стала ўжо такім веравызнаннем, якое ўкаранілася сярод насельніцтва Беларусі і было ўжо прынята яго значнай часткай. З гэтым фактам ён не мог не лічыцца таксама і таму, што ён абараняў права ўсялякай рэлігіі на існаванне. Па-другое, робячы так, ён асуджаў тыя грубыя прыёмы царскай адміністрацыі, якія пры барацьбе з уніяцтвам былі звязаны таксама з гвалтам.

У шостым нумары «Мужыцкай праўды» галоўным з'яўляецца пратэст супроць здзеквання царскага ўрада над сумленнем працоўных, спроба скарыстаць нездаволенне народа палітыкай царызма для развенчвання царызма, для разбурэння царысцкіх ілюзій сялянства. Ці было такое нездаволенне ў беларускага сялянства? Гістарычныя факты гавораць, што яно мела месца, што адмена уніі, праведзеная ў 1839 г., з прычыны грубага, адміністрацыйнага ўмяшання ўлад у справы веравызнання выклікала ў радзе месц нездаволенне.

Гэта прызнавалі ў сваіх сакрэтных данясеннях жан-

дарскія афіцэры ў Беларусі. Так, начальнік 4-ай жандарскай акругі паведаміў, што, паводле звестак, сабраных яго афіцэрамі, у Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях налічваецца 2 787 728 чалавек жыхароў, у тым ліку 667 178 праваслаўных і 1 702 113 католікаў. У Мінскай жа губерні ўсяго 974 816 чалавек, у тым ліку 698 626 праваслаўных і 186 588 католікаў.

«У гэтай і Гродзенскай губернях, — працягвае ён, — вельмі многа былых уніятаў, якія не перастаюць спачуваць каталіцызму...» [1]

Як вядома, царскі ўрад праводзіў у Беларусі палітыку русіфікацыі. Рэвалюцыйныя дзеячы Беларусі і Літвы законна пратэставалі супроць такой палітыкі. Так, Сігізмунд Серакоўскі спецыяльна па гэтаму пытанню пісаў наступнае:

«Многія рускія публіцысты лічаць Заходні край Расіяй на той падставе, што просты народ у гэтым краі праваслаўнага веравызнання і што ён гаворыць рускай мовай. Вось наш адказ: мы не адвяргаем, што ў зыходзе XVI стагоддзя Брэсцкая рэлігійная унія падрыхтавана была штучным чынам, што проста або ўскосна, але польскі ўрад, нягледзячы на пастановы сеймаў, не прызнаваў аднолькавых правоў і пераваг уніятам, але разам з тым спадзяемся, што ніхто з чэсных добрасумленных людзей не будзе абвяргаць факты, якія рабіліся на нашых вачах, а іменна: штучнага ўз'яднання і жорсткіх праследаванняў, якім падвяргаліся уніяты ў папярэдняе цараванне» [2].

Прыкладна з гэтых жа пазіцый вядзе крытыку дзеянняў царскага ўрада і «Мужыцкая праўда». Яна пратэстуе супроць рэлігійных праследаванняў царскага ўрада, грубага ўмяшання ўлад у справы веры і да т. п. Абараняючы прынцып свабоды сумлення, яна выкарыстоўвае меўшае месца нездаволенне мас.

Але «Мужыцкая праўда» груба памыляецца, калі даходзіць да абвяшчэння уніяцтва справядлівай верай нашых дзядоў і прадзедаў.

«Мужыцкая праўда» прызначалася для сялян, і яе аўтары павінны былі ўлічваць настрой і думкі селяніна

[1] ЦДГА, Масква, ф. 109, 1 эк. с. 230, ч. 501, лл. 3—10.
[2] С. І. Серакоўскі. Пытанне польскае.

і асцярожна падводзіць яго да ідэй рэвалюцыйнага дэмакратызма. Напрыклад, у «Мужыцкай праўдзе» № 3, аўтар якой выяўляе яснае разуменне рэвалюцыйнай барацьбы для падзення прыгонніцтва, спачатку пішацца, што быццам бы французы, разбіўшы пад Севастопалем цара, загадалі яму «народу даваць вольнасць, не браць рэкрута і вялікіх подацей». Спачатку аўтар «Мужыцкай праўды» як быццам стаіць на тым жа пункце гледжання, што цар даў народу вольнасць па патрабаванню французаў. Гэта быў памылковы погляд вельмі многіх сялян. Аб ім так гаворыць М. Г. Чарнышэўскі ў «Пісьмах без адраса»: «У народзе хадзіла чутка, што імператар французаў патрабаваў знішчэння прыгоннага права і згадзіўся падпісаць мір толькі тады, калі быў унесен у дагавор тайны артыкул, які пастанаўляў, што прыгонным сялянам даецца воля... Інстынктыўнае прадчуванне непазбежнай сувязі падзей вылілася ў народа ў грубую форму, недарэчнасць якой відавочна...»[1] «Мужыцкая праўда» № 3 як быццам спачатку і салідарна з падобнымі сялянскімі думкамі, што адлюстроўвалі якраз слабы бок сялянскага руху, які прымушаў сялян ускладаць надзеі на далёкіх абаронцаў, ад бога да цароў, сваіх і чужых. Аўтар, добра ведаючы сялян, проста і пераканаўча вёў іх да рэвалюцыйна-дэмакратычнага разумення прычын рэформы. Паступова, крок за крокам растлумачваючы сялянству сістэму кіравання імперыяй Раманавых, антынародны характар іх палітыкі, аўтар падводзіць прыгнечаных і непісьменных сялян да адчування сваёй уласнай сілы і ўказвае ім, што іх лёс знаходзіцца ў іх жа руках, што сілы сялян, калі толькі яны аб'ядноюцца, дастаткова, каб зламаць супраціўленне прыгнятальнікаў і здабыць сапраўдную волю і зямлю.

Паслядоўнасць пастаноўкі пытанняў прапаганды займала ў той час далёка не апошняе месца ў дзейнасці тых, хто нёс справядлівае слова сялянам, якія збіваліся спанталыку царскай адміністрацыяй, паліцыяй, казённай царквой. Увесь гэты апарат падтрымліваў сялянскія ілюзіі аб добрым цары. «Паліцыя распаўсюджвае тут самыя недарэчныя паняцці, — піша адзін з рэвалюцыйна на-

[1] М. Г. Чарнышэўскі. Выбр. эканамічныя творы, т. 2, выд. 1948 г.

строеных сучаснікаў.— Так, напрыклад, яна ўнушае мужычкам, што паны бунтуюць таму, што ад іх адабралі сялян». Далей аўтар указвае, што ён з асаблівым задавальненнем вядзе размовы з літоўскімі мужычкамі, і, нягледзячы на цяжкасці, дабіўся сур'ёзных поспехаў: «Я досыць набіў руку, як з імі трэба пачынаць і як працягваць гутарку, каб увайсці ў давер'е, а потым ужо можна перамяніць некаторыя з паняццяў мужычка»[1].

Выкрываючы грабежніцкі характар рэформы 19-га лютага, група Каліноўскага тым самым наносіла ўдар па ліберальна-рэфармісцкіх ідэях свайго часу, паказвала, што мэта ўсякай рэформы — пакінуць некранутым прыгнечанне народа, увёўшы яго ў зман змяненнем формы эксплуатацыі. «Цар хоча,— гаворыцца ў «Мужыцкай праўдзе», — каб не даць нічога, а народ, каб думаў, што ўсё мае, як трэба». «Ён вось хацеў перамяніць няволю, але, бачу, вельмі памыліўся», таму што народ зразумеў ашуканства і ўзнімаецца на барацьбу. Вось гэтае выкрыццё рэфармізма на старонках «Мужыцкай праўды» — яшчэ адно сведчанне велізарнага ўплыву на светапогляд рэвалюцыйных дэмакратаў Беларусі М. Г. Чарнышэўскага, які ясна паказаў варожасць лібералаў сапраўды народнаму рэвалюцыйнаму руху, рэзка крытыкаваў патрабаванні фармальнай свабоды без стварэння матэрыяльнай роўнасці, якія выстаўляліся імі. Чарнышэўскі ўказвае, што роўнасць сапраўдная можа быць створана толькі шляхам рэвалюцыйнага знішчэння царызма і прыгонніцтва. Услед за Чарнышэўскім з пазіцый рэвалюцыйнага дэмакратызма крытыкаваў Каліноўскі, таксама як і лепшыя з яго сучаснікаў, праводзімыя блокам прыгоннікаў і ліберадаў рэформы і даказваў, што толькі рэвалюцыйны рух можа вырваць з рук цара тую або іншую ўступку. Каліноўскі ідзе па шляху аўтара «Пісьмаў без адрасу», які выказваў думку, што ўрад пасля Крымскай вайны вымушан быў паставіць прыватнае пытанне, імкнучыся зацыраваць парваны ядрамі пад Севастопалем прыгонніцкі кафтан, але грамадскасць пайшла далей, падвергнуўшы крытыцы і даказаўшы неабходнасць змянення грамадскага ладу ў цэлым. Рэвалюцыйная моладзь, якая групавалася вакол Каліноўскага, гэтую ж думку

[1] ЦДГА, г. Масква, ф. 109, с. 1 эк. 1862 г., 361 лл. 4, 5.

праводзіць і ў «Мужыцкай праўдзе», указваючы, што пытанне аб свабодзе мужыцкай, пастаўленае 6 год назад пасля Крымскай вайны, паслужыла пачаткам рэвалюцыйнага руху, бо ўстрывожыла розумы іх да разумення неабходнасці рэвалюцыі.

Разумеючы неабходнасць карэннага змянення грамадскага і дзяржаўнага ладу, рэвалюцыйная моладзь падвергла крытыцы палітыку царызма ў сялянскім пытанні. Гэтая крытыка не магла не падрываць існуючага ладу, таму што да пытання аб шляхах ліквідацыі прыгонніцтва зводзіліся ў той час усе пытанні грамадскага жыцця. Рэвалюцыйная моладзь, паглыбляючы гэтую крытыку, паказвала цесную сувязь паміж памешчыкамі і царом, ускрывала ілюзорнасць надзей на «цара-вызваліцеля». Яна растлумачвала сялянству, што ўвесь дзяржаўны і грамадскі парадак створан для падаўлення, аграблення селяніна і ставіць яго ў зусім бяспраўнае становішча. Сістэма падаткаў, суд і армія, паліцыя, царква і адукацыя — усё знаходзіцца на службе ў багатых і моцных, усё абараняе іх інтарэсы. Увесь гэты патагонны апарат, які знаходзіцца на службе прыгоннікаў-памешчыкаў, удасканальваецца ўрадам, каб лепш выціскаць сокі з сялян. У гэтым сэнс рэформы 19-га лютага 1861 года. Абарона правоў чалавека, адстайванне справядлівых патрабаванняў пры такім становішчы немагчымы. Неабходна ў корані змяніць усе грамадскія парадкі. Вось гэтая неабходнасць ломкі царскага самадзяржаўя і прыгонніцтва неаднаразова растлумачвалася сялянству на старонках «Мужыцкай праўды». «Чы ў нас ёсць справядлівая наука ў школах?» — указвае 4-ы нумар газеты,— што учыць жыць без крыўды другого? Чы ёсць праўда і справядлівасць у судзе? Чы можа чалавек быць ўпэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ўрад маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліва? Самі скажыце». І на пастаўленыя пытанні аўтар цвёрда адказвае: не.

Велізарную карысць прыносіць чалавецтву навука, указвае Каліноўскі, але праўдзівая навука немагчыма пры панаванні цара і памешчыкаў. Пакуль будзе няволя, немагчыма навука, бо царская асвета прызначана для ператварэння людзей у бяздумных слуг, якімі цар мог бы

варочаць, як уздумаецца. Школы царскія рыхтуюць лакеяў, а царскія суды—гэта «воўчая яма, дзе не разбіраюць, праўда твая ці не, а дзяруць як могуць»[1]. Каліноўскі выступае супроць забароны выкладання на роднай мове, ускрывае класавы сэнс палітыкі царызма ў галіне народнай асветы і звязвае ўстанаўленне сапраўды народнай адукацыі з перамогай сялянскай рэвалюцыі.

Праз «Мужыцкую праўду» група Каліноўскага раскрывае ролю арміі ў прыгоннай Расіі: «...а войско то не для таго трымаюць, каб аберагаці кожного ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народові і застанаць, калі пазнае сваю неволю, калі разгледзіцца, што дзяруць з его над сілы» [2]. Выкрыццё арміі, як абаронцы прыгняталыйікаў народа робіцца «Мужыцкай праўдай» падобна іншым адозвам рэвалюцыйных дэмакратаў. На старонках «Мужыцкай праўды» раскрываецца цяжкая салдацкая доля. Салдат часта гіне ў барацьбе супроць сваіх жа братоў, аддаючы жыццё «не за дабро і шчасце ўсіх, а за гора і вечную няволю нашых братоў» [3]. І што ж атрымлівае салдат за сваю працу ў прыгоннай Расіі? І газеты адказваюць, што нічога, апрача жабрацтва. Цар «...сабача юха не дае нават куска зямлі, каб мог, хаця цяжко гаруючы, дабіцца да спакойнай смерці. Праслужыўшы 25 лет, да і торбу ўзяўшы ідзі жабраваці» [4]...

З асаблівай сілай абрушваецца «Мужыцкая праўда» на рэкрутчыну, так ненавісную народу. Яна проста заклікае сялян зрываць рэкруцкія наборы.

Ва ўсёй сваёй дзейнасці Каліноўскі ніколі не лічыўся з рэлігійным светапоглядам і вучыў сялян ставіць барацьбу за свабоду вышэй дагматаў рэлігіі, заклікаў не слухаць свяшчэннікаў і вешаць тых з іх, хто прама выступае супроць сялян. Выкрываючы антынародную палітыку царызма, ускрываючы грабежніцкі характар рэформы, Каліноўскі, падтрымліваемы лепшымі сынамі Беларусі, імкнуўся прабудзіць палітычную свядомасць сялянскіх мас. Ён бачыў, што толькі такім шляхам можна змяніць

---

[1] «Мужыцкая праўда» № 4.
[2] Там жа.
[3] Там жа, № 5.
[4] Там жа.

ідэалогію сялянства, вызваліць яго ад веры ў цара і ўзняць на ўзброеную барацьбу за зямлю і волю. «От ешчэ недаўна гаварылі нашые, — пішацца ў «Мужыцкай праўдзе» № 3, — што ены створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі невольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога меці не хацелі, — а чы сёння гэтак скажуць, калі ўжэ ведаюць многое і многое хочуць? Сёгодня ўсе ўжэ паразумнелі...»

Аднак Каліноўскі не здолеў, дакладней не змог, з прычыны эканамічнай адсталасці Беларусі і ў цэлым Расіі, звязаць абуджэнне сялянства і рост вызваленчага руху з агульным крызісам прыгонніцкай сістэмы, не змог ускрыць прычын паяўлення новых грамадскіх ідэй і імкненняў. Не бачачы матэрыяльнай асновы грамадскай ідэалогіі, ён апеліраваў да асаблівасцей чалавечага характару і чалавечай прыроды. «Чалавек такую мае натуру, — піша ён, — што або нічога не ведае і нічога не хоча, або калі даведаецца, то захоча зразумеці добра і дастаці ўсё, што яму належыць. Гэта вялікая праўда».

«Натура», прырода чалавека — гэта перш за ўсё яго фізіялагічныя асаблівасці. Рэвалюцыйныя дэмакраты Беларусі не маглі звязаць інтарэсы сялян і іх патрабаванні з умовамі матэрыяльнай вытворчасці, са змяненнем гэтых умоў.

Супярэчнасці жыцця, барацьбу класаў рэвалюцыйныя дэмакраты Беларусі і Літвы выводзяць перш за ўсё з ідэальных намераў — з жаданняў палепшыць жыццё, разабрацца ва ўмовах існавання і здабыць усё, што належыць табе па праву.

Прыведзеныя ўрыўкі з «Мужыцкай праўды» сведчаць, што яе аўтары асноўнай сілай, якая вызначае гістарычнае развіццё, лічылі распаўсюджанне ведаў у народзе, асвету мас, вызваленне працоўных з-пад улады няправільных поглядаў. Іх спробы звязаць грамадскае развіццё з барацьбой за задаволенне карэнных натуральных патрэб чалавека, забеспячэнне яго правоў, не выходзілі за рамкі ідэалістычнага разумення гісторыі.

Не разумеючы сацыяльных карэнняў грамадскай свядомасці, Каліноўскі памылкова вырашаў рад гісторыка-тэарэтычных пытанняў. Так, напрыклад, выкрываючы сувязь казённай царквы з інтарэсамі прыгоннікаў, ад-

стойваючы свабоду сумлення, Каліноўскі памылкова браў пад абарону уніяцтва, якое на справе было сродкам акаталічвання і паланізацыі беларускага народа. З няправільных пазіцый падыходзіць Каліноўскі і да пытання аб паходжанні прыгонніцтва. Ён не звязваў узнікненне прыгоннага права з эканамічным развіццём і класавай барацьбой, а выводзіў неабходнасць яго з абароны дзяржавы ад нападу звонку і абавязкі ўсіх грамадзян перад дзяржаўнай уладай. Войны, на яго думку, паклалі пачатак саслоўнаму падзелу на дваран і прыгонных сялян. Адны грамадзяне абаранялі радзіму, а другія павінны былі забяспечваць сваіх абаронцаў усім неабходным, працаваць на іх. Вось так, на яго думку, і ўзнікла прыгонніцтва. Такое тлумачэнне знаходзілася ў рэзкай супярэчнасці з гістарычнай сапраўднасцю і не магло з'яўляцца тэарэтычным абгрунтаваннем барацьбы сялян, кіруемых самім жа Каліноўскім, супроць прыгонніцкай дзяржавы, якая абараняла інтарэсы памешчыкаў.

Нягледзячы на гэтыя памылковыя погляды, Каліноўскі бачыў, што ў грамадстве існуе вострая класавая барацьба, што кожны клас усімі сіламі адстойвае свае інтарэсы і добраахвотна ніколі не адмовіцца ад сваёй выгады. Ён разумеў, што без рашучай барацьбы са сваімі прыгнятальнікамі сялянства не даб'ецца задавальнення сваіх інтарэсаў. Толькі ўзброеная барацьба можа змясці дашчэнту феадалаў-прыгоннікаў і бюракратаў-чыноўнікаў і расчысціць глебу для будаўніцтва новага жыцця. Каліноўскі бачыў антаганізм грамадскага жыцця і хоць не мог навукова растлумачыць гэты антаганізм і прычыны яго ўзнікнення, ён усё ж, падобна другім рэвалюцыйным дэмакратам, хацеў змагацца і сапраўды змагаўся з самадзяржаўем і прыгонніцтвам, знішчаючы тым самым асновы прыгнечання, галечы і бяспраўя сялян.

Паказаўшы няздольнасць урада цара і памешчыкаў задаволіць інтарэсы народа і памылковасць погляду, што можна адмяніць прыгоннае права сілай старога парадку, Каліноўскі раскрыў сялянам неабходнасць рэвалюцыі і ад крытыкі царызма перайшоў да ўказання шляхоў барацьбы з ім.

Разумеючы, што стары, прыгонніцкі лад не здасца без упартага супраціўлення, рэвалюцыйная група Каліноў-

скага лічыла ўзброенае паўстанне адзіным сродкам вызвалення сялянскіх мас, а само сялянства — сілай, якая здольна ажыццявіць гэтае паўстанне.

Пры гэтым Каліноўскі лічыў, што паўстаўшае сялянства, кіруемае рэвалюцыйнай арганізацыяй, у саюзе з рускім і польскім народамі здольна атрымаць перамогу. Тут выяўлялася гістарычная абмежаванасць поглядаў Каліноўскага, які змагаўся ў перыяд, калі і ў Беларусі і ў Расіі ў цэлым яшчэ не склаўся рабочы клас, здольны ўзначаліць рэвалюцыйную барацьбу сялянства і павесці яго да пераможнай рэвалюцыі.

У выніку звяржэння самадзяржаўя і прыгонніцтва, на думку Каліноўскага, у краіне ўстановіцца дэмакратычны лад, уся зямля будзе перададзена бясплатна сялянам, будуць знішчаны непасільныя падаткі, царскае самадзяржаўе і чужая народу чыноўніцкая бюракратыя.

Будучы ідыолагам сялянскага руху, Каліноўскі не мог даць правільнага вырашэння пытання аб тым, які будзе характар гэтага новага грамадскага і дзяржаўнага ладу. Ён ідэалізаваў дробнабуржуазныя спадзяванні сялянства. «Мы сёння ўсе ўжо ведаем, — указвае «Мужыцкая праўда» № 3, — што чалавек вольны — гэта калі мае кусок своёй зямлі, за котору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, калі плаціць малые падаткі і то не на царскія стайні, псарні..., а на патрэбу цэлаго народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці сваго краю тагды толькі, калі які непрыяцель надыйдзе, калі робіць усякі, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга».

Не зразумеўшы прыватнаўласніцкай, дробнабуржуазнай прыроды сялянства, Каліноўскі памылкова лічыў, што сялянская рэвалюцыя знішчыць не толькі саслоўную, але і маёмасную няроўнасць. Такім чынам, сялянскі дэмакратызм увасабляўся ў яго ва ўтапічную форму. Сялянскай рэвалюцыі надаваўся сацыялістычны характар. Гэта ўзнімала перадавых людзей Беларусі і Літвы, як і ў цэлым Расіі, на гераічную барацьбу з урадам, але сацыялізм не мог вырасці на базе сялянскай дробнабуржуазнай гаспадаркі.

Вера ў магчымасць шляхам сялянскай рэвалюцыі адкрыць дарогу да ўсеагульнага дастатку была марай,

якая выражала рэвалюцыйныя імкненні сялянскай дэмакратыі. Каліноўскі, падобна другім рэвалюцыйным дэмакратам 60-х гадоў, не бачыў, што толькі пры капіталізме могуць узнікнуць матэрыяльна-тэхнічныя ўмовы і сіла для пабудовы сацыялістычнага грамадства. У. І. Ленін указвае: «Чым больш зямлі атрымалі б сяляне ў 1861-м годзе і чым дзешавей бы яны яе атрымалі, тым мацней была б падарвана ўлада прыгоннікаў-памешчыкаў, тым хутчэй, свабодней і шырэй ішло б развіццё капіталізма ў Расіі. Ідэя «права на зямлю» і «ўраўняльнага падзелу зямлі» ёсць не што іншае, як фармулёўка рэвалюцыйных імкненняў да роўнасці з боку сялян, якія змагаюцца за поўнае звяржэнне памешчыцкай улады, за поўнае знішчэнне памешчыцкага землеўладання»[1].

Узброенае паўстанне сялян і павінна было, на думку Каліноўскага і яго саратнікаў, з'явіцца той сілай, якая змяце дашчэнту самадзяржаўна-прыгонніцкія парадкі і расчысціць глебу для новага грамадскага ладу.

Таму падрыхтоўка ўзброенага паўстання і прапаганда рэвалюцыйна-дэмакратычнай праграмы перабудовы грамадства стаяць у цэнтры ўсёй рэвалюцыйнай дзейнасці групы Каліноўскага.

Пытанне аб падрыхтоўцы ўсерасійскага ўзброенага паўстання, як цяпер высвятляецца ў святле навейшых даследаванняў, было адным з самых важнейшых пытанняў усёй дзейнасці рэвалюцыйных дэмакратаў на чале з М. Г. Чарнышэўскім і А. І. Герцэнам.

У сваім вядомым пісьме да панскіх сялян Чарнышэўскі пісаў: «Трэба мужыкам паміж сабой згоду мець, каб заадно быць, калі пара будзе... калі ўсе гатовы будуць... ну, тады справу пачынай. А да той пары рукам волі не давай, пакорлівы выгляд май, а сам паміж сваім братам тлумач ды падгаворвай яго, каб справу ў сапраўдным выглядзе разумеў. А калі паміж вамі аднадушша будзе, у той час і назначэнне выйдзе, што пара, маўляў, усім дружна пачынаць. Мы ўжо бачым, калі пара будзе, і абвяшчэнне зробім. Дык жа ў нас па ўсіх месцах свае людзі ёсць, адусюль нам весткі прыходзяць» [2].

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 18, стар. 11, 12.

[2] М. Г. Чарнышэўскі. Выбраныя эканамічныя творы, т. 2, выд. 1948 г., стар. 615.

Група К. Каліноўскага, якая выстаўляла рэвалюцыйна-дэмакратычную праграму і знаходзілася ў цеснай сувязі з таварыствам «Зямля і воля», была, як відаць, адной з тых, звязаных з рэвалюцыйным Пецярбургам груп, якія вучылі сялян, як здабыць свабоду. Яна таксама заклікала іх да ўзгодненага адначасовага выступлення. «...талкуйце паміж сабой, — піша «Мужыцкая праўда» ў № 3 сялянам,—якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа. Толькі, дзецюкі, смела...». «Пакуль мужык здужае трымаць касу і сякеру, здолее бараніць сваё і ні ў кога ласку прасіць не будзе... Возьмемся, дзецюкі, за рукі і выступім разам»[1]. «Няма чаго жадаці ад нікого, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўную рукою, не шкадуйце працы — каб мужык быў вольны як е на целюсенькам свеці»[2].

З гэтага відаць, што рэвалюцыянеры Беларусі, услед за правадыром усерасійскай дэмакратыі, заклікалі сялян да адначасовага арганізаванага выступлення. У святле гэтага больш ясна і глыбока раскрываецца сувязь групы Каліноўскага з рускімі рэвалюцыянерамі, у прыватнасці з таварыствам «Зямля і воля», якое працавала па накрэсленаму Чарнышэўскім плану.

Сігнала да паўстання М. Г. Чарнышэўскі не даў, таму што летам 1862 г. быў арыштаван. Характэрна, што восенню таго ж года, а затым у пачатку 1863 г. Каліноўскі спецыяльна ездзіў у Пецярбург для перагавораў з рэвалюцыянерамі сталіцы.

У сувязі з ростам сялянскага руху па ўсёй краіне і з узмацненнем польскага нацыянальна-вызваленчага руху, які Агараў называў ферментам новага ўздыму вызваленчага руху ў Расійскай імперыі, «Мужыцкая праўда» восенню 1862 г. заклікае сялян да актывізацыі супраціўлення сваім прыгнятальнікам. Гэта яшчэ не быў сігнал да паўстання, а толькі заклік сарваць рэкруцкі набор, не даць царызму павялічыць свае ўзброеныя сілы для барацьбы з вызваленчым рухам. «Мужыцкая праўда» выкарыстоўвае нездаволенне сялян рэкрутчынай яшчэ для

---

[1] «Мужыцкая праўда» № 1.
[2] Там жа, № 3.

аднаго ўдару па іх веры ў цара, падкрэсліваючы, што рэкрутчына — адна з форм «крыўды» бяспраўнага мужыка. Яна заклікае сялян не даваць сваіх блізкіх у армію цара-ката. «За крыўду мужыцкую стойце смела ўсе разам, а калі хто захоча крыўдзіць вас, выцягаць рэкруты, то хто б ён ні быў... то вы яго таўчыце мужыцкай рукой — і рэкрута не будзе» [1].

«Мужыцкая праўда» заклікала сялян да зброі, калі ў Польшчы ўспыхнула ўзброенае паўстанне, нягледзячы на тое, што падрыхтоўка паўстання ў Беларусі не была закончана. Перад усімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі царскай Расіі ў той час паўстала задача — дабіцца перарастання стыхійнага сялянскага руху ва ўсерасійскую рэвалюцыю, забяспечыць саюз народаў усёй Расіі ў барацьбе за знішчэнне самадзяржаўя і прыгонніцтва. Каліноўскі кідае заклік да тапара: «...трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі ды праўды»[2].

Група Каліноўскага, заклікаючы да паўстання, сурова асуджала тых сялян, якія адмаўляліся ад барацьбы і тым узмацнялі ворага. Яна раскрывала ім, у чым сіла цара: «А мы то даемо рэкрута, і нашымі грудзямі цар маскоўскі застаўляецца і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае нас усіх у вечную няволю»[3]. Газета сцвярджае, што аб'яднанне сялян зробіць іх барацьбу пераможнай.

Барацьба за арганізаванасць паўстання арганічна звязвалася групай Каліноўскага з прабуджэннем у сялянства разумення неабходнасці аб'яднання з сялянамі ўсёй краіны [4], з тымі дваранамі, якія адмовіліся ад сваіх вузка-класавых інтарэсаў і сталі на бок сялян [5], адзінства з разначынцамі, вучнёўскай моладдзю і гаражанамі, якія ўзнімаюцца «за сваю і нашу вольнасць» [6]. У наяўнасці быў заклік да аб'яднання ўсіх дэмакратычных, антыпрыгонніцкіх сіл, касцяком якіх павінна было быць паўстаўшае сялянства, кіруемае рэвалюцыйнымі дэмакратамі.

[1] «Мужыцкая праўда» № 5.
[2] Там жа, № 7.
[3] Там жа, № 5.
[4] Там жа, № 2.
[5] Там жа.
[6] Там жа, № 3.

Наколькі глыбока разумеў Каліноўскі неабходнасць арганізацыі сялянскага паўстання, сведчыць той факт, што нягледзячы на цяжкія няўдачы, ён не спыняў барацьбы за незалежнасць кіраўніцтва паўстаннем ад пасяганняў Варшаўскага жонда, змагаўся за ўцягненне ў кіраўніцтва паўстаннем рэвалюцыйных разначынцаў і сялян. На ўсім працягу сваёй дзейнасці ён імкнуўся стварыць у Беларусі і Літве рэвалюцыйную арганізацыю, здольную, на яго думку, спаяць у адзіную сілу сялян, якія стыхійна ўзнімаліся супроць грабежніцкай рэформы. Ён разумеў, што паўстанне без гэтага не можа быць пераможаносным. Іменна таму ён не стаў сялянскім атаманам якога-небудзь павета, як пазней спрабавалі паказаць яго нацыяналісты. Увесь трагізм яго самаадданай рэвалюцыйнай дзейнасці заключаўся ў тым, што ў той час адсутнічалі сілы, здольныя згуртаваць і ўзначаліць сялян. Але гэта не віна, а бяда Каліноўскага.

Імкнучыся арганізаваць сялянскі рух у Беларусі і Літве, група К. Каліноўскага сутыкнулася з процідзеяннем беларуска-літоўскіх памешчыцка-буржуазных лібералаў, якія імкнуліся не дапусціць аграрнай рэвалюцыі. Рэвалюцыйныя дэмакраты вырашылі або зламаць іх і падпарадкаваць свайму кіраўніцтву, або змесці іх адначасова з прыгоннікамі і ваеншчынай. Цяжкасць выканання гэтай задачы заключалася ў слабасці стыхійнага сялянскага руху, на які абапіраліся рэвалюцыйныя дэмакраты. Сяляне не разумелі ўсіх задач рэвалюцыйнай дэмакратыі. Група Каліноўскага не магла атрымаць належнай дапамогі і ад рускага вызваленчага руху, рэзка аслабеўшага на некаторы перыяд пасля рэвалюцыйнай сітуацыі 1859—1861 гг. Вядома, што асаблівых поспехаў рэакцыя дабілася, пачынаючы з лета 1862 г., г. зн. з таго перыяду, калі падрыхтоўка паўстання ў Беларусі і Літве ўступіла ў сваю рашаючую фазу. Арышт М. Г. Чарнышэўскага і іншых рэвалюцыянераў у Пецярбургу разбурыў той створаны цэнтр усерасійскага паўстання, аб якім гаварыў Чарнышэўскі ў сваім пісьме да панскіх сялян. «Зямля і воля» не ператварылася ў магутную ўсерасійскую арганізацыю. Гэта не магло не адбіцца і на лёсе беларуска-літоўскага сялянскага руху.

Заканчваючы аналіз «Мужыцкай праўды» і дзейнасці

групы Каліноўскага, адзначым адну важную дэталь. Падкрэсліваючы неабходнасць саюза з паўстаўшай Польшчай, група Каліноўскага не пераносіць на старонкі «Мужыцкай праўды» сваю крытыку праграмы Варшаўскага Цэнтральнага камітэта, хоць і выстаўляе прынцыпова адрозную праграму. Тут, відавочна, выявілася пераацэнка дзеячамі групы Каліноўскага дэмакратычных сіл Польшчы. Пэўная пераацэнка параджала надзею на магчымасць змянення кіраўніцтва польскім рухам. Відавочна, быў разлік на больш шырокі ўдзел у паўстанні польскага сялянства, што відаць з неаднаразовага ўпамінання ў «Мужыцкай праўдзе» аб польскіх сялянах, якія паўсталі пад Варшавай з косамі і сякерамі. Да таго ж напярэдадні паўстання яшчэ цяжка было вызначыць, па якому шляху пойдзе паўстанне ў Польшчы. Напружаная барацьба ў радах польскага руху, узросшая ў ім роля рэвалюцыйных дэмакратаў, удзел многіх рускіх афіцэраў у гэтым руху, надзеі на рост гэтага ўдзелу, вострая крытыка дзеянняў Варшаўскага камітэта з боку А. І. Герцэна і іншых рускіх дэмакратаў, крытыка, да якой прыслухоўваліся многія дзеячы руху, — усё гэта давала пэўную падставу для падобных надзей. З другога боку, першапачатковыя поспехі групы Каліноўскага ў барацьбе з кіраўніцтвам польскага нацыянальнага руху, паказаныя намі, поспех яе ў барацьбе ўнутры Літоўскага правінцыяльнага камітэта не маглі не прывесці дэмакратыю Літвы да вываду, што практычна нявыгадна, прымаючы пад увагу палітычную несвядомасць сялянства, падымаць у «Мужыцкай праўдзе» пытанне аб чуждым сялянству дзеяннях Варшаўскага ЦК, калі ёсць усе даныя да таго, што беларуска-літоўскае паўстанне, знаходзячыся ў саюзе з польскім паўстаннем, будзе ісці сваім дэмакратычным шляхам. Уводзіць у такім выпадку прыгнечанае, непісьменнае сялянства ва ўсе супярэчнасці адносін да польскага паўстання з'явілася б справай неапраўданай.

Аднак ход паўстання пайшоў не па таму шляху, як меркаваў Каліноўскі і яго таварышы. У самым пачатку паўстання Варшаўскі жонд умяшаўся ў справы Беларусі і Літвы, зламаўшы супраціўленне групы Каліноўскага, і пачаў ажыццяўляць у ходзе паўстання сваю аграрную праграму, якая не задавальняла інтарэсы сялян. А ў «Му-

жыцкай праўдзе», нават у № 7, які выйшаў ужо ў ходзе паўстання, нельга было знайсці адказу на прычыны гэтага вераломства. Гэта не магло не аслабіць уплыву рэвалюцыйнай публіцыстыкі на сялян. Тут выявілася памылковае вырашэнне Каліноўскім пытання аб рухаючых сілах польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

Хоць Каліноўскі і крытыкаваў кіраўніцтва польскім паўстаннем за адмову абвясціць знішчэнне памешчыцкага землеўладання, за клерыкалізм і гульню ў змовы, але не зразумеў да канца ні сацыяльнай прыроды польскага паўстання, ні яго месца ва ўсерасійскай вызваленчай барацьбе. Каліноўскі часта, адстайваючы неабходнасць саюза паўстаўшых у Беларусі і Польшчы, няправільна вызначаў шляхецкі рух у Польшчы як паўстанне польскіх сялян.

Тэарэтычная бездапаможнасць аўтараў «Мужыцкай праўды» выявілася таксама і ў асвятленні мінулага Беларусі. Хоць Каліноўскі і ўказваў, што «нам і пад польскім урадам не зусім было добра», што і тады было ў наяўнасці прыгнечанне сялян, аднак гэтыя палажэнні ён не разгарнуў. Больш таго, «Мужыцкая праўда» некрытычна асвятляла пытанне аб Брэсцкай уніі і дапускала пэўную ідэалізацыю жыцця беларускага народа пад прыгнётам правячых колаў панскай Польшчы, што рэзка супярэчыла яе ж патрабаванням рэвалюцыйнага знішчэння панскага землеўладання.

Аднак, нягледзячы на гэтыя тэарэтычныя памылкі, газета ў цэлым вяла несумненна прапаганду рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй, якія выражалі інтарэсы сялянскіх мас і таму адыграла вялікую ролю ў падрыхтоўцы сялянскага паўстання ў Беларусі. Пры гэтым трэба памятаць, што, характарызуючы «Мужыцкую праўду» як орган групы Каліноўскага, мы не павінны прыпісваць адной асобе ўсе ідэі гэтага, у цэлым бясспрэчна рэвалюцыйна-дэмакратычнага органа. Нам пакуль дакладна невядома, хто з саратнікаў Каліноўскага і ў якіх маштабах прымаў удзел у напісанні кожнага нумару газеты. Таму, непарыўна звязваючы «Мужыцкую праўду» з імем Каліноўскага як главы рэвалюцыйнай групы, мы маем права лічыць выражэннем яго поглядаў толькі асноўныя ідэі рэдагуемай ім газеты. Мы павінны памятаць,

што ў менш важных пытаннях Каліноўскі мог ісці на кампраміс, захоўваючы ў чыстаце толькі асноўныя прынцыпы.

«Мужыцкая праўда» выдавалася пасля рэформы 1861 г., напярэдадні паўстання 1863 г., у перыяд рэзкага размежавання двух асноўных напрамкаў грамадскага жыцця таго часу — ліберальна-манархічнага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага.

Рэвалюцыйная арганізацыя «Зямля і воля» рыхтавала паўстанне да вясны 1863 г., разгарнула па ўсёй краіне шырокую прапаганду. Была выдадзена за гэты перыяд цэлая серыя адозваў. Летам і восенню 1861 г. выйшла 3 нумары «Вялікаруса», «Адказ вялікарусу» Н. Серна-Салаўёвіча, затым «Што патрэбна народу» М. А. Агарава, перавыдадзеная неаднаразова, «Да маладога пакалення» Міхайлава, «Што трэба рабіць войску?» Агарава і Абручова, «Да афіцэраў», «Да салдат» М. В. Шалгунова, «Усяму народу рускаму, сялянскаму ад людзей яму адданых паклон і грамата» (люты — сакавік 1863 г., выданне ЦК «Зямля і воля») і рад іншых.

Нягледзячы на некаторыя адрозненні, усе гэтыя пракламацыі патрабавалі ліквідацыі памешчыцкага землеўладання і свабоду прыгнечаным нацыям. Да гэтых адозваў рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера прымыкае па свайму зместу і значэнню таксама і «Мужыцкая праўда» — орган рэвалюцыйна-дэмакратычнай групы Беларусі.

То быў, паводле слоў М. В. Шалгунова, пракламацыйны час, і адозвы выдаваліся не толькі «Колоколом» або ЦК «Зямля і воля», але і многімі мясцовымі арганізацыямі, гурткамі і групамі рэвалюцыйна настроенай разначыннай інтэлігенцыі, моладзі, перадавых афіцэраў. Часта па прычыне немагчымасці друкаваць адозвы, іх перапісвалі ад рукі або адгукаліся на бягучыя падзеі выпускам сваіх рукапісных лістовак, карыкатур і да т. п. [1].

У тыя пераднавальнічныя месяцы справе выдання і распаўсюджання адозваў прысвяцілі свае сілы лепшыя сыны народаў Расіі.

---

[1] М. В. Шалгуноў. Творы, т. II, стар. 703.

Выданне і распаўсюджанне «Мужыцкай праўды», якая заклікала народ да паўстання, мела вялікае рэвалюцыйнае значэнне. Газета шырока распаўсюджвалася па ўсёй Беларусі і Літве і параўнальна рэдка яе экземпляры траплялі ў рукі царскіх улад, і то ў большасці выпадкаў зачытанымі да дзірак. Першы нумар газеты быў знойдзены ўпершыню ў Брэсцкім павеце, Гродзенскай губерні, 10 чэрвеня 1862 г. Сяляне на сенажаці знайшлі 5 экземпляраў першага нумару газеты. Больш ранняга выпадку адшукання экземпляраў «Мужыцкай праўды» мы ў архіўных матэрыялах не сустракаем. Ёсць некаторыя даныя, якія дазваляюць меркаваць, што друкаваліся першыя экземпляры «Мужыцкай праўды» ў падпольнай друкарні, схаванай у пушчы, паблізу гарадка Саколка, дзе пражываў сябра К. Каліноўскага Валерый Врублеўскі. Ён кіраваў Сакольскім егерскім вучылішчам і карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод сваіх выхаванцаў, леснікоў Белавежскай пушчы і навакольнага насельніцтва. На падставе даных па распаўсюджанню «Мужыцкай праўды», якія знаходзяцца ў архівах жандарскага ўпраўлення, можна зрабіць заключэнне, што ў перыяд ад чэрвеня 1862 г. да студзеня 1863 г. выйшла шэсць нумараў газеты. Выпуск прыкладна аднаго нумару ў месяц гаворыць, відаць, за тое, што напісаная адозва затым друкавалася некалькімі серыямі і распаўсюджвалася па ўсёй тэрыторыі края. Апошні, сёмы нумар газеты, у якім аўтар гаворыць аб сваім доўгім маўчанні, распаўсюджваўся вясной 1863 г. У гэты перыяд, як мы бачым з далейшага аналізу падзей, Каліноўскі зноў перанёс цэнтр сваёй дзейнасці ў Гродзенскую губерню.

Літаратурныя даныя аб выданні і распаўсюджанні «Мужыцкай праўды» вельмі бедныя. Член Варшаўскага камітэта А. Гілер паведамляе часціну ісціны, калі ўказвае, што выданні Каліноўскага «моладзь разносіла па правінцыі (г. зн. Беларусі і Літве — А. С.), чытала па хатах і карчмах. Дух вольнасці рос у сялянах і патрэбен быў толькі час, каб узрос да гатоўнасці паўстаць»[1].

У рускай самадзяржаўна-прыгонніцкай літаратуры даных аб «Мужыцкай праўдзе» амаль няма. У вядомай

[1] А. Гілер, Historia powstania narodu polskiego w 1861—1864 гг. Парыж, 1868 г. т. 1, стар. 176.

рабоце генерала Ратча аб ёй не гаворыцца ні слова. Ва ўспамінах аднаго з удзельнікаў падаўлення паўстання паведамляецца «аб распаўсюджанні вядомай «Крестьянской правды», тэндэнцыя якой была не надта спрыяльнай для дваранства». «Рэвалюцыйная арганізацыя была мацней за паліцэйскую прадбачлівасць і пры ваенным становішчы паліцыя наша, якая клапацілася пераважна аб вонкавым баку, не магла перашкодзіць развіццю прапаганды і яе смелым дзеянням... Хто ведае тутэйшы край, хто сачыў за ходам падзей... ведае, які вялікі ўплыў меў на розумы жыхароў як замежны, так і мясцовы тайны друк... рэвалюцыянеры ўжывалі дзейсныя меры. Пачалі распаўсюджваць у народзе знарок для яго падрыхтаваныя пракламацыі, усюды рассылалі агентаў, людзей у большасці без маёмасці і нават без сродкаў да існавання, якія старанна клапаціліся ў карысць рэвалюцыі» [1].

Аўтар вымушан прызнаць поспех прапаганды рэвалюцыянераў не толькі сярод сялян, але і рамеснікаў, якія, паводле яго слоў, «хутка пачалі прымаць рашучы ўдзел у паўстанні» [2].

Архіўныя матэрыялы сведчаць аб вялікай папулярнасці «Мужыцкай праўды» і аб паспяховым ходзе рэвалюцыйнай прапаганды. Каліноўскі з поўным правам гаварыў перад пакараннем смерцю, што народ не забудзе аўтара «Мужыцкай праўды». Імя Яські было вельмі папулярным. На яго спасылаліся ў спрэчках, называлі сябе яго паслядоўнікамі і г. д. Характэрна, што пазней адзін з начальнікаў паўстанцкіх атрадаў Гродзенскай губерні называў сябе Яська з-пад Гродна.

Прыводзім некаторыя прыклады, якія характарызуюць метады распаўсюджання «Мужыцкай праўды» і яе ўплыў на сялян. У лістападзе 1862 г. у Свянцянскім павеце адзін валасны пісар перадаў некалькі экземпляраў «Мужыцкай праўды» сялянам Буйко і Мартынаву і беззямельнаму двараніну Тамашэвічу, якія пачалі весці рэвалюцыйную прапаганду, і толькі ў студзені 1863 г. адзін з іх — Мартынаў быў арыштаван, калі вёў прапа-

---

[1] «Русский вестник», т. 47, стар. 417—425.
[2] Там жа, стар. 417.

ганду сярод салдат другой роты Неўскага палка, пасланага на ўціхаміранне паўстаўшых сялян [1].

У красавіку 1863 г. у Ашмянскім павеце адзін ляснік і яго сын чыталі сялянам «Мужыцкую праўду», там жа сяляне бралі «для чытання «Мужыцкую праўду» адзін у другога ў доўг» [2].

У кастрычніку 1862 г. засядацель Гродзенскага земскага суда данёс у паліцыю, што ў час паездкі ў вёску Грынвічы ён знайшоў у мешчаніна Яроцкага «Мужыцкую праўду» № 2. «Гісторыя гэтага пісьма, — піша ён, — патрабуе дасканалага дазнання. Месяцы два таму назад Яроцкі рабіў нейкія зборы жыхароў гэтай вёскі. Быццам па прычыне збору якіхсьці папер раз'язджаў па вёсках... Пісьмо гэта раз'язджала разам з ім. Не лішнім лічу ўпамянуць, што характар у гэтага Яроцкага злосны, неспакойны, прадпрыемлівы, абуральны або падбухторшчыцкі, дзёрзкі і нядобранадзейны» [3].

У жніўні 1862 г. у Слонімскім павеце ў адной з вёсак паліцэйскі прыстаў знайшоў на вуліцы, паводле яго ўласных слоў, «з тоўстага палатна анучу, згубленую кімсьці. Падняўшы яе з зямлі, убачыў, што яна была з двух канцоў завязана вузламі, у якіх аказаліся дзве манеты пяціграшовыя, а ў другім два аркушы, надрукаваныя накшталт нейкай брашуры, пракламацыі або аб'явы ў двух частках простаму народу пад загалоўкам «Мужыцкая праўда», з якіх адна разарваная» [4].

У Віленскай губерні, у маёнтку графа Лапашынскага арандатар Барткевіч чытаў сялянам «падбухторную брашуру «Яські-гаспадара з-пад Вільні» і гаварыў, што калі паслухаюцца настаўленняў, выкладзеных у гэтай брашуры, то ва ўзнагароду атрымаюць зямлю і не будуць плаціць падаці... Барткевіч угаварваў далучыцца да мяцяжу» [5]. У гэтым жа маёнтку студэнт М. Слонімскі, які прыехаў з Вільні, «умяшаўшыся ў размову сялян аб падацях, раіў не плаціць іх, а лепш звярнуцца да Яські-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. КГГ, с. 18, лл. 2—4.
[2] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 44, л. 386.
[3] Там жа.
[4] Філіял ЦДГА, г. Гродна, с. 49, л. 238.
[5] Філіял ЦДВГА, г. Ленінград, ф. 9, ч. 5, с. 94, лл. 155—158.

гаспадара і яго слухаць, калі жадаюць мець уласную зямлю» [1].

У Сакольскім павеце Гродзенскай губерні ў лютым 1863 г. «Мужыцкую праўду» распаўсюджвалі сяляне Станкевіч і Цюхна. Там жа «ў распаўсюджанні ідэй да мяцяжу знаходзіцца на моцным падазрэнні былы студэнт С.-Пецярбургскага ўніверсітэта І. Гарчак, высланы пад нагляд паліцыі на радзіму за непаслушэнства супроць урадавых распараджэнняў» [2]. У гэтым жа павеце пачак «Мужыцкай праўды» распаўсюджваўся сярод часова абавязаных сялян м. Сідры ў жніўні 1862 г. Адзін экземпляр земскаму начальніку з дапамогай ксяндза ўдалося знайсці і адабраць у сялян, «куды ж дзяваліся астатнія брашуры, — пісаў спраўнік, — таксама хто быў распаўсюджвальнікам іх, не выяўлена» [3].

Вельмі шырокае распаўсюджанне атрымала «Мужыцкая праўда» таксама і на Віцебшчыне. У студзені 1863 г. флігель-ад'ютант Келер, які быў там, даносіў, што «Мужыцкая праўда» ў значнай колькасці «раздаецца сялянам» і што губернатар просіць «камандзіраваць у Віцебскую губерню сотню казакаў» [4].

Разам з «Мужыцкай праўдай» у Віцебскай губерні вясной 1863 г. шырока распаўсюджваліся адозвы «Зямлі і волі». Яны, паводле паведамленняў паліцыі, «чытаюцца ў некаторых дамах з вялікім спачуваннем і для распаўсюджання іх паміж жыхарамі і войскам рэвалюцыянеры маюць намер літаграфіраваць значную колькасць экземпляраў» [5].

Трэба адзначыць, што распаўсюджанню «Мужыцкай праўды» вельмі перашкаджала непісьменнасць сялян. Часам сяляне, знаходзячы «Мужыцкую праўду», не надавалі ёй значэння або ж звярталіся за даведкамі да такіх грамацеяў, якія адбіралі яе ў іх. Так, 7 лістапада 1862 г. у в. Сітрова, пад Слонімам, селянін знайшоў «Мужыцкую праўду». «Не ведаючы граматы..., прад'явіў соцкаму, які,

---

[1] Філіял ЦДВГА, г. Ленінград, ф. 9, ч. 5, с. 94, лл. 155—158.
[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2., стар. 493.
[3] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 1, с. 53, лл. 202, 203.
[4] ЦДГА, г. Масква, ф. 109, с. 230, ч. 2, лл. 90—95.
[5] Там жа, ф. 109, с. 97, ч. 2, л. 44.

не знайшоўшы ва ўсёй іх вёсцы нікога, хто б мог чытаць, затрымаў у сябе да прыбыцця двараніна Валадкевіча, якога чакалі... Валадкевіч прачытаў, узяў сабе, сказаў, што гэта ёсць брыдкае пісьмо» [1]. З гэтага прыкладу ясна відаць, што сяляне гэтай вёскі так і не даведаліся аб змесце адозвы. У гэтай жа вёсцы адзін селянін, знайшоўшы «Мужыцкую праўду» і будучы непісьменным, загарнуў у яе тытунь. Такія падзеі каментарыяў не патрабуюць. Ці маглі ў такім выпадку рэвалюцыйныя дэмакраты давесці свае думы да беларускага селяніна, калі на кожным кроку сустракаліся цалкам непісьменныя вёскі?

Якімі шляхамі даходзіла «Мужыцкая праўда» да сялян? Паводле слоў Ражанскага, ён разам з К. Каліноўскім у тыя гады не раз рабіў своеасаблівыя вандраванні па краю. Пад выдуманымі імёнамі, пераапрануўшыся ў адзенне мясцовых жыхароў, яны наведвалі вёскі, гутарылі з сялянамі, устанаўлівалі сувязі, распаўсюджвалі свае выданні і растлумачвалі сялянам, на чыім баку трэба змагацца, дзе і як шукаць вызвалення ад прыгнёту. Яны не толькі знаёміліся з настроямі і думкамі народа, але і працідзейнічалі ўрадавай агітацыі, зрываючы намаганні царскіх улад па правядзенню рэформы. Ражанскі падкрэслівае, што дзякуючы гэтай працы і намаганням Каліноўскага паўстанне, якое неўзабаве выбухнула, змагло пратрымацца ў Гродзенскай губерні з вясны да позняй восені, бо толькі сяляне аказалі яму падтрымку, пастаўлялі праваднікоў, забяспечвалі харчаваннем [2].

В. Врублеўскі таксама ўказваў пазней, што «Сумесна з Каліноўскім выдаваў і распаўсюджваў газету «Мужыцкая праўда», рэдактарам якой быў Каліноўскі. Врублеўскі лічыў, што толькі сацыяльная рэвалюцыя адкрые шлях да адраджэння Польшчы і таму прыняў актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай прапагандзе сярод сялян, растлумачваючы ім, што знішчэнне прыгонніцтва, забеспячэнне сялян зямлёй і барацьба за свабоду Польшчы — непарыўна звязаны паміж сабой. Гэтыя думкі ён распаў-

---

[1] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 31, с. 44, л. 434.
[2] Указ, тв., стар. 397.

сюджваў не толькі жывым словам у гутарках з сялянамі, але начамі ездзіў раскідваць і расклейваць па гародах і палях экземпляры газеты, якія раніцай сяляне знаходзілі і ўважліва чыталі.

Такім чынам, дзве асобы, непасрэдна прымаўшыя ўдзел у выданні «Мужыцкай праўды», у той жа час былі і актыўнымі прапагандыстамі яе прынцыпаў, прымалі асабісты ўдзел у распаўсюджанні экзэмпляраў газеты сярод сялян. Але ці прымаў сам Каліноўскі ўдзел у гэтай рабоце? Мемуары сяброў прамога адказу на гэта не даюць.

Сведчанні Ф. Ражанскага і В. Врублеўскага дапаўняюцца данясеннямі царскіх улад, якія захаваліся часткова ў архівах. Як даносіў паліцэйскі прыстаў 2-га стана Слонімскага павета Гродзенскаму губернатару, «7 кастрычніка ў 5 гадзін вечара адзін з пасажыраў, якія праязджалі па тракту праз в. Шнейка, выкідваў скруткі папер на дарогу... Сяляне, падымаючы, звярталіся да пісьменных сваіх субратоў прачытваць. Вышэйпамянёны пасажыр... быў росту сярэдняга, брунет, вусоў чорных, год каля 36... Па забранай мной асабістай даведцы выявіў, што праезджым пасажырам быў, як відаць з кнігі, пехта дваранін Вікенцій Каліноўскі, які выехаў у 5 гадзін» [1].

У ходзе пачатага следства жандары ўстанавілі, што сапраўды Каліноўскі праездам з Якушоўкі ў г. Гродна распаўсюджваў па дарозе сярод сялян рэвалюцыйныя адозвы, у прыватнасці трэці нумар «Мужыцкай праўды». Неадкладна быў аддадзен загад аб арышце Каліноўскага «за распаўсюджванне абуральных брашур сярод сялян». Паліцыя пачала яго пошукі і наладзіла нагляд за яго сваякамі і знаёмымі. Як даносіў Ваўкавыскі земскі спраўнік, над маёнткам бацькі Каліноўскага — Якушоўкай — «ёсць сакрэтны пастаянны нагляд за паяўленнем там Каліноўскага, а таксама рабіліся і па па-

[1] Сакрэтная справа аб двараніне Каліноўскім, які распаўсюджваў падбухторныя брашуры паміж сялянамі. Пачата 27 кастрычніка 1862 г. Скончана 24 сакавіка 1864 г. Партархіў пры ЦК КПБ, ф. 4, зв. 75.

вету строгія пошукі аб знаходжанні яго, але Каліноўскі да гэтага часу ў павеце не знойдзен»[1].

Хаваючыся ад паліцыі, Каліноўскі перайшоў на нелегальнае становішча і працягваў сваю рэвалюцыйную дзейнасць спачатку пад прозвішчам Макарэвіча, затым Хамовіча, Чарнецкага, Вітажэнца. Толькі паступова паліцыя пачала здагадвацца, што ўсе яны — адна і тая ж асоба. Цікава адзначыць, што ў следчай справе аб Каліноўскім ёсць загад гродзенскага губернатара «Аб адшуканні і арышце Канстанціна Хамовіча». «Цяпер аказваецца, — піша ўражаны прадстаўнік царскіх улад, — што яго прозвішча не Хамовіч, а Каліноўскі»[2].

Неабходна падкрэсліць, што Каліноўскаму так доўга ўдавалася хавацца ад жандармерыі не толькі таму, што ён быў узорным канспіратарам, але галоўным чынам дзякуючы дапамозе і падтрымцы працоўнага народа. Ужо ў самым пачатку спроб жандармерыі і паліцыі арыштаваць яго сустракаем умяшанне ў дзейнасць улад сялян, іх дапамогу Каліноўскаму. Характэрныя ў гэтых адносінах дзеянні фурмана, 18-гадовага батрака Міхаіла Іванавіча Чывель, які вазіў Каліноўскага ў Гродна. Падвергнуты допыту жандараў, ён заявіў, што сапраўды з ім ехаў «хтосьці Каліноўскі, чалавек малады, невялікага росту, а дакладней сярэдняга, валасы чорныя, стрыжаныя... твар прадаўгаваты, белы, вусы малыя, чорныя. Апрануты быў у чорны авечы кажух, чорным сукном пакрыты, на галаве шапка чорная... Каліноўскага ведаў таму, што мінулай вясной (г. зн. 1861 г. — А. С.) вазіў яго ў Берастовіцы, у м. Свіслач». І далей Чывель паказваў: «У дарозе не заўважыў, якія былі размовы... Каб жа Каліноўскі меў пры сабе якія-небудзь паперы і раскідваў іх па дарозе або ж размаўляў з сялянамі, пры першай, так і паўторнай паездцы, не бачыў».

Імкнучыся адвесці падазрэнне ад Каліноўскага, Чывель заяўляе жандарам, што ён «даведаўся ад тых сялян, якія раскідвалі паперы, што якісьці пан... раней вы-

---

[1] Сакрэтная справа аб дваране Каліноўскім, які распаўсюджваў абуральныя брашуры паміж сялянамі. Пачата 27 кастрычніка 1862 г. Скончана 24 сакавіка 1864 г. Партархіў пры ЦК КПБ, ф. 4, зв. 75.
[2] Там жа, с. 814, л. 1.

ехаў з Ружан, чым Каліноўскі», а таму, гаворыць Чывель, не Каліноўскі, а хтосьці іншы распаўсюджваў адозвы сярод сялян [1].

Прыклады і формы распаўсюджання «Мужыцкай праўды» былі шматлікімі. Аб распаўсюджванні «Мужыцкай праўды» ў Дзісненскім і Вілейскім паветах паліцэйскі паведаміў, што агітатараў «ніякім чынам адкрыць не мог, а толькі пачэрпнуў дакладныя звесткі, што значная колькасць такіх лістовак раскідана па вёсках і карчмах» і што адозвы распаўсюджвалі два чалавекі, якія ездзілі ноччу ад вёскі да вёскі ў павозцы. Характэрна, што паліцэйскаму прыставу не ўдалося сабраць усе экземпляры пракламацыі.

22—23 студзеня 1863 г. у Казлоўскай і Вярхнянскай валасцях, Дзісненскага павета, паводле паведамлення паліцыі, «з'явіліся друкаваныя экземпляры абуральнай адозвы, якія ўзбуджалі сялян супроць праваслаўнай веры і супроць урада... Ноччу невядома кім прыбіты былі маленькімі цвікамі да дамоў і іншых пабудоў сельскіх абывацеляў... друкаваныя аркушы зместу заганнага ў 2 частках за №№ 5, 6 пад загалоўкам «Мужыцкая праўда» (знойдзена ўсяго 9 лістоў). Сяляне, заўважыўшы прыбітыя да іх дамоў, на варотах і слупах нейкія лісткі, адарвалі іх з цікавасці, некаторыя з іх, хоць малапісьменныя, чыталі, калі даведаліся, што ў гэтых адозвах змяшчаецца, на словах растлумачвалі іншым сялянам» [2].

Рассылка «Мужыцкай праўды» рабілася рэвалюцыйнай арганізацыяй сумесна з іншымі рэвалюцыйнымі дакументамі па арганізаванай нелегальнай сувязі. Так, у рэштках папер аднаго з кіраўнікоў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі значыцца запіс ад 17.VIII. 1863 г.: «Пружанскаму акруговаму. З прысылкай экземпляраў «Мужыцкая праўда» і загада сялянам. Начальнікам партый ваенных з пасылкай 74 экз. аб надзеле сялян

[1] Сакрэтная справа аб двараніне Каліноўскім, які распаўсюджваў абуральныя брашуры паміж сялянамі. Пачата 27 кастрычніка 1862 г. Скончана 24 сакавіка 1864 г. Партархіў пры ЦК КПБ, ф. 4, зв. 75.

[2] ЦДА Літ. ССР. Фонд Музея Мураўёва. Камісія па паліт. справах, с. № 18, лл. 1—3. 2.II.1863 г.

зямлёй. Шэрашэўскаму акруговаму з прысылкай экземпляраў «Мужыцкая праўда» і «Загада мужыкам»[1]. Гутарка ішла аб распаўсюджанні сёмага нумару «Мужыцкай праўды». У акруговага Глухоўскага пры вобыску было знойдзена «Мужыцкай праўды» № 7 10 штук, загад Каліноўскага ад 24 жніўня — 10 штук, рэшткі яшчэ адной невядомай пракламацыі. Змест яе, нажаль, па асобных абрыўках, якія засталіся, аднавіць не ўдалося. Гэтыя даныя пацвярджаюць, што «Мужыцкая праўда» № 7 была апошнім нумарам гэтай серыі адозваў і што яна распаўсюджвалася паралельна з двума іншымі адозвамі групы Каліноўскага, якая выступала ўжо як афіцыяльнае кіраўніцтва паўстання ў Беларусі і Літве. Нельга не прыняць пад увагу, што «Мужыцкая праўда» № 7 і загад ад 24 жніўня (дзень св. Варфаламея) былі надрукаваны аднолькавым шрыфтам, на аднолькавай паперы фарматам 23×31 см.

Разам з тым прыведзеныя даныя аб распаўсюджанні «Мужыцкай праўды» паказваюць, што наяўнасць адозваў у пачках па 10 штук у ніжэйшага члена рэвалюцыйнай арганізацыі магло быць толькі пры масавым тыражы адозваў. Строга ўстаноўленая колькасць трох відаў дакументаў, па 10 штук кожны, гаворыць аб пэўнай сістэме распаўсюджання адозваў. Пацвярджэнне гэтаму вываду мы знаходзім у паказаннях аднаго з кіраўнікоў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Сільвестровіча. «Друкаваныя аб'явы, — паведамляе ён, — што прысылаюцца часам з Вільні, я атрымліваў у Абрэмскага (заг. касай і карэспандэнцыяй Гродзенскага цэнтра. — А. С.), раздзяляў на 5 акругоў і адсылаў бліжэйшаму акруговаму»[2].

Даныя Сільвестровіча аб рассылцы «Мужыцкай праўды» разам з іншымі рэвалюцыйнымі дакументамі пацвярджае былы кур'ер Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Ю. Тжэцяк[3].

На падставе даных аб распаўсюджанні «Мужыцкай праўды» можна скласці некаторае ўяўленне аб яе ты-

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. Часовага палявога аўдытарыята, с. 1230, лл. 76—79.
[2] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, лл. 180—187.
[3] Там жа, л. 187.

ражы. У акруговага Глухоўскага былі знойдзены пачкі па 10 штук у кожным. Павятовы камісар Сільвестровіч паведамляе, што пароўну рассылаў у кожную акругу. Калі ўзяць у сярэднім па 5 акруг у кожным павеце, то на павет прысылаліся пачкі па 50—60 адозваў. Адпаведна на губерню ў 10—11 разоў больш, у залежнасці ад ліку паветаў. Калі дапусціць, што кожная губерня атрымлівала пароўну, то, значыць, па ўсёй Беларусі і Літве рэвалюцыянеры маглі адразу рассылаць да 3—4 тысяч адозваў. Зразумела, з гэтага прыкладнага разліку нельга рабіць сцвярджальнага вываду, што тыраж кожнага нумару «Мужыцкай праўды» складаў 3—4 тысячы экземпляраў. Аднак нельга сумнявацца ў тым, што тыраж «Мужыцкай праўды» па таму часу быў вельмі значным.

У самы апошні час удалося знайсці дакументы, якія паказваюць, што актыўны ўдзел у распаўсюджанні «Мужыцкай праўды», у прапагандзе высунутых ёй рэвалюцыйна-дэмакратычных прынцыпаў прымалі ўдзел афіцэры стаяўшых у Беларусі воінскіх часцей, асабліва афіцэры 3-й артылерыйскай брыгады, кватараваўшай ў г. Слоніме.

У лютым 1863 г. адзін з афіцэраў гэтай брыгады — Міхаіл Цяндзевіч, пераапрануты ў сялянскае адзенне, раз'язджаў па вёсках і сёлах Барысаўскага павета і зачытваў сялянам «Мужыцкую праўду». 6 лютага 1863 г. ён прыехаў у в. Каміны. З выпадку якогасьці свята ў карчме сабралася многа сялян. Цяндзевіч спачатку прачытаў сялянам «Мужыцкую праўду», а затым звярнуўся з наступнымі словамі: «Яська-гаспадар з-пад Вільні ўздымае мяцеж — даволі цару валодаць гэтай зямлёй. Трэба грудзямі стаць за яе. Цяпер і вам і нам дрэнна. Панабудавалі канцылярый на вас, плата вялікая. Трэба аб сабе падумаць. Помніце, што вы павінны быць гатовы да паўстання. Косы трэба рыхтаваць двухбакававострыя, дуракі, што рэкрутаў далі... Калі прагонім цара, то вам будзе лепш. Вы будзеце такія ж, як і мы, дваране. Зямля будзе Ваша. Яська-гаспадар з-пад Вільні стараецца аб гэтай справе» [1].

[1] ЦДВГА, М., ВУА, с. 1310, лл. 87, 88.

Падсумоўваючы факты аб распаўсюджанні «Мужыцкай праўды», мы бачым, што яна была вядомая на тэрыторыі ўсёй амаль Беларусі ад Буга да Бярэзіны, ад Полацка да Брэста. У прапагандзе ідэй рэвалюцыйнага дэмакратызма прымалі асабісты ўдзел Каліноўскі і яго бліжэйшыя паплечнікі, рэвалюцыйна настроеныя афіцэры і студэнты, дробныя чыноўнікі і сяляне, гараджане і ляснічыя.

У цяжкіх умовах даводзілася працаваць агентам «Мужыцкай праўды». За імі сачыла паліцыя, супроць іх вялі агітацыю ксяндзы і манахі, і былі выпадкі, калі непісьменныя, збітыя з толку раз'юшанай дэмагогіяй папоў, сяляне выдавалі ў рукі паліцыі прапагандыстаў, але наперакор усім гэтым перашкодам і небяспечнасцям работа ішла, жывое слова праўды знаходзіла шляхі да сэрца селяніна.

У рэвалюцыйнай прапагандзе прымала актыўны ўдзел вучнёўская моладзь. Старшыня Віленскай следчай камісіі генерал Н. Цылаў паведамляў, што студэнты ўніверсітэтаў, пакінуўшы аўдыторыі, «пайшлі ў сёлы, уваходзілі ў зносіны з прыказчыкамі, аканомамі, пісарамі і пры садзеянні іх рассейвалі шкодныя думкі, абуральныя адозвы, якія мелі на мэце падарваць давер'е сялян да ўрада... Некаторыя з іх не саромеліся пераапранацца ў сялянскую вопратку і бадзяцца па базарах, таўкучых рынках і шынках, дзе простанароднай гаворкай яны стараліся ўзбунтоўваць народ не толькі ў заходніх губернях, але нават у Астрахані, Маскве і Пецярбургу... амаль у кожным з нашых універсітэтаў існавалі асобныя таварыствы» [1].

Архіўныя даныя сведчаць, што нават вучні царкоўнапрыходскіх школ у размовах адзін з другім асуджалі той прыгнёт і паборы, якія цярпелі іх сваякі. Цікавае данясенне аб рэвалюцыйнай дзейнасці ў прагімназіі мястэчка Свіслач склаў тамашні спраўнік: «Дзяўчына, апранутая ў сялянскую світку, як адчаянная дэмакратка, — піша спраўнік, — какетнічаючы з вучнямі старэйшага ўзросту, вяла з імі розныя неразумныя размовы і, філасофствуючы па-свойму, даказвала, што ўсякая ўлада і прыгнёт

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс. КГГ, с. 2102.

свабоднай волі чалавека ёсць абсурд і параджэнне пекла»[1].

Сяляне не толькі ўважліва прыслухоўваліся да рэвалюцыйнай прапаганды, але і абаранялі людзей, якія неслі ім праўду і ўказвалі шлях да свабоды. Прывядзём адзін характэрны прыклад. У Лунінскай воласці, Гродзенскага павета, сяляне некалькіх вёсак, агульнай колькасцю да 30 чалавек «прыйшлі ў валасную ўправу, напалі на валаснога старшыну І. Малашка з той прычыны, што той загадаў арыштаваць селяніна вёскі Каменічы І. Алізара, заўважанага ў падбухторванні сялян да непадпарадкавання ўладам, і па нагавору апошняга пачалі біць старшыну, пацягнулі яго праз мястэчка, наносячы ўдары ў патыліцу, потым пасадзілі на падрыхтаваную фурманку і невядома куды павезлі... Сяляне азначаных вёсак праз падбухторванне таго ж Алізара ўжо два разы ў мінулым, у 1862 годзе, былі прыводзімы ў паслушэнства ваеннай сілай»[2].

Вядома, што сяляне адмаўляліся прымаць устаўныя граматы, што, нягледзячы на прымяненне войск, царскім уладам часта не ўдавалася зламаць сялян. Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў цэлым радзе выпадкаў сялянамі кіравалі рэвалюцыянеры-«падбухторшчыкі», як іх называлі царскія чыноўнікі. Прыклады гэтага шматлікія. Так, у чэрвені 1862 г. у Гродзенскай губерні, у маёнтку Брык, сяляне «не згадзіліся слухаць устаўной граматы... пайшлі з вёскі і невядома дзе схаваліся; міравы пасрэднік дадае, што дзёрзкае непаслушэнства сялян вёскі Брык паслужыць абавязкова дрэнным прыкладам суседнім валасцям. Па данясенню валаснога старшыні заўважаны ў ліку сялян тры падбухторшчыкі, якія адзываліся, што не трэба слухаць ніякіх распараджэнняў, што датычаць увядзення ўстаўных грамат, бо гэта ашуканства, уцягваючае сялян у адбыванне павіннасці на памешчыка. Распаўсюджанне гэтых ілжывых перакананняў было вельмі шкодным агульнаму парадку»[3].

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. Канц. генерал-губернатара. Аддз. сакрэтн., с. ад 12 красавіка 1862 г., л. 1.

[2] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 15, л. 64.

[3] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 10, с. 138, воп. 13, л. 35.

Наколькі рэвалюцыйная прапаганда садзейнічала росту сялянскага супраціўлення грабежніцкай рэформе сведчыць той факт, што к пачатку 1863 г., калі тэрмін увядзення ўстаўных грамат ужо канчаўся, па ўсёй Гродзенскай губерні толькі каля паўтары тысячы сялянскіх гаспадарак прынялі ўмовы рэформы і то пад націскам ваенных сіл. Як паведамлялі некаторыя міравыя пасрэднікі (захоўваем стыль арыгінала. — *А. С.*), «галоўным повадам неапераходу сялян са здзельнай павіннасці на аброк служыць перашкодай распаўсюджанне паміж гэтым саслоўем шкоднымі людзьмі рознага роду негрунтоўных чутак...» [1]

Знамянальна, што ў тых паветах, дзе дзейнасць рэвалюцыйных дэмакратаў была лепш арганізавана, намаганні царскіх улад былі амаль бясплоднымі. Так, напрыклад, к пачатку 1863 года па Слонімскаму і Ваўкавыскаму паветах, дзе ў прапагандзе ўдзельнічаў непасрэдна сам Каліноўскі, толькі 27 сялянскіх гаспадарак прынялі ўстаўныя граматы. У Сакольскім павеце, дзе рэвалюцыйную арганізацыю ўзначальваў В. Врублеўскі, царскім уладам удалося прымусіць прыняць устаўныя граматы... адну сялянскую гаспадарку. Найбольшых вынікаў па ўвядзенню ўстаўных грамат царскім уладам удалося дабіцца ў Беластоцкім і Кобрынскім паветах, дзе рабоце рэвалюцыйных дэмакратаў моцна перашкаджалі агенты Варшаўскага ЦК [2].

У святле гэтых фактаў, якія не могуць, вядома, прэтэндаваць на поўнае асвятленне дзейнасці групы Каліноўскага і ўплыву «Мужыцкай праўды» на сялян, усё ж робіцца зразумелым значэнне «Мужыцкай праўды», а таксама трывога царскіх улад і злосць яе трубадураў да таямнічага Яські-гаспадара, які ўзнімаў народ на ўзброеную барацьбу. Аб «Мужыцкай праўдзе» загаварылі. Аб ёй з нянавісцю і зубоўным скрыгатам пісалі губернатары і генерал-губернатары, міністры, флігель-ад'ютанты, паліцэйскія шпікі і прадажныя чарнільныя ства-

---

[1] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 10, с. 137.
[2] Там жа.

рэнні, якія славілі царскі ўрад, пісалі таму, што да яе, як да крыніцы святла і праўды, цягнулася сялянства.

Вельмі характэрна, што ў барацьбу з ідэямі «Мужыцкай праўды» ўключалася і казённая царква. У студзенні 1863 г. Полацкі архіепіскап піша обер-пракурору сінода: «Род газеты «Мужыцкая праўда», якая рэвалюцыйным вобшчаствам выдаецца на беларускай мове ў Вільні, мэта якой — хваляваць просты народ супроць урада рускага і ўзбудзіць яго да ўсеагульнай разні, у вялікім мностве распаўсюджваецца пры поўным садзеянні прапагандыстаў, якіх нямала хаваецца ў тутэйшых губернях. Не трапіўся яшчэ ў мае рукі ні адзін нумар гэтай разбуральнай газеты «Мужыцкая праўда». (І гэта праз шэсць месяцаў пасля выхаду яе першых нумараў! — *А. С.*). Але я пастаўлю, — клянецца архіепіскап, — сабе свяшчэнным абавязкам дашуквацца і калі хутка атрымаю — паспяшаю даставіць Вам».

На падставе падобных данясенняў 14 лютага 1863 г. обер-пракурор сінода, перасылаючы шэфу жандараў з цяжкасцю здабытыя экземпляры «Мужыцкай праўды» (№№ 4, 5, 6), указваў, што яны «ў велізарнай колькасці распаўсюджваюцца па ўсёй Віцебскай губерні... рэвалюцыянеры прыкладаюць усе намаганні, не выключаючы і губернскага горада, пахіснуць у народзе яго праваслаўныя вераванні і пачуцці адданасці гасудару»[1].

Пасля падобных рэляцый у Віцебскую губерню былі высланы казацкія сотні.

Чуткі аб «Мужыцкай праўдзе» папаўзлі па сталіцы. Рэвалюцыйныя адозвы, падобныя ёй, палохалі ўрад, які чакаў буйных аграрных беспарадкаў к вясне 1863 года ў сувязі са сканчэннем тэрміну ўвядзення грабежніцкіх устаўных грамат.

Робіцца зразумелым, чаму «Северная пчела» ў сакавіку 1863 года спяшалася парадаваць сваіх чытачоў, што царскім шпікам удалося выявіць і арыштаваць некалькі чалавек, якія распаўсюджвалі «Мужыцкую праўду», аддаць іх ваеннаму суду і, пазбавіўшы ўсіх правоў маёмасці, саслаць на катаргу. Герцэн адразу ж паставіў да ганебнага слупа тых, хто апладзіраваў царскім ка́там

[1] ЦДГА, г. Масква, ф. 109, с. 230, ч. 2, л. 93.

у Беларусі. Лёс беларускіх юнакоў, якія неслі свайму народу словы праўды, глыбока хваляваў вялікага рускага дэмакрата. Ёсць падстава лічыць, што ён сачыў за распаўсюджаннем і поспехамі першай беларускай газеты, якая несла вольнае слова сялянству на роднай яго мове. У «Колоколе» № 162 ад 1 мая 1863 года А. І. Герцэн пісаў: «Праз некалькі дзён мы прачыталі ў «Северной пчеле» наступную аб'яву аб «Мужыцкай праўдзе», якая ператвараецца ў **лятучыя** лістоўкі (выдзелена рэдакцыяй «Колокола». — *А. С.*). «Трэба ведаць, што літоўскае сялянства, якое польскія агітатары ўсяляк стараліся схіліць на свой бок, пачало ў апошні час хістацца, уступаючы фанатычнаму красамоўству ксяндзоў і агентаў Цэнтральнага камітэта, што пусціў карэнні, як відаць, і на літоўскай глебе. 19 лютага надышло, а сапраўднай волі ўсё яшчэ няма. Нейкае цёмнае сумненне пачало прабіраць душу тутэйшага селяніна, якому польскія агенты ўжо даўно прадказвалі, што 19 лютага не прынясе ім поўнай свабоды. Да вялікага ж хвалявання розумаў з пачатку бягучага года ў сёлах і вёсках усяго края пачалі з'яўляцца лятучыя лісткі абуральнай уласцівасці пад назвай «Мужыцкая праўда». У гэтых лятучых лістках Цэнтральны літоўскі камітэт або якійсьці пан, што называў сябе Яськам-гаспадаром з-пад Вільні, прыстасоўваючыся пад гаворку беларускага просталюдзіна, стараецца рознымі хітра сплеценымі сафізмамі і трапнымі слоўцамі ўтлумачыць тутэйшым сялянам, што яны да таго часу не будуць вызвалены, пакуль яны, узброіўшыся косамі і сякерамі, не пойдуць разам з паўстанцамі змагацца з маскалямі і вызваляць айчыну-«бацькаўшчыну» і г. д. Не ведаем, наколькі гэтыя лятучыя лісткі ўжо паспелі ўздзейнічаць на розумы тутэйшых сялян, якія, наогул кажучы, дрэнна вераць у залатыя горы, што абяцалі ім польскія патрыёты накшталт Яські-гаспадара з-пад Вільні, але ва ўсякім выпадку можна станоўча сказаць, што пры існаванні двухсэнсавага становішча тутэйшых сялян далей, лятучыя пісьмы абавязкова б выклікалі браджэнне, якое інсургенты адразу ж выкарысталі б. Указ 1 сакавіка паклаў канец падкопам апошніх».

Патрэбна была іменна празарлівасць Герцэна, каб у

гэтых паведамленнях «Северной пчелы» — гэтага паліцэйскага лістка — ўбачыць значэнне беларускай рэвалюцыйнай газеты, якая выкрывала манеўры прыгонніцкага ўрада.

Праз пырскаючую злоснай слінай лаянку «Северной пчелы» Герцэн разгледзеў трывогу царскіх улад, іх страх перад таямнічай дзейнасцю Яські-гаспадара і яго паплечнікаў і абвясціў са старонак «Колокола», што з'явілася і ў Беларусі газета, зразумелая народу, якая атрымала шырокае распаўсюджанне сярод сялян, што пры ўсёй нянавісці не магла не прызнаць нават «Северная пчела», і назвала орган групы Каліноўскага лятучым лістком.

Прыведзеныя намі факты сведчаць аб паспяховай рэвалюцыйнай прапагандзе, аб папулярнасці і даволі шырокім распаўсюджанні адозваў групы Каліноўскага сярод сялян і дазваляюць сцвярджаць, што трохтысячная рэвалюцыйная арганізацыя Беларусі і Літвы правяла напярэдадні паўстання вялікую работу. Яна імкнулася ўнесці свой уклад у падрыхтоўку ўсерасійскай сялянскай рэвалюцыі, заклікала да адзінства народы Беларусі, Польшчы, Расіі і Літвы. Аднак рэвалюцыйныя дэмакраты не маглі пераадолець стыхійнасці сялянскага руху, бо яго характар быў гістарычна абумоўленым. Як успамінаў пазней Валерый Врублеўскі, прапаганда рэвалюцыйных ідэй праз створаную ім сумесна з Каліноўскім «Мужыцкую праўду» была вельмі кароткачасовай і не дасягнула поўнасцю жаданай мэты. Сялянскі рух, насуперак усім намаганням рэвалюцыйна-дэмакратычных груп, насіў характар стыхійных бунтаў, не асветленых дастаткова палітычнай свядомасцю.

# ПАЧАТАК ПАЎСТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ І ЛІТВЕ

Рэзкае абвастрэнне класавай барацьбы ў Беларусі і Літве ў сувязі з грабежніцкай рэформай прывяло к канцу 1862 г. у радзе месц да ўходу сялян у лясы, дзе яны шукалі сховішча ад праследавання царскіх улад, якія сілаю ўводзілі ўстаўныя граматы.

Становішча абвастрылася яшчэ і таму, што царскі ўрад аб'явіў у кастрычніку 1862 г. у Заходніх губернях рэкруцкі набор. Новыя правілы гэтага набору асабліва закранулі пагранічныя раёны Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў, насельніцтва якіх да гэтага часу мела ільготу (замена паставак рэкрутаў уплатай асобага падатку). Да таго ж трэба ўлічыць, што пасля Крымскай вайны ў гэтых раёнах набор наогул не праводзіўся. 5 верасня ўрад адмяніў гэтыя ільготы, і ў кастрычніку быў аб'яўлен набор на аснове агульных правіл (з 1 тысячы душ — 1 рэкрут да 15 студзеня 1863 г.).

Сяляне захваляваліся, пачалі хавацца ад набору ў лясах і аказваць супраціўленне ўладам аж да нападу на воінскія каманды, каб адбіць захопленых рэкрутаў. Узброеныя групы маладых сялян нападалі на корчмы і маёнткі з мэтай захопу харчавання, у радзе месц справа дайшла да падпальвання сядзіб. У 1862 г. у Ковенскай губерні адбылося 408 пажараў (галоўным чынам сядзіб і пабудоў, занятых войскамі) [1].

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 378, 1862 г., с. 930.

Бачачы становішча, якое стварылася, генерал-губернатар Назімаў прасіў адмяніць набор: «З прычыны сучаснага напрамку розумаў у тутэйшым краі ўзяцце рэкрутаў з паселішчаў, якія маюць права адпраўляць гэтую павіннасць грашыма, можа выклікаць хваляванні» [1].

Урад не паслухаўся довадаў генерал-губернатара. З мэтай зламаць супраціўленне сялян было загадана залічаць у рэкруты тых сялян, якія першымі трапілі, і ў большай колькасці, чым меркавалася па развёрстцы. Гэтая драконаўская мера, якая закранала ўжо ўсё насельніцтва вёсак, прывяла да яшчэ большага абвастрэння барацьбы. Групы, якія хаваліся ад набору і праследаванняў, па сутнасці, і склалі першыя невялікія атрады паўстанцаў. Супроць іх былі кінуты войскі. Захопленыя аддаваліся ваенна-палявому суду [2].

Гэтыя атрады, якія ўзніклі ў снежні 1862 г. — студзені 1863 г., уяўлялі настолькі прыкметную сілу і ўнушалі сваімі нападамі на мызы памешчыкаў такія асцярогі, што жандарскі палкоўнік Лосеў палічыў неабходным далажыць аб іх цэнтральным уладам [3].

Ход падзей у краі восенню — зімой 1862—1863 гг. ясна сведчыў аб перарастанні барацьбы сялян супроць рэформы ва ўзброенае паўстанне. Пры гэтым становішчы думка аб магчымасці ўсеагульнага абурэння сялян вясной у сувязі са сканчэннем тэрміну ўвядзення ўстаўных грамат была цалкам абгрунтаванай.

Далейшае развіццё падзей у краі было паскорана паўстаннем у Польшчы, якое пачалося ў студзені 1863 г.

У паўстанні, якое пачалося ў Польшчы з 22 на 23 студзеня 1863 г., прынялі актыўны ўдзел ніжэйшыя слаі гарадскога насельніцтва (рамеснікі, рабочыя, дробная буржуазія, дробныя чыноўнікі), вучнёўская і ваенная моладзь і абяднеўшае дваранства (шляхта). У некаторых раёнах Польшчы да паўстанцаў далучыліся сяляне, хоць у цэлым асноўная маса сялянства не аказала неабходнай падтрымкі Часоваму нацыянальнаму ўраду (так пачаў

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 378, 1862 г., с. 679, лл. 14, 83, а таксама «Віленскі летапіс», т. VI, ч. 1, стар. 217.
[2] ЦДА Літ. ССР, ф. 378, 1863 г., сс. 247, 249, 679, 1038 і інш.
[3] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2, стар. 490.

называць сябе пасля паўстання былы Цэнтральны нацыянальны камітэт).

Чаму ж польскія сяляне ў асноўнай масе сваёй засталіся на пазіцыях нейтралітэта, хоць і добразычлівага, да кіраўніцтва паўстаннем 1863 г.? Адказ дае праграма гэтага кіраўніцтва, выкладзеная ў маніфесце ад 22 студзеня 1863 г. Гэты дакумент яскрава паказвае шляхецкую абмежаванасць кіраўніцтва, яго непаслядоўнасць з самага пачатку барацьбы.

Тры асноўныя пытанні ўзнімае гэты маніфест: заваяванне нацыянальнай незалежнасці, вызваленне і надзяленне зямлёй сялян, увядзенне грамадзянскага раўнапраўя і адмену саслоўных прывілей.

Пастаноўка гэтых пытанняў гаворыць аб буржуазным характары руху, а іх вырашэнне паказвае рэфармізм яго кіраўніцтва. Так, аб'яўляючы сялян уласнікамі тых зямельных надзелаў, якімі яны да гэтага часу карысталіся за павіннасці (паншчына або аброк, чынш), маніфест абвяшчаў ўзнагароджанне памешчыкаў за панесеныя страты з нацыянальнага фонду, г. зн. прадугледжваў выкуп часткі памешчыцкай зямлі, якая пераходзіла да сялян, і захаванне асноўнага зямельнага фонду ў руках паноў, шляхты. Маніфест зусім абыходзіў інтарэсы беззямельнага сялянства, якога налічвалася ў Польшчы да 30% ад усіх сялян.

У вырашэнні аграрнага пытання кіраўніцтва паўстаннем стаяла на рэфармісцкіх пазіцыях, што сведчыла аб няздольнасці шляхецкіх рэвалюцыянераў вырашыць гэтае пытанне ў інтарэсах сялянскіх мас.

У галіне нацыянальнай палітыкі кіраўнікі паўстання абвясцілі сваёй мэтай аднаўленне ранейшых граніц Рэчы Паспалітай на ўсходзе пры поўнай безудзельнасці да лёсу спрадвечных польскіх зямель, захопленых прускімі і аўстрыйскімі каланізатарамі. Гэтым самым яны сталі на шлях экспансіі ў адносінах да Украіны, Беларусі, Літвы.

Калі б кіраўнікі паўстання абвясцілі права сялян на ўсю зямлю, права беларусаў, украінцаў і літоўцаў самім вырашаць сваю долю і г. д., гэта несумненна ў корані змяніла б характар барацьбы і павяло паўстанне па шляху аграрнай сялянскай рэвалюцыі, забяспечыла б яму магутную падтрымку сялян і, у канчатковым выніку, ад-

крыла б шлях аднаўлення Польшчы — свабоднай і дэмакратычнай.

Аднак польскія шляхецкія рэвалюцыянеры не змаглі поўнасцю парваць з усім грузам феадальнай ідэалогіі, няправільна вырашалі асноўныя грамадскія і палітычныя пытанні і тым самым, нягледзячы на ўсю храбрасць, праяўленую ў барацьбе, асудзілі сябе на паражэнне.

Стыхійныя ўспышкі ўзброенай барацьбы ў Польшчы, якія пачаліся без узгодненасці з рэвалюцыйнымі арганізацыямі ў Беларусі і Літве, паставілі апошнія ў цяжкае становішча. Падрыхтоўка паўстання тут была яшчэ ў самым разгары.

К. Каліноўскі асудзіў рашэнне Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Варшаве аб пачатку паўстання і лічыў яго заўчасным. Ён указваў на непадрыхтаванасць паўстання не толькі ў Беларусі і Літве, але нават і ў самой Польшчы.

У сваёй запісцы 28 лютага 1864 г. ён піша: «Хваляванні ў Царстве (г. зн. Царстве польскім. — *А. С.*), якія праяўляюцца ў розных рухах, не маглі не мець уплыву на Літву, але калі ў Царстве падобныя з'явы паслужылі да ўтварэння Цэнтральнага камітэта, што стаіць на чале народнай арганізацыі, у Літве ўсё гэта разыгрывалася без ніякіх вынікаў. Урад, які звяртаў увагу толькі на дэманстрацыйныя выхадкі ў тутэйшым краі, надаваў ім сур'ёзны характар.

Калі розныя тэорыі, якія пазбаўлены практычнасці, не бачачы дзённага святла, маглі мець уплыў на запальчывы і схільны да захаплення характар жыхароў Царства Польскага, то ў больш сур'ёзнай Літве і пры ўсёй сваёй таямнічасці, галоўным сваім рухавіку, яны павінны былі прайсці без уплыву... Паўстанне, якое, аднак, успыхнула ў Царстве, застала Літву зусім непадрыхтаванай у гэтых адносінах, нават непрыхільнаю ўсякім падобным хваляванням пры яе тагачасным становішчы. Царства Польскае, вымушанае да паўстання збегам двух акалічнасцей: па-першае, наборам, а па-другое, узмоцненным дзеяннем Цэнтральнага камітэта, які жадаў скарыстаць чуткі аб наборы, каб скласці як мага больш дзесяткаў і сотняў народных арганізацый, і таму ў далейшым не меў магчымасці ўтрымаць усхваляваных гарачых пачуц-

цяў, сваім паўстаннем не ўзважыла інтарэсаў Літвы. Літва тады пры сваім пануючым сельскім насельніцтве перажывала крытычныя хвіліны, у якіх паўстанне, не маючы практычнага выхаду, пагражала канчатковым разбурэннем, матэрыяльнага стану самым адчувальным чынам... З аднаго боку, абцяжараны даўгамі і азадачаны сялянскім пытаннем памешчык, а з другога — селянін, які ва ўяўленні сваім засвоіў паняцце, што ўся зямля ёсць яго набытак, аспрэчваемы толькі памешчыкам, будучы ў становішчы чакання, а таму ў нерашучасці, не маглі служыць народнай справе, адпаведна тым сродкам, якія могуць знаходзіцца ў іх руках. Тут трэба таксама ўпамянуць тую акалічнасць, якая перашкаджае паспяховаму ходу справы, наколькі гэта магло быць магчымым, што самыя адданыя народнай справе памешчыкі літоўскія, маючы значны запас славалюбства, з прычыны таго, што ў іх жыве толькі традыцыя, меру народнага ўрада аб аддачы сялянам зямлі стараліся выстаўляць сваім уласным дарам. Селянін, які бачыць не абрэзаныя яшчэ кіпцюры сваіх паноў, не мог ім даверыцца і пачаў глядзець на справу польскую, як на выдумку памешчыцкую — органы ж урада такое разуменне сялян стараліся падтрымліваць» [1].

Нягледзячы на стрыманасць, Каліноўскі ў гэтым дакуменце дае выключна глыбокую ацэнку падзеям у Беларусі, Літве і Польшчы, крытыкуе царскі ўрад і шляхецкае буржуазнае кіраўніцтва польскім нацыянальна-вызваленчым рухам. Ён не згодны з усёй палітыкай Варшаўскага ЦК як у цэлым, так і па асобных пытаннях і падвяргае яго дзейнасць бязлітаснай крытыцы з пазіцый паслядоўнага рэвалюцыйнага дэмакратызма.

Ён не падзяляе шляхецка-нацыяналістычны погляд Варшаўскага ЦК на Беларусь і Літву, як неад'емную частку Польшчы, указвае на эканамічную і нацыянальную спецыфіку края і адстайвае яе, не адмаўляючы ў той жа час гістарычнай агульнасці Беларусі і Літвы як з Польшчай, так і з Расіяй. Гэты пункт гледжання Каліноўскага з'яўляецца яго зыходнай пазіцыяй у аналізе ўсіх пытанняў.

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, лл. 1—3.

Палемізуючы з рускімі прыгоннікамі і польскімі нацыяналістамі, Каліноўскі адмаўляе, што падрыхтоўка паўстання, стварэнне рэвалюцыйнай арганізацыі і паўстанне ў Беларусі і Літве з'яўляюцца справай рук Варшавы. Ён указвае, што дэманстрацыі, якія прайшлі ў Варшаве і іншых гарадах Царства Польскага ў выніку ўздыму польскага нацыянальнага руху, прывялі там да стварэння тайных рэвалюцыйных таварыстваў, на чале якіх стаў Цэнтральны камітэт. Прадстаўнікі гэтага ЦК прыехалі таксама ў Літву і Беларусь. У выніку іх дзейнасці і пад уплывам польскіх падзей у Вільні, Гродна, Мінску адбыліся дэманстрацыі пэўных колаў польскага насельніцтва. Гэтага Каліноўскі не адмаўляе. («Хвалявbooth ванні ў Царстве не маглі не мець уплыву на Літву»). Але ён падкрэслівае разам з тым, што дэманстрацыі, якія прайшлі пад лозунгам аднаўлення Польшчы ў граніцах 1772 г., не адлюстроўвалі сапраўдных пачуццяў беларусаў і літоўцаў, і дзейнасць агентаў Варшаўскага ЦК, нягледзячы на вонкавую шуміху, аказалася бясплоднай і не прывяла да стварэння колькі-небудзь значнай рэвалюцыйнай арганізацыі і, галоўнае, не закранула пачуццяў народа. («У Літве ўсё гэта разыгрывалася без ніякіх вынікаў»).

Мімаходам Каліноўскі раскрывае ўбоства і слепату царскіх улад у Беларусі і Літве, якія сканцэнтравалі ўсю сваю ўвагу на барацьбе з дэманстрацыйным рухам і не заўважылі як па ўсяму краю расла і мацнела рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя. Справа дайшла да таго, што ад'ютант генерал-губернатара Назімава Людвіг Звірждоўскі («Тапор») быў у той жа час старшынёй Літоўскага правінцыяльнага камітэта, які рыхтаваў сялянскую рэвалюцыю ў генерал-губернатарстве.

Каліноўскі ўказвае таксама прычыны няўдач варшаўскіх прадстаўнікоў і недахопы праграмы Варшаўскага ЦК. Не паглыбляючыся ва ўсе адценні той, запраўленай даволі вялікай доляй нацыяналізма, прапаганды, што ішла з Варшавы ў Вільню і Мінск, Каліноўскі дае агульную ацэнку праграме Варшаўскага жонда і лічыць яе нікуды непрыгоднай.

Ён падкрэслівае, што і памешчыкі і сяляне не былі задаволены маніфестам ад 22.I.1863 г. і занялі пазіцыю

чакання. Варшаўскі ЦК, аслеплены хлуслівай канцэпцыяй нацыянальнага адзінства, дзейнічаў, «не бачачы дзённага святла».

Каліноўскі выказвае жаль, што шумлівыя, але сацыяльна беззмястоўныя тэорыі на час захапілі польскі народ («маглі мець уплыў на запальчывы і схільны да захаплення характар жыхароў Царства Польскага»).

Далей Каліноўскі гаворыць, што Варшаўскі ЦК, не маючы цвёрдай апоры ў Беларусі і Літве, не дамовіўшыся з Літоўскім камітэтам, пачаў паўстанне не пад сцягам аграрнай рэвалюцыі, а з мэтай аднаўлення граніц 1772 г. Але беларускі і літоўскі народ не хацеў змагацца за аднаўленне граніц 1772 г.

Паўстанне, на думку Каліноўскага, пачалося заўчасна з-за правакацыйнага набору, з дапамогай якога царызм хацеў абяскровіць польскі вызваленчы рух і па віне кіраўніцтва, якое паддалося, як лічыў Каліноўскі, на царскую правакацыю.

Кіраўніцтва, рыхтуючы паўстанне, рабіла стаўку не на сялянскую рэвалюцыю, а на змову. Яно імкнулася расшырыць сетку змоўшчыкаў і не думала аб сувязі з сялянствам, аб прапагандзе сярод яго. Паўстанне пачалося заўчасна, без узгаднення з рэвалюцыянерамі Беларусі і Літвы і Расіі ў цэлым.

Як указвае Каліноўскі, пад сцяг, узняты варшаўскімі рэвалюцыянерамі ў Літве, адмовіліся стаць памешчыкі. Не задаволіў маніфест ад 22 студзеня 1863 г. і сялян, якія марылі аб атрыманні ўсёй зямлі. Маніфест, выпрацаваны, на думку яго аўтараў, для аб'яднання дзеля «нацыянальнай справы» ўсіх класаў і саслоўяў, на справе не задавальняў ні сялян, ні дваран. Вось чаму Каліноўскі і дакараў кіраўніцтва ў тым, што ўзнятае ў Польшчы паўстанне не вырашала аграрнага пытання і было амаль дарэмным кровапраліццем.

І, нарэшце, Каліноўскі дакарае кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы ў тым, што яно канчаткова загубіла справу свабоды, не выкарыстала нават тых магчымасцей, якія адкрываў маніфест 22 студзеня 1863 г.

Як вядома, пасля гібелі віднейшых рэвалюцыйных дэмакратаў кіраўніцтва паўстаннем перайшло ў рукі крайніх правых элементаў партыі «чырвоных» (А. Гілер,

О. Авейдэ), якія паддобрываліся да магнатаў, імкнуліся да пагаднення з імі, спадзяваліся цалкам на патрыятычныя пачуцці феадалаў і аддалі кіраўніцтва паўстаннем у рукі памешчыкаў, бо лічылі, што без «шляхты нічога не зробіш».

Каліноўскі піша, што памешчыкі, якія з'яўляліся ворагамі паўстання і лічылі сябе па традыцыі па-ранейшаму вяршыцелямі лёсу народаў, скарысталі згодніцкую тактыку «чырвоных» і сарвалі ажыццяўленне дэкрэта ад 22 студзеня 1863 г.

Нягледзячы на сваю многамесячную барацьбу з Варшаўскім жондам, рэвалюцыйныя дэмакраты Беларусі на чале з Каліноўскім прынялі рашэнне ўзняць паўстанне ў Беларусі і Літве і падтрымаць паўстаўшую Польшчу, разумеючы рэвалюцыянізуючае значэнне польскага паўстання ў барацьбе з царызмам. «Польская справа — гэта наша справа, гэта справа свабоды», — гаварыў К. Каліноўскі. Пазней член жонда Авейдэ прызнаў, што Літоўскі камітэт вырашыў падтрымаць паўстанне ў Царстве Польскім, «нягледзячы на свае процілеглыя нашым перакананні, нягледзячы на слабасць сіл Літвы (?) і без спрэчак з Варшавай» [1].

Стварылася надзвычай складанае становішча. Перад Каліноўскім і рэвалюцыйнымі дэмакратамі, якія групаваліся вакол яго (Л. Звіждоўскі, В. Врублеўскі, В. Малахоўскі, А. Мацкевіч, І. Ямонт, Т. Далеўскі, П. Чэрвінскі, В. Борзабагаты і інш.), паўстала задача ператварэння сялянскіх бунтаў у Беларусі і Літве ў арганізаванае сялянскае паўстанне. А для гэтага патрэбна было, абапіраючыся на дапамогу рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, падтрымліваць рэвалюцыйна-дэмакратычныя сілы сярод польскіх паўстанцаў, дабівацца расшырэння паўстання ў глыбіню Расіі.

У якасці першай меры неабходна было дабіцца рэалізацыі ўжо абнародаванай праграмы — маніфеста 22 студзеня 1863 г., зламаць супраціўленне яго ворагаў як у Літве і Беларусі, так і сярод членаў цэнтральнага ўрада Польшчы, а затым, зыходзячы з маніфеста ад 22 студзеня 1863 г., які абвясціў прынцыпы роўнасці і свабоды, раз-

---

[1] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22.

гарнуць барацьбу за дэмакратызацыю паўстання; дабівацца ў ходзе барацьбы поўнага ажыццяўлення спадзяванняў сялянства; павесці самую шырокую агітацыю ў народзе аб неабходнасці поўнага знішчэння асновы феадалізма — памешчыцкай зямельнай уласнасці, згуртаваць вакол сябе рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы паўстанцаў, узняць сялян на барацьбу за захоп памешчыцкай зямлі.

1 лютага 1863 г. Літоўскі правінцыяльны камітэт, узначальваемы К. Каліноўскім, аб'явіў сябе рэвалюцыйным урадам, ажыццяўляючым уладу на тэрыторыі Беларусі і Літвы, прыняўшы назву «Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі». У сваім маніфесце ён салідарызаваўся з асноўнымі ідэямі маніфеста Польскага рэвалюцыйнага ўрада ад 22 студзеня 1863 г.

Маніфест абвяшчаў ліквідацыю саслоўных прывілей, указваючы, што сяляне, мяшчане і ўсе асобы, незалежна ад веры і паходжання, свабодны, як старая польская шляхта; што сялянам на вечныя часы перадаюцца «без чыншаў і выкупу тыя землі, якімі яны да таго часу ўладалі».

Выклаўшы затым палажэнні аб надзеле беззямельных 3 моргамі зямлі і іншыя пункты дэкрэта ад 22 студзеня 1863 г., маніфест рэвалюцыянераў Беларусі спецыяльна заклікаў сялян «абараняць край» са зброяй у руках. «Хто не будзе паслухмяны гэтаму маніфесту, — гаварылася ў ім, — або ён пан, або мужык, або ўраднік, або хто іншы, будзе пакараны» [1].

Адначасова быў аддадзен загад прыступіць да стварэння паўстанцкіх атрадаў і пачаць шырокую кампанію па рэалізацыі ідэй маніфеста з мэтай прыцягнення шырокіх слаёў сялянства да барацьбы. Гэтыя крокі рэвалюцыйнага ўрада яшчэ больш узмацнілі сялянскае супраціўленне грабежніцкай рэформе, праводзімай царызмам.

У студзені і лютым 1863 г. генерал-губернатар Назімаў двойчы звяртаўся да сялян краю з напамінкамі «аб дабрадзейным дараванні ім гасударом імператарам свабоды». Аднак сяляне ўзмацнялі з кожным днём сваё супраціўленне. У студзені і лютым у Гродзенскім, Сакольм-

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, 1 экз., 1863 г. с. 23, ч. 16, л. 33.

скім, Брэсцкім, Слонімскім, Ваўкавыскім паветах сяляне цэлымі валасцямі адмаўляліся ад выканання ўсякіх павіннасцей і аказвалі супраціўленне войскам, пасланым на ўціхамірванне. Так, у Гродзенскім павеце сяляне адмовіліся ад работ. «Калі ж заўважаныя зачыншчыкі былі арыштаваны, то іншыя сяляне ўварваліся ў канцылярыю валаснога праўлення і адбілі арыштаваных» [1]. 4 лютага 1863 г. генерал-губернатар Назімаў аб'явіў Віленскую і Гродзенскую, а неўзабаве і іншыя губерні краю на ваенным становішчы.

Узброеныя дзеянні ў Беларусі, як аб гэтым сведчаць афіцыйныя данясенні ўлад, пачаліся прыкладна з другой дэкады студзеня 1863 г.

На працягу двух дэкад студзеня 1863 г. ішлі баі атрада генерала Манюкіна з паўстаўшымі сялянамі і паўстанцамі Рагінскага. Неўзабаве ў Кобрынскім павеце паяўляецца атрад Траугута, у Слонімскім — Міладаўскага, у Ваўкавыскім, Гродзенскім і Сакольскім вядзе паспяховыя баі атрад В. Врублеўскага.

У Беларусі дзейнічалі таксама атрады Нарбута і Віславуха, а ў Літве (Жмудзі) — атрады А. Мацкевіча, Б. Колышка, Длускага (Ябланаўскага), Лукашэнаса і рад іншых.

Так антыпрыгонніцкі рух сялян у Беларусі і Літве перарос к пачатку 1863 г. ва ўзброенае паўстанне супроць памешчыкаў. Апошнія шукалі паратунку ад сялянскага тапара ў гарадах, пад аховай царскіх улад. «Разнесліся чуткі, — пісаў адзін з мінскіх памешчыкаў, — што будуць рэзаць памешчыкаў... Некаторыя гаварылі, што самым небяспечным для памешчыкаў ёсць доктар Борзабагаты (член рэвалюцыйнай групы Каліноўскага. — *А. С.*), які жыве ў Навагрудку... Гэты чалавек сапраўды наганяў на мяне страх, гаварыў аб памешчыках з вялікім абурэннем: «ды загінуць яны ўсе ад нашых рук»[2]. «Апасенне сялянскіх выбухаў, — указвае памешчык О. Бохвіц, — тэрору рэвалюцыйнага і праследаванняў урада рабілі ў розумах паніку і маральную эпідэмію... Мяцеж па чарзе ўспыхваў у розных месцах»[3].

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ, с. 910, лл. 221—264.
[2] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 970, л. 158.
[3] Там жа, л. 213.

Паўстанне было пачата неарганізавана, не па адзінаму сігналу. З аднаго боку, стыхійны рух сялян перарастаў ва ўзброеныя сутыкненні, з другога — падзеі ў Польшчы і агульны ўздым нацыянальна-вызваленчага руху польскага народа пабуджалі найбольш патрыятычныя сілы з асяроддзя польскага дваранства і інтэлігенцыі брацца за зброю, змагацца разам з сялянствам, а таксама падтрымліваць атрады, якія перайшлі з Польшчы на тэрыторыю Беларусі.

Царскі ўрад рушыў на паўстанцаў велізарныя ваенныя сілы і разгарнуў дэмагагічную кампанію з мэтай убіць клін паміж сялянствам і дэмакратычнымі сіламі польскага руху. Сялянскі рух унушаў сур'ёзную трывогу царскім уладам. Узброеныя сяляне, на чале якіх часта стаялі рэвалюцыйныя дэмакраты з ліку студэнтаў і былых афіцэраў, грамілі панскія маёнткі, знішчалі асобныя атрады карнікаў, парушалі камунікацыі і г. д. Генерал Манюкін, пасланы для падаўлення паўстаўшых сялян, пісаў: «Няма надзеі на колькі-небудзь легальны выхад сялянскай справы. Інсургенты, якія займалі якую-небудзь мясцовасць, *урачыста спальвалі законченыя ўстаўныя граматы і аб'яўлялі сялянам, што памешчыцкія землі належаць ім»* (падкрэслена намі. — *А. С.*). Манюкін патрабаваў узмацніць войскі, пасланыя для падаўлення паўстання, і ў процівагу рэвалюцыйнай прапагандзе, якая прапанавала, паводле яго слоў, сялянам «дарма зямлю і ўсё, аб чым заўсёды мараць сяляне», зрабіць значныя ўступкі ў карысць апошніх. «Час не церпіць, — пісаў генерал, — трэба хутчэй дзейнічаць некаторымі рэформамі... надзвычай неабходна дараванне новых правоў эканамічных і юрыдычных сялянам у шкоду тутэйшаму дваранству» [1].

Не чакаючы афіцыйнага дазволу ўрада, генерал Манюкін, які дзейнічаў у той час супроць паўстанцаў Гродзенскай губерні, праявіў незвычайныя дэмагагічныя здольнасці і імкнуўся паралізаваць дзеянні рэвалюцыйнай партыі. У пагоні за атрадамі Врублеўскага карны

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2, выд. 1940 г., стар. 448. Падобныя рапарты былі пасланы ў сталіцу Віленскім генерал-губернатарам Назімавым і жандарскім палкоўнікам Лосевым.

атрад Манюкіна ўвайшоў 3 лютага ў мястэчка Рудкі, дзе напярэдадні паўстанцы знішчылі казацкі атрад, які ўціхамірваў сялян. Генерал загадаў сабраць на плошчы сялян і ў прамове перад імі заявіў: «Палі, лугі, лясы — вашы. Вам усё цар аддаў. Ніякай павіннасці, паншчыны не адбывайце, нікому грошай не плаціце. А што ўстаўныя граматы не прынялі, добра зрабілі. Гасудар вам сваю грамату прышле, а гэтыя, што ад паноў, не прымайце».

У страху перад растучым сялянскім рухам цар 1 сакавіка 1863 г. прапанаваў сенату адмяніць «усе абавязковыя пазямельныя адносіны паміж памешчыкамі і населенымі на іх землях часоваабавязанымі сялянамі» ў большасці паветаў Беларусі і Літвы. Было таксама аб'яўлена аб зніжэнні на 20% выкупных плацяжоў. [1]

Для больш хуткага азнаямлення сялян з гэтай новай царскай «міласцю» войскам, пасланым на падаўленне паўстання, «было загадана пры руху аб'явіць гэтую навіну ва ўсіх паселішчах, якія ляжаць на шляху і ўсім сустрэчным сялянам... Мужыкі, — як успамінаюць карнікі, — выслухоўвалі гэта неяк здзіўлена і недаверліва» [2].

Сяляне не былі задаволены маніфестам 1 сакавіка, таму што ён пакідаў зямлю ў памешчыкаў, не звяртаў сялянам нават адрэзкі, захоўваў выкуп. Таму з кожным днём паўстанне шырылася. К вясне 1863 г. губерні Гродзенская, Мінская, Віленская, Ковенская былі ахоплены полымем сялянскага паўстання. Паўстанцкія атрады з'явіліся таксама ў Магілёўскай і Віцебскай губернях.

Характарызуючы дзейнасць рэвалюцыйнага ўрада, Я. Гейштар сведчыць, што ён «прыняўся за кіраванне краінай, даваў водзывы і перадрукоўваў так званы маніфест аб дармовым надзеле сялян зямлёй... Іх напрамак,— гаворыць ён аб дзейнасці членаў рэвалюцыйнага ўрада,— не ўзгадняўся з маімі перакананнямі. Я, колькі мог, стараўся ўгаварваць устрымацца, але гэта з кожным днём рабілася больш цяжка, самая высакародная частка нашага юнацтва, якая вярталася з універсітэтаў з-за граніцы, з гімназій, не магла заставацца спакойнай, калі бачыла барацьбу ў Царстве Польскім. Калі б памешчыкі не пры-

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2, стар. 446.
[2] «Исторический вестник», 1898 г., т. 73, стар. 836.

нялі ўдзелу ў паўстанні, то маніфест аб надзеле зямлёй, паўсюдна аб'яўлены, паставіў бы іх у адкрытую барацьбу з моладдзю... Нарэшце, еўрапейская прэса і весткі, якія прывозіліся з-за граніцы, да таго былі спрыяльныя нашай справе, што людзі слабыя і людзі, якія ўмеюць заўсёды падрыхтаваць сабе шчаслівы выхад, дакаралі памяркоўную частку дваранства ў бяздзейнасці. Атрады паяўляліся адзін за другім... усякую хвіліну можна было чакаць выбуху. Я бачыў, што тагачасным напрамкам будуць гінуць самыя высакародныя людзі без карысці і нават без захавання характару вайны народа за незалежнасць. Я адчуваў, — піша Я. Гейштар, — што паўстанне ў руках людзей маіх перакананняў, калі не прынясе канчатковых вынікаў, усё-такі застанецца верным традыцыі мінулай нашай гісторыі» [1].

У самы адказны момант барацьбы, калі рэвалюцыйная арганізацыя Беларусі і яе Часовы ўрад атрымалі першыя поспехі ў прыцягненні сялянскіх мас да паўстання, калі адкрываліся перспектывы сапраўднай сялянскай рэвалюцыі, у спіну гераічнай моладзі, якая ішла на чале руху, быў нанесен здрадніцкі ўдар.

У сярэдзіне сакавіка 1863 г. у Вільні сіламі памешчыкаў, якія дамовіліся з агентамі Варшаўскага жонду, быў зроблен дасканала прадуманы і падрыхтаваны пераварот.

Узнімаючы паўстанне ў Літве і Беларусі, рэвалюцыйныя дэмакраты разлічвалі, што яно пойдзе па аграрнаму шляху, будзе сур'ёзнай падтрымкай паўстання ў Польшчы і пачаткам рэвалюцыі ў Расіі. Аднак Варшаўскі жонд працягваў заставацца глухім да патрабаванняў сялянскіх мас і, абапіраючыся на памешчыкаў Беларусі і Літвы, павёў упартую барацьбу супроць групы Каліноўскага, якая ўзнімала сялянскія масы. Памешчыкаў узначальвалі Я. Гейштар, А. Аскерка, А. Еланскі, Ф. Далеўскі і інш. Яны былі праціўнікамі рэвалюцыйных метадаў барацьбы, таму што гэта моў «хвалявала краіну ў час самых важных рэформ» [2]. Калі Літоўскі камітэт заклікаў да паўстання, яны вырашылі сарваць яго. Гейштар пазней паказаў, што ў пачатку 1863 г. «Еланскі, які

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 23, ч. 314, лл. 32, 33, 34.
[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 36.

вярнуўся з Варшавы, перадаў просьбу тамашніх (г. зн. памешчыкаў Царства Польскага. — *А. С.*) падтрымліваць спакой, і ён, Гейштар, разам з Еланскім і Аскеркам, заклікаўшы Далёўскага, умовіліся паміж сабой як мага далей устрымліваць успышкі. Так прайшлі студзень і люты, але з кожным днём становішча рабілася больш небяспечным, паўстанне ўзрастала, а ўплыў яго, Гейштара, і яго таварышаў змяншаўся. У самай Ковенскай губерні, дзе ён, Гейштар, меў даволі ўплыву, пачалі з'яўляцца ўзброеныя партыі» [1]. А. Еланскі паказаў, што «не толькі не спачуваў паўстанню, а прадбачыў, як і большая частка памешчыкаў, усе сумныя вынікі, якія напаткалі край. З блізкімі знаёмымі А. Аскеркам, Я. Гейштарам і Ф. Далеўскім стараўся ўплывам сваім не дапусціць узбуджэння ў краі беспарадкаў, таму што ў гэты час партыя «чырвоных» даволі яўна імкнулася парушыць спакой і з гэтай мэтай раскідваліся ад яе плакаты. Учынкі гэтай партыі дайшлі да такой крайнасці, што нават Варшаўская «чырвоная» партыя знаходзіла іх заўчаснымі, і каб спыніць «чырвоных», быў прыслан з Варшавы Н. Дзюларан. Даведаўшыся, што Дзюларан мае права зусім утрымліваць дзеянні «чырвонай» партыі, яны сыйшліся з ім [2] і ўтварылі камітэт, спачатку ў духу зусім мірным, каб па магчымасці паралізаваць выхадкі «чырвоных»... Камітэт гэты быў зацверджан Варшаўскім жондам і назван «Упраўленне, загадваючае правінцыямі Літвы». Але «чырвоныя», нягледзячы на процідзеянні заснаванага камітэта, працягвалі тайна праводзіць свае намеры, і без паўнамоцтваў камітэта з'явіліся першапачатковыя атрады паўстанцаў: Нарбута, Віслауха і іншых» [3].

Аб гэтым жа сведчаць і ўспаміны Я. Гейштара. «8-га лютага,— піша ён,— адбылося пасяджэнне Камітэта... Усе спробы ўзняць у нашых правінцыях узброены рух былі рашуча адхілены»[4].

---

[1] ЦДГА Літ. ССР, ф. 439, с. 27, л. 21.

[2] Авейдэ, з аднаго боку, сцвярджаў, што «наш агент Н. Дзюларан, адцёрты чырвонымі літоўцамі, паспеў зблізіцца з белымі без усякага ў тым загаду з Варшавы» (ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22), з другога, што «Камітэт Віленскі... не меў ніякага давер'я ў нас» (ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1839, л. 93).

[3] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 36, л. 17.

[4] Я. Гейштар. «Pamietniki z lat 1857—1865 гг.» m. 1, стар. 225.

З мэтай зрыву паўстання створаны памешчыцкі цэнтр пачаў назначаць па ўсяму краю сваіх прадстаўнікоў, каб вырваць у рэвалюцыйных дэмакратаў кіраўніцтва на месцах. Важныя даныя наконт гэтага мы знаходзім у паказаннях буйнога памешчыка Навагрудскага павета К. Кашыца. Ён указвае, што ў пачатку лютага 1863 г. ён атрымаў ад Гейштара і Еланскага даручэнне арганізаваць у сябе ў павеце барацьбу з паслядоўнікамі Каліноўскага і адхіліць іх ад кіраўніцтва. «Калі я хацеў адмовіцца ад гэтага назначэння, то Еланскі аб'явіў мне, што ў адваротным выпадку доктар Борзабагаты будзе назначан на маё месца. Ведаючы да якіх вынікаў павядзе назначэнне начальнікам Борзабагатага, я адважыўся прыняць прапануемую пасаду, каб хоць крыху стрымліваць рэвалюцыйныя імкненні Борзабагатага і падобных яму асоб. Доктар Борзабагаты, парывы якога, як мне здавалася тады, нават сам камітэт стрымліваў, быў мне папярэднік, як камісар Навагрудскага павета... Мне здавалася, што Еланскі, які дзейнічаў такім чынам, хацеў толькі выканаць часткова патрабаванне рэвалюцыйнай партыі, але на самой справе быў такіх жа перакананняў, як і я. Прыехаўшы ў Навагрудак для спаткання з Борзабагатым, я паведаміў яму аб маёй намінацыі і на яго запытанне, калі трэба было пачынаць паўстанне, я яму сказаў — пачакаць да мая месяца. Ён мне на гэта з незадавальненнем сказаў: «Я ўжо даволі стрымліваю. У Навагрудку 80 чалавек, якіх далей стрымліваць немагчыма, а ў Слоніме 14 артылерыйскіх афіцэраў (3-й артылерыйскай брыгады.— *А. С.*) толькі чакаюць сігналу, калі адкладваць далей, то іх перавядуць у другія палкі, тады перастануць мець да мяне давер'е, ды і я між іншым страчу давер'е ў камітэце». На гэта я сказаў: «Калі ёсць бязмозглыя, якія хочуць у што б там ні стала загубіць сябе,— няхай яны гінуць, толькі б не губілі другіх. Шайка Рагінскага ў Ляхавіцкіх лясах, няхай ідуць да яе». Гэтым спосабам я хацеў адчапіцца ад хваляванняў у Навагрудскім павеце, але Борзабагаты, які адгадаў мой намер, мне іранічна заўважыў: «Як я бачу, вы жадаеце, каб зусім не было паўстання ў Навагрудскім павеце» [1].

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 970, лл. 106, 107.

Прыведзеныя факты гавораць, што група памешчыцка-буржуазных лібералаў, праціўнікаў карэнных пераўтварэнняў, спрабавала спачатку не дапусціць паўстання, сарваць намаганні рэвалюцыйна-дэмакратычных груп, узначаліць рух сялян. А калі гэта не ўдалося, вырашыла абезгаловіць барацьбу, захапіць кіраўніцтва паўстаннем, накіраваць яго па бяспечнаму для сябе шляху. Іншыя формы барацьбы з рэвалюцыяй былі мала дзейснымі, а сялянскі рух, які ўзнімаўся, пагражаў знішчыць ліберальна-манархічны блок. Варшаўскі жонд, які лічыў памешчыкаў галоўнай сваёй апорай, мог толькі вітаць такі крок лібералаў у Беларусі і Літве.

Тут яшчэ раз выяўляецца прынцыповая розніца мэт Варшаўскага нацыянальнага камітэта і групы Каліноўскага.

Варшаўскі камітэт звязваў задачу падрыхтоўкі паўстання з аднаўленнем ранейшых граніц Рэчы Паспалітай і імкнуўся ў той жа час захаваць аснову феадалізма — памешчыцкую ўласнасць.

Група Каліноўскага падрыхтоўвала аграрную рэвалюцыю, стаяла за знішчэнне памешчыцкага землеўладання.

Варшаўскі камітэт у аснову сваёй дзейнасці паклаў арганізацыю змовы ў адрыве ад народа, без сувязі з ім. Група Каліноўскага ўсяляк імкнулася звязацца з сялянствам, абаперціся на яго, прыцягнуць яго да справы падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем.

Варшаўскі камітэт звяртаўся да ўсіх класаў і саслоўяў, апеліраваў у тым ліку і да сялян у імя «нацыянальнага адзінства», а не для абароны яго інтарэсаў.

Група Каліноўскага, наадварот, у сваіх адозвах гаварыла ад імя сялян, абараняла інтарэсы сялян. Аўтар яе адозваў называе сябе мужыком з-пад Вільні і тым самым падкрэслівае сваю непарыўную сувязь з сялянствам.

Варшаўскі камітэт у сваіх адозвах абвяшчаў фармальную роўнасць саслоўяў і нацый, а на справе ўшчамляў інтарэсы тых і другіх. Група Каліноўскага, наадварот, не спынялася на фармальнай роўнасці, імкнулася стварыць роўнасць маёмасці шляхам рэвалюцыйнага захопу памешчыцкай зямлі і раздзелу яе сялянамі паміж

сабой, а таксама стварыць умовы для сапраўды свабоднага вырашэння нацыяй свайго лёсу.

Варшаўскі камітэт, канцэнтруючы ўладу ў сваіх руках, не дапускаў удзелу народа (сялянства) у кіраўніцтве паўстаннем, адціскаў на задні план асоб, якія выказвалі волю народа, а затым наогул скаціўся ў ходзе барацьбы да дыктатуры і не лічыўся з воляй народа.

Група Каліноўскага, наадварот, не лічыла сябе вяршыцелем лёсу народа, не ігнаравала яго, а падкрэслівала права саміх сялян вырашаць пытанні па-свойму, у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі.

Група Каліноўскага выступала як частка агульнарасійскай рэвалюцыі і абапіралася на падтрымку «Зямлі і волі». Варшаўскі камітэт па сутнасці ігнараваў сілы апошняй, сканцэнтраваныя ў Польшчы.

Група Каліноўскага, у адрозненне ад Варшаўскага камітэта, адстайвала праграму рэвалюцыйнага знішчэння феадальнага базісу і абслугоўваючай яго самадзяржаўна-прыгонніцкай надбудовы з усімі яго параджэннямі, імкнулася расчысціць месца для стварэння вольным народам зусім новых дэмакратычных грамадскіх і дзяржаўных парадкаў. Гэта была праграма буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, распрацаваная М. Г. Чарнышэўскім. Ідучы ўслед за ім, Каліноўскі стаяў на галаву вышэй усіх дзеячоў паўстання 1863 г. у Польшчы, Беларусі і Літве. К. Каліноўскі, вядома, хацеў свабоды польскаму народу таксама, як і Чарнышэўскі і Герцэн. Але ён ішоў да вызвалення нацый шляхам аграрнай рэвалюцыі. Вось чаму Варшаўскі камітэт падтрымліваў памешчыкаў Літвы ў іх барацьбе з Каліноўскім і дапамог ім стварыць свой цэнтр па кіраўніцтву паўстаннем з мэтай зрыву работы групы Каліноўскага.

На некаторы час у Беларусі і Літве сталі два цэнтры паўстання. Літоўскі правінцыяльны камітэт, у якім усё большую ролю адыгрываў Каліноўскі, імкнуўся ўзмацніць паўстанне і дэмакратызаваць яго, а група Гейштара — процідзейнічаць яму. Аднак, нягледзячы на гэтае процідзеянне, з'яўляліся ўсё новыя і новыя атрады. Калі група Гейштара паспрабавала сарваць у Віленскай губерні фарміраванне атрадаў Віславуха, гэта выклікала

такое абурэнне, што «Віславух хацеў павесіць Ф. Далеўскага на першай елцы» [1].

Паколькі Літоўскі правінцыяльны камітэт пад уплывам Каліноўскага ўсё больш і больш імкнуўся абаперціся на сялянства і на глебе гэтага ўступаў ва ўсё ўзрастаючы канфлікт з Варшаўскім жондам, апошні вырашыў любымі сродкамі звергнуць Літоўскі камітэт і перадаць уладу ў рукі ліберальнай групы Гейштара. К сярэдзіне сакавіка 1863 г. быў падрыхтаван пераварот. Гейштар пазней пісаў: «У гэты час у Вільні кіраваў камітэт, які не меў ніякага ўплыву (аднак уплыву самога Гейштара не хапала, каб перашкодзіць камітэту ўзмацняць паўстанне. — *А. С.*), не ведаў краіны, натхнёны няправільнымі аб сіле народнага паўстання паняццямі, меркаваў, што быццам бы развіццю народнай вайны перашкаджаюць памешчыкі... Дзюларан, які бачыў усю нежыццяздольнасць гэтага камітэта, знаходзіў неабходным мець у ім асоб больш уплывовых, доўга ўгаворваў яго, Гейштара, Аскерку і Еланскага, а сам часта ездзіў у Варшаву... Калі яны, нарэшце, у палавіне сакавіка згадзіліся, ён прывёз з Варшавы наказ закрыць ранейшы камітэт, прыняць ад яго пячатку і зрабіць новы, але ўжо пад назвай «Аддзел, загадваючы правінцыямі Літвы»[2].

Член жонда Авейдэ пазней па гэтаму пытанню даў наступныя сведчанні: «У палавіне лютага Дзюларан прыехаў у Варшаву і падказаў Баброўскаму[3] аб неабходнасці роспуску існуючага правінцыяльнага камітэта і выкарыстаць гатоўнасць белых (г. зн. групы Гейштара. — *А. С.*) перадаць ім працы стварэння і кіраўніцтва

---

[1] В. Ратч. Указ. тв., т. 1, стар. 195.

[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 36.

[3] Стэфан Баброўскі быў адным з кіраўнікоў рэвалюцыйнага крыла партыі «чырвоных», быў блізкі да рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, актыўна змагаўся са спробамі памешчыкаў захапіць кіраўніцтва паўстаннем. Неўзабаве загінуў ахвярай правакацыі ад рукі падасланага забойцы. Авейдэ, відавочна, скажае сапраўднасць, аб'яўляючы яго ініцыятарам роспуску Літоўскага правінцыяльнага камітэта і адхілення К. Каліноўскага ад кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве.

рэвалюцыяй у краі»[1]. Прычынай, якая, паводле слоў Авейдэ, прымусіла Баброўскага прыняць прапанову Дзюларана, была «старая аксіёма, што без шляхты ніхто нічога не зробіць у Літве». Аднак нават з сведчанняў Гейштара і яго аднадумцаў відаць, што прычынай, якая прымусіла памешчыкаў Беларусі прыняць удзел у паўстанні, стаць «патрыятычнымі», былі дзеянні рэвалюцыйных дэмакратаў, што імкнуліся арганізаваць сялянскую рэвалюцыю. Буржуазна-памешчыцкія лідэры былі пастаўлены перад неабходнасцю прыняць удзел у паўстанні і накіраваць яго па нацыяналістычнаму шляху. «Ператаваць тое, што было магчыма»,— як выказаўся Гейштар»[2].

Яскравае пацверджанне гэтага вываду знаходзім у пісьме аднаго з сяброў Гейштара члену Віленскай следчай камісіі Н. В. Гогелю. «Вы мне гаворыце, — піша аўтар пісьма,— што нават у здаровай і разважлівай партыі народа паміж памешчыкамі, дзе звычайна ўрад шукае асновы захаванню, следчыя камісіі знайшлі столькі і столькі адзнак вінаватасці. Я вам адкажу: бачачы сябе вымушаным выбіраць *паміж безданню сацыялізма і даносам, схапілі самі, як некалі Міраба, руль кіравання, каб разам авалодаць ім* (г. зн. паўстаннем. — *А. С.)* і пакарыць яго... Вось дакладная карціна становішча гэтых крамольных памешчыкаў... Выратуй мяне бог змешваць з імі якіх-небудзь Каліноўскіх (Кастуся), якіх-небудзь Борзабагатых... На няшчасце, гэтыя недастойныя апосталы вельмі доўга былі цярпімымі. Больш ранняе ачышчэнне грамадства пазбавіла б ад многіх няшчасцяў. Злачынныя замахі нашых утапістаў таксама лёгка вылечылі б, калі б мы заўсёды мелі Мураўёвых, каб задушыць іх у самым пачатку»[3].

Подлая прырода лібералаў бачна ў гэтай заяве як на далоні. Удзел іх у паўстанні быў формай барацьбы з рэвалюцыйнымі дэмакратамі. Характэрна, што пераварот быў зроблен у сакавіку, калі ў сувязі з увядзеннем устаўных грамат ажывіўся сялянскі рух. Былі выпадкі прамой

---

[1] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22, а таксама ЦДА Літ. ССР, ф. 439. с. 1839, лл. 92—94.

[2] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1839, л. 23.

[3] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 644.

здрады і выдачы ўраду рэвалюцыйных дзеячоў памешчыкамі[1].

У сярэдзіне сакавіка 1863 г. зацверджаны жондам «Аддзел, які кіруе правінцыямі Літвы», аб'явіў аб роспуску Літоўскага правінцыяльнага камітэта. У сваіх успамінах Гейштар, вельмі тэндэнцыйна выкладаючы гэтыя падзеі, піша, што «перадавалі нам функцыі С. Чаховіч і К. Каліноўскі. Абодва пакрыўдзіліся на Дзюларана. Каліноўскі нават напісаў пратэст... у якім скардзіцца, што кіраўніцтва паўстаннем даручаецца дваранству» [2]. «Выганяемыя члены заявілі, — піша генерал Ратч, — што яны падобнага рашэння Варшавы не прызнаюць і што Варшава не мае ніякага права імі распараджацца, але ім было катэгарычна аб'яўлена, што ў выпадку непадпарадкавання імёны іх будуць апублікаваны ў газетах і што яны, з аднаго боку, падвергнуцца адказнасці перад урадам, а з другога... выставяць сябе здраднікамі народнай справе. Адзін Каліноўскі выказаў пратэст на імя жонда. Дзюларан паклаў гэты пратэст у кішэню і пранасіў там больш трох месяцаў» [3].

Член жонда Авейдэ, таксама тэндэнцыйна выкладаючы сакавіцкія падзеі ў Вільні, піша: «Загадана было членам старога камітэта пакінуць іх дзейнасць. Яны некаторы час праціўліся, але потым здаліся, напісаўшы пратэст»[4]. Авейдэ ўмоўчвае нават аб правакацыйнай пагрозе выдачы імён членаў Літоўскага камітэта царскім жандарам і скрывае, што ў пратэсце дзеянні жонда асуджаліся як гібельныя для паўстання. Нажаль, пакуль не ўдалося адшукаць поўны тэкст пратэсту, напісанага Каліноўскім. Вядома толькі выкладанне зместу гэтага дакумента, даныя О. Авейдэ ў паказаннях следчай камісіі.

---

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ ПА, ф. 378, с. 29, лл. 52, 53.

[2] Я. Гейштар. Указ. тв., т. 1, стар. 234.

[3] В. Ратч. Указ. тв., т. 1, стар. 198.

[4] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22. У другім паказанні ён указвае: «але па загаду ЦК здаў і сваю арганізацыю і самога сябе новаўстаноўленай у Вільні рэвалюцыйнай уладзе. Каліноўскі адзін пратэставаў супроць «шляхты». Пратэст гэты, аднак, Дзюларан у Варшаву не прыслаў». ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 189, л. 93.

«З утварэннем аддзела Гейштара,— піша Авейдэ,— правінцыяльны камітэт не хацеў здацца некаторы час і ўступіў толькі па нашаму загаду, выдаўшы наследнікам сваім паперы, тайны і інш. Уступіўшы аднак жа, Каліноўскі зрабіў ад імя сваіх таварышаў пратэст пры дапамозе, здаецца, Дзюларана і Аскеркі і прасіў пераслаць яго ў Варшаву Цэнтральнаму камітэту. Пратэст між іншым гаварыў, «што правінцыяльны камітэт уступае і слухаецца главу паўстання, таму, па-першае, што не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі раздзелаў і нязгод, і, па-другое, таму, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў. Аднак жа члены камітэта лічаць абавязкам сваім аб'явіць разам з тым, **што яны лічаць гібеллю і здрадай рэвалюцыі** (падкрэслена Авейдэ. — *А. С.*) перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў—заўсёдашніх ворагаў і рэвалюцыйнага руху наогул і пачатку Маніфеста ад 22 студзеня ў асаблівасці, што яны (г. зн. Каліноўскі і сябры) пратэстуюць супроць такога рашэння Цэнтральнага камітэта, скідаюць з сябе ўсю адказнасць перад будучым за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыі паўстання кіраўніцтва Літоўскай справай». «Ні Дзюларан, ні іншыя члены Віленскага аддзялення не прадставілі ў Варшаву гэтага пратэсту, і мы даведаліся аб ім толькі потым, калі Дзюларан пасварыўся са сваімі новымі сябрамі. Знаходзячыся ў Вільні я даведаўся, што па патрабаванню Дзюларана Каліноўскі, як аўтар пратэсту, быў аддадзен пад суд новага аддзялення, пачата было нават маленькае па гэтаму поваду следства; аднак жа члены аддзялення, разважыўшы справу, пакінулі бескарысныя спрэчкі і памірыліся неяк з Каліноўскім. Ён быў у выніку гэтай згоды назначаны Гродзенскім камісарам»[1].

У сваім пратэсце Каліноўскі ўказвае Варшаўскаму жонду, што апошні ў страху перад сялянскай рэвалюцыяй зайшоў так далёка, што спрабуе абапірацца на людзей, якія не падзяляюць нават праграму жонда.

---

[1] Партархіў ЦК КПБ, ф. 4, с. 426. Паказанні О. Авейдэ.

Каліноўскі лічыў, што яго група была адхілена ад кіраўніцтва паўстаннем па-здрадніцку, і аб'явіў[1] Варшаўскі ЦК ініцыятарам і віноўнікам гібелі паўстання ў Літве. У сваёй запісцы ад 28.II. 1864 г. ён піша: «Створаны ў Вільні **ініцыятываю Варшавы** (падкрэслена мною. — *А. С.*) аддзел кіравання Літвы прыняў на сябе весці справу паўстання, заяўляючы аб гэтым уголас».

У работах аб паўстанні 1863 г. да апошняга часу не рабілася даследавання прычын роспуску Літоўскага правінцыяльнага камітэта. У лепшым выпадку ўказвалася толькі на правакацыйную пагрозу Варшаўскага жонда паведаміць склад камітэта царскім агентам. Зразумела, што гэтага тлумачэння зусім недастаткова. Сама па сабе гэтая пагроза не магла быць асабліва дзейснай, не магла зламаць або запалохаць рэвалюцыянераў, падобных Каліноўскаму. Да таго ж неабходна ўлічваць, што Каліноўскі хаваўся ад царскай паліцыі яшчэ з кастрычніка 1862 г., таму што ёй было ўжо вядома аб яго рэвалюцыйнай дзейнасці. Другі член камітэта—Длускі таксама з канца 1862 г. хаваўся ад царскай паліцыі, таму што на яго быў зроблен данос здраднікам. Такім чынам, два дзейных члены камітэта ўжо былі вядомы царскаму ўраду як рэвалюцыянеры. Пагроза апавяшчэння складу камітэта ніяк не магла быць прычынай яго роспуску. Прычыну гэтага трэба шукаць глыбей. У сваім пратэсце Каліноўскі паведамляе, што Літоўскі камітэт уступае, таму што «не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў».

Каліноўскі, які абараняў інтарэсы сялянства, не мог абаперціся на яго і адбіць напор жонда і яго прыхільнікаў у Беларусі і Літве. Каліноўскі аказаўся адхіле-

---

[1] Ратч. Указ. тв., стар. 208. — В. Кардовіч дапускае грубую памылку, сцвярджаючы, што Каліноўскі і яго прыхільнікі, займаючыся спрэчкамі з памешчыкамі, не падрыхтавалі край да паўстання, не пайшлі далей тэарэтычных праектаў, не выйшлі на дарогу прамых практычных дзеянняў, што быццам бы пачатак паўстання прывёў Каліноўскага ў адчай і песімізм, і ён пайшоў на кампраміс са шляхтай, вынікам чаго і з'явілася арганізацыя аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы, у распараджэнне якога і аддаў сябе Каліноўскі (Указ. тв., стар. 155—160).

ным ад кіраўніцтва, бо сялянства не ўзнімалася да разумення яго ідэй, яго тактыкі ў рашучыя хвіліны барацьбы. Такім чынам, стыхійнасць сялянскага руху, адсутнасць у ім палітычнай свядомасці былі асноўнай прычынай, якая перашкаджала Літоўскаму правінцыяльнаму камітэту быць «дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў». У барацьбе з кіраўніцтвам польскага нацыянальнага руху Каліноўскі і яго сябры не маглі абаперціся ў належнай меры на дапамогу рускага вызваленчага руху, таму што з мая 1862 г. у Цэнтральнай Расіі пачалася рэакцыя, якая ўсё ўзмацнялася і працягвалася некалькі год.

Нарэшце, як адзначалася вышэй, у самім Літоўскім камітэце не было адзінства. Супярэчнасці ў ім адлюстроўвалі не толькі працэс пераходу некаторых дваранскіх рэвалюцыянераў на пазіцыі рэвалюцыйнага дэмакратызма пад уплывам сялянскага руху, які ўзмацняўся, але рознагалоссі паміж абаронцамі сялянства і выразнікамі інтарэсаў малазямельнай і беззямельнай польскай шляхты. Нават Длускі (Ябланоўскі), які выклікаў нянавісць Варшаўскага ЦК за ўпартае адстайванне самастойнасці Літоўскага камітэта[1], не падзяляў поўнасцю ідэі сялянскага дэмакратызма. Мацкевіч дакараў Длускага і рад іншых літоўскіх «чырвоных» за ігнараванне інтарэсаў сялянства. Ён указваў, што Длускі абараняў інтарэсы шляхты, абапіраўся на яе і зусім грэбаваў сялянствам[2]. Гэтыя рознагалоссі аслаблялі Літоўскі камітэт, падрывалі яго сілы ў барацьбе з Варшаўскім ЦК.

---

[1] Член жонда Авейдэ ў раздражненні піша: «Длускі быў упартым, цвёрдым да закасцянеласці літвінам, ды прытым чалавек тупы, які губляецца ў дробязях... Згода паміж намі не адбылася» (ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22). На самай справе Длускі, з'яўляючыся ў перыяд паўстання начальнікам аднаго з паўстанцкіх атрадаў, якія дзейнічалі ў Ковенскай губерні, вёў узброеную барацьбу з царскімі войскамі каля 2-х год, што гаворыць аб высокіх яго асабістых якасцях.

[2] «Я пазнаёміўся, — піша Мацкевіч, — з Длускім, двума нейкімі польскімі эмісарамі, Колышкам, Талочкам і іншымі маладымі дваранамі з Вільні і Коўна. Усе яны не вельмі мне давяралі. Для камандавання сабраным народам запрасіў Длускага, але ён жадаў больш быць начальнікам над шляхтай і, грэбуючы сялянамі, перадаў начальства над імі мне. Я стаў на чале народа» (А. Старажэнка, «Ксёндз Мацкевіч», стар. 20).

Сказанае ні ў якай меры не азначае, што правакацыйная пагроза Варшаўскага жонда выдаць імёны членаў Літоўскага камітэта царскаму ўраду не зрабіла ўплыву на падзеі, аднак лічыць яе прычынай адступлення Каліноўскага, значыць, па сутнасці справы, абвінавачваць яго ў баязлівасці. Гэтая правакацыя хутчэй за ўсё зрабіла ўплыў на падзеі ў тым сэнсе, што некаторыя з членаў рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы, якім быў чужы мужыцкі дэмакратызм, з прычыны пагрозы жонда адмовіліся ад барацьбы за самастойнасць Літоўскага камітэта.

Звергнуўшы Літоўскі правінцыяльны камітэт, памешчыцкая група Гейштара аб'явіла пастановы яго страціўшымі сілу [1].

Гейштар і К° асабліва апасаліся вынікаў барацьбы Каліноўскага за самастойнасць кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве, адстайвання ім сацыяльных і нацыянальных правоў беларусаў і літоўцаў. Была нават выдана напісаная Я. Гейштарам і А. Аскеркам спецыяльная брашура пад загалоўкам «Голас літоўца», у якой рэзка асуджаліся «ўсякія тэорыі аб самастойнай дзяржаўнасці Літвы і Русі», а дзеянні Каліноўскага, што змагаўся за дэмакратызацыю паўстання, кваліфікаваліся як «здрадніцтва і здрада» [2].

Захапіўшы цэнтральнае кіраўніцтва ў свае рукі, Гейштар пачаў назначаць кіраўнікамі рэвалюцыйных арганізацый па ўсяму краю сваіх стаўленікаў. Так, замест В. Малахоўскага на чале Віленскай гарадской арганізацыі быў пастаўлен памешчык Аляксандр Аскерка. Віленскую губернскую арганізацыю ўзначаліў князь Н. Гедройц. У Навагрудскім павеце ад кіраўніцтва спраў быў адхілены энергічны рэвалюцыянер доктар Борзабагаты. Замест яго быў назначан памешчык К. Кашыц. Дзейнасць апошняга яшчэ раз яскрава пацвярджае, што страх перад сялянскім рухам прымусіў ліберальных памешчыкаў паўтарыць манеўр Мірабо, што іх удзел у паўстанні зводзіўся да барацьбы з рэвалюцыйнымі дэмакратамі і да чакання інтэрвенцыі французскіх войск. Кашыц быў буйным па-

[1] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 36.
[2] Ю. Кавальскі. Указ. тв., стар. 52.

мешчыкам, які двойчы выкарыстоўваў войскі для ўціхамірвання сялян сваіх маёнткаў пры ўвядзенні ўстаўных грамат. Ён сістэматычна і ўпарта змагаўся з рэвалюцыянерамі і імкнуўся ў што б там ні стала не дапускаць паўстання. Так у лютым 1863 г. на сходзе памешчыкаў Навагрудскага павета ён заявіў: «Дзеянні ўсіх нас, памешчыкаў, павінны быць процiпастаўлены рэвалюцыйнаму руху»[1]. Ясна, што і ўдзел Кашыца ў паўстанні быў формай барацьбы з рэвалюцыйным рухам. Ён згадзіўся ўзначаліць павятовую арганізацыю, каб адхіліць Борзабагатага, «каб хоць крыху ўтрымліваць рэвалюцыйныя імкненні Борзабагатага і падобных яму асоб... Уся мая тактыка, — гаворыць далей Кашыц, — была ў тым, каб працягнуць час і адкласці выкананне прапановы Борзабагатага...»[2]. Паўстанне ў павеце пачалося насуперак Кашыцу. Наколькі далёка ён зайшоў у сваёй гнуснай дзейнасці, можа сведчыць рашэнне следчай камісіі. «Уся былая рэвалюцыйная арганізацыя ў Навагрудскім павеце, — пішуць члены следчай камісіі, — апрача аднаго доктара Борзабагатага... не падзяляла крайніх ідэй рэвалюцыі і не дзейнічала ў духу гэтых ідэй... Мяцеж і рэвалюцыйнае паўстанне былі зроблены, можна сказаць, уплывам аднаго толькі чалавека, доктара В. Борзабагатага, які меў на ўвесь павет велізарны і злашкодны ўплыў...» Аб прыхільніках Кашыца ў заключэнні следчай камісіі гаворыцца: «Большая частка іх дзейнняў была накіравана да таго толькі, каб абмежаваць і нават паралізаваць крайнія з яго (г. зн. Борзабагатага. — *А. С.*) рэвалюцыйных імкненняў»[3]. Гэты вывад прыкладзём да дзейнасці ўсёй групы Гейштара.

У Гродзенскай губерні, дзе рэвалюцыйнымі дэмакратамі была створана моцная арганізацыя на чале з В. Врублеўскім, да ўлады таксама прыйшлі памешчыкі. Врублеўскі быў падначален нейкаму Духінскаму, прысланаму з Варшавы ў якасці ваеннага кіраўніка. Аб ім нават члены жонда адзываліся як «аб сапраўднай бяздарнасці». На чале Гродзенскай павятовай арганізацыі

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 970, л. 517.
[2] ЦДГА, Л., ф. 930, л. 36.
[3] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 970.

стаў граф. С. Салтан. Паводле слоў аднаго ўдзельніка паўстання, Салтан быў «галоўным распарадчыкам паўстання Гродзенскага, Ваўкавыскага, Слонімскага паветаў»[1]. Напомнім, што гэта той самы граф, які незадоўга перад гэтым, працуючы на пасадзе міравога пасрэдніка, выганяўся сялянамі з вёсак і выклікаў войскі для іх «уціхамірвання». На ўсе адказныя пасады ў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі былі назначаны памешчыкі, у тым ліку Гродзенскі павятовы прадвадзіцель дваранства.

Той факт, што памешчыкі па ўсёй Беларусі і Літве вырашылі ўзгодненым ударам адхіліць ад кіраўніцтва паўстаннем рэвалюцыйных дэмакратаў, пацвярджаецца радам сведчанняў сучаснікаў. Так, Сільвестровіч піша: «Прыйшла вестка з Вільні, што памешчыкі перайшлі на бок паўстання і абяцаюць са свайго боку дапамагаць яму ўсімі сіламі»[2], і пасля гэтай весткі гродзенскія памешчыкі пайшлі ўслед за віленскімі.

Асноўная мэта групы Я. Гейштара заключалася ў тым, каб абезгаловіць паўстанне і не дапусціць сацыяльнай рэвалюцыі. «Яны клапаціліся трымаць мяцеж у абмежаваных размерах», — піша В. Ратч[3].

Далёка не выпадкова пераварот быў зроблены ў сакавіку, бо, акрамя жаху перад разгорнутым рэвалюцыйным рухам, тут пэўную ролю адыгралі ўзрослыя надзеі на дапамогу Францыі і Англіі. Якраз у сакавіку 1863 г. пачалася праславутая дыпламатычная важданіна заходніх дзяржаў вакол пытання аб Польшчы, важданіна яўна дэмагагічнага характару, справядліва ацэненая А. І. Герцэнам як дыпламатычны канцэрт, у якім апошнюю ноту прапеў Гарчакоў. Пад уплывам гэтых дыпламатычных трукаў некаторыя з ліbeралаў-паноў адчулі такі «патрыятычны сверб», як быццам французскія інтэрвенты ўжо знаходзіліся ў Літве, а флот Джона Буля ў водах Балтыкі.

Уся іх дзейнасць была накіравана да спынення паўстання. Нават царскі сатрап Ратч піша, што яны, «апа-

---

[1] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, л. 11.
[2] Там жа.
[3] В. Ратч. Указ. тв., стар. 207—210.

саючыся крывавай расправы падобна галіцыйскай, стараліся падтрымліваць добрапрыстойнасць у мяцяжы». І далей: «У Вільні аддзел жонда... дзейна клапаціўся аб спыненні дзеяння шаек».

О. Авейдэ таксама ўказвае, што група Гейштара, «чакаючы кожны тыдзень французаў, зусім не клапацілася аб умацаванні рэвалюцыйнай арганізацыі і паўстанцкіх атрадаў»[1].

---

[1] ЦДГА, Л., 930, с. 22.

# К. КАЛІНОЎСКІ НА ЧАЛЕ ПАЎСТАНЦАЎ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Як успамінае Гейштар, пасля сакавіцкага перавароту К. Каліноўскага трымалі некаторы час у Вільні пад следствам, пагражаючы судом, а затым — на другарадных даручэннях. Але неўзабаве новае кіраўніцтва паўстаннем было вымушана паслаць яго ў Гродзенскую губерню, таму што там памешчыкі зусім развалілі рэвалюцыйную арганізацыю. Гейштар сведчыць: «Я выслаў яго ў Гродна, дзе арганізацыя развівалася сонна, Каліноўскі ж сцвярджаў, што мае там самыя шырокія знаёмствы. Перад яго ад'ездам я доўга з ім гутарыў. Калі я даў яму інструкцыю, ён мне зрабіў розныя папрокі наконт спосабу падыходу да людзей і да справы. Я выслухаў з усёй цярплівасцю, што лічыў правільным у яго заўвагах, тое ўхваліў, але асноўныя тэзісы я паўтарыў без змяненняў. Калі ж ён хацеў дакараць мяне ў далейшым, я спытаў яго катэгарычна, ці прызнае ён уладу і ці хоча ёй падпарадкоўвацца. Ён зразумеў пытанне... Я рэкамендаваў Каліноўскаму не прызнаваць ніякай розніцы паміж саслоўямі; дваран, памешчыкаў не адштурхоўваць, улічваць іх як сілу, неабходную ў паўстанні, як яго жыватворчую душу. Але Каліноўскі да канца застаўся чалавекам крайніх поглядаў і, нягледзячы на ўсю сілу свайго патрыятызму, ён не здолеў узняцца да непрадузятасці. Тым не менш ён быў вельмі актыўным у Гродна і, напэўна, нідзе больш дзейнасць арганізацыі не праводзілася так дакладна» [1].

[1] Я. Гейштар. Указ. тв., т. 1, стар. 235.

Гейштар лічыў, што дэмакратычныя перакананні Каліноўскага перашкаджалі яго паспяховай дзейнасці. Успамінаючы аб сваіх сустрэчах з Каліноўскім, Гэйштар пісаў: «Ён мне даказваў, што ўдзел дваранства і памешчыкаў у паўстанні з'яўляецца не толькі непатрэбным, але нават шкодным. Народ сам даб'ецца перамогі і запатрабуе ў памешчыкаў сваю ўласнасць... Хоць і Каліноўскі хацеў, каб народ вялікадушна дараваў дваранству злачынствы мінулага, але калі б яно нават і загінула, гэта з'яўлялася б заслужанай карай і краіна б ад гэтага зусім не пацярпела»[1]. «Запальчывы, жорсткі, прасякнуты крайнімі прынцыпамі, ён не любіў супраціўлення. Памяркоўнасць поглядаў адносна саслоўя і ўнутранага становішча ён асуджаў як адсутнасць патрыятызму»[2]. Гейштар паклёпнічаў, заяўляючы, што Каліноўскі быў пазбаўлен вытрымкі і стойкасці, бяздоказна абвінавачваў яго ў жорсткасці. Гэтая хлусня, выкліканая нянавісцю памешчыкаў да рэвалюцыйнага дэмакрата, відаць у словах самога ж Гейштара, калі ён прызнае, што Каліноўскі хацеў, каб народ вялікадушна дараваў дваранству злачынствы мінулага. Са злоснага выпаду Гейштара ўсё ж відаць, што, вымушаны падпарадкоўвацца памешчыкам, якія былі пастаўлены на чале паўстання, Каліноўскі не змяняў сваім перакананням, заставаўся рэвалюцыйным дэмакратам і імкнуўся, па меры магчымасці, праводзіць свае прынцыпы ў жыццё.

Сам К. Каліноўскі аб сваёй дзейнасці на Гродзеншчыне паведаміў следчай камісіі вельмі мала. «У... засноўваемай аддзелам арганізацыі,— паведамляў Каліноўскі,— мне выпаў абавязак ваеннага камісара Гродзенскай губерні. Інструкцый я ніякіх не атрымаў (Каліноўскі ўмоўчвае аб інструкцыях, дадзеных яму Гейштарам, каб не выдаць апошняга. — *А. С.*). Сказана было толькі, што характар маёй дзейнасці павінен быць наглядальны за ваеннымі дзеяннямі ў палітычных адносінах і што я буду служыць органам усякіх зносін

---

[1] Я. Гейштар. Указ. тв., т. I, стар. 221.
[2] Там жа, стар. 235.

ваеннага начальніка з Н. Дзюларанам, як упаўнаважаны ў гэтых адносінах»[1].

У другім паказанні Каліноўскі паведамляе: «Па загаду Дзюларана, з пашпартам, атрыманым ад яго на імя Чарнецкага, выехаў і я ў Беласток для збірання і дастаўлення Дзюларану звестак... аб усіх асабіста атрыманых звестках я паведаміў Дзюларану... большай часткай па пошце рапартамі, пісанымі сімпатычным чарнілам. Саўдзельнікаў у гэтай справе я ў Беластоку не меў»[2]. Аднак гэтыя сведчанні не раскрываюць поўнасцю характар дзейнасці Каліноўскага. Страціўшы магчымасць выстаўлення дэмакратычнай праграмы паўстання, вымушаны падпарадкоўвацца Варшаўскаму жонду, які знаходзіўся ў руках згодніцкіх элементаў, Каліноўскі разгарнуў барацьбу за ажыццяўленне маніфеста ад 20. II. 1863 г. і імкнуўся як мага больш уцягнуць сялян у паўстанне, а затым, абапіраючыся на іх, вярнуць страчаныя пасля перавароту пазіцыі і сфарміраваць рэвалюцыйна-дэмакратычнае кіраўніцтва паўстаннем, здольнае адстойваць інтарэсы сялян.

Дзейнасць Каліноўскага на радзіме была вельмі напружанай і рознабаковай. На пасаду камісара ён уступіў у сакавіку, абвясціўшы аб гэтым насельніцтва спецыяльным загадам. Бліжэйшым яго памочнікам быў Б. Врублеўскі — начальнік штаба паўстанцкіх сіл у Гродзенскім ваяводстве. У цэнтры іх дзейнасці стала пытанне барацьбы са спробамі новага Віленскага генерал-губернатара Мураўёва-вешацеля сутыкнуць паміж сабой сялянскі і польскі нацыянальны рух. Карыстаючыся тым, што сяляне хоць і расправуляліся з памешчыкамі, але ў значнай меры захоўвалі яшчэ веру ў цара, Мураўёў пачынае арганізацыю так званых сельскіх каравулаў, у якія ён уцягвае сялян. Мураўёў заяўляе ім, што гэтыя каравулы павінны ахоўваць дараваную царом свабоду ад польскіх памешчыкаў, быццам бы хаваўшых царскую волю, а цяпер узнятых на паўстанне, каб не даць цару знішчыць прыгонніцтва. Аснову такіх сельскіх каравулаў складалі салдаты або

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. 439, с. 280.
[2] Там жа.

казакі, паліцыя і сельская адміністрацыя. У каравулы ашуканствам або гвалтоўна ўключалі і сялян.

У сваім загадзе аб уступленні на пасаду камісара Каліноўскі аб'явіў, што будзе змагацца за справядлівую свабоду, устанаўленню якой царскія войскі спрабуюць перашкодзіць. Цару, адзначае Каліноўскі, ужо не хапае войск для падаўлення паўстання сялян, а павялічваць армію цар не здолее, таму што сяляне не даюць рэкрутаў. Вось ён і пускаецца на хітрыкі, «хоча з вас набраць міліцыю...» [1]

Каліноўскі загадвае не ствараць каравулы і дапамагаць паўстанцам знішчаць ваенныя каманды, пакінутыя ў сёлах.

Гэты загад Каліноўскага атрымаў шырокае распаўсюджанне сярод сялян. Царскія ўлады выдалі распараджэнне «аб адбіранні ў сялян выпушчаных экземпляраў загаду» [2].

Гэты загад не на жарт устрывожыў карнікаў. Генерал-лейтэнант Манюкін, які кіраваў падаўленнем паўстання ў Гродзенскай губерні, пісаў: «Дзе ўзнікне сумненне сялян па гэтаму поваду, напамінаць ім..., што яны для ўласнага спакою і аховы ад бясчынстваў над імі бунтаўшчыкоў абавязаны па магчымасці садзейнічаць падаўленню мяцяжу, складаючы сельскую варту, не выходзячы за мяжу свайго вобшчаства» [3]. Генерал патрабаваў прыняцця самых энергічных мер для адшукання асоб, якія распаўсюджваюць гэты загад «паміж сельскім саслоўем».

Па ініцыятыве К. Каліноўскага начальнікі паўстанцкіх атрадаў устанаўлівалі непасрэдны кантакт з насельніцтвам, растлумачваючы яму неабходнасць збору інфармацыі аб перамяшчэнні карных атрадаў і перадачы гэтых сабраных даных паўстанцам.

У сваіх зваротах да насельніцтва паўстанцы заклікалі сыноў айчыны, каб яны «далучаліся да атрадаў народнага войска..., асабліва ж тыя, хто мае агнястрэльную і халодную зброю» [4].

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317, (2285), 1864 г. л. 38.
[2] Там жа, с. 317, л. 39.
[3] Там жа, с. 1317, л. 39.
[4] Там жа, л. 28.

Барацьба з самадзяржаўем і прыгонніцтвам, якую вёў Каліноўскі, адпавядала інтарэсам сялянства. Каб уцягнуць шырокія масы ў паўстанне, трэба было ўзнімаць сялянства на барацьбу супроць памешчыкаў і цара, за захоп усёй зямлі. Між тым роспуск Літоўскага камітэта і пастаяннае ўмяшанне Варшаўскага жонда выключалі гэтую магчымасць. І Варшаўскі жонд, і яго прыхільнікі ў Беларусі і Літве былі далёкія ад сялянскіх інтарэсаў. Пры гэтым яны ўсе надзеі ўскладалі на інтэрвенцыю французскіх і англійскіх войск. Іменна вясной 1863 г. у памешчыкаў Літвы і Беларусі была ўпэўненасць у непазбежнай і хуткай інтэрвенцыі.

Як вядома, Англія і Францыя, у адрозненне ад Прусіі, якая падумвала аб анексіі Польшчы, вырашылі з паўстання ў Польшчы зрабіць буйны козыр у дыпламатычнай гульні.

З гэтай мэтай 17 красавіка 1863 г. імі былі ўручаны царскаму ўраду ноты з поваду падзей у Польшчы. 19 красавіка гэты дэмарш Францыі і Англіі быў падтрыман Аўстрыяй. Ноты патрабавалі склікання ўсееўрапейскага кангрэсу для вырашэння польскага пытання. Прыкладна праз месяц быў зроблен новы дыпламатычны націск. Патрабавалі не толькі безагаворачнага прыняцця ідэі кангрэсу, але і ажыццяўлення раду папярэдніх умоў. Ноты былі яўна дэмагагічнага характару.

Пад уплывам гэтых дэмаршаў, поўныя надзеі на хуткую інтэрвенцыю, члены Віленскага цэнтра ў адной са сваіх красавіцкіх адозваў пісалі: «Францыя, Англія і амаль уся Еўропа апладыруюць нашай рэвалюцыі і радуюцца яе ўзнікненню. Яны збіраюцца ісці нам дапамагчы... Папа (рымскі. — *А. С.*) са свайго боку, даў ужо на тое сваё блаславенне, заклікаючы і заахвочваючы да таго. Але зарубежныя дзяржавы гатовы нас падтрымаць толькі ў тым выпадку, калі мы самі здолеем разгарнуць нашу рэвалюцыю і падтрымаць яе да патрэбнага моманту...»[1] З гэтых слоў відаць, што памешчыкі Беларусі і Літвы, якія далучыліся да паўстання, разглядалі ўзброеную барацьбу толькі як падставу для інтэрвенцыі замежных дзяржаў і ўсімі мерамі

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317 (2285), л. 26.

імкнуліся прадухіліць спробы сялян, што ўзяліся за зброю, знішчыць памешчыцкае землеўладанне.

К. Каліноўскі належаў да тых нямногіх дзеячоў паўстання 1863 г., якія, не спадзеючыся на інтэрвенцыю, змагаліся за аграрную рэвалюцыю. Каліноўскі, як сведчаць дакументы, якія да нас дайшлі, перасцерагаў ад надзей на дапамогу з захаду, указваў, што «ўсе каралі» заадно з царом, што «з-за граніцы народы іншаземныя крычалі многа, а да гэтай пары нічога не зрабілі». Надзеі могуць быць, па яго думцы, толькі «на паварот сілы народа», бо «не знойдзеш праўды ў цяперашнім парадку».

Што датычыць нацыянальнага пытання, то група Гейштара, адстайваючы «гістарычныя» граніцы 1772 г., стаяла за працяг апалячвання і акаталічвання беларусаў і літоўцаў, распаўсюджвала адозвы, у якіх праводзілася думка, што Беларусь і Літва справедныя часткі Польшчы, а беларусы і літоўцы «ўсе сыны адной нашай айчыны польскай». Але падобныя адозвы да «братоў-беларусаў» не знаходзілі водгуку ў іх сэрцах [1].

Група Гейштара заявіла аб падтрымцы маніфеста ад 22 студзеня 1863 г., але нічога не зрабіла для яго рэалізацыі. Тыя ж памешчыкі, якія далучаліся да паўстання, ажыццяўлялі маніфест па-свойму. Так, у Гродзенскай губерні, Бельскім павеце, памешчыца Шчука запрасіла сялян да сябе і, седзячы ў крэсле, заявіла ім: «Вось вас гасудар зрабіў вольнымі, а паміж тым вы працягваеце выконваць паншчыну. Але так працягвацца і трыццаць гадоў будзе, значыць, тут вам спадзявацца няма на што. Я ж вам дарую зямлю, паншчыны можаце не выконваць, словам, раблю вас вольнымі... Гэта, між іншым, раблю не я адна, а ўсе памешчыкі... Цяпер вы людзі вольныя, зямля ваша ўласнасць... Гэта зроблена намі, памешчыкамі, вашымі братамі і збавіцелямі. Дапамагайце ж нам за гэта і служыце верна». Брат памешчыцы пры гэтых словах пачаў абдымаць сялян, называючы іх братамі, і «прасіў ісці на маскаля». Сяляне, не паверыўшы сваім панам, не пайшлі ў паўстанцкія атрады. У адказ на гэта

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317, л. 48.

памешчыца праз некалькі тydняў выклікала сялян зноў і аб'явіла, што яна свой дар бярэ назад.

Падобныя прыклады не з'яўляліся адзінкавымі. Памешчыкі ашуквалі сялян, выдаючы патрабаванні маніфеста Варшаўскага жонда за свой дар. Патрабуючы ад сялян адбываць паншчыну, летам 1863 г. яны хлусліва заяўлялі, што гэтага патрабуе сам цар, хаця з першага сакавіка 1863 г. цар адмяніў пад націскам сялянскага руху паншчыну ў Беларусі і Літве. Сяляне, ловячы памешчыка на ашуканстве, умацоўвалі свае ілюзіі аб добрых намерах цара. На самой справе, цар «вызваляе» ад паншчыны, а памешчык гоніць на яе, хаваючы распараджэнне цара. Гэта давала багаты матэрыял Мураўёву для ашуканства сялян. На гэтым прыкладзе наглядна відаць прычыны паражэння паўстання 1863 г. Карыслівыя, вузкакласавыя інтарэсы паноў, адмова ад знішчэння памешчыцкага землеўладання з боку цэнтральнага кіраўніцтва паўстання і яго агентаў у Беларусі, г. зн. тых жа паноў-памешчыкаў, адштурхнулі сялян ад барацьбы і асудзілі паўстанне на паражэнне.

Каліноўскі павёў напружаную барацьбу са шляхецкім кіраўніцтвам паўстаннем і спробамі памешчыкаў выдаць патрабаванні маніфеста ад 22 студзеня за ўласны дар. Барацьба гэтая абцяжарвалася тым, што амаль усё кіраўніцтва Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі перайшло ў рукі памешчыкаў. Так, прыбыўшы ў Брэст, Каліноўскі патрабаваў ад тамашняга рэвалюцыйнага камісара Гофмейстэра ажыццяўлення маніфеста ад 22 студзеня 1863 г., але Гофмейстэр варожа аднёсся да прапановы Каліноўскага і пазней, успамінаючы аб гэтай сустрэчы, пісаў: «Рознагалоссі сустракаліся амаль на кожным пункце».

К. Каліноўскі змагаўся супроць правых элементаў, якія, захапіўшы кіраўніцтва паўстаннем, заігрывалі з памешчыкамі, сабатавалі правядзенне маніфеста ў жыццё.

Ужо адно гэта ставіць Каліноўскага і яго паплечнікаў — В. Врублеўскага, Э. Заблоцкага і інш. на галаву вышэй членаў Варшаўскага жонда.

Каліноўскі, кіруючы паўстаннем на тэрыторыі Гродзенскай губерні, патрабаваў ад павятовых камісараў,

каб яны «назіралі за дакладным выкананнем законаў і рашэнняў, прынятых народным урадам». «Павятовы камісар,— пісаў Каліноўскі,— павінен строга назіраць, каб ва ўсякай вёсцы, праз якую праходзіў атрад, быў абнародаваны дэкрэт Народнага ўрада аб сялянскай уласнасці. Гэты дэкрэт павінен быць аб'яўлен, і акт уласнасці напісан у 3-х экземплярах, з якіх адзін застаецца ў сялян, другі ў павятовага начальніка і трэці адпраўляецца да камісара губерні».

Такім чынам, мы бачым, што Каліноўскі сачыў за ажыццяўленнем абвешчаных кіраўніцтвам паўстання аграрных рэформ, у той час, як Варшаўскі ЦК на справе імкнуўся ануляваць іх. Каліноўскі імкнуўся да таго, каб у кожным атрадзе паўстанцаў быў прадстаўнік рэвалюцыйнай арганізацыі для ажыццяўлення аграрных пераўтварэнняў. Ён патрабаваў ад кіраўнікоў паўстання ў паветах, каб яны «знаходзіліся безупынна ў раз'ездах, амаль не зыходзячы з павозкі», і кантралявалі дзейнасць чыноўнікаў рэвалюцыйнай арганізацыі.

К. Каліноўскі, змагаючыся яўна і тайна за ператварэнне паўстання ў аграрную рэвалюцыю, адхіляў ад кіраўніцтва тых, хто перашкаджаў яму ў гэтым.

У сваёй дадатковай і падрабязнай інструкцыі ён пісаў: «Чыноўнікі народнага ўрада ў павеце павінны быць нястомнымі, дзейнымі і з любоўю выконваць свае абавязкі, ускладзеныя на іх народнай уладай. Калі гэтых якасцей не хапае акруговым і прыходскім камісарам, то павятовы камісар абавязан паведамляць грамадзянскаму начальніку павета, каб ён замяніў такіх другімі ў 3-дзённы тэрмін і ў той жа час паведаміў аб гэтым камісара губерні для далейшага распараджэння».

Усямерна ўмацоўваючы рэвалюцыйную арганізацыю, патрабуючы ад яе членаў абароны інтарэсаў насельніцтва і перш за ўсё сялян, К. Каліноўскі сумесна з В. Врублеўскім імкнуўся паралізаваць дзеянні царскай адміністрацыі. Яны патрабавалі ад начальнікаў паўстанцкіх атрадаў ліквідацыі ўсіх царскіх устаноў. Аб тым, як выконвалася гэтае патрабаванне, сведчыць наступны факт. Начальнік Пружанскага паўстанцкага атрада ў канцы красавіка або пачатку мая 1863 г., з'явіўшыся ў м. Сокалаў, накіраваў «ляснічаму рускага ўрада пану Козараву»

наступнае пасланне: «Маю гонар прасіць Вас пакінуць сваю пасаду ўрадавага ляснічага самым спешным чынам, таму што мне даручана ўсе падобныя ўстановы касаваць і назначаць на гэтыя пасады сваіх служачых. Прыміце гэтае маё папярэджанне пад увагу і хутчэй пакідайце сваю пасаду, бо ў адваротным выпадку я буду вымушан прымяніць сродкі для прымусу, каб паскорыць вашы дзеянні ў гэтым напрамку»[1].

Уся дзейнасць рэвалюцыйных дэмакратаў была накіравана да таго, каб, зыходзячы з маніфеста ад 22 студзеня 1863 г., які абвясціў права сялян на зямлю, апрацоўваемую імі, разгарнуць, наколькі гэта дазваляла выстаўленая праграма, сялянскі рух. Архіўныя матэрыялы пацвярджаюць, што патрабаванне Каліноўскага аб выкананні маніфеста ад 22 студзеня 1863 г. многімі атрадамі ў Гродзенскай губерні няўхільна выконвалася.

У той час, як жонд Варшаўскі, які пастаянна мяняўся ў сваім складзе, усё больш і больш адыходзіў управа ад прынцыпаў маніфеста ад 22 студзеня 1863 г., група Каліноўскага, наадварот, абапіралася на ідэі роўнасці, выкладзеныя ў маніфесце, і імкнулася стварыць аснову для далейшай дэмакратызацыі паўстання. Надаючы велізарнае значэнне аграрнаму пытанню, Каліноўскі ў якасці губернскага (ваяводскага) рэвалюцыйнага камісара паклапаціўся аб надрукаванні і распаўсюджанні тэкстаў гэтага маніфеста. Пасля абнародавання маніфеста сяляне кляліся ў вернасці справе паўстання. Так, 17 мая 1863 г. начальнік Слонімскага паўстанцкага атрада, заняўшы в. Добрамысел, «сабраным у царкве членам воласці аб'явіў маніфест польскага ўрада аб увядзенні сялян ва ўласнасць і ўраўнаванні ў правах саслоўяў... Аб'яўленне зрабіў разам з тутэйшым настаяцелем грэчаскага веравызнання Хрыневічам, затым прысутныя сяляне абавязаліся клятвай быць адданымі нацыянальнаму ўраду. Пад гэтым рашэннем падпісаліся начальнік паўстанцкага атрада І. Лукашэвіч, старшына воласці Ян Лазарчук і сяляне Змітрук, Шачэла і Тамаш Коневехта. У клятве, тэкст якой захаваўся, сяляне кляліся, што «ўказаў царскага ўрада слухаць не будзем

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317, л. 120.

і, паколькі будзем мець магчымасць і пакуль хопіць сіл, будзем аказваць дапамогу... паўстанцам» [1].

Праграма Варшаўскага жонда, якая пакідала некранутым памешчыцкае землеўладанне, не задавальняла сялян. Таму Каліноўскі лічыў, што «амаль пастаянныя паражэнні нашых атрадаў, бесхарактарнае іх існаванне ў справе палітычнай прапаганды, абсалютны недахоп ваенных сродкаў і здольных людзей, паслаблялі выкліканае ў народзе спачуванне паўстанню», садзейнічалі яго паражэнню. Адмова Варшаўскага жонда абвясціць знішчэнне памешчыцкай зямельнай уласнасці прывяла да таго, што «сяляніп пачаў глядзець на справу польскую, як на задуму памешчыцкую; органы ж урада паняцце такое селяніна стараліся падтрымліваць». Адзін з паплечнікаў Каліноўскага А. Мацкевіч таксама рэзка асуджаў антысялянскую праграму Варшаўскага жонда. Ён указваў, што цэнтральнае кіраўніцтва паўстаннем загубіла рэвалюцыю, не здолела ўзвысіць барацьбу да ўзроўню народных патрабаванняў.

Ясна, што пры такіх адносінах да праграмы жонда Каліноўскі не толькі змагаўся супроць сабатажу і скажэння яе памешчыкамі, але і рыхтаваў сілы для таго, каб вярнуць паўстанню ў Беларусі і Літве самастойнасць. Ён па-майстэрску выкарыстаў сваё становішча рэвалюцыйнага камісара губерні. Вялікае значэнне ён надаваў арганізацыі паўстанцкіх атрадаў, здольных весці пры падтрымцы народа працяглую партызанскую барацьбу і, прапагандуючы знішчэнне памешчыцкіх маёнткаў, уцягваць усё новыя і новыя масы сялян у паўстанне.

Разгортванню шырокай народнай вайны ў Заходняй Беларусі, апрача палітычных фактараў, перашкаджаў таксама «абсалютны недахоп ваенных сродкаў і людзей здольных» (словы К. Каліноўскага). Нават кіраўніцтва карнымі экспедыцыямі ў Гродзенскай губерні адзначала, што ў паўстанцаў «заўважаны быў крайні недахоп у зброі, толькі пярэдняя шарэнга мела стрэльбу, у другой былі касінеры з косамі і віламі; задняя ж шарэнга хто з чым папала, а больш з дубінамі» [2]. Але з другога боку,

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317, л. 114.

[2] Там жа, ф. с. 2101, 1864 г., л. 8.

гэтыя прызнанні сведчаць аб шырокім удзеле сялян у паўстанні, што відаць па характару зброі (косы, вілы, дубіны).

Дзейнасць Каліноўскага на Гродзеншчыне была ўзорам рэвалюцыйнага служэння свайму народу. Прабыўшы там каля двух месяцаў, ён аб'ехаў усю губерню, праверыў амаль усе паўстанцкія атрады, строга спаганяючы за невыкананне сваіх загадаў і распараджэнняў. Аб яго паездцы ў Брэст гаварылі, што адтуль ён яшчэ ездзіў «у Пружаны і ў Кобрын, нарэшце, бог ведае куды»[1]. Бываючы ў атрадах, Каліноўскі рабіў праверку іх асабовага складу, узбраення і забеспячэння. Асаблівую ўвагу ён надаваў сялянству, «распытваючы пра дух сельскага насельніцтва»[2]. Робячы праверку дзейнасці рэвалюцыйнай арганізацыі, ён выпраўляў памылкі і сурова спаганяў за іх. Так, адзін з паўстанцаў гаварыў, што «атрымаў вымову ад камісара Каліноўскага, які, аб'язджаючы губерню, быў у Гродна, у маёй кватэры, для прыняцця рапарту»[3].

Каштоўныя паказанні аб дзейнасці Каліноўскага ў Гродзенскай губерні зрабіў Заблоцкі. «Арганізацыя прыйшла ў расстройства,— паведамляе ён,— зносіны паміж паветамі перарваліся, што перашкаджала атрымаць якія-небудзь звесткі. Таму Каліноўскі прыехаў у Гродна, каб стварыць арганізацыю, а разам з тым пабудзіць да дзейнасці яе членаў... прапанаваў мне адправіцца разам з ім у Ваўкавыскі і Слонімскі паветы». Далей Заблоцкі паведамляе, што амаль усе чыноўнікі арганізацыі, якіх яны наведалі, былі памешчыкамі і іх Каліноўскі сурова крытыкаваў за бяздзейнасць. У час гэтай паездкі яны наведалі многа паўстанцкіх атрадаў і ў самым пачатку мая, як указвае Заблоцкі, прыехалі ў вялікі паўстанцкі лагер пад мястэчкам Мілавіды. Каліноўскі выдаў начальнікам атрадаў, а іменна Ляндэру, Юндзілу і іншым, якіясьці кніжкі для вядзення рахункаў і праверыў ранейшыя расходы, што працягвалася да 3-х гадзін ночы. Затым Заблоцкі вярнуўся ў Гродна, а Каліноўскі працягваў інспекцыйную паездку. «Праз тыдзень прыехаў у

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. 439, с. 1320, л. 150.
[2] Там жа, с. 150, л. 183.
[3] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 53.

Гродна і Каліноўскі і паведаміў мне, што ў Вільні зроблена многа арыштаў, таму яго, Каліноўскага, клікаюць туды, і ён, ад'язджаючы, прапануе мне заняць яго месца камісара і даносіць яму, Каліноўскаму, калі ў паветах узнікнуць расстройствы або бяздзейнасць арганізацыі»[1]. Неўзабаве пасля гэтага Каліноўскі паехаў у Вільню і працягваў адтуль кіраваць работай Гродзенскай арганізацыі.

Каліноўскі як Гродзенскі рэвалюцыйны камісар за кароткі час вылучыў на рад важных пасад па кіраўніцтву паўстаннем сваіх прыхільнікаў. У інструкцыі павятовым камісарам ён патрабаваў «прызначаць на пасады сялян», г. зн. смела прыцягваць сялян да кіраўніцтва паўстаннем. Гэта сведчыць аб тым, што Каліноўскі хацеў усю справу паўстання перадаць у рукі сялян, загадваў паведамляць яму прозвішчы і месцажыхарства сялян, якія актыўна падтрымлівалі паўстанцаў.

Разглядаючы дзейнасць рэвалюцыйных дэмакратаў, кіруемых К. Каліноўскім, неабходна мець на ўвазе, што не ім належала ваеннае кіраўніцтва паўстаннем. На чале паўстанцкіх атрадаў, якія дзейнічалі ў Заходняй Беларусі, быў пастаўлен Варшаўскім жондам Духінскі, у званні палкоўніка паўстанцкіх войск. Аднак Духінскі не здолеў канчаткова адхіліць рэвалюцыйных дэмакратаў ад удзелу ў кіраўніцтве аперацыямі. Яны змаглі ўтрымаць за сабой рад пасад начальнікаў атрадаў, а В. Врублеўскі заняў пасаду начальніка штаба паўстанцкіх атрадаў губерні.

К. Каліноўскі ў якасці рэвалюцыйнага камісара, па сутнасці, накіроўваў дзеянні як рэвалюцыйнай арганізацыі губерні, так і паўстанцкіх атрадаў.

Выдатная роля ў падрыхтоўцы паўстання ў Гродзенскай губерні і кіраўніцтве паўстанцкімі сіламі належыць слаўнаму сыну Польшчы, шчыраму другу беларускіх сялян Валерыю Врублеўскаму. Гэтую ролю не маглі не прызнаць нават царскія афіцэры, якія кіравалі дзеяннямі супроць яго атрадаў. «Врублеўскі,—адзначаюць яны,—меў чын паручніка. Да пачатку паўстання займаў пасаду начальніка Сакольскага егерскага вучылішча. Ён быў

[1] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 41, лл. 6—9.

галоўным агітатарам у Сакольскім павеце. Шайка пад яго камандаю больш дзейнічала ў Беластоцкім, Ваўкавыскім і Пружанскім паветах да самага рассейвання яе ў апошнім месцы, чаму ён быў вымушан накіравацца ў Брэсцкі павет». В. Врублеўскі ў ходзе паўстання з'яўляўся начальнікам штаба паўстанцкіх сіл, якія дзейнічалі ў Заходняй Беларусі [1].

Цэнтр паўстанцаў губерні быў у Белавежскай пушчы. Тут знаходзіўся найбольш буйны атрад (да 400 чалавек) і пры ім штаб, які кіраваў дзеяннямі ўсіх іншых атрадаў. Паўстанцы былі ўзброены паляўнічымі стрэльбамі, косамі, пікамі і дубінкамі.

Харчаванне і фураж паўстанцы атрымлівалі ад сялян. Праваднікамі былі таксама сяляне. Гэтым уласна і тлумачыцца тое, што дрэнна ўзброеныя і нешматлікія атрады паўстанцаў восем месяцаў трымаліся супроць карнікаў, якія ў дзесяць разоў перавышалі іх сілы. Гэтаму садзейнічалі таксама паўстанне ў Польшчы, якое адцягвала на сябе палавіну карнай арміі, і дапамога рускіх рэвалюцыйных сіл.

Ва ўсёй сваёй дзейнасці В. Врублеўскі выступаў як інтэрнацыяналіст, які яскрава разумеў важнасць адзінства інтарэсаў народа Беларусі, Польшчы і Расіі ў барацьбе з царызмам і абапіраўся на дапамогу рускіх рэвалюцыянераў, што дзейнічалі ў часцях, пасланых на падаўленне паўстання. Так, рэвалюцыйная арганізацыя ў Пскоўскім палку (стаяў у Брэсцкай крэпасці) у сваёй адозве да гарнізона пратэставала супроць нацкоўвання адзін на аднаго «двух родных народаў» і заяўляла, што сапраўдны патрыятызм патрабуе падтрымкі паўстаўшых аж да пераходу са зброяй у руках у іх рады.

Аналагічную работу праводзілі рэвалюцыянеры ў 3-й артылерыйскай брыгадзе, дзе была арганізацыя з 14 афіцэраў. Былі выпадкі, калі рускія афіцэры і салдаты са зброяй у руках пераходзілі на бок паўстанцаў. Так, з Кутузаўскага палка да Врублеўскага прыбыло 8 афіцэраў, якія аказалі неацэнныя паслугі ў абучэнні паўстанцаў і кіраўніцтве ваеннымі аперацыямі. Былі частымі вы-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, Вільнюс, ф. КГГ, ПА, с. 2102, 1864 г., л. 17.

падкі, калі рускія афіцэры спынялі праследаванні паўстанцаў.

Выхаваны на ідэях рэвалюцыйнага дэмакратызма, Врублеўскі верыў, што вясной па ўсёй краіне пачнуцца сялянскія паўстанні.

У лютым 1863 г. паўстанцы яго атрада паслалі з Белавежскай пушчы зварот «Да братоў рускіх славян». Напамінаючы словы Герцэна аб тым, што пакуль «Польшча знаходзіцца ў рабстве — да таго часу і Расія будзе прыгнятацца рускімі і нямецкімі халопамі», паўстанцы пісалі: «...паўстанне разгарэлася па ўсёй Польшчы і Літве і з кожным днём вясны ўсё больш і больш павялічваецца, цяпер застаецца толькі зрабіць паўстанне ў цэлай Расіі, неадкладна ў першыя дні вясны... чаго вельмі баіцца ўрад Гальштын-Гатопрскі.

Высакародная моладзь руская!

Успомніце, што ад гэтага перавароту залежыць жыццё патомкаў і зрабіце, каб патомкі вашы былі шчаслівыя і вас ва ўсякую хвіліну бласлаўлялі за вызваленне іх ад рабства» [1].

Атрад Врублеўскага, які бесперапынна манеўраваў, каб услізнуць ад карнікаў, праходзіў па вёсках, растлумачваў сялянам сэнс сваёй барацьбы і папаўняўся добраахвотнікамі з іх асяроддзя.

Ва ўпартых кровапралітных баях з пераважаючымі сіламі карнікаў В. Врублеўскі праявіў сябе як выдатны ваеначальнік і адважны воін... Так, 26 мая ў лесе пад Серадовым паўстанцы былі раптоўна атакаваны і рассечаны на дзве часткі. Перастроіўшы рады, Врублеўскі размясціў атрад у зарасніках каля лясной ракі. «Агонь ворага быў густы і моцны, — успамінае яго ад'ютант. — Нашы адказвалі з двухстволак і аднастволак, але прымушаны былі падацца назад. Тады Врублеўскі, узначаліўшы касінераў (сяляне, узброеныя косамі. — *А. С.*), павёў іх у агонь. Тры разы займаў вораг заараснікі ля ракі, тры разы касінёры, наступаючы па рэдкалессю пад густым агнём, выбівалі яго з зараснікаў...»

«Паўстанцы яго любілі, — успамінае ад'ютант Ара-

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, 1 экспед., 1863 г., с. 97, ч. 5, л. 3.

мовіч, — бо ён нічым не адрозніваў сябе ад простых байцоў, ішоў першым у агонь і апошнім выходзіў з бітвы». Так 9 жніўня атрад у Пашкоўскіх астраўках падвергся нечаканаму нападу і паўстанцы, якія не мелі штыкоў, ухіліліся ад рукапашнай. Врублеўскі разам з 40 стралкамі прыкрыў адыход, доўга ўтрымліваў пазіцыю і затым павольна адышоў, адстрэльваючыся на кожным кроку.

Ва ўсёй сваёй дзейнасці В. Врублеўскі пастаянна атрымліваў дапамогу і падтрымку з боку свайго баявога таварыша і аднадумца К. Каліноўскага. У пачатку чэрвеня Врублеўскі сканцэнтраваў большасць атрадаў у лагеры каля Мілавід (да 1 700 паўстанцаў). Лагер наведаў К. Каліноўскі, які быў тады рэвалюцыйным камісарам Гродзенскай губерні. Ён правёў агляд атрадаў, выстраеных на шашы, праверыў зброю, боепрыпасы, забеспячэнне, запасы харчавання і касу. Распытваў байцоў аб патрэбах, гутарыў з імі, абходзячы рады ў суправаджэнні Врублеўскага і яго штаба. Затым сказаў прамову, у якой заклікаў да стойкасці ў барацьбе і растлумачваў яе задачы. Атрад карнікаў, які падышоў са Слоніма, адышоў пасля невялікай перастрэлкі і выклікаў падмацаванне. Натхненне ахапіла паўстанцаў. Моладзь спявала польскія, беларускія і студэнцкія песні. На ваенным савеце быў падвергнут крытычнаму аналізу ход дзеянняў.

Каліноўскі дабіўся зняцця Духінскага з пасады камандуючага, ацаніўшы яго як «абсалютную няздольнасць», і назначэння на гэтую пасаду Врублеўскага. Па парадзе Каліноўскага Врублеўскі змяніў тактыку барацьбы: разбіў атрады на невялікія групы па 20—30 чалавек, загадаў ім разгарнуць прапаганду сярод сялян, шырэй уцягваць іх у барацьбу. На чале гэтых паўстанцкіх атрадаў стаялі сяляне і разначынцы («Яська з-пад Гродна», «Язік з Беластоку», былы ляснік Станкевіч, былы салдат Беркуневіч, урач Юшкевіч і інш.).

Энергічная дзейнасць К. Каліноўскага, В. Врублеўскага і іх саратнікаў забяспечыла ўцягненне сялян Беларусі ў актыўную барацьбу з царскімі войскамі.

Начальнік штаба карных войск у Гродзенскай губерні пазней пісаў: «Не ў дакор афіцыйным данясенням многія рускія сяляне прымалі ўдзел у паўстанні. У студзені мінулага (г. зн. 1863 г. — *А. С.*) года генерал-лейтэнант Манюкін, каб утаіць скандал, адпусціў з палону да 200 сялян, узятых са зброяй у руках у справе пад Сямецічамі. Каля вёскі Мілавід (на мяжы Гродзенскай і Мінскай губ.) у маі мінулага года (г. зн. 1863 г.) сяляне цэлымі станамі [1] прымалі праваслаўную прысягу на вернасць мяцяжу... Я дазволю сабе сказаць, што сяляне і тут як у Польшчы мелі некаторае права на недавер'е да нас» [2].

Апошні бой Врублеўскага ў Гродзенскай губерні адбыўся 28 кастрычніка, пасля чаго, адцясняемы пераважаючымі сіламі карнікаў, ён перавёў свае атрады ў Люблінскую губерню. Пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага і В. Врублеўскага паўстанцы правялі на тэрыторыі Гродзенскай губерні 58 баёў з карнікамі.

Агульны агляд дзеянняў паўстанцаў Гродзенскай губерні дае К. Каліноўскі ў сваёй запісцы ад 28 лютага 1864 года. Падкрэсліўшы, што ён як камісар быў пазбаўлен самастойнасці дзеянняў і з'яўляўся толькі праваднікам ідэй жонда, указвае: «...мне выпаў абавязак ваеннага камісара Гродзенскай губерні. Інструкцый я ніякіх не атрымліваў, сказана было толькі, што характар маёй дзейнасці павінен быць наглядальны за ваеннымі дзеяннямі ў палітычных адносінах і што я буду служыць органам усякіх зносін ваеннага начальніка з Нестарам Дзюларанам, як упаўнаважаным у гэтых адносінах. Адпраўлены перада мною ў Гродзенскую губерню Ануфрый Духінскі, які з'явіўся тут, у Вільні, з мандатам палкоўніка, дадзеным яму, як я бачыў з подпісу,Высоцкім, завёў узброенае паўстанне ў Гродзенскай губерні. Мелі намер паўстаць па распараджэнню Духінскага ў адзін час усе паветы, але таму што ён даў вельмі кароткі тэрмін, то паспелі падняць паўстанне толькі ў трох паветах: Сакольскім, Беластоцкім і Бельскім. Падпал-

---

[1] Станамі называліся да 1917 г. сельскія паліцэйскія ўчасткі, якія аб'ядноўвалі некалькі валасцей.

[2] ЦДВГА. М. ВУА, ф. 484, с. 12, л. 11.

коўнік Ляндэр, які з'явіўся ўжо ў лагер Духінскага, прыняў на сябе абавязкі ваеннага начальніка Гродзенскага павета. Ваўкавыскі павет паўстаў па распараджэнню Духінскага, але без назначанага ад яго ваеннага начальніка, — з'явіўся такім Стравінскі, які пазней перайшоў пад начальства Ляндэра. У Слонімскі павет была паслана Духінскім намінацыя Юндзілу як ваеннаму начальніку таго павета. Влодэк сфарміраваў атрад па сваёй уласнай ініцыятыве, так званы Пружанскі, Кракаўскі (Траугут) выступіў у Кобрынскім павеце таксама без ніякіх упаўнаважанняў ад Духінскага ў гэтых адносінах. У Брэсцкім павеце фарміраваў ужо шайку Стасюкевіч па распараджэнню самога Народнага Урада, дадзенаму на імя Стасюкевіча.

Няўдача Духінскага ў справе пад Саколкай, хоць не столькі страшэнная, як аб'яўлялі афіцыйныя рускія весткі, дрэнна падзейнічала на навакольнае насельніцтва, аднак не спыніла яшчэ спачування да справы паўстання. Ішоўшыя затым амаль пастаянныя паражэнні нашых атрадаў, бесхарактэрнае іх існаванне ў справе палітычнай прапаганды, абсалютны недахоп ваенных сродкаў і людзей здольных, паслаблялі выкліканае ў народзе спачуванне да паўстання, садзейнічалі амаль канчатковаму знішчэнню шаек у Гродзенскай губерні ў час майго ваеннага там камісарства. Колькасць іх па недахопу зброі была вельмі нязначная: такім чынам, атрад Духінскага складаўся не больш як з 500 чалавек, Ляндэра (Лянкевіча) — 300, Влодэка — 100, Юндзіла — 250, Кракоўскага — 150, Стасюкевіча — 300, Тышкі — 100. Усяго не больш 1 700.

Склад гэтых атрадаў быў большай часткай з сялян казённых, дробнапамеснай шляхты і гарадскіх жыхароў, у якіх шайкі і знаходзілі самую моцную падтрымку. На памешчыкаў і сялян я атрымліваў пастаянныя скаргі ад ваенных начальнікаў, якія, у сваю чаргу, даносіў па абавязку Дзюларану. Які ўдзел прымалі гродзенскія памешчыкі ў народнай арганізацыі, мне добра невядома, але вынікаў іх дзейнасці ў адносінах іх да ваенных атрадаў амаль зусім не было. Шайкі вымушаны былі па большай частцы ўласнымі сродкамі набываць усё неабходнае».

Каліноўскі, назначаны на пасаду рэвалюцыйнага ка-

місара губерні для ажыццяўлення праграмы Варшаўскага жонда, дзейнічаў на Гродзеншчыне як рэвалюцыйны дэмакрат, праводзячы афіцыйна, наколькі гэта дазвалялі акалічнасці, а галоўным чынам тайна ад Варшаўскага жонда, сваю рэвалюцыйна-дэмакратычную лінію. У гэтым яшчэ больш нас пераконвае «Мужыцкая праўда» № 7, якая выйшла прыкладна ў гэты перыяд дзейнасці Каліноўскага. У ёй сяляне заклікаюцца да паўстання супроць прыгоннікаў-памешчыкаў і царызма, да барацьбы за зямлю і свабоду ў саюзе з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам. Для ажыццяўлення гэтай праграмы «Мужыцкая праўда» заклікала сялян узяцца за зброю. Сяляне, адгукнуўшыся на гэты заклік, павялічвалі тыя дэмакратычныя сілы, на якія мог абаперціся Каліноўскі ў сваёй барацьбе з Варшаўскім жондам і самадзяржаўем.

Энергічная дзейнасць Каліноўскага садзейнічала росту паўстання ў Гродзенскай губерні. Растучы сялянскі рух, наперакор заклікам жонда быў накіраван супроць памешчыкаў, якія звярталіся да дапамогі царскіх войск з мэтай абароны ад паўстаўшых сялян. Так, напрыклад, уладальнік маёнтка Серыч, нейкі Яновіч, з'явіўся да Гродзенскага павятовага ваеннага начальніка, «просячы абараніць яго маёнтак ваеннай сілай» [1]. Аднак размах паўстання быў настолькі моцны, што падобныя просьбы не заўсёды задавальняліся, таму што не хапала войск. Так, камандзір батальёна, які стаяў у Ваўкавыску, пісаў губернатару, што ў яго няма войск для наступлення на паўстанцаў і ён вымушан перайсці да абароны: «знаходжуся ў поўнай гатоўнасці на выпадак нападу» [2].

Паўстанцы Гродзеншчыны былі дастаткова моцныя, каб фактычна кантраляваць некаторыя раёны губерні. У ліпені 1863 г. шэфу жандараў паведамілі, што пад горадам Гродна ў радзе валасцей «паўстанцы свабодна распараджаюцца, загадваюць маладым сялянам далучацца да іх... І ўсё гэта выконваецца сялянамі безагаворачна. Уніяты (маюцца на ўвазе беларусы. — *Рэд.*), якія жывуць у ваколіцах, усе схільны да паўстання... Я звяр-

[1] Філіял ЦДГА, г. Гродна, ф. 3, с. 15, л. 70.
[2] Там жа, с. 16, л. 1.

нуўся да палкоўніка Амантава, але ён мне адказаў, што ўсё гэта ведае, але не мае дастатковай колькасці войск, каб гэтаму гору дапамагчы...» [1].

У сваёй барацьбе за адхіленне ад кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі ліберала ў-памешчыкаў Каліноўскі ўмела выкарыстаў нездаволенне іх бяздзейнасцю некаторых членаў Варшаўскага жонда. Авейдэ пазней пісаў: «Найвялікшай, непазбыўнай памылкай часовага ўрада адносна Літвы была перадача ўсёй рэвалюцыйнай правінцыяльнай улады ў рукі «белых»... (г. зн. групы Гейштара. — *Рэд.*). Галоўным недахопам адміністрацыі ў Літве было тое, што «белыя», атрымаўшы ўладу ў свае рукі, зусім адхілілі ад удзелу ў кіраванні жывы, малады, уласна рэвалюцыйны элемент. Важныя пасады камісараў, начальнікаў ваяводстваў і паветаў даставаліся амаль выключна вельмі добрым і спакойным, прасцей кажучы, гнілым шляхцічам-памешчыкам. **Толькі адзін рэвалюцыянер Каліноўскі быў камісарам Гродзенскай губерні і таму толькі там існавала сякая-такая адміністрацыя.** Шляхце спадабаліся тытулы, і яна вельмі ахвотна прымала назначэнні, але ахвяроўваць часам і ўсім іншым у жыцці для выканання ўзятых на сябе абавязкаў, падвяргаць сябе ўсякай небяспецы... яны па самой натуры сваёй былі не ў стане. Наогул кіраўнікі ваяводства былі баязліўцы і цяжкія, лянівыя нягоднікі... Недахоп настолькі важны, што яго можна назваць адной з буйнейшых прычын гібелі літоўскага паўстання... **Віленскае аддзяленне, якое чакала кожны тыдзень французаў, не звяртала амаль ніякай увагі на ваенную галіну паўстання** (падкрэслена намі. — *А. С.*). Справы былі проста пакінуты на волю лёсу. Шайкі (г. зн. паўстанцкія атрады. — *Рэд.*) узнімаліся і гінулі на ўсёй прасторы Літвы, але ніхто не думаў аб лёсе іх» [2].

Такім чынам, у пачатку лета 1863 г. абстаноўка садзейнічала барацьбе Каліноўскага за адхіленне ліберала ў-памешчыкаў ад кіраўніцтва паўстаннем. З аднаго боку, вырас сялянскі рух, які яскрава паказаў памешчыкам, што іх імкненне кіраваць паўстаннем, падпарад-

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 23, ч. 14, лл. 143, 144.
[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 22. Паказанне О. Авейдэ.

кавацъ рух сялян мэтам барацьбы за аднаўленне граніц 1772 г. безгрунтоўна. У страху перад растучым сялянскім рухам, разупэўніўшыся ў магчымасці інтэрвенцыі, памешчыкі пачынаюць адыходзіць ад паўстання і шукаць абароны ў царскіх войск. З другога боку, Варшаўскі жонд, расчараваны бяздзейнасцю памешчыкаў, пачынае прыходзіць да перакanання, што паўстанне ў Літве і Беларусі можа падтрымаць толькі група Каліноўскага.

# СТВАРЭННЕ ЧАСОВАГА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ЎРАДА БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ І ЯГО ДЗЕЙНАСЦЬ

У пачатку чэрвеня 1863 г. Каліноўскі вяртаецца зноў у Вільню. Жонд вырашае скарыстаць яго для ўзмацнення польскага нацыянальнага руху ў Беларусі і Літве. «У пачатку чэрвеня, — піша Каліноўскі, — я быў зноў выклікан у Вільню Дзюларанам... Не даючы мне ніякай намінацыі, ён прыняў мяне як бы сваім сакратаром» [1]. Каліноўскі быў назначан кіраўніком аддзялення ўнутраных спраў Віленскага цэнтра.

Аўтарытэт Каліноўскага ў Вільні яшчэ больш узрос. Нават яго вораг Дзюларан адзываўся аб ім «як аб вельмі светлай і здольнай галаве» [2]. Паўстанцы гаварылі, што пасада заг. аддзелам унутраных спраў у Вільні добра замешчана [3]. Каліноўскі ўзяў кіраўніцтва паўстаннем у свае рукі і аб'яднаў вакол сябе сваіх прыхільнікаў. Кіраўнік Віленскай арганізацыі паведамляе, што, атрымаўшы назначэнне, ён прыбыў да Дзюларана на інструктаж. Дзюларан, амаль не гаворачы з ім, аб'явіў, што ўсе падрабязнасці аб гэтай пасадзе і звесткі аб асобах я атрымаю ад пана, які прыйшоў з Дзюларанам... У далейшым я даведаўся, што ён Каліноўскі». Інструктуючы гэтага паўстанца, Каліноўскі загадаў яму: «У крайніх, экстраных выпадках рабіць распараджэнні

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, л. 21.
[2] Там жа, с. 468, т. II, л. 90.
[3] Там жа, лл. 148, 149.

самому, звычайна ж паведамляць Каліноўскаму для сумеснай нарады» [1].

З прыездам Каліноўскага ў Вільню рэвалюцыйныя дэмакраты Літвы і Беларусі па сутнасці ўзялі кіраўніцтва паўстаннем у свае рукі і ліквідавалі тым самым вынікі сакавіцкага перавароту. Пры гэтым група Каліноўскага абапіралася на непасрэдную дапамогу паўстанцкіх атрадаў, на чале якіх, як правіла, былі афіцэры з гурткоў С. Серакоўскага і Л. Звірджоўскага. Гэтую акалічнасць вымушан прызнаць нават генерал Ратч [2]. Ён жа не адмаўляе, што правадыр літоўскіх сялян Антон Мацкевіч быў прыхільнікам Каліноўскага [3]. Хоць па-ранейшаму ў склад Віленскага паўстанцкага цэнтра ўваходзілі многія памешчыкі і кіраўніком яго фармальна заставаўся Я. Гейштар, але фактычна яны не маглі колькі-небудзь сур'ёзна ўплываць на ход падзей. Яны, як адзначае Ратч, бачылі і разумелі «ўсю нікчэмнасць ролі, ім пакідаемай, і сваё бяссілле. Яны разлічвалі, што іншаземная дапамога адновіць справу, а яна здавалася блізкай. У яе чаканні ўся іх дзейнасць сканцэнтравалася толькі на адным, каб усімі намаганнямі паралізаваць парывы «чырвоных», якія вельмі страшылі іх» [4]. Аднак гэта тармозячая дзейнасць перапалоханых лібералаў працягвалася нядоўга.

Стаўшы фактычна кіраўніком рэвалюцыйнай арганізацыі ў Беларусі і Літве, рэвалюцыйна-дэмакратычная група неўзабаве выганяе Дзюларана і адмаўляецца падпарадкоўвацца Варшаўскаму жонду. У сярэдзіне чэрвеня Каліноўскі склікаў пасяджэнне літоўскага кіраўніцтва, на якім яго друг В. Малахоўскі выступіў супроць гібельнага для паўстання ў Беларусі і Літве ўмяшання Варшаўскага жонда. У канцы прамовы ён паклаў на стол новую пячатку з малюнкам герба Літвы і подпісам: «Камітэт, які кіруе Літвой». На гэтай жа нарадзе з рэзкай крытыкай выступіў Каліноўскі. Поўнасцю падтрымаўшы Малахоўскага, ён таксама патрабаваў ліквідацыі залежнасці ад жонда і назваў Дзюларана злым

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 468, т. 2, л. 213.
[2] В. Ратч. Указ. тв., стар. 208.
[3] Там жа, стар. 205.
[4] Там жа, стар. 211.

геніем паўстання ў Беларусі. Я. Гейштар, які прысутнічаў на пасяджэнні, ад імя памешчыкаў заявіў рэзкі пратэст супроць палажэнняў, выстаўленых Каліноўскім і Малахоўскім. Аднак гэты пратэст не быў падтрыман і прапановы Каліноўскага і Малахоўскага былі прыняты. Паводле слоў Ратча «партыя Каліноўскага, верная сваім прынцыпам, вырашыла канчаткова вызваліцца ад Варшаўскай апекі... Жонд, каб перад Еўропай утрымаць Паўночна-Заходнюю Русь за сабой, разлічваў паправіць справу ўтаржэннем у Беларусь і Літву сфарміраваных у Польшчы атрадаў».

Член жонда Авейдэ выдаў прынятае на пасяджэнні рашэнне аб незалежнасці паўстання ад Варшаўскага жонда за задуму аднаго Малахоўскага. «Малахоўскі, — піша ён, — ні з кім не параіўшыся, хацеў сам вырataваць ад пагібелі літоўскую рэвалюцыю і рыхтаваў там новы пераварот. Ён меў намер адхіліць усіх членаў аддзела, не выключаючы і нашага камісара, перайменаваць назву «выканаўчы аддзел» на «Літоўскі камітэт» і ўстанавіць зносіны Вільняй з Варшавай на другой аснове» [1].

Мэтай адмовы падпарадкавацца Варшаўскаму жонду з'яўлялася імкненне атрымаць магчымасць выставіць рэвалюцыйна-дэмакратычную праграму паўстання, расшырыць раён барацьбы за межы Беларусі і Літвы. Ход паўстання яскрава паказваў, што зваліць царызм без паўстання ў цэнтральных раёнах Расіі нельга. Каліноўскі хацеў заручыцца падтрымкай рускіх дэмакратаў і сялянства цэнтральнай Расіі.

Варшаўскі жонд не на жарт перапалохаўся, атрымаўшы паведамленне аб намеры групы Каліноўскага адмовіцца падпарадкоўвацца яму і выставіць рэвалюцыйна-дэмакратычную праграму. Калі Варшава, паведамляе Ратч, «узброенаю рукою імкнулася замацаваць сувязі, якія абрываліся, Каліноўскі хацеў у той жа час разарваць усякія зносіны з Польшчай». Калі верыць Ратчу [2], то першым паведамленнем аб падзеях, якія адбыліся ў Вільні, было пісьмо Малахоўскага да Дзюларана з запрашэннем «міламу другу» вярнуцца ў Вільна

[1] Запіска О. Авейдэ аб польскім паўстанні..., т. 4, стар. 178, а таксама ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. 439, с. 1839, л. 94.

[2] В. Ратч. Указ. тв., стар. 232.

і ўступіць у іх арганізацыю. Напэўна ў гэтым пісьме Малахоўскі іранічна напамінаў Дзюларану аб тым, што той сам прасіў жонд зацвердзіць на рад важных пасад прыхільнікаў Каліноўскага і тым аблегчыў ім барацьбу з жондам. Каб аднавіць свае пазіцыі ў Вільні, жонд паслаў туды О. Авейдэ, які добра ведаў Каліноўскага яшчэ па Пецярбургу. У задачу Авейдэ ўваходзіла: дабіцца таго, каб Каліноўскі адмовіўся ад барацьбы за дэмакратызацыю паўстання і прызнаў зноў залежнасць ад жонда, у чым апошні бачыў нібы прызнанне народам Беларусі і Літвы правільнасці граніц Польшчы 1772 года.

З мэтай націску на Каліноўскага было вырашана паслаць у Беларусь і Літву два моцныя атрады — Траугута і Лангевіча (апошняга меркавалі выкупіць з аўстрыйскага палону). Лангевіч, Траугут і Авейдэ — адны гэтыя імёны гавораць аб размерах трывогі кіраўнікоў польскага паўстання.

Авейдэ — адзін з уплывовых членаў жонда — дасканала законспіраваў свой ад'езд у Вільню для перагавораў з Каліноўскім. Аб яго «гібелі» было надрукавана паведамленне ў органе жонда. Ён падрыхтаваў дакументы, пафарбаваў валасы і г. д. Аб сваім знаходжанні ў Літве Авейдэ піша, што ў гэтай, паводле яго слоў, «няшчаснай правінцыі» «ўсеагульнае расстройства і заняпад духу былі поўнымі. З членаў старога складу я знайшоў толькі Гейштара, а з новых Каліноўскага і Малахоўскага, але яны спрачаліся паміж сабой (г. зн. Гейштар з Каліноўскім і Малахоўскім. — *А. С.*). З памочнікаў, наколькі памятаю, застаўся адзін, які страціў усякую энергію, апалітычны, безпачуццёвы афіцэр І. Каліноўскі (аднафамілец К. Каліноўскага. — *А. С.*)... Мне ўдалося ўгаварыць Малахоўскага пакінуць намер зрабіць пераварот і старацца ўзгадніць раз'яднаныя розумы. Мы спадзяваліся дзейнічаць агульна ў наступным складзе новага аддзялення: Гейштар, абодва Каліноўскія, Малахоўскі і я. Мы склалі новы статут, які вызначае ўзаемаадносіны паміж Варшавай і Вільняй. Мы склалі новы план ваяводскай арганізацыі адпаведна абставінам. Улада грамадзянскіх ваяводскіх начальнікаў была значна ўзмоцнена. Далей, мы склалі новы план для

нашых ваенных дзеянняў. Мы спынілі стварэнне партызанскіх атрадаў у Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай губернях да далейшага часу, у іншых жа губернях да прыбыцця Траугута і Лангевіча не набіраць больш 2 000 чалавек у кожнай» [1].

З гэтых слоў О. Авейдэ відаць, што ўсе яго намаганні зводзіліся да паралізацыі сялянскага руху, да зрыву аграрнай рэвалюцыі. Але план яго не быў поўнасцю ажыццёўлен з-за супраціўлення Каліноўскага.

У другім сваім сведчанні О. Авейдэ піша: «У ліпені месяцы... Дзюларан прасіў рэвалюцыйны ўрад замяніць яго другой асобай, і тады 1 жніўня (1863 г. — *А. С.*) я быў назначан камісарам і членам аддзялення ў Літве. Як памочнік, у якасці сакратара дадзен мне Зенковіч Фелікс, ураджэнец Гродзенскай губерні... З прычыны арыштаў — з аднаго боку, з прычыны ўнутраных віленскіх спрэчак — з другога, і, нарэшце, слабасці паўстання — з трэцяга, арганізацыйныя справы Літвы прыйшлі ўжо ў канцы ліпеня 1863 года да поўнага расстройства. Я не мог таксама ні ў чым выправіць становішча спраў у Літве. Хутка былі арыштаваны Гейштар, Зенковіч, а Малахоўскі павінен быў выехаць з Вільні, так што мне застаўся адзін Каліноўскі сярод паўсядзённых арыштаў, якія апусташалі гарадскую Віленскую арганізацыю і расстройвалі зусім арганізацыю па ваяводствах. Не было ўжо магчымасці нічога зрабіць, нават стварыць зноў «аддзяленне». Праўда, Каліноўскі прызваў Іосіфа Каліноўскага і Мілевіча, свайго знаёмага з Гродзенскай (губерні), але гэта былі толькі саветнікі, так сказаць, а не члены камітэта, членамі яны нават быць не хацелі. Неўзабаве затым я быў арыштаваны» [2].

Авейдэ вельмі скажае факты. Не гаворачы аб тым, што ён прыпісвае барацьбу за дэмакратызацыю праграмы толькі выдумцы Малахоўскага, ён зусім замоўчвае аб сваіх рознагалоссях з Каліноўскім. Ён замоўчвае рэзкую крытыку праграмы жонда, якую зрабіў яго былы ўніверсітэцкі таварыш. Авейдэ, перакананы, што без па-

---

[1] «Запіскі О. Авейдэ аб польскім паўстанні», т. 3, Варшава, 1866 г., стар. 227—229.

[2] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1839.

мешчыкаў нічога не зробіш у Літве, не мог згадзіцца з Каліноўскім, які імкнуўся абаперціся на сялян. Ён называе неразбярыхай, гібеллю паўстання той факт, што ў Беларусі і Літве шырока разгарнуўся сялянскі рух, які насіў не нацыянальны, а ярка выражаны аграрны характар. Гэта яго палохала. Ён наогул не лічыў сялянства асноўнай сілай паўстання. На яго думку, сялянскі рух прынёс шкоду паўстанню, таму што адштурхнуў ад барацьбы памешчыкаў, самкнуў іх з царызмам у барацьбе за задушэнне паўстаўшых. Абвінавачваючы Каліноўскага ў няправільным вырашэнні пытання аб рухаючых сілах паўстання, ён патрабаваў ад яго адмовы ад сваіх прынцыпаў. Няма ніякіх даных, якія б гаварылі аб тым, што Каліноўскі прыняў тыя ўмовы, што выдае Авейдэ за плады іх сумеснай творчасці. Генерал Ратч адзначае, што Каліноўскі «рашуча не хацеў» падпарадкоўвацца жонду [1].

Пад націскам жонда Каліноўскі прызнае яго вярхоўным кіраўніком. Прымусіць жа Каліноўскага поўнасцю прыняць праграму жонду не ўдалося, Каліноўскі вымушан быў адмовіцца ад назвы «Камітэта, які кіруе Літвой». Яго адозвы гэтага часу выдаюцца ад імя «Урада польскага над усім краем Літоўскім і Беларускім» і звернуты да «народа зямлі Літоўскай і Беларускай», г. зн. прызнаючы сваю сувязь з польскім паўстаннем, Каліноўскі ў той жа час падкрэслівае, што паўстанне ў Беларусі і Літве мае сваё кіраўніцтва. Нягледзячы на націск жонда, Каліноўскі выстаўляе ў сваіх адозвах дэмакратычную праграму «Мужыцкай праўды», якой так баяўся жонд.

Умовы, у якіх праходзіла восенню 1863 г. дзейнасць Каліноўскага, значна адрозніваліся ад вясенніх. На сялян моцна падзейнічала чужая ім палітыка Варшаўскага жонда. У радзе раёнаў Беларусі і Літвы Мураўёву-вешацелю ўдалося ашукаць сялянства, унушыўшы яму, што паўстанне з'яўляецца барацьбой польскіх памешчыкаў за зварот прыгоннага права. Частка ашуканых сялян была ўключана ў так званыя сельскія каравулы для ўдзелу ў барацьбе з паўстанцамі. Каліноўскі апасаўся,

---

[1] В. Ратч. Указ. тв., т. 1, стар. 233.

што Мураўёў, які спекуліраваў на нянавісці сялян да памешчыкаў і на памылках кіраўніцтва паўстаннем, сарве справу сялянскай рэвалюцыі ў Беларусі і Літве, убіўшы клін паміж аграрным рухам сялян і польскім нацыянальна-вызваленчым паўстаннем. Да таго ж значна змянілася і пазіцыя ліберальнага дваранства, якое было далучылася да паўстання.

Надзеі на інтэрвенцыю Францыі і Англіі да ліпеня месяца зніклі. Стала ясна, што на ваенныя дзеянні Англія і Францыя і не думалі ісці. Царызм рашуча адхіляў усякае ўмяшанне заходніх дзяржаў у польскае пытанне. Каб выратаваць свой дыпламатычны прэстыж, заходнія дзяржавы ў сваіх нотах 3 жніўня аб'явілі царызм віноўнікам польскага паўстання, што азначала, па сутнасці справы, дыпламатычную капітуляцыю. Стала зразумела, што англійскі і французскі ўрады і не думалі абараняць Польшчу. Кіраўнік англійскага кабінета заявіў, што пачаць вайну з Расіяй мог толькі вар'ят, што «блізарукасць» палякаў віной усяму. К. Маркс ускрыў сутнасць гэтага дыпламатычнага канцэрта: «Буржуазія заўсёды лічыла правільным падбухторваць палякаў у пачатку кожнага іх новага паўстання, здраджваць ім шляхам сваёй дыпламатыі... пакідаць іх у бядзе» [1].

Надзеі на іншаземную дапамогу зніклі, барацьбы народных мас памешчыкі баяліся як агню. Крывавы тэрор Мураўёва ўзмацняўся, рэпрэсіі раслі. З другога боку, стыхійнае паўстанне сялян у Беларусі і Літве, якое пагражала асновам феадалізма, напалохала нацыянал-лібералаў, і яны летам 1863 г. пачалі падаваць вернападданніцкія адрасы рускаму цару і каяліся ў сваіх памылках. Першымі падалі адрас віленскія дваране. Адзін з іх пазней пісаў: «Калі ў 1863 г. граф Мураўёў патрабаваў, каб 27 ліпеня абавязкова быў пададзен адрас ад дваранства, подпісаў жа было ўсяго каля 40 і справа ішла вельмі цяжка, Барташэвіч (правадзейны стацкі саветнік, віленскі памешчык. — *А. С.*) сумесна з Кіркорам (выдавец «Виленского вестника». — *А. С.*), нягледзячы на панаваўшы яшчэ тэрор народнага жонда, на працягу аднаго дня і ночы паспелі сабраць

---

[1] К. Маркс і Ф. Энгельс. Творы, т. XXIII, стар. 259.

больш 160 подпісаў і адрас быў пададзен. Тады ім было аб'яўлена, што яны зрабілі дзяржаўную справу і многае абяцалі. Скончылася, аднак, тым, што князя Ш. (Шырынскі-Шахматаў. — *А. С.*) зрабілі, уласна за адрас, флігель-ад'ютантам, а аднаго з дзейнічаўшых пазбавілі службы і разарылі» [1].

У сваім пісьме жонду ад 7 (19) кастрычніка 1863 г. К. Каліноўскі адзначаў, што кампанія з вернападданніцкімі адрасамі, задуманая Мураўёвым, не адлюстроўвае сапраўдных пачуццяў насельніцтва краіны, што подпісы сабралі афіцэры, якія раз'язджалі з вёскі і да вёскі, з маёнтка да маёнтка і вазілі з сабой раней падрыхтаваныя адрасы, што прадстаўнікоў сялян сабралі ў палац Мураўёва, дзе прачыталі ім падрыхтаваны адрас і г. д. Каліноўскі, які бачыў гэтую кампанію насілля над сумленнем, у сваім звароце да насельніцтва даў каманду не сароміцца ў падпісванні адрасу, каб не ставіць пад удар лепшых патрыётаў краю. Але ў той жа час рэвалюцыйная арганізацыя выпусціла контрадрас, які ў кароткі тэрмін падпісала 250 тысяч чалавек. Гэта было, паводле слоў Каліноўскага, сведчаннем таго энтузіязма, які гарыць у сэрцах грамадзян, натуральным дапаўненнем той мужнай барацьбы, якую вёў народ на працягу 8 месяцаў, пацвярджэннем давер'я насельніцтва краю законнаму рэвалюцыйнаму ўраду, доказам таго факта, што царскі ўрад «чужы краю і ненавісны ўсім слаям грамадства».

Адзначаючы, што зямля ўслізгвае з-пад ног карнікаў, Каліноўскі піша, што кампаніяй падачы фальшывых адрасоў Мураўёў імкнецца стварыць бачнасць законнасці і парадку. Але насілле, да якога ён звяртаецца, выкрывае яго і з'яўляецца сведчаннем слабасці.

«Адсюль і дзікі тэрарызм, які праводзіцца з мэтай складання адрасоў, супраціўных усім пачуццем жыхароў краю» [2].

На працягу некалькіх тыдняў закончыўся пераход польскага ліберальнага дваранства ў лагер прыгонніка Мураўёва. У царскім урадзе лібералы Беларусі і Літвы

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ ПА, 1863 г., с. 8, лл. 33, 34.

[2] W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863—1903 rr. Lwów, 1903, Str. 27—29.

ўбачылі цяпер адзіную сілу, здольную абараніць іх ад тапара селяніна. Доказ — пісьмо мінскага памешчыка Маркулевіча да аднаго са сваіх сяброў. «У нашых краях,—піша ён восенню 1863 г., — усё добра і спакойна Сяляне, якія атрымалі адчувальнае перакананне ад казакаў, што лепш жыць спакойна, чым бунтавацца па нагаворах якіхсьці разбойнікаў, супакоіліся пасля той самай зразумелай прамовы вельмі хутка пры дапамозе бізуна, што прыводзіць да перакanання, усумніліся ў добрых выніках узнятага бунта і зрабіліся спакойнейшымі, па крайняй меры, цяпер не глядзяць так дзіка на «ляхаў», як яны звычайна называюць сваіх паноў і ўсіх тых, якія або лепш апрануты, або больш цывілізаваныя». Гэты «цывілізаваны» нягоднік не прыняў удзелу ў паўстанні, бо, паводле яго слоў, гэта быў мяцеж сялян і «падбухторшчыкаў». «Сяляне паўсталі, — піша ён, — супроць памешчыкаў, каб ім не плаціць і не адрабляць павіннасці, але пакараныя ўрадам, супакоіліся»[1]. Пан Маркулевіч выказаў у сваім пісьме тую ўдзячнасць Мураўёву-вешацелю, якая напаўняла сэрцы ўсіх памешчыкаў Беларусі і Літвы, насмерць перапалоханых сялянскімі «бунтамі» і дзейнасцю рэвалюцыйных дэмакратаў. Сярод панаваўшых класаў Беларусі і Літвы былі, вядома, сякія-такія рознагалоссі ў тым, колькі шкур можна спусціць з селяніна ў адну рэформу, але гэтыя рознагалоссі змоўклі ў страху перад паўстаўшым сялянствам. Іменна гэтую сямейку прыгнятальнікаў меў на ўвазе К. Каліноўскі, калі выкрываў балбатню Мураўёва аб народнасці і братэрстве і пісаў сялянам перад смерцю, заклікаючы да працягвання барацьбы: «жадалі мы доўга, аж нарэшце, тры гады таму выйшаў указ царскі. Праўда, многа там было напісана, а карысці то для нас мала. Парабілі адно канцыляры пасрэднікаў, старшаў, пісараў, усё за грошы мужыцкія, а паншчыну як хадзілі, так і трэба было хадзіць. Дачуўшы мы гэта сталі праціўны, і тут то маскалі нашліся, каб прымусіць нас да «міласці» царскай, а нагайка казацкая мела скрапіць наш братні ўзел. Не ведаю адно з кім, ці з панамі, ці з маскалямі. Няхай за мяне скажуць тыя, што мелі ах-

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 554, лл. 113, 191.

воту скрапляці дабрадзеі нашыя...» (Пісьмо з-пад шыбеніцы).

Характэрна, што ў гэты ж час частка польскіх і беларускіх памешчыкаў, якая зняверылася ў дапамогу Францыі і адышла ад паўстання, пачала прапагандаваць ідэю стварэння славянскай федэрацыі пад скіпетрам рускага імператара.

Як гэтая тэорыя імператарскага панславізма, так і праславутая формула народнасці, праваслаўя і самадзяржаўя, якая насаджалася Мураўёвым, былі спробай раскалоць сілы паўстаўшых, адурманіць сялян, адарваць іх ад рэвалюцыйных дэмакратаў.

Вось супроць гэтых тэорый выдуманага братэрства і змагалася група Каліноўскага.

Змагаючыся з афіцыйнай тэорыяй «самадзяржаўя, праваслаўя, народнасці» і імператарскім панславізмам, Каліноўскі і яго таварышы раскрывалі працоўным масам, што гэтая прапаганда братэрства, змацаванага бізуном і свінцом, братэрства прыгнечанага сялянства з памешчыкам і царом, якія сядзяць на яго шыі.

У гэты перыяд абвостранай ідэалагічнай барацьбы Каліноўскаму прыйшлося выступіць супроць рэакцыйнага каталіцкага духавенства, якое таксама, падобна казённай праваслаўнай царкве, імкнулася выкарыстаць рэлігію для барацьбы з паўстаннем. З самага пачатку барацьбы каталіцкае духавенства, застаючыся верным прыслужнікам эксплуатататараў, вяло барацьбу з паўстаўшымі. Яшчэ ў сакавіку 1863 г. цяльшэўскі епіскап Валанчэўскі заклікаў «мілых сваіх авечак» абліцца слязьмі раскаяння, адмовіцца ад барацьбы за свабоду, «каб кровапраліццю хутчэй пакласці канец, каб бог устанавіў паміж намі мір, спакой і ўзаемную міласць» [1].

У пачатку верасня 1863 г. каталіцкае духавенства яшчэ больш рашуча выступае супроць паўстання. 6 верасня той жа Валанчэўскі ў сваім звароце да сялянства пісаў: «Безумоўна, перадайцеся на волю вышэйшага ў нашым краі начальства... Паны і дваране ў адрасах выказалі ўжо сваю пакорлівасць і просяць аб паміла-

---

[1] Філіял ЦДА Літ. ССР, г. Каўнас, ф. Канц. ковенскага губернатара, аддз. паліт., 1864, с. 92/203.

ванні гасудара імператара. Затым і вы, дзеці мае, не будзьце ўпартымі далей і не адставайце ад іх у пакорлівасці перад урадам»[1].

Падобная ж адозва да сялян, якая заклікала іх «да раскаяння і выпраўлення грэшнага жыцця», была выдадзена Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыяй. «Безумоўна, аддавайцеся на волю і памілаванне вышэйшага ў нашым краі начальства, — пісалі сялянам ксяндзы, — гэта ёсць прамы абавязак, які ўскладае на вас наша святая рэлігія, указваючы, што ўсякая ўлада ідзе ад бога. Выконвайце святыя яе загады... Пакіньце ўсякае супраціўленне... усе злосныя намеры»[2].

Гэтыя адозвы былі надрукаваны ў губернскіх газетах, выданы ў выглядзе асобных лістовак, іх апавяшчалі ў касцёлах ксяндзы, а епіскапы рабілі спецыяльныя паездкі па епархіях, асабіста заклікалі сялян да капітуляцыі.

Калі ўлічыць распаўсюджанне каталіцызма (у тыя гады, па даных улад, у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губернiях налічвалася да 2-х мільёнаў католікаў) і ўплыў царквы, якая аблытвала іезуіцкай сеткай свядомасць непісьменных сялян, то можна сабе ўявіць, якія дадатковыя цяжкасці ўзнікалі перад Каліноўскім.

Неабходна было, не абражаючы рэлігійных пачуццяў веруючых, абясшкодзіць выступленне «духоўных пастараў». І трэба прызнаць, што гэтую задачу ён вырашыў па-майстэрску.

У сваім контрзвароце, адрасаваным каталіцкаму кліру, Каліноўскі пісаў, што ў пасланнях ксяндзоў святая барацьба народа супроць грубага насілля называецца бунтам, мужныя барацьбіты, якія нясуць сваё жыццё на алтар свабоды і веры, — злачынцамі і бунтаўшчыкамі, закляты вораг, кат і жорсткі прыгнятальнік радзімы велічаецца законным і міласцівым манархам. А труслівае адмаўленне ад барацьбы ўзводзіцца ў абавязак, зыходзячы з запаведзяў святой рэлігіі. Ніколі яшчэ не было так ўніжана запаведзь — «не бяры імя

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. II, стар. 539.
[2] Там жа.

бога для ашуканства» і кім жа — тымі, хто абавязан захоўваць у чыстаце запаведзь бога.

Ад імя рэвалюцыйнай улады ў Літве Каліноўскі выказваў у гэтым дакуменце гнеўны, напоўнены з'едлівай ірoніяй, пратэст супроць грэшнай слабасці, якая прывяла прэлатаў да таго, што яны паддаліся перавазе ворага, схлусілі ўласнаму сэрцу і загадалі гэтую хлусню аб'явіць у храмах — месцах, прысвечаных вечнай праўдзе.

І далей Каліноўскі іранічна пісаў:

«Усклікнем разам з Вамі і з вялікім паэтам: праўда, мабыць, што колькасць нашых грахоў узрасла звыш усякай меры, калі бог пастараў нашых пазбавіў стойкасці і духу самаахвяравання.

Разбэшчанасць, якая ідзе зверху, спусташэнне духу і слабасць у тых, хто павінен быць прыкладам пастаянства, вытрымкі, самаахвяравання — вось боль самы бязлітасны. Нішто ў параўнанні з ім забойствы, пакуты, пажары, зробленыя карнікамі ў нашым краі».

У адозве далей выказвалася надзея, што народ здолее выявіць фальш гэтых заклікаў, хоць яна і аб'яўлена з высокіх прапаведніц у храмах.

Учынак ксяндзоў, сцвярджаў далей Каліноўскі, нічым не можа быць апраўданы. Могуць засупярэчыць, што яны былі пастаўлены ў безвыхаднае становішча і схіліліся перад сілай, выбраўшы меншае зло. Але гэта не апраўданне: «Няхай людзі гэтага свету кіруюцца дыпламатычнымі хітрасцямі. Вам, прэлаты, калі вы жадаеце быць вернымі прадстаўнікамі Хрыста, трэба кіравацца адзіна праўдай, а не выбіраць зло, хоць бы і найменшае, бо нават самае малое зло нельга дапускаць у імя выратавання ўсяго свету. Значыць далёкай ад сэрцаў вашых павінна быць усякая боязь і асцярожнасць людская, калі вы выконваеце Ваш святы абавязак».

Разумна складзены, ядавіты па сутнасці і ветлівы па форме контрзварот Каліноўскага зрываў з ксяндзоў покрыва святасці і раскрываў сялянам сапраўдныя матывы варожых паводзін духавенства.

Народныя масы разупэўніваліся ў шчырасці і святасці сваіх пастараў. Епіскап Валанчэўскі ў асабістым пісьме да Мураўёва пісаў:

«Народ наракае і абураецца на мяне, уплыў мой, ужо многа пацярпеўшы, з кожным днём памяншаецца. З розных месц епархіі я атрымліваю дакоры... Становішча маё зрабілася крайне нявыгадным».

Друг і баявы саратнік К. Каліноўскага, адважны правадыр літоўскіх сялян А. Мацкевіч указваў, што Валанчэўскі «пасланнем і яшчэ больш сваімі пропаведзямі ў Коўна, Велькаміры, Шаулях настроіў супроць сябе людзей як тых, якія знаходзіліся ў паўстанцкіх атрадах, так і тых, хто быў дома... Гэта з'явілася прычынай многіх на яго пасквілей і пагроз, што і раней часта было».

Гэтыя дзеянні Каліноўскага, якія своечасова і з улікам абставін былі зроблены, паралізавалі спробу Мураўёва і рэлігійнай верхавіны патушыць паўстанне пры дапамозе спекуляцыі на рэлігійных пачуццях сялян Літвы і Беларусі.

У радзе раёнаў, кіруючыся зваротам Каліноўскага, ніжэйшае духавенства не апавясціла заклікаў епіскапаў да спынення ўзброенай барацьбы. Так, Велькамірскі ваенны начальнік даносіў: «Да ведама майго дайшло, што ў некаторых касцёлах не чыталі ўгаворванні епіскапа Валанчэўскага» [1].

Выкрыццё Каліноўскім каталіцкага духавенства як прыслужніка прыгнятальнікаў сялянства было часткай барацьбы, якую ён вёў за прадаўжэнне паўстання і яго дэмакратызацыю. Ужо не «Мужыцкая праўда», а загады кіраўніцтва паўстаннем, звернутыя да народа зямлі літоўскай і беларускай, заклікалі сялян да рэвалюцыйнага захопу зямлі, да адстойвання сваіх уласных інтарэсаў. У загадзе ад 24 жніўня 1863 г. Каліноўскі (маецца на ўвазе царскі ўрад. — *А. С.*) піша: «Дурачыць вас маскаль, талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павярнуць паншчыну, ён хоча ўскаламуціць ваду, каб у мутнай вадзе па-старому рыбу лавіці. Но дзело наша не дзело панскае, а справядлівай вольнасці, якую вашы дзяды і бацькі з даўня жадалі і якую маскаль з кровапійцамі вашымі спыніці хочэ!!

---

[1] Філіял ЦДА Літ. ССР, г. Каўнас, ф. Канц. ковенскага губернатара, с. 164, л. 9.

Но минула ўже паншчына, мінула ваша крыўда — і ніякая сіла яе не поверне... Рад Польскі (маецца на ўвазе рэвалюцыйны ўрад Беларусі і Літвы. — *А. С.*) аддае вам без ніякаго выкупу і чіншоў тую зямлю, на якой сідзелі вашы бацькі і дзяды. Гэты Рад Польскі дае вам праўдзівую вольнасць... Ніхто не смее крыўдзіць прастого чэловека... Чыншоў, аброкоў і падаткоў у казну маскоўскую да і панам ніякіх больш не плаціць, бо гэта зямля ўже ваша...» [1].

Трэба адзначыць, што ва ўсёй дзейнасці групы рэвалюцыйна-дэмакратычнай моладзі, якая ўзначаліла летам 1863 г. паўстанне, відаць яе сувязь з шырокімі коламі дэмакратычнай інтэлігенцыі Беларусі і Літвы.

Адкрыты пераход польскага ліберальнага дваранства ў лагер Мураўёва, адыход часкі сялян ад паўстання з прычыны нацыяналістычных тэндэнцый ранейшага кіраўніцтва прывялі да далейшай дыферэнцыяцыі радоў паўстанцаў.

Працягвалі барацьбу толькі тыя, хто верыў у сілу і справядлівасць сялянскага руху і спрабаваў распаліць полымя сялянскай вайны.

Глыбокія змены ў настроях польскай інтэлігенцыі, якая справядліва бачыла ў карысталюбстве панства прычыну паражэння паўстання, цудоўна перадаюць успаміны У. Г. Караленкі. У іх выказана не толькі спецыфіка Валыні тых гадоў, але і агульныя рысы эпохі паўстання 1863 г. і, у прыватнасці, настроі грамадства перыяду чэрвеня—жніўня 1863 года.

«Паўстанне памірала. Гаварылі ўжо не пра бітвы, а пра бойні і пра паляванне на людзей. Расказвалі, быццам мужыкі закопвалі злоўленых паноў жывымі ў зямлю...

... У польскім грамадстве месца ўзбуджэння заняло расчараванне і, здаецца, дэмакратызм змяніў рамантычныя мары пра бляск і пышнасць «гістарычнай Польшчы». Замест самахвальскага («Яшчэ Польшча не загінула» і «Пад Сточкам грымяць гарматы») — моладзь спявала змрочную і горкую дэмакратычную песню:

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. ГГ, с. 1317.

«О, честь вам, паны и князья, прелаты,
За край, братней кровью залитый...»[1]

Без гэтай дэмакратызацыі розумаў нельга правільна зразумець дзейнасць групы К. Каліноўскага, прычыны і вытокі яе самаадданай барацьбы.

З загадаў Каліноўскага і іншых дакументаў, якія дайшлі да нас, відаць, што ў цэнтры дзейнасці яго як кіраўніка паўстання ў Беларусі і Літве з ліпеня 1863 г. былі наступныя задачы: па-першае, не дапусціць умяшання Варшаўскага жонда ў справу паўстання сялян і іншых дэмакратычных элементаў і ажыццявіць сваю рэвалюцыйна-дэмакратычную праграму, па-другое, ліквідаваць вынікі дзейнасці буржуазна-шляхецкага кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве, што адштурхнула сялян ад паўстання сваім ігнараваннем інтарэсаў народа, па трэцяе, сарваць манеўры Мураўёва-вешацеля, які, выкарыстоўваючы цемнату сялян і памылкі ранейшых кіраўнікоў паўстання, спрабаваў убіць клін паміж салянамі і кіраўнікамі паўстання (Мураўёў паказаў кіраўнікоў паўстання агентамі польскіх паноў і сцвярджаў, што паўстанне, справа рук паноў-памешчыкаў, якія імкнуліся вярнуць адменнае царом прыгоннае права).

Але, выстаўляючы гэтую праграму, якая ў корані адрознівалася ад праграмы Варшаўскага жонда і яго агентаў, Каліноўскі быў усё ж вымушан прызнаваць сваю афіцыйную залежнасць ад жонда і тым самым разлічвацца, насуперак сваёй волі, за яго памылкі. Гэта паслабляла значэнне выстаўленай Каліноўскім дэмакратычнай праграмы, таму што сяляне з практыкі дзеяння атрадаў Варшаўскага жонда ведалі, што зямлі сялянам ён не дае, «бацькаўшчыну не вяртае». Праўда, Каліноўскі падкрэсліваў, што не польскі ўрад у Варшаве, а рэвалюцыйны ўрад Беларусі і Літвы, толькі што створаны, прызнае іх права на зямлю і заклікае іх да захопу зямлі. Але гэта быў толькі слабы водбліск той барацьбы, якую вёў Каліноўскі з Варшаўскім жондам, і наўрад ці ўлоўліваўся ён сялянамі. Каб пераканаць

---

[1] У. Г. Караленка. Гісторыя майго сучасніка. Выд. 1948 г., стар. 99.

сялян у тым, што «Урад польскі над усім краем літоўскім і беларускім», у адрозненне ад Варшаўскага цэнтральнага ўрада і яго агентаў, стаіць на варце інтарэсаў сялян, Каліноўскі загадаў паўстанцкім атрадам узяць пад сваю абарону сялян. Так, у кастрычніку 1863 г. сяляне аднаго з сельскіх вобшчастваў Ковенскай губерні былі сабраны прадстаўнікамі царскай адміністрацыі для спагнання падаткаў і нядоімак. Сяляне неадкладна паведамілі аб гэтым паўстанцам і апошнія прыйшлі да іх на дапамогу. Паўстанцкі атрад, які з'явіўся сюды з самімі сялянамі, разагнаў царскіх чыноўнікаў і не даў спагнаць нядоімкі і падаткі. Як адзначаў адзін з царскіх чыноўнікаў, «са справы відаць, што віна ляжыць на ўсім Пупанскім сельскім вобшчастве» [1].

Трэба асабліва падкрэсліць, што, выстаўляючы і абараняючы ў ходзе барацьбы праграму, якая адпавядала інтарэсам сялянства, Каліноўскі імкнуўся ўзмацніць паўстанне. Гэта неабходна адзначыць, таму што ў свой час карнікі для адводу вачэй ад сваёй крывавай дзейнасці скажалі факты, спрабуючы даказаць, што з прыходам да кіраўніцтва паўстаннем Каліноўскі стварыў дыктатуру, якая не мела ніякай апоры ў масах, працягвала барацьбу шляхам тэрору, запалохвання народаў, забойства з-за вугла і да т. п. Пазней гэтая хлусня была падхоплена буржуазнымі нацыяналістамі. Апошнія сцвярджалі, што Каліноўскі быў дыктатарам, які адарваўся ад сялянскіх мас і абапіраўся ў сваёй дзейнасці на спецыяльную арганізацыю тэрарыстаў (кінжальнікі і жандары-вешацелі). У ходзе барацьбы паўстанцы, вядома, прымянялі рэпрэсіі, але апошнія не насілі масавага характару. Караліся толькі здраднікі і прадажнікі, прычым пакаранне праводзілася публічна, па прыгаворах ваенных судоў, якія меліся ў кожным паўстанцкім атрадзе, або па рашэнню саміх сялян. Пакаранне з'яўлялася неабходнай мерай самаабароны. Гэта сведчыць не аб адарванасці групы Каліноўскага ад сялянства, а аб сувязі з ім. У паўстан-

[1] Філіял ЦДА Літ. ССР, г. Каўнас, ф. Канц. ковенскага губернатара, с. 164, л. 8.

цах, якія распраўляліся са здраднікамі і прыгнятальнікамі народа, сяляне справядліва бачылі сваіх абаронцаў. Аб гэтым сведчыць такі прыклад: адзін селянін за здзекі з яго пляменніцы прыгразіў кулаку-мiраеду: «Пачакай, не будзешь ведаць у якую ноч цябе павесяць паўстанцы»[1].

Каліноўскі заклікаў сялян не верыць Мураўёву-вешацелю і створаным ім камісіям, якія вялі ў гэты час дэмагагічную праверку ўстаўных грамат. Ён гаворыць сялянам, што не трэба чакаць, калі царскія чыноўнікі дадуць сялянам зямлю. «Цяпер настаў час, што кожнаму будзе адмерана так, як ён сам сабе намерыць, — піша Каліноўскі ў звароце ад 24 жніўня. І далей: «Пан будзе ліхі, пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі, то і мужыка павесім... і будзе справядлівая вольнасць... мы людзі вольныя, немаш у нас няволі! а хто хоча няволі, таму дадзім шыбеніцу... А хто гэтаму прыказу спрэчен будзе, того ці ён поп, ці ксёндз, мужык ці пан, аб усякім даносіць польскаму ўраду... або, зазваўшi Грамаду і зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весці на шыбеніцу! Бо хто хоча крыўды людской, — той няхай лепш сам марно прападае!» (Загад ад 24 жніўня 1863 года).

Вядома, што сяляне-паўстанцы выконвалі загад свайго кіраўніка. Так, начальнік паўстанцкага атрада Павел Чарвінскі (Сава) загадаў павесіць багатага хутараніна, які «патрабаваў ісці лавіць з ім мяцежнікаў». Чарвінскі ж аддаў загад павесіць некалькі тракціршчыкаў, якія займаліся шпіёнствам, палражалі сялянам даносамі і бралі хабар, а адзін з іх захапіў у сваёй карчме і выдаў ураду паўстанца[2].

Каліноўскі, які стаў кіраваць паўстаннем, змяніў тактыку ўзброснай барацьбы. Ён адмовіўся ад дзеяння буйнымі атрадамі, а прымяніў партызанскую тактыку. Яшчэ знаходзячыся на Гродзеншчыне, як мы адзначалі вышэй, ён рабіў спробы фарміраваць невялікія, добра ўзброеныя рухомыя партызанскія атрады. Цяпер гэты план ён з уласцівай яму энергіяй пачаў шырока ажыц-

[1] Філіял ЦДА Літ. ССР, г. Каўнас, ф. Канц. ковенскага губернатара, паліт. аддз., с. 126, л. 1.
[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 33, л. 133.

цяўляць. Каліноўскі разумеў, што сялянскае паўстанне не можа прыняць метады рэгулярнай вайны, і што нельга дзейнічаць буйнымі атрадамі, пакуль паўстанне не стала ўсерасійскім. Буйныя атрады лёгка знішчаліся б карнікамі. Апошнія мелі вялікую перавагу ва ўзбраенні пяхоты і кавалерыі і валодалі, апрача таго, моцнай артылерыяй, якой амаль не мелі паўстанцы. У вялікім баі выявілася б перавага царскіх войск, якія абучаны да дзеянняў строем і валодаюць непараўнальна лепш, чым партызаны, метадамі вядзення рэгулярнай вайны, зводзілася б на нішто перавага паўстанцаў у веданні мясцовасці і адпаў бы такі важны фактар, як падтрымка іх насельніцтвам. Усе гэтыя меркаванні прывялі Каліноўскага да арганізацыі невялікіх конных партызанскіх атрадаў, якія абаранялі сялян ад прыгнятальнікаў, абуджалі ў іх разуменне неабходнасці барацьбы не толькі са сваімі мясцовымі прыгнятальнікамі, але і з царом і яго войскамі. У якасці прыкладу можна прывесці дзеянні паўстанцкага атрада Паўла Чарвінскага (Савы). У атрадзе Савы ўсе паўстанцы былі добра ўзброены, мелі добрых коней. Атрад быў выключна рухомым, бо меў многа запасных коней. Сава, які дзейнічаў на поўначы Віцебскай губерні, карыстаўся шырокай і актыўнай падтрымкай сялян і меў вялікія поспехі ў барацьбе з царскімі войскамі [1].

Партызанская тактыка атрадаў Каліноўскага была падпарадкавана вырашэнню задачы, якая стаяла перад рэвалюцыйнымі дэмакратамі Расіі ў 1863 г. Гэтая задача зводзілася да таго, каб узброеную барацьбу ў Польшчы, Беларусі і Літве падтрымаць паўстаннем па ўсёй Расіі, ператварыць «у рускае сялянскае паўстанне» [2]. У святле гэтага даволі цікавыя некаторыя прызнанні генерала Ратча. «Сябры Каліноўскага,— піша ён,— меркавалі, каб усё насельніцтва Паўночна-Заходняга краю ўцягнуць у мяцеж... наваднiць яго мноствам мясцовых шаек, чыніць аднachасовыя ўсемагчымыя беспарадкі, разбураць усе ніці ўрадавай улады

[1] ЦДА Літ. ССР, Вільнюс, ф. 439, с. 523, л. 66.
[2] Весці АН СССР, серыя гісторыі і філасофіі, т. 4, № 2, стар. 121.

і пры дапамозе лясоў бесперашкоднымі і хуткімі перасоўваннямі даць магчымасць шайкам услізгаць ад праследавання войск, стамляць іх і ўвесь край ахапіць вялікім пажарам мяцяжу»[1].

«Каліноўскі пры разладзе з Варшаўскім жондам і маючы галоўных праціўнікаў у землеўладальніках, ад якіх ён хацеў ачысціць краіну..., разлічваў, што адначасовы мяцеж, раскінуты па ўсёй Паўночна-Заходняй Расіі..., будзе адабральным прыкладам для сялян суседніх вялікарускіх губерняў... Сваю думку стараўся прывесці ў выкананне»[2].

Каліноўскі, які ўзначаліў паўстанне, пасылае ў Пецярбург свайго друга У. Малахоўскага для ўстанаўлення адзінства з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі, у прыватнасці з таварыствам «Зямля і воля».

Мы пакуль не маем магчымасці ва ўсім аб'ёме ўстанавіць сувязі «Зямлі і волі» з групай К. Каліноўскага і рэвалюцыйнымі коламі ў Беларусі і Літве, але бясспрэчна, што яны падтрымліваліся на працягу ўсяго часу з моманту паўстання і не спыняліся летам і восенню 1863 года.

Відавочна, у задачу У. Малахоўскага ўваходзіла ўстанаўленне больш цеснай сувязі з Цэнтральным Камітэтам «Зямлі і волі» і распрацоўка з ім агульнага плана рэвалюцыйных дзеянняў, а таксама стварэнне ў Пецярбургу пастаянна дзеючай групы сувязі з рускімі рэвалюцыянерамі. Даныя, паведамлёныя Л. Панцялеевым, В. Касоўскім, О. Авейдэ, І. Агрызка і іншымі, дазваляюць у агульных рысах аднавіць карціну рэвалюцыйных сувязей. Л. Панцялееў успамінае: «Летам прыязджаў з Вільні Малахоўскі і хоць гаварыў, што паўстанне ўсё больш і больш разгараецца, тым не менш маліў аб якой-небудзь дыверсіі»[3]. Са слоў Панцялеева відаць, што рэвалюцыйныя дэмакраты ў Вільні настойліва змагаліся за ўзмацненне паўстання і ўмацаванне саюза з «Зямлёй і воляй».

Паказальна, што па прызнанню Авейдэ жонд Варшаўскі з сакавіка 1863 г. не імкнуўся больш да пад-

---

[1] В. Ратч. Указ. тв., т. 1, стар. 202.
[2] Там жа, стар. 194.
[3] Л. Панцялееў. З успамінаў мінулага. Выд. 1934 г., стар. 293.

трымання сувязі з «Зямлёй і воляй». Каліноўскі ж і яго група, прыйшоўшы да кіраўніцтва паўстаннем, устанавілі прамы кантакт з «Зямлёй і воляй». Гэта прызнае і Авейдэ.

«У час майго знаходжання ў Вільні,— піша ён,— Малахоўскі Уладыслаў пісаў з Пецярбурга Каліноўскаму, што ён пазнаёміўся з рускімі рэвалюцыянерамі (г. зн. Камітэтам) і што яны на самай справе слабыя, але што ён раіць Віленскаму Камітэту дапамагаць ім для карысці рэвалюцыі і прасіў, іменна, прыслаць ім адну тайную друкарню і даць на выдаткі як пазыку 500 рублёў серабром. Каліноўскі... загадаў адправіць па ўказанаму Малахоўскім адрасу ў Пецярбург друкарню, нядаўна выпісаную з-за граніцы...»

Авейдэ ўказвае далей, што па прычыне арышту ён не ведае, ці працягваліся адносіны групы Каліноўскага з «Зямлёй і воляй», і выказвае меркаванне, што, відавочна, не працягваліся з прычыны слабасці паўстання і слабасці рускіх рэвалюцыянераў. Гэтую здагадку рэнегата кат Гогель ператварае ў факт, які як бы адбыўся. Ён сцвярджае, што, апрача гэтага выпадку, іншых адзнак сваёй жыццяздольнасці руская рэвалюцыянеры не падавалі і нічым дапамагчы паўстанцам ужо не маглі, бо Мураўёў крышыў усе рэвалюцыйныя арганізацыі.

Слоў няма, арышты, паражэнні многіх атрадаў забралі нямала выдатных людзей, правалілася нямала явак, але сувязі не абарваліся і дапамога ўсё ж была. Ажыццяўлялася гэтая дапамога ў выключна цяжкіх умовах.

Узаемадапамога рэвалюцыйных груп Пецярбурга і Вільні патрабавала пастаяннага кантакта. Падтрымліваўшыя яго раней В. Касоўскі і І. Агрызка з прыходам у Вільні да кіраўніцтва паўстаннем групы Каліноўскага ад справы адышлі. Так О. Авейдэ ўказвае: «Памятаю яшчэ толькі, што ў час майго знаходжання ў Літве Уладзіслаў Малахоўскі пасля выезду свайго з Вільні ў Пецярбург у пісьме, прысланым адтуль Каліноўскаму Кастусю, скардзіўся на нядзейснасць і баязлівасць Агрызкі і прасіў Віленскі Камітэт патрабаваць у народнага ўрада выдалення яго, рэкамендуючы разам з тым нейкага, не памятаю, доктара пры статс-

сакратарыяце Царства Польскага на рэвалюцыйнага агента ў С.—Пецярбургу. Я рэкамендацыі Малахоўскага паслаў у Варшаву, але аб выніку пасылкі не ведаю, таму што між тым быў арыштаваны»[1].

У сваіх паказаннях І. Агрызка не адмаўляе факта сустрэчы з У. Малахоўскім і, па сутнасці, прызнае, што пазбягаў абмеркавання з ім плана далейшых рэвалюцыйных дзеянняў.

«Малахоўскі,— указвае І. Агрызка,— наколькі прыпомніць магу, прыехаў з Вільні ў Пецярбург не раней палавіны жніўня 1863 года... Я сустрэў яго на лесвіцы, якая вяла ў маю кватэру, ён сказаў мне, што жадае пагаварыць са мной, але паколькі я не меў тады часу, то прасіў яго зайсці да мяне калі-небудзь вечарам, але ён у мяне не быў, праз некалькі дзён я даведаўся, што яго загадана арыштаваць, і ён схаваўся...»[2].

З прыведзеных фактаў відаць, што місія Малахоўскага была загадзя абдуманым крокам, накіраваным да аднаўлення і ўмацавання сувязей з Пецярбургам. Мы не ведаем, у якой меры яго дзеянні былі паспяховымі, але бясспрэчна, што «Зямля і воля» працягвала і восенню і зімой 1863 г. сваю дзейнасць у дапамогу паўстанцам Літвы і Беларусі.

Гэтая дапамога выражалася перш за ўсё ў маральнай падтрымцы паўстаўшых. У радзе выпадкаў уцалеўшыя землявольцы рабілі прамыя спробы да пераходу ў рады паўстаўшых, вялі ў войсках прапаганду. Знамянальна, што рэвалюцыйныя групы ў армейскіх часцях, прымаўшых удзел у падаўленні паўстання, працягвалі захоўваць свае сувязі з цэнтрам, атрымлівалі адтуль надрукаваныя ў Пецярбургскай вольнай друкарні адозвы. Так, 17 жніўня 1863 г. ваенныя ўлады даносілі аб выяўленні ў Брэсце «друкаванай адозвы на рускім дыялекце». 20 снежня 1863 г. у крэпасці Брэст-Літоўск сярод салдат хадзіла па руках адозва «Да рускіх войск у Польшчы». Гэты факт сведчыць, што рэвалюцыйная арганізацыя ў Пскоўскім пяхотным палку працягвала ў снежні 1863 г. агітацыю ў карысць руска-польскага рэвалюцыйнага саюза.

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 1839.

[2] Там жа.

Нельга не адзначыць таксама і той факт, што рэвалюцыйная арганізацыя ў крэпасці Брэст-Літоўск імкнулася зрабіць сваю прапаганду канкрэтнай і сістэматычнай. З гэтай мэтай члены арганізацыі часта выпускалі рукапісныя адозвы, у якіх, звяртаючыся да гарнізона, пратэставалі супроць нацкоўвання адзін на аднаго «двух родных народаў» і заяўлялі, што сапраўдны патрыятызм патрабуе падтрымкі паўстаўшых аж да пераходу са зброяй у руках у іх рады. У адозве, напісанай імі 22 ліпеня 1863 г. і звернутай да гарнізона крэпасці Брэст-Літоўск, гаварылася:

«Таварышы! Вы няшчасны народ! Вы пакідаеце бацьку, маці, братоў, сёстраў, родных, жонку, дзяцей, гаспадарку; бадзяецеся па чужых краях далёка ад радзімы 15—20 або 25 год, працуеце, работаеце як коні, траціце ваша здароўе, маёмасць і жыццё. І якое шчасце будзе вам пасля выслугі год? Зноў бадзяцца і прасіць міласціну! А крыху пасля лажыцца ў магілу. Браткі! Ні ў якога цара на зямлі няма такой чартоўскай службы: такую службу не чалавек, а чорт выдумаў... Палякі, як добрыя хрысціяне, не хочуць вас ні рэзаць, ні крыўдзіць, яны толькі абараняюць сябе, бо яны хочуць жыць у сябе дома, сваімі сем'ямі і займацца сваёй гаспадаркай і не хочуць, каб іх мучылі так, як вас мучаюць чартоўскай і разаральнай службай. Палякі хочуць, каб і вам можна было жыць на свеце так, як бог загадаў, а не так, як чорту трэба. Злучыцеся з палякамі... У іх ужо ёсць многія з нашых, якія зразумелі ў чым справа...» [1]

К. Каліноўскі прыцягвае да кіраўніцтва паўстаннем рэвалюцыйную моладзь, у тым ліку сваіх таварышаў па ўніверсітэту (В. Врублеўскага, І. Здановіча, Т. Далеўскага, І. Яманта і яго сёстраў і іншых). Гэтая група кіравалася ў сваёй дзейнасці ідэаламі рэвалюцыйнага дэмакратызма. Ковенскі памешчык Я. Гейштар лічыў яе рассаднікам рэвалюцыйных ідэй. «Для ўсіх, якія былі ва ўніверсітэтах, — пісаў ён у 1864 г., — было ясна, што ўплыў гэтых універсітэтаў, нікольні не

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. ГГ, с. 1317, л. 106.

выкараняючы польскага патрыятызма, прыносіў зародкі сацыялізма, чужыя краіне і шкодныя ўраду...»[1]

Былі прыняты рашучыя меры да аднаўлення парваных ахранкай вузлоў рэвалюцыйнай сеткі. Асаблівая ўвага была накіравана на канспірацыю членаў кіраўніцтва. Пры малейшым падазрэнні мяняліся явачныя кватэры. Была ўстаноўлена сістэма паролей і водзываў.

Адзін час пароль у К. Каліноўскага быў: «Каго любіць?» Водзыў: «Люблю Беларусь!».— «Так узаемна»[2].

Вялікая ўвага ўдзялялася фінансаваму боку арганізацыі. Гэтымі пытаннямі займаўся І. Здановіч.

Энергічная дзейнасць маладых важакоў паўстання прынесла ім любоў і павагу дэмакратычных колаў края. У адным са сваіх пісьмаў Алена Ямант асцярожна паведамляла аб гэтым: «Нядаўна пазналі мы некалькі таварышаў Юзіка (Іосіфа Яманта, члена новага кіраўніцтва.— *А. С.*). З выдатнымі галоўкамі, некаторыя даволі мне падабаюцца, таму што добрыя хлопцы»[3].

Усюды ў паветах і губернях на кіруючыя пасады вяртаюцца рэвалюцыйныя дэмакраты. Так, напрыклад, кіраўніком паўстання ў Ковенскай губерні быў назначан Антон Мацкевіч. У Мінску, на чале кіраўніцтва рэвалюцыйнай арганізацыі быў да гэтага стаўленнік Я. Гейштара, памешчык Пелікша, які сабатаваў загады Каліноўскага аб развіцці сялянскага руху. Туды быў паслан Іосіф Ямант, якому Каліноўскі даручыў вызначыць ступень выканання яго загадаў і даведацца «аб прычынах іх змянення... Даведацца аб думцы ваяводскага ўпраўлення наконт сродкаў, якімі можна было б прыцягнуць сялян да паўстання».

Яманту даручалася даведацца, як сустракаюцца насельніцтвам Мінскай губерні рэвалюцыйныя адозвы, выпускаемыя ў Вільні, і ў якім напрамку трэба змяніць гэтыя адозвы, каб лепш адлюстраваць у іх настрой сялянства. Як паведамляе І. Ямант, у адказ на яго роспыты «аб ходзе спраў у ваяводстве Пелікша адказваў

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 23, ч. 314, л. 28.
[2] ЦДЛ Літ. ССР, ф. 439, с. 594, лл. 9—11.
[3] Там жа, л. 113.

яму суха, збіваючы агульнымі месцамі, затым прасіў пакінуць інструкцыю, каб прыпомніць некаторыя абставіны...»[1]

Аднак, нягледзячы на энергічную дзейнасць Каліноўскага і яго таварышоў, ім не ўдалося значна ўзмацніць паўстанне. Меры, прынятыя імі, часта не давалі жадаемых вынікаў. Новыя члены камітэта, па сведчанню сучаснікаў, нягледзячы на ўсю сваю дзейнасць і энергію, не маглі даць сілу паўстанню. Краіна была страшэнна знясілена[2]. Паўстаўшае ў Беларусі і Літве сялянства атрымала рэвалюцыйна-дэмакратычнае кіраўніцтва занадта позна. А. Мацкевіч пазней аб сваім назначэнні кіраўнікам паўстання ў Ковенскай губерні гаварыў: «Мяне назначылі... нарэшце, ваяводаю. Але гэтае назначэнне адбылося ў той час, калі нечага было аглядваць, арганізоўваць і нечым распараджацца»[3]. Паўстанню ў Беларусі і Літве па-ранейшаму перашкаджала пастаяннае ўмяшанне Варшаўскага жонда. Як успамінае І. Ямант, што быў адзін час сакратаром Каліноўскага, апошняму прыйшлося весці ўпартую барацьбу з Варшавай, якая не разумела «мясцовых адметных умоў літоўскага краю». Толькі за жнівень 1863 г. Ямант, па даручэнню Каліноўскага напісаў «два вялікія рапарты ў Варшаву аб стане літоўскага паўстання і становішчы ў краі, у якіх тлумачыў выключныя ўмовы Літвы, дзе аспрэчваў карысць далучэння ваяводства Ковенскага і Гродзенскага да ўпраўлення Царства»[4]. З гэтых слоў аднаго з бліжэйшых саратнікаў Каліноўскага відаць, што Варшаўскі жонд хацеў зусім знішчыць якое б там ні было асобнае кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве і падпарадкаваць тамашнюю рэвалюцыйную арганізацыю непасрэдна Варшаве. Вядома, што падобныя намаганні жонда не садзейнічалі развіццю сялянскага паўстання ў Беларусі і Літве.

Член Віленскага цэнтра, інжынер-капітан Іосіф Ка-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 594, л. 455.

[2] ЦДГА, ф. 930, с. 36.

[3] «Вестник Западной России» за 1865—1866 гг., т. 4, кн. 12, стар. 260.

[4] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. 439, с. 594, лл. 41—47.

ліноўскі, які загадваў ваеннымі пытаннямі, указвае: «Адчужанасць ад народнага ўрада, у якой знаходзіўся ўпаўнаважаны камісар Літвы (г. зн. Кастусь Каліноўскі.— *А. С.*), у апошні час самым пагібельным чынам адзывалася ў краі. Выкананне праграмы, накрэсленай народным урадам з пачатку вайны, не адпавядаючы мясцовым сучасным умовам, вяло за сабой вялікія памылкі» [1].

З гэтых слоў відаць, што чужая сялянству праграма жонда навязаная Беларусі і Літве сілай у выніку сакавіцкага перавароту, самым пагубным чынам адбілася на паўстанні. Ганебная практыка жонда і яго стаўленнікаў у Вільні Я. Гейштара, Н. Дзюларана і іншых перашкаджала ўцягненню сялян у паўстанне. Дзеянні ж новага дэмакратычнага кіраўніцтва, узначальваемага К. Каліноўскім, сустракалі самыя энергічныя процідзеянні Варшавы, аж да абвінавачвання ў сепаратызме і здрадзе.

Віленскі рэвалюцыйны цэнтр, які заўсёды адбіваўся ад наскокаў шляхецка-буржуазнага жонда, імкнуўся ўмацаваць сувязі з «Зямлёй і воляй».

У той час, калі група Каліноўскага настойліва спрабавала зблізіцца з сялянствам і арганізаваць яго на барацьбу, Варшаўскі жонд у сваёй інструкцыі ад 18.IX.1863 г. працягваў палітыку вузказмоўніцкай барацьбы і рабіў упор на стварэнне арганізацыі змоўшчыкаў-тэрарыстаў. «Павінна быць неадкладна і з энергіяй прыступлена да заснавання паўсюднай арганізацыі дзесятак і сотак».

У той час як група Каліноўскага змагалася за стварэнне ўмоў для свабоднага вырашэння народам свайго лёсу, заклікала да пераўтварэння жыцця самім народам у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі, жонд патрабаваў «звароту гістарычных граніц Польшчы». У той час як рэвалюцыйныя дэмакраты выкрывалі прошукі рэакцыйных клерыкальных колаў, якія адкрыта дапамагалі душыць паўстанне, жонд разглядаў ксяндзоў як сваю апору ў краі, велічаў іх «духоўнымі айцамі народа», заклікаў іх «на вышэпамянёных пачатках», па сутнасці,

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 554, л. 455.

да зрыву ўсіх мер, праводзімых групай К. Каліноўскага [1].

Выключна глыбокую ацэнку паўстання ў Беларусі і гібельных для яго дзеянняў Варшаўскага жонда дае Каліноўскі. «Прыезд мой у Вільню, — піша ён, — наступіў у час паўсюднага расстройства ў Літве як у справе народнай арганізацыі, так і ўзброенага паўстання. Даных, на падставе якіх мог бы меркаваць аб сапраўдным становішчы краю, наколькі сама неабходнасць ад мяне патрабавала, я не толькі не атрымаў ад Дзюларана, але пры ўсім маім жаданні не мог дабіцца сякіх-такіх звестак у гэтых адносінах. Цяжкасці, стаўленыя ўрадам наконт зносін, *слабая ўлада Віленскага аддзела, якая не магла абудзіць да сябе давер'я* краю, і яснае разуменне многіх, якія глядзяць на справу паўстання не праз прызму захаплення, але ўсведамляюць, што, пакараючыся толькі задушэўнай неабходнасці, нясуць сваё жыццё на бескарысную мэту, — былі прычынамі таго, што паўстанне *прыняло характар мясцовы* і народныя ўлады ваяводскія, у выпадках толькі неабходнасці і магчымасці, звярталіся ў Вільню з паведамленнямі рознага роду. З такіх паведамленняў не мог Дзюларан, які не ведаў зусім тутэйшага краю, вынесці ніякіх заключэнняў, тым больш перадаць іх мне, я ж, мяркуючы па атрыманых мною, мог толькі прыйсці да таго выніку, што *паўстання ў Літве ўжо няма* (падкрэслена мною. — *А. С.*), а калі ёсць што-небудзь, то толькі перадсмяротныя яго сутаргі. У такім становішчы краю, прыняўшы пад увагу ўсе цяжкасці, мае штуршкі і падахвочванні, калі б я іх рабіў, не маглі б падтрымаць само сабой спаду паўстання. Я гэта зразумеў і таму пакінуў усё натуральнаму ходу справы, стараючыся ўхіляцца ад усякай ініцыятывы».

Такім чынам Каліноўскі ўказвае, што кіраўніцтва паўстаннем, якое было да яго (Я. Гейштар, Н. Дзюларан), не мела падтрымкі народа Беларусі і Літвы, перш за ўсё сялян («слабая ўлада Віленскага аддзела, якая не магла абудзіць да сябе давер'я краю»).

Прычынай гэтага, як ужо адзначалася, Каліноўскі лі-

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 97, лл. 2, 80.

чыў няправільнае вырашэнне жондам і яго прыхільнікамі аграрнага і нацыянальнага пытанняў.

Апрача таго, як указвае К. Каліноўскі, Нестар Дзюлаган, які меў вялікі ўплыў на лёс паўстання, не быў знаёмы з умовамі барацьбы («не ведаў зусім тутэйшага краю»). Нездарма Каліноўскі лічыў яго адным з віноўнікаў паражэння, злым геніем паўстання. Ад погляду Каліноўскага не ўкрываецца таксама і тая акалічнасць, што паўстанне пайшло не па шляху ўзгодненай барацьбы за зямлю і волю пад кіраўніцтвам адзінага аўтарытэтнага цэнтра, а «прыняло характар мясцовы», г. зн. не звязаных паміж сабой асобных выступленняў.

Якую ж любоў да народа і якую веру ў справядлівасць сялян трэба было мець, каб зрабіць гераічную, адважную спробу ажывіць паўстанне і з перадсмяротных сутаргаў яго зноў раздзьмухаць полымя рэвалюцыі!

Дзейнасць Каліноўскага, які энергічна змагаўся за разрастанне паўстання, у той час натхнялася верай у магчымасць перамогаскай сялянскай рэвалюцыі. Правільна ацэньваючы паўстанне як стыхійнае, абмежаванае, якое носіць «характар мясцовы», ён не бачыў, што прычыны гэтага ляжаць ва ўмовах матэрыяльнага жыцця сялянства і, з другога боку, у немагчымасці саюза сялянскага руху з польскім нацыянальным рухам з-за страху перад аграрнай рэвалюцыяй памешчыкаў і буржуазіі Польшчы, якія ўзначалілі паўстанне.

Каліноўскі вырашае вывесці з-пад удараў карнікаў асноўныя ваенныя сілы паўстання, адтэрмінаваць узброеную барацьбу да вясны з тым, каб выкарыстаць зіму для перагрупоўкі сіл і, ліквідаваўшы вынікі ўмяшання жонда ў справы паўстання, заручыўшыся падтрымкай сялян, зноў узняць вясной барацьбу. Ваенны кіраўнік Віленскага цэнтра інжынер рускай арміі Іосіф Каліноўскі паказаў, што калі яны прыйшлі да кіраўніцтва, то знайшлі поўны развал паўстання, які з цяжкасцю пераадольвалі. «Звестак аб колькасці паўстанцаў не было, узбраенне дрэннае... Многія начальнікі атрадаў невядомы. З Гродзенскай, Магілёўскай, Віленскай губерняў ніякіх звестак ад атрадаў ужо не атрымлівалася. З Мінскай былі дастаўлены звесткі і тады ж зроблена распараджэнне іх (г. зн. атрады. — *А. С.*) распусціць. У выніку ковенскіх

рапартаў загадана завесці парадак і дысцыпліну, таму што з прычыны абсалютнага расстройства атрады былі толькі цяжарам, ачысціць іх ад усякага зброду, пакінуўшы толькі тых людзей, якія маглі скласці строй. Новых ні ў якім выпадку не набіраць... перад надыходам зімы атрады накіраваць да граніцы і пераводзіць іх за граніцу, інакш іх гібель была б немінучай» [1].

Паказанне свайго ваеннага памочніка К. Каліноўскі пацвердзіў, заявіўшы: «Пастаянна атрымліваючы нездавальняючыя адказы, з прычыны немагчымасці працягваць барацьбу, ён, Каліноўскі, у канцы 1863 года зрабіў распараджэнне аб водпуску шаек у Ковенскай і Інфляндскай (паўночная частка Віцебскай. —*А. С.*) губернях, аб выдачы ўсім членам адпускных білетаў да вясны»[2].

Паказанне не зусім поўнае, бо на поўначы Віцебшчыны дзейнічалі атрады П. Чарвінскага (Савы), якія складаліся больш чым напалавіну з сялян. Сава ўказвае, што ён «меў заданне дзейнічаць на сялян перакананнем»[3], рыхтуючы іх да паўстання вясной, што ён атрымаў ад самога Каліноўскага загад не распускаць свой атрад, «а быць стойкім і чакаць шчаслівага выніку справы»[4].

Каліноўскі, які рыхтаваў паўстанне на вясну, узмацніў прапаганду сярод сялян і ўмацоўваў рэвалюцыйныя арганізацыі ў паветах. Ямант паведамляе, што з восені 1863 г. іх «дзейнасць галоўным чынам была звернута на падтрыманне ўсюды арганізацый»[5].

Намаганні рэвалюцыйных дэмакратаў, наколькі гэта дазвалялі гістарычныя ўмовы, у якіх яны дзейнічалі, не прапалі дарэмна. У цэлым радзе раёнаў ім удалося восенню і зімой 1863 г. умацаваць сваю сувязь з сялянамі і падтрымліваць узброеную барацьбу. Так, у снежні адзін з павятовых камісараў Віцебскай губерні ў рапарце даносіў «аб папулярнасці паўстанцаў і аб той удасканаласці падтрымліваемай арганізацыі, якая мае месца ў сельскай мясцовасці... Паўстанцкія атрады, — піса-

---

[1] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 33.
[2] Там жа, л. 9.
[3] Там жа, л. 132.
[4] Там жа.
[5] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 554, л. 458.

лася далей, — карыстаюцца гасцінным прытулкам на зімовых кватэрах у сялян. Нягледзячы на хлуслівыя запэўненні перад цэлай Еўропай, што народ гэтых правінцый, вызвалены ад гнёту паноў і ксяндзоў, бласлаўляе Аляксандра II і шчаслівы пад кіраўніцтвам Мураўёва. Нягледзячы на ўсё гэта, паўстанне не толькі існуе на Літве, **але робіцца па-сапраўднаму народным** (падкрэслена мною. — *А. С.*) і прыняло дэвізам словы: «Або жыццё, але жыццё свабоднае, або смерць, але смерць мужная, на полі бітвы...» Нягледзячы на пышны вокліч свой, што ўсе супакоіліся, Мураўёў трывожыцца... Працягваюцца рэкагнасціроўкі нашага войска, якое знішчае маскоўскія (царскія войскі. — *А. С.*) пікеты, разбурае тэлеграфы, знішчае валасныя канцылярыі, захоплівае розныя маскоўскія транспарты і, нарэшце, падвяргаюць яўных маскоўскіх шпіёнаў пакаранню...» [1]

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 523, л. 36.

# ПАДАЎЛЕННЕ ПАЎСТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ І ЛІТВЕ. АРЫШТ І ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ К. КАЛІНОЎСКАГА

На падаўленне паўстання ў Беларусі і Літве былі пасланы лепшыя войскі: гвардзейскія дывізіі, казацкія палкі, грэнадзёры і да т. п. Аперацыямі кіраваў люты прыгоннік М. Н. Мураўёў. Нават асобы, якія ўсхвалялі яго як «абаронцу» сялян, прызнавалі, «што паўстанне пагасла перш за ўсё ад паражэння, нанесенага яму на полі бітвы, затым пачалося паступовае замірэнне края. У кампаніі 1863 г. прымалі ўдзел «69 палкоў і 19 асобных ваенных часцей» [1].

У карных экспедыцыях прымалі ўдзел вялікія ваенныя сілы. К зіме 1863 г. у Віленскай ваеннай акрузе налічвалася 117 150 штыкоў і шабляў. У параўнанні з 1862 г. войскі былі павялічаны ў два разы галоўным чынам за кошт гвардыі і казацкіх часцей. У краі было да 260 гармат[2]. У Гродзенскай губерні ў каравулах па няскораных сёлах стаялі 1 534 салдаты і ўнтэр-афіцэры, 720 паліцэйскіх і 8 507 сілай прымушаных або ашуканых сялян [3]. Такім чынам, праславутыя сельскія каравулы сведчаць не аб падтрымцы сялянамі Мураўёва, як гэта ён спрабаваў давесці, а якраз наадварот. Хоць Мураўёў

[1] «Виленский временник», кн. VI, ч. 2, стар. 16.

[2] Д. І. Мілюцін. Мае старэчыя ўспаміны. РАБІЛ, М., ф. 169, папка 28/16, л. 14.

[3] ЦДГА, Л., ф. 1267, Справаздача гродзенскага губернатара за 1863 г., л. 196. Сам Мураўёў указвае, што ў яго распараджэнні было да 200 тыс. войск, маючы на ўвазе не толькі палявыя воінскія часці, але і батальёны ўнутранай аховы, крапасныя гарнізоны і інш.

і аб'явіў паўстанне ў Беларусі задумай польскіх памешчыкаў, але адчуваў сябе сядзячым на велізарнай парахавой бочцы, якая гатова ўзарвацца ў любую хвіліну. Яго правая рука — жандарскі палкоўнік Лосеў — у пісьме да шэфа жандараў пісаў: «Зразумеўшы ўсе акалічнасці, ці можна чакаць ад сялян самаадданасці і сапраўды патрыятычных пачуццяў. Сцвярджальна не»[1]. Мураўёў і сам прызнаваўся, што поспех яго быў заваяван гвардзейскімі штыкамі, што войскі былі сканцэнтраваны ў гарадах, адкуль, як на Каўказе ў горы, рабіліся набегі на паўстаўшых. Дзеянні карнікаў былі вельмі жорсткімі: па загаду Мураўёва-вешацеля знішчаліся вёскі, асобы, захопленыя са зброяй у руках, тут жа расстрэльваліся[2]. Цэлымі сем'ямі выганялі ў Сібір непакорлівых[3].

Асабліва ненавідзеў Мураўёў разначынцаў-рэвалюцыянераў. Аб іх ён пісаў: «Гэтыя людзі не хлебаробы, ім не патрэбен урадлівы грунт, яны могуць пражыць свой век і ў Якуцкай вобласці, і ў Туруханскім краі»[4]. На дакоры ў бязлітаснасці ён цынічна адказваў: «Гуманнасць жа можа быць цалкам захавана і ў Пячорскім і іншым краі»[5].

Страшэнныя рэпрэсіі вешацеля не маглі скрыць нават афіцыйныя даныя: 1) асуджана на смяротную кару 128 чал., 2) саслана на катаржныя работы 972 чал., 3) саслана на пасяленне ў аддаленыя месцы Сібіры 573 чал., 4) саслана з пазбаўленнем асабістых правоў у менш аддаленыя месцы Сібіры — 854 чал., 5) прызначана ў ваенную службу радавымі 345 чал., 6) саслана ў арыштанцкія роты 864 чал., 7) выслана на жыхарства ўнутры імперыі 1 524 чал., 8) выслана з краю для пасялення на казённых землях 4 096 чалавек[6].

Такім чынам, толькі па суду было рэпрэсіравана 9 361 чалавек. З іх 5 625 «просталюдзінаў», што лішні

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 13, ч. 23, л. 83.

[2] «Русская старина», т. 36, 1886, стар. 117.

[3] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2, выд. 1940 г., стар. 547.

[4] Там жа.

[5] ЦДГА, М., ф. 811, с. 3, воп. 1. Запіска Мураўёва цару ад 14 мая 1865 года.

[6] ЦДГА, М., фонд Мураўёва.

раз указвае на дэмакратычны характар паўстання ў Беларусі і Літве, — факт, не абвергнуты нават падтасаванай статыстыкай Мураўёва-вешацеля.

Апрача гэтых мер, як паведамляе Мураўёў, было выселена з краю 629 сем'яў так званай аколічнай шляхты. Пакарана, аштрафавана і аддадзена на паручыцельства ў краі з утрыманнем пад наглядам паліцыі 2 855 чалавек. Вызвалена з-пад арышту па судоваму рашэнню 3 169 чалавек. Аб'яўлена амністыя паўстанцам, якія добраахвотна з'явіліся з атрадаў, — 2 205 чал. Такім чынам, пацярпела, але засталося на жыхарстве ў краі 9 229 чалавек, з іх 6 127 — просталюдзінаў, г. зн. сялян, аднадворцаў, мяшчан і г. д. І гэтыя лічбы яшчэ раз пацвярджаюць бяссілле Мураўёва-вешацеля скрыць ад грамадскасці дэмакратычны характар паўстання, факты шырокага ўдзелу ў апошнім сялян і іншых дэмакратычных элементаў.

У святле нават гэтых афіцыйных даных страшэнным здзекам над ахвярамі з'яўляюцца словы чарнасоценца Мілавідава аб тым, што «Мураўёў з'яўляецца проста другам народам, яго палітыку зусім справядліва называлі дэмакратычнай» [1].

Апрача рэпрэсій, карнікі распускалі самыя недарэчныя тэорыі і чуткі, каб ашукаць сялянства. Прыгоннае права было аб'яўлена «ракавым падарункам палякаў». Газета «Виленский вестник» пісала: «Польшча прывіла да Расіі праказу рабства. Першыя абмежаванні сялянскай свабоды ў Расіі сустракаюцца ў законапалажэннях цара Фёдара, які гэтым стараўся падражаць польскім устанаўленням. З заваяваннем Смаленска ўзнікла ў Расіі рабства, якое ўвялі і арганізавалі палякі і якое адтуль мала-памалу развілося па цэлай Расіі». Палякі, пісала далей газета, адхіляюць цывілізацыю, свабоду і народнае самакіраванне і перашкаджаюць «усім спробам пераўтварэння з боку рускага ўрада». Паўстанне 1863 г. было аб'яўлена спробай польскіх памешчыкаў вярнуць адмененую царом паншчыну. «Паліцыя распаўсюджвае тут самыя недарэчныя паняцці, — піша адзін відавочнік з Вільні. — Так, напрыклад, яна ўну-

[1] «Віленскі каляндар», 1902 г., стар. 328.

шае мужычкам, што паны бунтуюць таму, што ад іх адабралі сялян» [1].

Характарызуючы палітыку цара ў Заходнім краі, С. Серакоўскі ў сваёй запісцы «Пытанне польскае» адзначаў, што ўрад спрабуе «ўзбудзіць разню» [2].

Крывавая палітыка Мураўёва была да таго ж дэмагагічнай. Яго прапагандысты ўнушалі сялянам, што памешчыкі да паўстання скрывалі царскую волю, а цяпер узняліся супроць гэтай волі. У ходзе барацьбы з паўстаўшымі ўлады імкнуліся стварыць ілюзію, што цар клапоціцца аб сялянах. Пачынаецца праверка складзеных устаўных грамат. Яе робяць царскія чыноўнікі, скліканыя Мураўёвым з усіх канцоў імперыі. Сялянам абяцаюць пасля сканчэння праверкі вярнуць адрэзкі, знізіць выкуп і г. д., імкнучыся ўмацаваць ілюзорныя надзеі, што цар можа даць сапраўдную волю.

Чыноўнікаў, скліканых Мураўёвым, Каліноўскі назваў «агітатарамі», якія ашукваюць сялян, выказаўшы гэтым асноўнае іх назначэнне. Член таварыства «Зямля і воля» Л. Панцялееў называў гэтых чыноўнікаў адкідамі, сабранымі па ўсёй імперыі. Нават гродзенскі губернатар, не вытрымаўшы, пісаў цару: «Не асмелюся скрыць перад Вашай Імператарскай Вялікасцю, што бывалі выпадкі, калі прыязджаючыя чыноўнікі сваімі паводзінамі не апраўдвалі таго давер'я, якое на іх ускладалася» [3]. Іменна супроць гэтага зброду былі накіраваны гнеўныя словы К. Каліноўскага: «А чыноўнікі ж маскоўскія яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў кнігах, што ёсць на свеце якаясьці саранча, якая, як дзе з'явіцца, усю гаспадарку знішчыць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы. Гэта чыноўнікі маскоўскія са сваёй праўдай і справядлівасцю. Яны ж людзі вельмі спрытныя, па-маскоўску шпаркія, умеюць так аблізаць чалавека, што з іх рук выйдзеш голенькі, як маці нарадзіла, — і жыві пад такім урадам без суда і праўды» [4].

---

[1] ЦДГА, М., ф. 109, с. 361, лл. 4, 5.

[2] «Русская старина», 1884 г., т. XI.

[3] ЦДГА, Л., ф. 1267, Справаздача гродзенскага губернатара за 1863 г.

[4] А. Гілер. Указ. тв., т. 1, стар. 327—335.

Аб гэтых сялянскіх «дабрадзеях» правадыр літоўскіх сялян Антон Мацкевіч гаварыў: «Даволі сказаць, што свавольнікі з шыбеніц не горш многіх тых, якіх урад назначыў начальнікамі. Кожны прыходзіць ледзь апрануты, а вяртаецца з багаццем. Промысел узведзены спрытна... Там, дзе цяжка, ёсць крыніца даходу...» [1]

І нават з асяроддзя гэтых грабежнікаў чулася крытыка дзеянняў Мураўёва-вешацеля. «У вырашэнні тут сялянскага пытання, — пісаў адзін чыноўнік, — заключаецца значная доля замірэння краю...» Аўтар адзначае, што «існуючы надзел тутэйшых сялян зямлёй ні ў якім выпадку не забяспечыць іх быту. Гэтая сістэма надзелу да немагчымасці недарэчная, а інструкцыі, якія дзейнічаюць зараз, складзены ў спешцы» [2]. Вядома, не спачуванне да сялянства прымусіла чыноўніка крытыкаваць дзеянні Мураўёва-вешацеля, а страх, што даведзеныя да галечы і адчаю сяляне не складуць зброі.

Сялянства Беларусі і Літвы, нягледзячы на «дабрадзействы» царскага ўрада, стагнала пад прыгнётам нязносных пабораў. Адзін з чыноўнікаў асобых даручэнняў даносіў Мураўёву: «Знаёмства са становішчам сялян Мінскай губерні пераконвае ў тым, што калі за другую палавіну гэтага года будзе спагнаны ранейшы аброк, то большасць сялян будзе канчаткова даведзена да галечы...» Ён таксама адзначае, што ўраджай настолькі нізкі, што «наўрад ці дасць магчымасць мець харчаванне, але і то ніяк не паўсюдна і далёка не на цэлы год» [3]. Сяляне дарэмна чакалі абяцанай свабоды. Практыка работы камісіі Мураўёва неўзабаве пераканала іх у ашуканстве. Чыноўнікі даносілі Мураўёву, што сяляне, абураныя ашуканствам, «адмаўляюцца ад атрымання зямлі... Дамагаюцца поўнага ўчастка і прытым іменна таго, які быў у іх карыстанні, так званай «бацькаўшчыны» [4]. «Яны просяць, — піша другі чыноўнік, — праверачныя камісіі аб звароце ім дзядамі і бацькамі

[1] Гістарычны архіў № 1 за 1936 г. Шустэр «З гісторыі паўстання 1863 г. у Літве».

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР, т. 2, стар. 541.

[3] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. Камісіі па сялянскіх справах пры Віленскім генерал-губернатары, с. 891, л. 69.

[4] Там жа, л. 15.

наседжанай «бацькаўшчыны» [1]. Вядома, сяляне не атрымалі таго, што прасілі, і гэта вяло іх да прасвятлення. «Сяляне пачынаюць траціць веру ў сілу дзеянняў камісіі, — пішуць члены апошняй Мураўёву, — гаворачы: «вось ужо хутка год як ездзяць, правяраюць, а нічога з таго не выйшла» [2]. Неабходна падкрэсліць, што, як толькі сялянскі рух пайшоў на спад, дзейнасць праслаўутых мураўёўскіх камісій пачала прымаць усё больш і больш прыгонніцкі характар. Чыноўнікі самі прызнавалі ў 1864 г., што «мінулагодняя ацэнка зямлі была ніжэй...» [3], што часта ацэнка зямлі павышаецца па патрабаваннях памешчыкаў і што сяляне выказвалі нездавальненні на высокія ацэнкі...» [4]

У святле ўсяго вышэйпададзенага робіцца ясным, што Мураўёў-вешацель шырока разгарнуў у час паўстання дэмагогію, імкнучыся ўмацаваць у сялян веру ў добрыя намеры цара, не дапусціць росту сялянскага паўстання. Самі царскія чыноўнікі гаварылі, што ад іх патрабуюць не звяртаць увагі «на сутнасць справы», а працаваць «для выгляду... на паперы і для паперы...», што для сапраўднага паляпшэння становішча сялян «патрэбна многа часу, а іх падганяюць і за павольную, але сумленную работу абяцаюць расфарміраваць камісіі» [5].

Царскі ўрад і не думаў аб задавальненні інтарэсаў сялян. Ён па-ранейшаму бачыў у памешчыках апору свайго панавання ў Беларусі і Літве. Міністр унутраных спраў П. А. Валуеў выказаў цару гэтую думку ў наступных словах: «Гісторыя сведчыць, што там, дзе асветныя і дастатныя слаі насельніцтва проціпастаўлены масам, хоць і ў сто разоў больш шматлікім, але не адукаваным і жывучым у нястачы, перавага заўсёды на баку першых...» [6]

Аб сутнасці дзейнасці Мураўёва-вешацеля ў галіне

---

[1] ЦДА Літ. ССР, г. Вільнюс, ф. Камісіі па сялянскіх справах пры Віленскім генерал-губернатары, с. 891, лл. 32—43.

[2] Там жа, л. 70.

[3] Там жа, с. 891, л. 110.

[4] Там жа, л. 18.

[5] Там жа, л. 88.

[6] ЦДА Літ. ССР, ф. 544, с. 125, а таксама «Вестник права», 1905, № 9.

адукацыі сведчаць наступныя факты. Садраўшы са ўсяго насельніцтва краю шляхам езуіцкай сістэмы кантрыбуцыі і штрафаў мільённыя сумы, ён адпусціў «на ўзмацненне ўтрымання духавенства і будаўніцтва цэркваў 902 441 руб». На ўтрыманне ж сельскіх школ было адпушчана толькі — 47 тыс. рублёў, а ў карысць раненых і сем'яў забітых ніжніх чыноў — 90 рублёў [1].

Будаваліся сотні новых цэркваў, а «Гродзенская публічная бібліятэка з 1861 года застаецца, — як даносіў губернатар, — без усякага паляпшэння з прычыны адсутнасці грашовых сродкаў...» [2] Бібліятэкі, як прызнавалі самі царскія адміністратары, «не павялічваліся ніякімі прырашчэннямі і складаліся з адных афіцыйных перыядычных выданняў, не мелі ніякага значэння і не прыносілі ні малейшай карысці ў справе адукацыі грамадства». Затое па ўсяму краю былі «адкрыты ў найбольш населеных мястэчках і сёлах кніжныя склады са строгім выбарам рускіх і славянскіх кніг, пераважна свяшчэннага зместу і з запасам крыжыкаў і ікон» [3].

Віленскі тэатр, адкрыты ў 1863 г., паводле слоў губернатара, «на зусім новых пачатках», паставіў п'есу Н. Кукальніка «Рука ўсявышняга айчыну выратавала». Аб гэтым аўтары і яго «тварэннях» А. І. Герцэн у свой час гаварыў, што толькі такія кветкі і маглі распускацца ў цені Петрапаўлаўскай крэпасці, каля падножжа імператарскага трона.

Мураўёў быў заўзятым прапаведнікам тэорыі «самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць». Ён імкнуўся як мага больш закрыць у давераным яго кіраванню краі гімназій і прагімназій і ўсяляк узмацніць кантроль духавенства над пачатковай адукацыяй. Меў рацыю К. Каліноўскі, калі гаварыў, што падобныя «пастыры», якімі кіравалі каты, падобныя да Мураўёва, «умеюць толькі красці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу» [4].

Выкрываючы прыгонніцкі сэнс палітыкі Мураўёва-

---

[1] ЦДГА, Л., ф. 1267, с. 34, л. 75.
[2] Там жа, с. 6, л. 195.
[3] Там жа, с. 8, л. 116; с. 34, л. 151.
[4] А. Гілер. Указ. тв., т. 1, стар. 327.

вешацеля, Каліноўскі ўказваў, што сапраўдны росквіт навукі магчым толькі пасля звяржэння самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу.

«Немаш, Браткі, — пісаў ён сялянам, — большага шчасця на гэтым свеце, калі чалавек мае ў галаве розум і науку. Тады ён можа толькі быць у радзе, жыці ў дастатках. Збагаціўшы наукай розум, разаўе сэрца і родню цэлу шчыро палюбіць. Но як дзень з ночей не ходзіць разам, так не ідзе разам праўдзівая наука праўдзіва з няволяй...» [1]

Аднак справядліва крытыкуючы палітыку Мураўёва ў галіне асветы, звязваючы развіццё навукі і культуры з поспехам сялянскай рэвалюцыі, Каліноўскі, не разумеючы вызначаючай ролі матэрыяльных умоў жыцця грамадства, пераацаніў значэнне асветы ў грамадскім жыцці.

Усе рэформы, праведзеныя царызмам ў час паўстання, былі вырваны ў яго паўстаўшымі сялянамі. Гэта разумеў ужо Каліноўскі, калі адзначаў «вымушанае становішча ўрада, не адпавядаючае сапраўднаму яго характару».

Вычарпальна яснае вызначэнне палітыкі царскага ўрада ў эпоху 60-х гг. даў У. І. Ленін. «Урад не мог рабіць інакш, — пісаў ён, — як бязлітасна знішчаючы асобных дзеячоў, свядомых і непахісных ворагаў тыраніі і эксплуатацыі (г. зн. «канаводаў» «рэвалюцыйнай партыі»), запалохваць і падкупляць невялікімі ўступкамі масу нездаволеных» [2].

Маніфест цара ад 1.III.1863 г. і ўступкі Мураўёва былі вырваны паўстаннем, якое разгарнулася ў Беларусі і Літве, накіраваным супроць прыгонніцка-самадзяржаўнага ладу і яго асновы — памешчыцкага землеўладання.

Нягледзячы на асобныя поспехі, к пачатку 1864 года стала ясна, што паўстанне пацярпела паражэнне. У зімовых умовах, якія зрабілі надзвычай цяжкай барацьбу паўстанцаў, гінулі апошнія атрады. У снежні 1863 года быў разбіт атрад стойкага рэвалюцыянера,

---

[1] А. Гілер. Указ. тв., т. 1, стар. 327.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 5, стар. 27.

правадыра літоўскіх сялян А. Мацкевіча, а сам ён трапіў у палон і быў прыгавораны Мураўёвым-вешацелем да пакарання смерцю.

Перад пакараннем смерцю А. Мацкевіч у сваіх паказаннях рэзка крытыкаваў палітыку царызма і адхіліў абвінавачванне ў нянавісці да Расіі. Ён пісаў: «Дзеяннем маім была любоў ісціны майго народа, а не нянавісць... да рускага народа, бо ён, народ рускі, ёсць славянскі. Любоў народа і яго шчасце дало повад і было прычынай больш 10 год працы рэвалюцыйнай». А. Мацкевіч указваў, што рэформа аграбіла народ, ашукала чаканні сялян, і менна гэтая акалічнасць штурхнула народ да паўстання.

«Я чакаў свабоды майго народа. Так, ...і што ж? Абмежавалася яна (г. зн. рэформа. — *А. С.*) тым, што бедны народ змяніў толькі пана і нават горш... Ці мог я не глядзець і не чакаць будучага, якое бачыў я ў рэвалюцыі... Бачу народ заўсёды бедным, бо за кавалак хлеба, які здабываецца з зямлі, павінен адмовіцца на некалькі дзесяткаў год ад сваіх правоў. Рэвалюцыя ж маніфестам дае і зараз жа... зямлю ва ўласнасць народу без розніцы веры. Розум указваў, што я павінен быў хапацца за тое, што ёсць, а не што будзе пасля сарака год, як апавяшчае маніфест цара. Збылося, народ пайшоў. Рэвалюцыя закіпела. Нарэшце, паступова спадае, бо начальнікі не ўмелі ўзвысіць рэвалюцыю да народнай... Хоць я ўзяты, хоць гэтым спынена паўстанне, калі толькі ўрад не зменіць спосабу дзеяння адміністрацыі, калі не спыніць абдзірання і здзеквання з жыхароў, знойдзецца другі Мацкевіч, і што я не зрабіў, то здолее закончыць». Так загінуў ва ўзросце 37 год А. Мацкевіч, выдатнейшы рэвалюцыянер-дэмакрат, які першы ўзняў сцяг паўстання ў Літве.

Імя А. Мацкевіча, якое карысталася вялікай папулярнасцю і любоўю народа, і пасля яго смерці ўнушала страх царскім уладам. Пасля яго смерці засталіся ў турэмшчыкаў некаторыя яго рэчы: табакерка, гадзіннік і каля 15 рублёў серабром. Турэмныя ўлады звярнуліся да Мураўёва са спецыяльным пытаннем, як быць, «каб рэчы гэтыя... не засталіся ў руках народа залогам фантастычнага аб ім успаміну». Мураўёў аддаў загад:

грошы раздаць салдатам, «рэчы належаць знішчэнню» [1].

Вакол кіраўнікоў паўстання, якія засталіся, усё тужэй і тужэй сцягваўся вузел царскай ахранкі. Яшчэ ў ліпені месяцы 1863 г. царскім уладам стала вядома, што К. Каліноўскі прымае актыўны ўдзел у кіраўніцтве паўстаннем. Быў арыштаван адзін з бліжэйшых памочнікаў Каліноўскага Здановіч, аднак ён, нягледзячы на ўсе намаганні следчай камісіі, не выдаў свайго друга. Між тым з кожным днём Мураўёву рабілася ўсё ясней, што арышт Каліноўскага неабходны для канчатковага падаўлення паўстання. Арыштаваныя паўстанцы расказвалі аб яго напружаных намаганнях працягваць барацьбу. «Каліноўскі заўсёды заяўляў, што хоць паўстанне і падаўлена, але ўсе сапраўдныя сыны айчыны павінны несці ўсё на алтар яго для працягвання барацьбы», [2] — указваў урач Б. Земецкі, які ведаў К. Каліноўскага яшчэ па гімназіі і ўніверсітэту. У лістападзе 1863 г. адзін са здраднікаў паведамляў царскім уладам: «...галоўнае рэвалюцыйнае кіраўніцтва Літвы знаходзіцца ў руках упаўнаважанага камісара К. Каліноўскага і яго сакратара Т. Далеўскага, якія хаваюцца ў Вільні» [3]. Здраднік выдаў важнейшыя яўкі, якія знаходзіліся ў кватэры ўдавы паэта Кандратовіча (Сыракомлі) і ў доме Купец. Дзякуючы пільнасці рэвалюцыйнай арганізацыі ўдалося паведаміць Каліноўскаму аб арганізаванай там засадзе, але Цітуса Далеўскага не паспелі папярэдзіць, і ён быў арыштаван на кватэры Сыракомлі. Па загаду Мураўёва Далеўскі быў расстралян у Вільні на плошчы Лукішкі. «Нягледзячы на ўсе яўныя доказы самага цеснага знаёмства з К. Каліноўскім, — пісалі члены следчай камісіі, — Далеўскі аб зносінах сваіх з ім і аб месцы яго ўкрывальніцтва нічога не выказаў» [4].

Упартае маўчанне бліжэйшых таварышаў Каліноў-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, КГГ, с. 1409, лл. 53—59.

[2] ЦДГА, Л., ф. 930, с. 33, а таксама ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 594, лл. 173—176.

[3] Там жа, с. 33, л. 100, а таксама ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 523, л. 14.

[4] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 523, л. 2.

скага ўскладніла яго пошукі. Мураўёў нават меркаваў, што цэнтр паўстання знаходзіцца ў Мінску, і выслаў туды спецыяльную камісію на чале з жандарскім палкоўнікам Лосевым, якому даў самыя шырокія паўнамоцтвы. У рукі Лосева выпадкова трапіў студэнт Парафіянавіч. Узбудзіла падазрэнне прозвішча, таму што пад гэтым жа імем хаваўся і быў арыштаван Далеўскі. Парафіянавіч быў членам Магілёўскай рэвалюцыйнай арганізацыі і аказаўся нягоднікам. Ведаючы яўкі паўстанцаў у Вільні, ён паведаміў Лосеву, што Каліноўскі пад імем настаўніка геаграфіі Вітажэнца жыве ў будынку Віленскай гімназіі (цяпер там размешчан Віленскі дзяржаўны ўніверсітэт). Лосеў спецыяльнай эстафетай апавясціў аб гэтым Мураўёва. Ноччу 28 студзеня 1864 г. будынак, дзе хаваўся Каліноўскі, быў абкружаны ротай салдат і жандарамі. Пачаўся павальны вобыск і праверка дакументаў. Каліноўскі, які нічога не падазраваў, выйшаў са свечкай у руцэ да жандараў, якія пастукалі ў яго кватэру. На пытанне, хто ён такі, ён спакойна паказаў дакументы на імя Ігнація Вітажэнца і быў схоплены.

«Дастаўлены ў дамініканскі будынак (памяшканне следчай камісіі.—*А. С.*), Ігнат Вітажэнц, які пражываў у доме Віленскай гімназіі, доўгі час упарціўся ў адкрыцці свайго імя і заняткаў і сцвярджаў, што ён сапраўды Вітажэнц... прычым прозвішча Макарэвіча ніколі не насіў, у сям'і Грэгатовіч і Т. Далеўскага не бываў і іх не ведае. Але дзяўчына Марыя Грэгатовіч пазнала яго за таго самага пана, якога яна бачыла, калі прыходзіў у яе сям'ю пад імем Макарэвіча, назваўшы сябе І. Вітажэнцам, адкрыўся, што сапраўднае яго імя Вікенцій-Канстанцін Каліноўскі» [1].

Нягледзячы на ўсе намаганні следчай камісіі, Каліноўскі нікога не выдаў і трымаў сябе на допытах выключна мужна. Аб яго паводзінах на следстве яскрава сведчыць заява, зробленая ім: «Дасягнуўшы працай і жыццём усведамлення, што калі грамадзянская адкрытасць складае дабрадзейнасць, то шпіёнства апаганьвае чалавека, што грамадства, пабудаванае на

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, л. 34.

іншых асновах, недастойнае гэтай назвы, што следчая камісія, як адзін з органаў грамадскіх, не можа адмаўляць ва мне гэтых асноў, што ўказанні мае аб асобах, якія робяць шчырыя прызнанні або аб якіх следчая камісія ведае іншым шляхам, не могуць садзейнічаць замірэнню краю, — я палічыў неабходным заявіць следчай камісіі, што ў допытах наконт асоб, ёю ўказваемых, я пастаўлены часам у становішча, не адпаведнае яе жаданням, і павінен быць стрыманым у сваіх паказаннях па вышэйпамянёных прычынах. Заява гэта зроблена ў той надзеі, што следчая камісія ўласцівым ёй парадкам устароніць бязвыхаднае маё становішча. Прычыны і вынікі мной добра абдуманы, а ўсведамленне гонару, уласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па таму шляху»[1].

За дзесяць дзён да пакарання смерцю Каліноўскі падаў следчай камісіі запіску, у якой спрабаваў «абрысаваць характар руху ў Літве», і рэзка крытыкаваў дзеянні царскага ўрада і буржуазна-шляхецкае кіраўніцтва паўстаннем.

У запісцы ён таксама выказваў сваю веру ў неабходнасць устанаўлення сяброўскіх раўнапраўных адносін паміж народамі «братэрскай крыві», адносін, здольных забяспечыць «народны дабрабыт».

Ён бачыў, што ўздым вызваленчага руху ў Расіі, падзенне прыгоннага права, сялянскія «бунты», якія адбыліся затым па ўсёй краіне, паўстанні ў Беларусі, Літве і Польшчы, вырваўшыя новыя ўступкі ў цара, прывялі да буйных грамадскіх змен. Таму ён гаворыць у запісцы аб «нараджэнні новага часу і ладу грамадскага».

Як паведамляюць сучаснікі, Каліноўскі перад смерцю, быццам, гаварыў, што гіне недарэмна: «сяляне маюць зямлю, дваран жа стала напалавіну менш». Бясспрэчна, Каліноўскі разумеў тую акалічнасць, што сялянскі рух і затым паўстанне, у якім ён прымаў вельмі дзейны ўдзел, у значнай ступені падарвалі феадалізм і прымусілі прыгонніцкі ўрад, насуперак сваім жаданням і класавым інтарэсам, стаць на шлях рэформ і ісці

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, л. 34.

па яму пад ударамі рэвалюцыйнага руху. Каліноўскі бачыў гэтае, па яго словах, «вымушанае становішча ўрада, не адпаведнае сапраўднаму яго характару».

Каліноўскі, які далей крытыкаваў чужую сялянам дзейнасць Варшаўскага жонда і вызначыў прычыны падаўлення паўстання, выкладае свае погляды на будучае Беларусі і Літвы. Ён рашуча пратэстуе супроць палітыкі нацыянальнага прыгнечання, калі панаванне адной нацыі над другой ажыццяўляецца шляхам праліцця братэрскай крыві. Каліноўскі асуджае палітыку царскага ўрада, які прыгнятаў нацыянальныя меншасці і адмаўляў нацыянальную спецыфіку беларускага народа. Нацыянальны прыгнёт, якому падвяргаліся прыгнечаныя народы, згуртоўваў іх у агульнай нянавісці да царызма і прымушаў часам, як гэта адзначаў А. І. Герцэн, змешваць царскае з рускім. Каліноўскі гаворыць у сваёй запісцы аб сувязях Польшчы і Літвы, аб выпрацаваным гісторыяй спачуванні Літвы да Польшчы, якое ўзмацнілася, на яго думку, у выніку царскай палітыкі нацыянальнага заняволення. Пры гэтым Каліноўскі дапускае памылку, даходзячы ў сваёй справядлівай, у агульным, крытыцы да сцвярджэння, быццам бы ўсе класы беларускага і літоўскага народа звязаны гістарычна выпрацаваным спачуваннем з Польшчай.

Напэўна, Каліноўскі раздзяляў вельмі распаўсюджаную сярод дзеячоў 1863 г. (С. Серакоўскі, «Пытанне польскае») думку аб тым, што праславутая Люблінская унія была актам не заняволення, а добраахвотнага саюза Польшчы і Літвы.

Дарэчы, каштоўная заява Каліноўскага, якая прагучала прароча, што ў вырашэнні нацыянальнага пытання дэмакратычным шляхам «урад рускі (але не «нямецка-татарскі») найбольш здавальняюча і з большай карысцю для абодвух народаў (г. зн. народа зямлі Літоўскай і Беларускай, з аднаго боку, і рускага, з другога. — *А. С.*) у стане зрабіць, чым хто-небудзь. За царскім урадам Каліноўскі бачыў рускі народ, і таму, пярэчачы супроць ігнаравання нацыянальнай самастойнасці беларусаў і літоўцаў («Расія хоча поўнага з сабой зліцця Літвы»), ён выказаўся за саюз з рускім народам. «Я не працаўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна дабра

нам жадае, але праціўнік тых нястач, якія наведваюць край наш няшчасны».

Каліноўскі папярэджваў, што шляхам рэпрэсій і ашуканства непісьменных сялян нельга аб'яднаць народы, але можна выклікаць новае паўстанне. «Агітатары, якія збіраюцца з усіх канцоў Расіі, нічога ў нас не зробяць у справе аб'яднання, ашукаюць толькі сябе, урад, не выканаюць мэты і давядуць край насуперак сваім жаданням да новых ахвяр, да новых народных няшчасцяў. Пакуль урад не набудзе спачування ў сапраўды адукаваным класе тутэйшага насельніцтва (маецца на ўвазе разначынная інтэлігенцыя.—*А. С.*), да таго часу слова Расіі не знойдзе водгуку ў сэрцах літоўцаў». Іншымі словамі, пакуль рускі ўрад не адмовіцца ад палітыкі нацыянальнага заняволення і не заменіць царскі бізун прызнаннем праў нацый распараджацца сваім лёсам, да таго часу ўніжаныя народы застануцца глухімі да мураўёўска-аляксандраўскіх пропаведзяў аб братэрстве і праваслаўі. Не дзіўна, што гэта запіска Каліноўскага выклікала лютасць у царскіх салдафонаў.

У канцы лютага асобая следчая камісія пад старшынствам палкоўніка Шалгунова даносіла Мураўёву: «З прычыны такой заявы з боку Каліноўскага і ўпаўне выяўленых яго злачынстваў асобая следчая камісія пастанавіла справу аб ім закончыць і прадставіць вашаму высокаправасхадзіцельству» [1].

Мураўёў-вешацель загадаў аддаць Каліноўскага ваенна-палявому суду. «Камісіі ваеннага суда, — пісаў ён, — паставіць у абавязак закончыць суд у трое сутак, і затым ваенна-судовую справу пасля заканчэння прадставіць у часовы палявы аўдытарыят» [2].

1 сакавіка 1864 г. К. Каліноўскі стаў перад ваенна-палявым судом, дзе трымаўся таксама мужна, як і на папярэднім следстве. Ён заявіў, што «паказанні мае, пры следстве дадзеныя, поўнасцю пацвярджаю. Да апраўдання свайго або растлумачэння справы нічога больш прадставіць не маю» [3].

2 сакавіка ваенны суд згодна палявому крымінальна-

---

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, л. 34.
[2] Там жа, л. 8.
[3] Там жа, л. 37.

му ўлажэнню прыгаварыў К. Каліноўсакга да расстрэлу «за прынядце звання члена рэвалюцыйнага камітэта Літвы, а пасля таго галоўнага распарадчыка паўстання ў тутэйшым краі, а разам з гэтым здраду дзяржаве і схіленне да бунта жыхароў» [1].

4 сакавіка часовы палявы аўдытарыят, разгледзеўшы прадстаўленую ваенна-палявым судом справу аб Каліноўскім, вынес наступны прыгавор: «За злачынства яго, якое складала вышэйшую ступень удзелу ў мяцяжу супроць урада з абуджэннем да таго іншых і дзейным распаўсюджаннем і падтрыманнем паўстання... караць смерцю павешаннем» [2].

Прыгавор быў прадстаўлены на зацвярджэнне Мураўёву, які наклаў рэзалюцыю, яшчэ раз пацвярджаючую, што вешацелем яго празвалі справядліва. Яна абвяшчала: «Згодзен, выканаць прыгавор у Вільні ў 3 дні» [3].

У 10 гадзін раніцы 10 сакавіка 1864 года прыгавор быў прыведзены ў выкананне. Аб гэтай трагічнай падзеі адзін са сведак пісаў: «Была ясная, халодная раніца. Каліноўскі ішоў на кару смела... Прыйшоўшы на кару, ён стаў тварам да шыбеніцы і толькі часамі кідаў позірк на далёкі натоўп. Калі яму чыталі канфірмацыю, ён стаў рабіць заўвагі... Назвалі яго імя — дваранін Вікенцій Каліноўскі. Ён усклікнуў: **У нас няма дваран,** усе роўныя» [4].

Усё свядомае жыццё Каліноўскага было прысвечана барацьбе супроць прыгнятальнікаў сялянства. Цяжка было паміраць у 26 год, але ён ясна разумеў, што пражыў жыццё недарэмна. У сваіх перадсмяротных пісьмах Каліноўскі пісаў: «Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народ. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за тваю праўду». І, звяртаючыся са сваімі перадсмяротнымі словамі да сялянства, ён заклікаў працягваць барацьбу супроць прыгнятальнікаў — крывавых катаў, цара, памешчыкаў і іх

[1] ЦДА Літ. ССР, ф. 439, с. 280, л. 41.
[2] Там жа, л. 4.
[3] Там жа, л. 41.
[4] А. І. Масолаў. «Виленские очерки», С.-Пецярбург, 1898, стар. 127.

прыслужнікаў. «Хапіўшы за што зможаш, за касу, тапор і цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную», — наказваў ён сялянам, калі развітваўся з імі. Шчаслівы будзе толькі той народ, які звергне прыгнёт цара і памешчыкаў,— сцвярджаў Каліноўскі ў сваім апошнім звароце да сялян.

Жыццё і рэвалюцыйная дзейнасць Каліноўскага былі неаддзельны. Жыць для яго азначала змагацца супроць прыгнятальнікаў сялянства. Нават апошнія хвіліны яго жыцця былі ўдарамі па ворагу. Яго жыццё — узор беззапаветнага патрыятызму. Жыць, як гаварыў В. Г. Бялінскі, значыць дзейнічаць, дзейнічаць, значыць змагацца, імкнуцца быць карысным айчыне, любіць яе так, каб узвысіцца да гатоўнасці «палажыць душу сваю за братоў сваіх». Так жыў і змагаўся верны сын беларускага народа К. С. Каліноўскі.

Вялікі рэвалюцыянер-дэмакрат Бялінскі ўказваў, што хто не належыць сваёй айчыне, той не належыць і чалавецтву. У беззапаветным служэнні свайму народу — вялікая заслуга Каліноўскага перад усім прагрэсіўным чалавецтвам. Змагаючыся за вызваленне свайго народа, ён садзейнічаў прыбліжэнню таго часу, калі народы свету, разарваўшы свае кайданы, пададуць адзін другому вызваленыя ад акоў рукі.

Вывучаючы самаадданую рэвалюцыйную дзейнасць правадыроў паўстання — Каліноўскага і яго таварышаў, захапляючыся іх гераізмам, мы яскрава бачым, што намаганняў жмені герояў-дэмакратаў было недастаткова для паспяховага кіраўніцтва барацьбой народных мас за свабоду, за лепшае будучае; мы бачым, што гэтую ролю можа выканаць толькі рабочы клас, кіруемы марксісцка-ленінскай партыяй, узброенай перадавой тэорыяй.

Слаўнае гераічнае жыццё першага беларускага рэвалюцыйнага дэмакрата Каліноўскага, загінуўшага ў барацьбе за свабоду працоўных мас, паказвае, што толькі любоў да працоўнага народа, гатоўнасць аддаць жыццё за яго свабоду і шчасце можа з'явіцца крыніцай высокіх дум і вялікіх неўміручых подзвігаў.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Вывучэнне рэвалюцыйнай барацьбы і дэмакратычнай думкі ў Беларусі мае вялікае навуковае і грамадскае значэнне. Беларускі народ на вопыце сваёй барацьбы за свабоду ўсё больш і больш глыбока ўсведамляў, што яна можа быць паспяховай толькі пры магутнай падтрымцы вялікага рускага народа. Перадавыя грамадскія дзеячы Беларусі, адлюстроўваючы інтарэсы працоўных мас, настойліва шукалі рэвалюцыйную тэорыю, здольную ўказаць шлях да вызвалення людзей працы. Яны ва ўпартай барацьбе з ідэолагамі памешчыкаў, а затым і буржуазіі ўсё больш і больш глыбока і выразна абгрунтоўвалі неабходнасць аб'яднання вызваленчай барацьбы працоўных мас Беларусі з вызваленчай барацьбой рускага народа і другіх народаў Расіі. Ідэя адзінства з Расіяй праходзіць праз усю гісторыю перадавой грамадска-палітычнай думкі Беларусі і складае адну з яе важнейшых спецыфічных рыс, непарыўна звязаных з прагрэсіўнымі дэмакратычнымі імкненнямі лепшых сыноў беларускага народа.

Гэта важнейшая рыса гісторыі беларускага народа знайшла сваё адлюстраванне і ў грамадскай думцы Беларусі эпохі падзення прыгоннага права, у рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасці групы К. Каліноўскага і сацыяльна-палітычных поглядах яе кіраўніка.

Рэвалюцыйна-дэмакратычная думка ў Беларусі сярэдзіны XIX века, найбольш буйным прадстаўніком якой быў Каліноўскі, адлюстроўвала рэвалюцыйныя настроі сялян і развівалася пад магутным уплывам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў.

Узмацненне ў Беларусі ў канцы 50-х і пачатку 60-х гг. XIX стагоддзя класавай барацьбы прывяло тут, як і ва ўсёй Расіі, да стварэння двух лагераў — рэвалюцыйна-дэмакратычнага і ліберальна-манархічнага.

«Лібералы 1860 гадоў і Чарнышэўскі,— пісаў Ленін,— ёсць прадстаўнікі двух гістарычных тэндэнцый, двух гістарычных сіл, якія з тых пор і аж да нашага часу вызначаюць зыход барацьбы за новую Расію... Гэтыя дзве гістарычныя тэндэнцыі развіваліся на працягу паўвека, што прайшоў пасля 19 лютага, і разыходзіліся ўсё больш ясна, выразна і рашуча. Раслі сілы ліберальна-манархічнай буржуазіі, якая прапаведвала задаволенне «культурнай» работай і цуралася рэвалюцыйнага падполля. Раслі сілы дэмакратыі і сацыялізма — спачатку змешаных разам ва ўтапічнай ідэалогіі і ў інтэлігенцкай барацьбе народавольцаў і рэвалюцыйных народнікаў, а з 90-х гадоў мінулага стагоддзя пачаўшых разыходзіцца па меры пераходу ад рэвалюцыйнай барацьбы тэрарыстаў і адзіночак-прапагандыстаў да барацьбы саміх рэвалюцыйных класаў» [1].

У 1861 г. у Расіі адсутнічала сіла, здольная разбіць супраціўленне рэакцыі. Эканамічны закон абавязковай адпаведнасці вытворчых адносін характару прадукцыйных сіл не прабіў сабе поўнасцю дарогу і не атрымаў поўнай прасторы з-за паражэння рэвалюцыйных сіл.

«Рэформа 61-га года,— піша Ленін,— адтэрмінавала развязку, адкрыўшы пэўны клапан, даўшы некаторы прырост капіталізму, але яна не ўстараніла непазбежнай развязкі, якая к 1905-му году разыгралася на попрышчы непараўнальна больш шырокім, у націску мас на самадзяржаўе цара і прыгоннікаў-памешчыкаў. Рэформа, праведзеная прыгоннікамі ў эпоху поўнай неразвітасці прыгнечаных мас, парадзіла рэвалюцыю к таму часу, калі выспелі рэвалюцыйныя элементы ў гэтых масах» [2].

Рэвалюцыйным дэмакратам Беларусі, што ішлі за Чарнышэўскім, давялося весці барацьбу не толькі з прыгонніцтвам і самадзяржаўем, але і з захопніцкімі тэндэнцыямі кіраўніцтва польскім паўстаннем, якое імкнулася

---

[1] У. І. Ленін, Творы, т. 17, стар. 98, 99.
[2] Там жа, стар. 101.

да падпарадкавання Беларусі, Літвы і Украіны, спадзявалася на інтэрвенцыю Англіі і Францыі і перашкаджала развіццю сялянскага вызваленчага руху ў Беларусі.

Паўстанне 1863—1864 гг. у Беларусі і Літве мела дзве плыні: буржуазна-ліберальную, з перавагай у ёй уплыву польскіх землеўладальнікаў, і сялянскі аграрны рух, на чале якога стаяў Каліноўскі. Група Каліноўскага была звязана з тайным рэвалюцыйным таварыствам «Зямля і воля» і, хоць, відаць, не ўваходзіла арганізацыйна ў яго склад, раздзяляла праграму «Зямлі і волі» і ўзгадняла з ёй сваю рэвалюцыйную дзейнасць. Яна ніколі не адрывала паўстання ў Беларусі і Літве ад аграрнага руху, які ахапіў краіну і імкнуўся да пераўтварэння сялянскіх бунтаў ва ўсерасійскую рэвалюцыю.

Сялянскі рух у Беларусі, як і па ўсёй краіне, ставіў сваёй мэтай поўнае знішчэнне самадзяржаўя і прыгонніцтва. Узначальваючы сялянскі рух, група Каліноўскага імкнулася надаць яму арганізаваны характар і абудзіць у сялян палітычную свядомасць.

Па свайму светапогляду К. Каліноўскі быў рэвалюцыйным дэмакратам, непрымірымым ворагам самадзяржаўя і прыгонніцтва з усімі іх параджэннямі. Ён цвёрда стаяў на баку сялян, ашуканых царом і абрабленых да галечы памешчыкамі. Кіруемае ім рэвалюцыйнае сялянства імкнулася змесці стары парадак і стварыць новае супольнае жыццё свабодных і раўнапраўных сялян. Каліноўскі раскрываў перад сялянствам неабходнасць гвалтоўнага звяржэння царызма для поўнага знішчэння памешчыцкага землеўладання і намячаў у сваіх адозвах асноўныя контуры новага грамадскага і дзяржаўнага ладу. Ён заклікаў да барацьбы за свабодную дэмакратычную рэспубліку, кіруемую самім народам.

Уздым вызваленчага руху ў краіне садзейнічаў развіццю беларускай дэмакратычнай культуры. У гэтай барацьбе нарадзілася і атрымала распаўсюджанне першая беларуская газета «Мужыцкая праўда» — орган беларускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Прапаганду «Мужыцкай праўдай» рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй адзначыў «Колокол» Герцэна. Памылковыя палажэнні ў тэарэтычным абгрунтаванні праграмы рэвалюцыйных пераўтварэнняў грамадства і ў ацэнцы гістарычнага мі-

пулага Беларусі і Літвы не змяняюць агульнага характару гэтай газеты. Яна адкрыта і горача заклікала працоўныя масы да паўстання. Выданне і распаўсюджанне «Мужыцкай праўды» неразрыўна звязана з імем Каліноўскага. Каліноўскі ўслед за рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі зрываў з цара маску добразычліўца сялян, выкрываў прыгонніцкі характар палітыкі царскага ўрада і даказваў, што адзіным шляхам да сапраўднай свабоды з'яўляецца ўсерасійскае ўзброенае паўстанне сялян у саюзе з усімі дэмакратычнымі і прагрэсіўнымі элементамі.

У сацыяльна-палітычных поглядах Каліноўскага і яго таварышаў знаходзіць сваё адлюстраванне ўласцівая ўсім рэвалюцыйным дэмакратам рашучая барацьба з прыгонніцтвам, самадзяржаўем і ўсімі іх параджэннямі ў грамадскім жыцці і шчырая вера ў тое, што сацыяльныя пераўтварэнні прывядуць да ўсеагульнага шчаслівага жыцця.

Абаронцам працоўных застаўся К. Каліноўскі ў памяці сялянства. У народных паданнях, якія расказваюць аб паўстанні 1863 г., Каліноўскі з'яўляецца галоўным героем, узначальваючым сялян у барацьбе з памешчыкамі і царскімі войскамі.

У рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасці Каліноўскага знайшло сваё адлюстраванне адзінства інтарэсаў працоўных мас беларускага, рускага, літоўскага і польскага народаў. «Не раз беларусы і літоўцы разам з братамі рускімі і ўкраінцамі адбівалі нашэсце іншаземных псоў-рыцараў. І беларусам і літоўцам аднолькава дорага імя Кастуся Каліноўскага — героя барацьбы супроць царскага рэжыму і панскага дэспатызму»[1].

Каліноўскі першы ў Беларусі глыбока ўсведаміў значэнне рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі. Заснаваўшы беларускую рэвалюцыйна-дэмакратычную газету, Каліноўскі тым самым раскрыў вялікае значэнне звароту з вольным словам да сялянства на роднай для яго мове і ўзняў значэнне беларускай мовы як роўнай сярод усіх іншых моў.

---

[1] З прывітання ЦК КП Літвы беларускаму народу ў дзень 30-годдзя Беларусі.

Рэвалюцыйная публіцыстыка Каліноўскага высока ацэньвалася народным паэтам Беларусі Я. Купалам, які яшчэ юнаком з дапамогай С. Чаховіча — былога саратніка Каліноўскага — азнаёміўся з нелегальнай літаратурай пярыяду паўстання 1863 г. «Памятаю добра,— піша Я. Купала ў аўтабіяграфіі,— што нелегальная літаратура, якую я тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці».

Высока ацэньваў значэнне Каліноўскага ў гісторыі Беларусі народны паэт рэспублікі Я. Колас. Указваючы на вызваленчыя і культурныя традыцыі свайго народа, ён пісаў: «Здаўна гаварылі нам чарнасоценцы ўсіх колераў і масцей: «Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і гутаркі, таму што ў беларусаў няма культурных традыцый». Ворагі адмаўлялі таксама доблесць, гераізм беларускага народа. А дзесяткі тысяч курганоў стаяць на беларускай зямлі. І ляжаць пад імі сатлелыя косці іншаземных захопнікаў — рыцараў Лівонскага ордэна, татарскіх ханаў, шведскіх кірасіраў, польскіх ваявод, грэнадзёраў Напалеона, вымуштраваных бандытаў Кайзера Вільгельма і азвярэлых гітлераўскіх галаварэзаў.

Хіба ўзнімаць народныя паўстанні, як рабілі гэта Вашчыла, Гаркуша, Каліноўскі, і біць ворагаў гэта недастаткова «культурная традыцыя»?

Паўстанне 1863 г. у Беларусі і Літве адлюстравана ў творчасці рада беларускіх і польскіх празаікаў і паэтаў (Э. Ажэшка, М. Танка, К. Кірэенка і інш.). Паэма М. Танка «Кастусь Каліноўскі», напісаная ў 1938 г. ва ўмовах Заходняй Беларусі, якая стагнала пад прыгнётам панскай Польшчы, адыграла станоўчую ролю ў барацьбе супроць спроб беларускіх буржуазных нацыяналістаў і польскіх рэакцыйных гісторыкаў фальсіфікаваць гераічнае мінулае беларускага народа. Паэма гучала як заклік да ўзмацнення барацьбы, напамінала працоўным масам аб слаўных рэвалюцыйна-дэмакратычных традыцыях барацьбы беларускага народа.

Каліноўскі быў першым паслядоўнікам Чарнышэўскага ў Беларусі і садзейнічаў сваёй рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасцю ўмацаванню сувязі вызваленчага руху і перадавой грамадскай думкі беларускага і рускага

народаў. М. Г. Чарнышэўскі быў агульна прызнаным настаўнікам некалькіх пакаленняў беларускіх рэвалюцыянераў XIX стагоддзя.

Вялікую любоў да Чарнышэўскага і яго значэння ў гісторыі ўсерасійскага вызваленчага руху яскрава выказала група мінчан у тыя дні, калі ўся перадавая Расія смуткавала з прычыны смерці вялікага барацьбіта і мысліцеля, фізічна зламанага царскай катаргай. Праводзячы ў апошні шлях Чарнышэўскага, мінчане пісалі яго родным: «Глыбока засмуткаваны стратай вялікага настаўніка двух пакаленняў, шлём вам шчырае выказванне нашага спачування. Вы пахавалі тое, што было смяротнага ў Мікалаі Гаўрылавічу, але слава яго не памрэ, пакуль жывуць у рускім грамадстве любоў да народа і імкненне да справядлівасці, пакуль не пагасла ў ім вера ў лепшыя ідэалы чалавецтва» [1].

Рэвалюцыйна-дэмакратычная дзейнасць групы К. Каліноўскага ўзмацніла вызваленчыя традыцыі беларускага народа, надала ім рэвалюцыйна-дэмакратычны характар і ўмацавала сувязі працоўных мас Беларусі з рэвалюцыйнай Расіяй.

---

[1] М. М. Чарнышэўскі. Апошнія дні М. Г. Чарнышэўскага. «Былое» № 8—20, 1907, С.-Пецярбург.

## ЗМЕСТ

На белорусском языке
*Анатолий Филиппович Смирнов*
**Константин Калиновский**
**в восстании 1863 года**
Государственное издательство БССР
Минск—1959

*

Рэдактар *М. Фельгін*
Мастак *Л. Усачоў*
Мастацкі тэхнічны рэдактар *І. Славянін*
Карэктар *С. Кісялевіч*

---

АТ 02757. Падп. да друку 21/III 1959 г.
Тыраж 5000 экз. Фармат 84 × 108 1/32.
Фіз. друк. арк. 6. Ум. друк. арк. 9,84.
Уч.-выд. арк. 9,7. Зак. 691.
Цана 3 руб. 75 кап.

---

Друкарня імя Сталіна, Мінск,
праспект імя Сталіна, 105.